УДК 821.161.3-83
ББК 84(4Беи)-49
А 44

Мастак Эдвард Галустаў

**Акулін Э.А**
**А 44** «Падзяліцца поўняй»: кніга гутарак/Эдуард Акулін, мастак Эдвард Галустаў, — Мінск: Поликрафт, 2020 — 280 с.
ISBN 978-985-7030-78-1

Кніга гутарак «Падзяліцца поўняй» — яскравы доказ таго, што ад біблейскіх часін для чалавека было і застаецца найважнейшым у жыцці, каб з ім акаляючыя яго людзі дзяліліся не толькі хлебам, а і небам...

**УДК 821.161.3-83**
**ББК 84(4Беи)-49**

**ISBN 978-985-7030-78-1**



# Леанід Дайнека

паэт, празаік, эсэіст. Аўтар зборнікаў вершаў: «Галасы» (1969), «Бераг чакання» (1972), «Мая вясна саракавая» (1979), «Вечнае імгненне» (1985), зборніка апавяданняў «Бацькава крыніца» (1976); рамана-дылогіі «Людзі і маланкі» (1977) і «Запомнім сябе маладымі» (1979), раманаў «Футбол на замініраваным полі» (1987), «Меч князя Вячкі» (1987), «След ваўкалака»(1988 г.), «Жалезныя жалуды» (1990), «Чалавек з брыльянтавым сэрцам» (1992). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя К. Каліноўскага (1988 г.) Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Змітраўка 2-я  на Магілёўшчыне.
Памёр у 2019 годзе.

# «Чалавек з брыльянтавым сэрцам...»

**Эдуард Акулін:** — *Леанід Марцінавіч, па сцвярджэнні Уладзіміра Арлова — ён ведае свой радавод да пятага калена... Колькі словаў пра Вашыя радаводныя карані...*

**Леанід Дайнека:** — Ну так глыбока, як шаноўны спадар Арлоў, у свой радавод я не заглыбляўся. Але тым не менш... Прозвішча Дайнека паходзіць ад балцкага слова «дайна», што азначае — песня. Нездарма ёсць шмат вядомых спевакоў з такім прозвішчам. Ды і ў нашым родзе любяць і ўмеюць спяваць. Род Дайнекаў паходзіць з цэнтральнай Беларусі, з Клічаўшчыны. Мы людзі вольныя, ніколі не былі прыгоннымі. Я перакананы, што ў маім прозвішчы спляліся дзве радаводныя галіны — Дайнека і Данейка. А гэта значыць, што ў нашым радаводзе прысутнічаюць шляхецкія карані...

**Э.А.** — *Вось адкуль тая цяга да тэмы рыцарскага слугавання Бацькаўшчыне, якая прысутнічае ва ўсіх Вашых гістарычных раманах.*

**Л.Д.** — Мяркую, што так. Ёсць такое паняцце — крэўная памяць. Голас крыві — голас нашых продкаў. А магчыма, якісь царскі пісар знарок зрабіў памылку ў прозвішчы — і Данейкі сталі Дайнекамі. Кастусь Тарасаў напісаў, што Дайнекамі ва Украіне называлі разбойнікаў. А хто называў? Ды тыя ж царскія пісары. А насамрэч — гэта былі ваяры за Вялікае Княства Літоўскае, і я ганаруся гэтым. Бацька мой Марцін Дайнека скочыў Свіслачскую гімназію, мама мела трохкласавую адукацыю, але па жыццёвай мудрасці і любові да беларускай паэзіі і песні яна была акадэмікам...

**Э.А.** — *Літаратурную дарогу Вы пачыналі як паэт. Ці памятаеце свой першы верш? Што або хто натхніў на паэтычную творчасць?*

**Л.Д.** — Вось якраз мама і натхніла. Яна ведала на памяць безліч вершаў беларускіх паэтаў, любіла дэкламаваць паэзію Коласа. А яшчэ — нашая беларуская прырода. Клічаўшчына — гэта мой паэтычны рай. А першыя вершы я пачаў пісаць вельмі рана — недзе ў 5—6 гадоў. І мой дзед Сцяпан заўсёды любіў казаць бацьку: «Вось пабачыш, Марцін, з гэтага хлопца выйдзе сапраўдны пісьменнік...»

**Э.А.** — *У 1987 годзе з-пад Вашага пяра выходзіць першы раман «Футбол на замініраваным полі», у якім Вы асэнсоўваеце тэму горада, і гэтым жа годам пазначаны выхад рамана «Меч князя Вячкі». Ці не цяжка было ўадначас жыць сучаснымі рэаліямі і, азірнуўшыся на восем стагоддзяў назад, «браць вайсковы чын у барацьбе з крыжакамі»?*

**Л.Д.** — Для мяне гэта абсалютна няцяжка. І цяпер я ўадначас пішу свае «Герадоцінкі», вершы і новы гістарычны раман. А ў маладосці творчай энергіі было столькі, што прыходзілася шкадаваць, што ў сутках толькі 24 гадзіны...

**Э.А.** — *Зварот да гістарычнай тэмы — гэта свядомы творчы выбар ці шчаслівы падарунак лёсу? Каго з папярэднікаў лічыце за свайго настаўніка?*

**Л.Д.**— Безумоўна свядомы. Бо мне было крыўдна чытаць і чуць, што мы, беларусы, нацыя — рахманая і талерантная. Навокал, у нашых суседзяў — свая гісторыя, свае героі, свой гістарычны лёс. А дзе Беларусы? Дзе дзесяцімільённы народ у самым сэрцы Еўропы? Дзе Вялікае Княства Літоўскае, якое я называю Краінай Ліцвініяй. Нават падчас апошняга перапісу я назваў сябе ліцвінам.

**Э.А.** — *Вашыя гітарычныя раманы адразу заваявалі неверагодную папулярнасць, як прынята сёння гаварыць — траплялі ў лік бэстселераў, таму што Вы адкрывалі ў іх для чытача малавядомыя старонкі нашай гісторыі. Гэта значыць — адкрывалі нашую беларускую Душу... Якая яна для вас — душа беларуса?*

**Л.Д.** — Беларуская душа — гэта душа нязломнага ваяра. Гісторыя беларусаў — гэта гісторыя войнаў, у якіх нашыя продкі бралі ваярскі чын і ў большыні выпадкаў перамагалі. Згадайма вайну з Тэўтонскім ордэнам, з Масковіяй, супраць крымскіх татараў. І ў авангардзе літоўскага войска заўжды выступала беларускае рыцарства — прадстаўнікі шляхецкіх родаў. Адзін з галоўных герояў майго рамана гетман Канстанцін Астрожскі, які ў бітве пад Оршай у 1514 годзе разграміў на шмат пераўзыходзячае маскоўскае войска, якое імкнулася захапіць і падпарадкаваць сабе нашыя землі.

**Э.А.** — *Як мне здаецца, Вашыя раманы вельмі кінематаграфічныя. Згадваючы досвед палякаў, якія знялі фільмы амаль па ўсіх рамах Генрыка Сянкевіча, не магу не запытацца, ці не марыце аб экранізацыі сваіх твораў?*

**Л.Д.** — Яшчэ за савецкім часам мне патэлефанавалі з Беларускай кінастудыі і прапанавалі зняць фільм па рамане «Меч князя Вячкі». Але прайшло дваццаць гадоў, а воз, як кажуць, на тым жа месцы. Як мне здаецца, сучасным дзяльцам ад кінематографа не выгадна здымаць фільмы, дзе б паўстала рэальная гісторыя нашага народа. Таму і з'яўляюцца ў пракаце фальклёрныя трэшы пра слуцкую князёўну — па версіі рэжысёра — змагарку не столькі за вольнасць Беларусі, як за праваслаўную веру і міфічную ідэю славянства ўвогуле. У выніку атрымалася вялікабюджэтная кінематаграфічная казка, а не гістарычны кінаэпас галівудскага ўзроўню.

**Э.А.** — *Ведаю, што на некалькі Вашых вершаў напісаны песні. З кім з беларускіх кампазітараў пашчасціла супрацоўнічаць?*

**Л.Д.** — Сапраўды, я лічу сваім творчым шчасцем, што на мой верш напісаў песню бліскучы майстар беларускай меладыкі — Юрый Семяняка. Ёсць дзіцячая песня, якую стварыў Леанід Захлеўны. Супрацоўнічаў я і з Алегам Чыркуном. Самая вядомая мая песня — «Беларуская застольная». Яе выконвае хор Цітовіча і ансамбль «Свята».



*З жонкай Зінаідай Міхайлаўнай*

**Э.А.** — *Менавіта ў гэтым песенным хіце, які цудоўна выконвае Дзяржаўны ансамбль народнай музыкі «Свята», і ёсць такія радкі: Зноў за сталом нявузкім Дружнай сядзім сямейкаю... Хто збіраецца сёння за гэты нявузкі сямейны стол Дайнекаў?*

**Л.Д.**— За гэтым нявузкім сямейным сталом Дайнекаў збіраецца вялікая і дружная сям'я. Бог узнагародзіў мяне трыма сынамі: Сяргеем, Зміцерам і Сцяпанам. У мяне цудоўная гаспадыня — жонка Зінаіда, з якой у радасці і скрусе мы жывем ужо сорак чацвёрты год. Гэта маё студэнцкае каханне. І пачуццё таго юначага кахання і вернасці мы збераглі па сённяшні дзень. Нашая восеньская радасць — нашыя ўнукі. Іх у нас пяцёра: тры ўнукі і дзве ўнучкі.

*З сынам Зміцерам і ўнучкай Тэкляй*



З унукамі

**Э.А.** — *У часопісе «Дзеяслоў» за 2010 год друкуецца Ваш раман «Пра лісоўчыка, злога хлопчыка». А што сёння на пісьмовым стале Леаніда Дайнекі?*

**Л.Д.**— Працую над дзесятым па ліку гістарычным раманам: «Той, каго ўдарылі па шчацэ...». У аснову гэтага рамана лёг лёс нашага беларускага пакутніка, змагара за вуніяцкую веру — Ясафата Кунцэвіча... Які пасля быў кананізаваны самім Папам Рымскім.

**Э.А.** — *Гэта юбілейны па ліку раман у Ваш юбілейны год! Хочацца па-эстраднаму выгукнуць: «Брава, майстра!». Дазвольце пажадаць Вам моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця, асветленых любоўю і павагай блізкіх людзей — і Божым дабраславеннем на новыя творчыя вышыні.*

*«Літаратурная Беларусь», 2010 г.*



З Эдуардам Акуліным



# Таццяна Беланогая

бард. Закончыла БДПУ імя МасімаТанка па спецыяльнасцях геаграфія і біялогія а таксама англійская мова. Лаўрэт песенных фестываляў: «Зоркі Маладзечна» (2003), «Бардаўская восень» (2004), «ОРРА-2006». Аўтарка альбомаў: «Там, дзе мы» (2004), «Пабачыць сьвет» (2006), «Система координат»(2007), «Дзвюхкроп’е» (2008). Нарадзілася 24 чэрвеня 1984 года ў Мінску.  Жыве ў Мінску.

# «Душа — адна, і голас — адзін...»

**Эдуард Акулін.** -— *У сваім славутым паэтычным «Апокрыфе» Максім Багдановіч сказаў: «Калі ж зварухнецца дух народны, толькі песня здалее спатоліць яго…» Што для цябе — беларуская песня ўвогуле і твая бардаўская дзейнасць у прыватнасці?*

**Таццяна Беланогая.** -— Песня — гэта культурная форма майго ўзаемадзеяння са светам і людзьмі. У голасе жыве эмоцыя. Толькі тады, калі я адчуваю, люблю і ненавіджу — я жыву.

**Э.А.** — *У адным сваім інтэрв'ю ты прызналася, што «галоўнае ў жыцці— прыгажосць ва ўсім…» Ты здалела б пакахаць «квазімоду» з душой анёла?*

**Т.Б.** -— Душа — назоўнік жаночага роду.... Мужчына бачны па яго чыну, які не заваецца за словамі. Гэткі для мяне — сапраўды мужчына. Што прыгожосць душы без канкрэтных справаў? Я магу закахацца і ў словы, але калі яны сілкуюцца энергіяй дзеяў. Калі не — то гэта падман і бажавольства.

**Э.А.** — *Табе падабаецца быць у цэнтры ўвагі? Як ты ставішся да думкі, што слава разбэшчвае чалавека?*

**Т.Б.** -— Мэта маёй творчасці — пошукі беларускай душы, адным з галоўных чыннікаў якой з'яўляецца нашая Песня. Калі мая творчасць у цэнтры ўвагі — то і беларуская Песня таксама ў цэнтры увагі. Я імкнуся пакінуць след, але я заўсёды задаю сабе пытанне: «Навошта мне гэта? Куды вядуць мае песні?» Унутраны голас кажа мне: »Гэта — выпадковае, што значыць -— тленнае, а гэта — выпакутаванае — яно сапраўднае, жывое».

Слава -— гэта вынік творчай працы і яе пабочны «прадукт ». Тое, што я зрабіла ўчора — здабытак мінулага.

**Э.А.** — *Ты аўтарка чатырох песенных альбомаў. Адзін з іх рускамоўны? Як ты лічыш, ці можа беларускі аўтар стварыць песенны шэдэўр на рускай мове, кшталту балад Булата Акуджавы?*

**Т.Б.** -— Я прайшла перыяд рускамоўнай творчасці, але зноў такі — усё было знітавана адной тэмай -— пошуку сябе на ГЭТАЙ зямлі, у гэтай гістарычнай эпосе.

Я спявала пра тое, што бачыла вакол сябе:

«Зима кормила кругом сумасшедшим зерном.

Я атплачивала ей золотой слезой…»

Гэта не пра Беларусь?

Э.А. — *Беларусь! Бо ў рускай мове не існуе слова «отплачивала». Гэта — наша родная, трасянка, якой па выніках апошняга перапісу карыстаецца нават прэзідэнт…*

**Т.Б.** -— Наконт другой часткі пытання… Не, беларускаму аўтару гэта зрабіць не пад сілу. Дакладней -— гэта не яго, чужое. Беларусь, як алкаголь, павінна быць у крыві…

**Э.А.** — *Ты думаеш па-беларуску?*
**Т.Б.** -— Так!
**Э.А.** — *А размаўляеш?*
**Т.Б.** -— Размаўляю.
**Э.А.** — *Заўжды?*
**Т.Б.** -— Не.

*З Эдуардам Акуліным*





**Э.А.** — *Значыць і не заўжды думаеш. У гэтым палягае на маю думку вялікая небяспека для творцы. Ягоная духоўная сутнасць раздвойваецца… А як у народзе кажуць: — За двума зайцамі пагонішся…*

**Э.А.** — *Як ты лічыш — твая нефілалагічная адукацыя — гэта твой творчы плюс ці мінус?*

**Т.Б.** — Так, мне бракуе ведаў. Але я зразумела ў жыцці адно — каб любіць, не трэба пацвярджэнне на паперы. Пацвярджэнне мусіць быць у дзеяннях, ты сам мусіш быць ім. Я — географ па адукацыі. Мая стыхія прырода.У прыроды — свая філасофія і знакі. Гэтаму не вучаць на філфаках. Гэта — узровень падсвядомасці. Калі «асушалі» беларускія балоты, хіба не асушалі беларускую душу? Гэта — або ёсць, або няма. Я не лічу адукацыю паказчыкам, хаця яна адыгрывае сваю ролю ў фармаванні асобы. Я ненавіджу «адукаваных» забойцаў рэк і людзей…

**Э.А.** — *Як вядома, каханне — акрыляе і натхняе. Якое месца ў сваёй творчасці адводзіш каханню ты?*

**Т.Б.** — Каханне — гэта свет, у якім існуюць вельмі тонкія і датклівыя рэчы. Адно неасцярожнае слова, думка, я лічу, можа забіць гэтае небаўзнёслае пачуццё. Мы жывем у XXI стагоддзі, а таямніца Кахання так і засталася ў біблейскіх часах. Магчыма Госпад знарок не дае нам разгадкі гэтай адвечнай

таямніцы. Творчасць: паэзія, музыка, жывапіс — ці не пошук ключа да гэта «райскай брамы». І ў маім жыцці творчасць і каханне — ідуць поруч. Толькі колеры мяняюцца. Раней мае пачуцці былі падобныя на пачуцці лірычнай гераіні Яўгеніі Янішчыц. Зараз я лічу, што каханне — гэта не толькі пакута, але і незвычайная радасць, вясёлкавы мост у нябёсы…

**Э.А.** — *Ты яшчэ зусім маладая спявачка, а адна журналістка назвала цябе «дзяўчынай-восенню». Ты згодна з гэтым вызначэннем? Гэта твой сцэнічны імідж, ці стан твайго эстэтычнага пачування?*

*Ля Мірскага замка*



**Т.Б.** — Я люблю восень. Яе пастэльныя тоны не колюць вочы, у ёй шмат глыбіні і філасофіі. А яшчэ адзін са знакаў восені — сусветная ціша. На ўскрайку сусвету добра думаецца аб сэнсе існавання. Прыходзіць разуменне, навошта ты прыйшоў у гэты свет…

**Э.А.** — *Ты задаволеная сваімі тэкстамі? Хто твой творчы дарадца?*

Т.Б. — Чалавек, які дапамог мне, і не толькі мне, а шмат якім маладым бардам — гэта Алесь Камоцкі. Калі Алесь нешта раіць — я стараюся прыслухоўвацца да ягоных парад. Мае песенныя тэксты першай слухае сястра Марыя. Яна -— мой сямейны крытык.

**Э.А.** — *Паэт Анатоль Сыс у адным са сваіх вершаў заклікаў напісаць на яго музыку? На каго з сучасных беларускіх паэтаў ты хацела б напісаць музыку?*

**Т.Б.** — У мяне шмат песень на вершы Яўгеніі Янішчыц, ёсць на вершы Уладзіміра Дубоўкі, Ларысы Геніюш, на вершы таго ж Анатоля Сыса, Данута Бічэль, Людмілы Паўлікавай, Наталлі Кучмель, Чэслава Мілаша…

**Э.А.** — *Многім беларускім бардам бракуе прафесійнага валодання тэхнікай ігры на гітары. Далей трох «блатных» акордаў яны нікуды па гітарным грыфе не адыходзяць. У цябе ёсць музычная адукацыя? Калі не, ці збіраешся ты паглыбляць сваё тэхнічнае майстэрства як акампаніятар? Скажам, Алесь Камоцкі, па ягонаму прызнанню, навучыўся іграць на гітары толькі пасля сарака…*

**Т.Б.** — Музычнай адукацыі я не маю. Каб ліквідаваць гэты творчы прабел я займаюся зараз з выкладчыцай па класу гітары.

**Э.А.** — *Ты спяваеш у класічнай манеры беларускай аўтарскай песні, а любіш маляваць, як сама прызналася, у стылі постмадэрну. Як ты ставішся да думкі, што постмадэрн, як накірунак сусветнага мастацтва — гэта звычайная маскіроўка бяздарных творцаў?*

**Т.Б.** — Ёсць Боская іскра «нават» і ў постмадэрне. Калі яе няма — то яе проста няма. Як гэта не назаві.

**Э.А.** — *Ты такая рамантычная і таямнічая, нібыта гераіня вершаў Леаніда Дранько-Майсюка… Але апошнім часам пасіяніруеш сябе як рок-бард спявачка — гэта такі лексічны прыбамбас, ці ты напраўду верыш у творчы шлюб паміж летуценнай дзяўчынай і суровым рокам у любой з ягоных шматлікіх іпастасяў ( поп, хард, фолькмадэрн і г.д.)*

**Т.Б.** — Душа адна, і голас — адзін. Мяняецца толькі форма. То чаму б і не?

**Э.А.** — *Мне падабаецца тваё па-брусаўску эратычнае прозвішча. Я маю на ўвазе яго знакаміты верш-аднарадковік: «О схавай свае бледныя ногі…» Гэта прозвішча (Беланогая) інтрыгуе і гарманічна стасуецца з тваім сцэнічным вобразам. А ты не адчуваеш нейкай няёмкасці, калі цябе запрашаюць на сцэну?*

**Т.Б.** — Не.



*З мужам Зміцерам і дачкой Тэкляй*

**Э.А. —** *На твой афіцыйны сайт часцей за ўсё наведваюцца «закаханыя» фанаты. Як ты лічыш, гэта закаханасць у твой бардаўскі вобраз ці ў тваю песенную творчасць?*

Т.Б. — А гэта звязана. Думаю, спачатку людзям падабаецца творчасць, а потым мы бліжэй знаёмімся на канцэртах.

**Э. А. —** *Які самы рамантычны ўчынак вырабляў для цябе твой каханы?*

**Т.Б. —** Насіў мяне на руках…

**Э.А. —** *І ўсё?*

**Т.Б. —** А хіба ў наш прагматычна-віртуальны час гэтага мала?..

**Э.А**. — *І сапраўды. Героі раманаў Сервантэса сёння перасяліліся ў словасвет. А Дульсінеі Табоскія ператварыліся ў «прынцэс з тусоўкі»…*

**Э. А. —** *Як ты лічыш — талент і чалавечае шчасце паняцці сумяшчальныя?*

**Т. Б. —** Спадзяюся, што так. Ведаеце, як у Рыльке: «Такая доля — знайсці і памыліцца — чакае толькі лепшых». Я шукаю высокага, але хаджу па зямлі і бывае — прыспешваю падзеі, а Неба гэта не любіць…

**Э.А. —** *Каго з беларускіх бардаў ты любіш слухаць? Да каго на канцэрты прыходзіш з букетам кветак?*

**Т.Б.** — Алеся Камоцкага. Ягоны альбом «З бацькоўскай кружэлкі». Для мяне ён — проста унікальны. А яшчэ я люблю слухаць Дар'ю Кадамскую, Зміцера Казлоўскага, Паўла Кузіча…

**Э.А.** — *Што ты пажадала беларускай бардаўскай песні ў Новым 2010 годзе?*

**Т.Б.** -— Я жадаю беларускім бардам удзельнічаць у прэстыжных песенных фестывалях і перамагаць, сябраваць з такімі ж «донкіхотамі» айчыннай песні з іншых краін, даваць канцэрты па ўсёй Беларусі і за яе межамі.



# Алесь Камоцкі

бард, паэт. Аўтар кніг паэзіі: «Спроба ісці па расе...» (1997), «Наспадзяванае» (2004), «Глыбіня дажджу» , «48» і шматлікіх музычных альбомаў: «Першы сшытак» (1986), «Зока спагады» (1999), «Дым» (2002), «Дом» (2003), «Дах» (2006) і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Барысаве. Жыве ў Мінску.

# «Жыццё непрыкметна знікае...»

**Эдуард Акулін:** — *Алесь, як казаў Анатоль Сыс, «пачні з Радзімы»... Бо акром таго, што ты родам з Барысава, я пра цябе амаль нічога не ведаю...*

**Алесь Камоцкі:** — Сапраўды, я барысаўскі хлопец. Там я нарадзіўся. Там прайшло маё дзяцінства. Там я закончыў школу і там, дарэчы, у дзесятым класе ў мяне з'явілася першая гітара.

**Э.А.** — *Мала каму вядома, што ты маеш дзве адукацыі. Спачатку была вучоба ў Маладзечанскай музычнай вучэльні, калі не памыляюся — па класе кларнета, а пасля філасофскі факультэт БДУ. І ўсё ж урэшце рэшт музыка перамагла. Чаму?*

**А.К.** — Калі ты думаеш, што ў сувязі з гэтым у маёй душы адбылася Грунвальдская бітва, ты глыбока памыляешся. Для мяне гэтыя два паняцці мірна суіснуюць. Больш за тое, я лічу, што музыка, песня можа мець філасофскае гучанне, і наадварот, філасофскі трактат часам гучыць як музычная араторыя...

**Э.А.** — *Хто ці што падштурхнула цябе да бардаўскай дзейнасці?*

**А.К.** — У сярэдзіне сямідзесятых гадоў я ўпершыню ўбачыў па тэлевізіі Грушынскі фестываль і быў вельмі ўражаны, што звычайная бардаўская песня здольная збіраць пад сваім сцягам дзесяткі тысячаўлюдзей. А потым было захапленне творчасцю Акуджавы, Нікіціна, Доліна...

**Э.А.** — *Ты імкнуўся пераймаць іх манеру выканання?*

**А.К.** — Не. Я проста спяваў іхнія песні, як падказвала мне маё сэрца.

**Э.А.** — *Твой дэбютны альбом называўся «Першы сшытак»(1986). Ты выконваў песні на словы У. Караткевіча, М. Багдановіча, Я. Сіпакова... І ніводнай песні на ўласны тэкст! Ці памятаеш ты сваю першую песенную ластаўку? Які гэта быў год?*

**А.К.** — Дакладна не памятаю. Здаецца, 82 ці 83-ці год.

**Э.А.** — *І як называлася твая першая песня?*

**А.К.** — Нешта пра туманы...

**Э.А.** — *Туманны адказ... Ад першага музычнага сшытка да першай «Спробы ісці па расе»(1997) — твайго першага зборніка вершаў, прайшло адзінаццаць гадоў. Гэта ладны кавалак жыцця. Чым ты займаўся ў гэты час? Толькі не кажы, што жыў...*

**А.К.** — Піў...

**Э.А.** — *У 1999 годзе выходзіць твой альбом «Зорка спагады» , які ты напісаў цалкам на вершы Рыгора Барадуліна. Што для цябе дало творчае супрацоўніцтва з прызнаным майстрам беларускай паэзіі? Бо пэўны час існавала думка, што паэзія Барадуліна занадта складаная для музычнага ўвасаблення. Ці так гэта?*

**А.К.** — Я так не лічу. Музыка ў паэзіі Барадуліна закладзеная ад пачатку. Гэта душа Барадулінскага верша.

**Э.А.** — *І як пачалося вашае творчае сумоўе?*

**А.К.** — Неяк мы разгаварыліся з дзядзькам Рыгорам. Я сказаў яму, што не магу пісаць «рамансную лірыку», бо Барадулін пасутнасці мяне апярэдзіў. А Рыгор Іванавіч паскардзіўся, што, на вялікі жаль, не валодае гітарай. Мы вырашылі аб'яднаць нашыя творчыя намаганні. І такім чынам нарадзілася песенная «Зорка», зорка нашай узаемнай спагады...

**Э.А.** — *Наступным крокам вашага супрацоўніцтва стаў выхад сумеснага альбома «Псальмы».(2000 г.). Зварот да духоўнай паэзіі для цябе выпадковы эпізод у творчай біяграфіі ці нешта большае? Ведаю, што ў касцёле ты бываеш рэгулярна, я маю на ўвазе касцёл Сымона і Алены, у якім праходзяць твае канцэрты. А як часта ты бываеш у царкве, каб паразумецца з Богам? Ці дапамагае табе вера?*

**А.К.** — Праца над «Псальмамі» вялася паралельна з запісам «Зоркі спагады». Аб сваіх паразуменнях з Богам я не люблю гаварыць публічна. Лічу гэтую справу глыбока асабістай, нават інтымнай .У царкве бываю па святах: на Каляды, на Вялікдзень, на Тройцу і на Дзяды. Без веры не можна жыць. Бязвер'е забівае.

**Э.А.** — *Апошнім часам «яркія прадстаўнікі» так званай найноўшай літаратурнай генерацыі публічна дэманструюць свой антыбеларускі цынізм. Я маю на ўвазе выказванні А. Бахарэвіча і М. Мартысевіч кшталту «мужык з батанічным псеўдонімам, які не ўмеў пісаць прозу», або «...Гісторыя Беларусі пісалася няўдачнікамі...» (Кароткая...Дык адным з культавых лузараў Вацлавам Ластоўскім), і ў тым жа шэрагу «мілыя няздары-сухотнікі Багдановіч, Канчэўскі...»... Хацелася б ведаць тваю думку на гэты конт. Хто для цябе —*





*Кастусь Каліноўскі, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Вацлаў Ластоўскі, Ларыса Геніюш? Ці падзяляеш ты думку яшчэ аднаго «выбітнога» рокера, што «беларускія пісьменнікі пішуць не па-людску». Каго ты лічыш сваім духоўным настаўнікам?*

**А.К.** — Гэтак гаварыць, усё адно як пляваць на бажніцы... А рокеру я параіў бы пачытаць прозу Гарэцкага, Чорнага, Мележа, Стральцова. Я не кажу ўжо пра паэзію. Гэта наш нацыянальны скарб. Мае духоўныя настаўнікі — пералічаныя табой людзі. Яны — не «лузэры». Яны нашыя нацыянальныя героі...

**Э.А.** — *Алесь, колькі цябе ведаю, а ведаю ўжо амаль дваццаць гадоў, ты заўсёды стрыманы і спакойны, ветлівы і лагодны. Ты насамрэч такі ці толькі «прыкідваешся»? Бо, як кажуць, у ціхім балоце чэрці водзяцца... Ды і творчасць, асабліва бардаўская, гэта самаспаленне, самаўкрыжаванне... У сувязі з гэтым — ты азартны чалавек?*

**А.К.** — Я, як ты кажаш, не прыкідваюся. Я насамрэч такі. Не люблю жыццёвай мітусні. Азарт — гэта д'яблальская спакуса.

**Э.А.** — *Вядома, што аднойчы, каб заваяваць прыхільнасць сваёй музы Марыны Ўладзі, Уладзімір Высоцкі выклаў падлогу гатэльнага нумару апельсінамі. На які рамантычны ўчынак здольны паэт і бард Алесь Камоцкі? Ці можаш згадаць нешта падобнае са свайго творчага лёсу?*

**А.К.** — Магу ,але не хачу. І наогул лічу ўчынкі такога кшталту неапраўданай бравадай. Магчыма, я больш прагматык, чым рамантык.

**Э.А.** — *Ну а хоць кветкі ты любіш дарыць жанчынам?*

**А.К.** — Страшэнна люблю. І не толькі кветкі. Мне падабаецца ўвасабляць мары блізкіх людзей у рэальнасць.

**Э.А.** — *Ты часта вандруеш па Беларусі, і не толькі, з канцэртнымі праграмамі. Ці можаш прыгадаць самы кур'ёзны выпадак з тваёй бардаўскай адысеі?*

**А.К.** — А чаму не сур'ёзны?

**Э.А.** — *Жыццё і так занадта сур'ёзная рэч.*

**А.К.** — Згодны. А кур'ёзы здараліся... Аднойчы, пад час першага майго прыезду ў Варшаву, я даверыў несці гітару на канцэрт свайму сябру Багдану Сіманенку. І такім чынам мы выйшлі на сцэну. Спачатку Багдан, затым я. Вядома што публіка чалавека з гітарай прыняла за Камоцкага. Багдан сарваў неверагодную авацыю публікі. Гэта яму вельмі спадабалася, і ён паўтараў жарт пазней неаднойчы ў іншых месцах.

**Э.А.** — *Апошні год у культурным жыцці Беларусі праходзіць пад сцягам кампаніі «Будзьма беларусамі!». Тваё стаўленне да гэтай ініцыятывы. Ці патрэбныя нам акцыі такога кшталту?*

**А.К.** — Гэта мая кампанія. Яе ўзнікнення я чакаў ад пачатку дзевяностых гадоў. Кампанія дапамагае мне жыць і тварыць, а таксама сустракацца з маімі слухачамі літаральна па ўсёй Беларусі.

**Э.А.** — *Ведаю, што на працягу некалькіх гадоў ты быў адным з арганізатараў бардаўскага восені ў Бельску. Чаму ў апошнія два гады ты застаўся па-за фарматам табой жа выпеставанага дзецішча? Можа. настаў час вяртаць беларускую песню з вымушанай эміграцыі на Радзіму?*

**А.К.** — Таму і застаўся, бо апошнім часам «Бардаўскую восень» ператварылі ў камерцыйны праект. Яе арганізатарам усё адно: ці гэта песенны фесты-





валь, ці чэмпіянат Беласточчыны па збору трускавак, — абы адбіць «бабло»... А беларуская песня, па-мойму, ужо вярнулася на Бацькаўшчыну з дапамогай кампаніі « Будзьма беларусамі!».

**Э.А.** — *Неаднойчы быў сведкам, з якой любоўю і павагай да цябе ставяцца маладыя творцы. Ты сябе паводзіш з імі, як гуру, ці гэта прыязнасць узаемная? Каго з маладых беларускіх бардаў ты мог бы назваць сваімі вучнямі?*

**А.К.** — Гэта Анатоль Сыс быў «гуру» для маладых. А я стаўлюся да іх як да роўных. І стараюся навучыць іх жыццю на ўласных памылках.

**Э.А.** — *На тваіх?*

**А.К.** — Так. На сваіх яны яшчэ паспеюць навучыцца. А таленавітай моладзі сёння шмат. Назаву толькі некаторых: Павел Кузін, Таня Беланогая, Алесь Наркевіч...

**Э.А.**. — *Мне вельмі імпануе твая канцэпцыя назову сваіх твораў. А найбольш твой музычны трыпціх: «Дым», «Дом», «Дах». Але ў апошні час ты з лексічных перайшоў на матэматычныя назвы. Я маю на ўвазе твой паэтычны зборнік «48» і новы песенны альбом «9», прэзентацыя якога адбылася 9.09.2009 года ў канцэртнай зале Мінск. Гэта выпадковы збег лічбаў ці свядомая спроба астральнай варажбы?*

**А.К.** — Мне падабаецца шаманіць з лічбамі.

**Э.А.** — *А не баішся, што з нябёсаў 9.09.2009 чытаецца ў перакуленым выглядзе?*

**А.К.** — Спадзяюся, што Той, хто чытае з нябёсаў, ведае, як правільна гэта рабіць...

**Э.А.** — *Ты маеш яшчэ адзін незвычайны музычны праект: альбом «З бацькоўскай кружэлкі». Запісваючы яго, сабе ў суаўтары ты ўзяў М.Ісакоўскага,*

*А.Пахмутаву, М.Матукоўскага... Не страшна было спаборнічаць з мэтрамі расійскай песні. І наогул, як гэты праект быў успрыняты публікай?*

**А.К. —** Я ні з кім не спаборнічаў... Проста рабіў сваю справу. На маё ўласнае здзіўленне, праект вельмі прыхільна быў сустрэты публікай. Некаторыя мне не верацьʼ, але літаральна за пару месяцаў разышоўся тысячны наклад кружэлкі...

**Э.А. —** *«Вось так сядзець, калісь, і бачыць дождж... // Да вечара, які калісьці будзе, // Кудысьці пазнікалі дні і людзі. // Ёсць толькі дождж // І ўпоперак, і ўдоўж...» Гэта з твайго верша са зборніка «48». Мяркуючы па ім, цябе можна назваць «чалавекам дажджу». Я дзесьці чытаў, што людзі, закаханыя ў дождж, вельмі шчаслівыя. Ці лічыш ты сябе «шчасліўчыкам» лёсу? Калі б была магчымасць пражыць жыццё яшчэ раз, ці ўвайшоў бы ты ў другі раз у той самы дождж?*

**А.К. —** На жаль, такой магчымасці не падвернецца. А наогул, я не шкадую ні аб чым. І калі б з'явілася магчымасць увайсці ў той самы дождж, не раздумваючы, зрабіў бы гэта, асабліва калі б гэта быў дождж першага кахання, дождж маёй маладосці...

**Здымкі: А. Страшкевіч, А. Прупас, В. Грудзько, В. Акуліч, С. Курылы, Х. Касцінай**

**«Літаратурная Беларусь», 2009 г.**





# Аксана Данільчык

паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар кніг паэзіі: «Абрыс скарпіёна», «Il mezzogorno. Поўдзень», «Павуцінка на агрэсце». Нарадзілася ў 1973 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Нельга прымерыць чужы лёс...

**Эдуард Акулін.** — *«Мая біяграфія настолькі гладкая, што ў ёй не засталося месца для крыку...» — прызналася ты ў адным са сваіх вершаў. Няўжо насамрэч так? Ці гэта толькі паэтычная метафара?*

**Аксана Данільчык.** — Насамрэч так. У мяне, можна сказаць, узорная біяграфія. Правільная з пункту гледжання абывацеля. Залаты медаль, чырвоны дыплом, кандыдацкая дысертацыя... Люба-дарага пачытаць. Але натуральна, што за датамі і дасягненнямі не відаць жывога чалавека і той працы, сумненняў, незадаволенасці, якія за імі стаяць. Пра гэта ў біяграфіях (прынамсі, у афіцыйных біяграфічных звестках) не пішуць.

**Э.А.** — *Ты закончыла музычную і матэматычную школы, а ўрэшце рэшт у тваім творчым лёсе перамагла літаратура. Хто цябе, гарадскую дзяўчынку, паклікаў у беларускую паэзію?*

**А. Д.** — А хто сказаў, што яна перамагла? Яна працягвае змагацца з усім астатнім. Музычную школу я вельмі любіла, бо яна не мела нічога агульнага з нашымі звычайнымі школамі, яна была па-за ідэалогіяй. А ў матэматычны клас я пайшла, каб памяняць школу. І першы год, калі я там вучылася, я не пісала ніякіх вершаў, ужо нават думала, што ўсё. А потым навучылася добра рашаць задачкі і вызваліўся час. А тут і другая хваля Адраджэння пачалася, а ў мяне першае месца ў рэспубліцы па беларускай мове. Я падумала, што пісаць добра кампутарныя праграмы могуць многія, а мне хацелася быць патрэбнай (мы — савецкія дзеці, нас выхоўвалі дзеля ідэі). Так што мяне паклікала мова, а не паэзія. Беларуская мова — мая першая мова, астатнія — пасля. Мяне, як і многіх гарадскіх дзяцей, выхоўвалі да трох год бабуля з дзядулем у вёсцы. Цікава было б цяпер паслухаць, як я гаварыла? Таксама, мабыць, казала «дубэ», «кустэ». І першыя вершы я ў бабулінай хаце склала (пісаць яшчэ не ўмела). Праўда, спачатку складала і на рускай, і на беларускай. І ніколі не думала: навошта?

**Э.А.** — *Ці памятаеш ты сваю першую публікацыю? Дзе і, дзякуючы каму, яна з'явілася?*

**А. Д.** — Ёсць такі цудоўны дзіцячы (цяпер, хутчэй, падлеткавы) часопіс «Бярозка». Мы з сяброўкай гарталі яго падшыўкі, і так ён нам спадабаўся, што я прапанавала напісаць вершы і даслаць туды (нам было па 12 год). Сяброўка вершаў пісаць не ўмела, а я даслала спецыяльна напісаны для гэтага часопіса верш. І праз год яго надрукавалі, бо верш быў «летні,» а сезон ужо завяршыўся. Мною пачаў апекавацца Мікола Чарняўскі і апекаваўся амаль да універсітэта. У «Бярозцы» была надрукаваная і першая падборка маіх вершаў з прадмовай Яўгеніі Янішчыц. Мне было 15. Я пачынала ў рэчышчы абсалютна традыцыйнай беларускай паэзіі.

**Э.А.** — *Як вядома, «усе дарогі вядуць у Рым...». Якім чынам Апенінская паўвыспа стала часткаю твайго жыцця?*

**А. Д.** — Спачатку дарога прывяла мяне ў Веліка Тырнава, у летнюю школу балгарскай мовы. 1990 год. Савецкі Саюз. Я, акрамя маіх польскіх сваякоў, якія ўсё ж такі былі беларусамі, іншаземцаў у вочы не бачыла. А тут пасябравала і з нямецкай дзяўчынай, і з італьянскай. Але італьянская дзяўчына Моніка не толькі паабяцала, што праз год я прыеду ў Італію, але і прыслала запрашэнне. Так пачалася мая эпапея з італьянскай мовай, якая цягнецца да сённяшняга дня. І з Монікай мы падтрымліваем кантакты.

**Э.А.** — *Я ведаю, што ў Італіі ты не толькі адпачывала, але і вучылася...*

**А. Д.** — Я заканчвала універсітэт, калі пачаліся чарнобыльскія праграмы аздараўлення дзяцей. І ў мяне з'явілася магчымасць падтрымліваць веданне італьянскай мовы. А пасля была аспірантура і я выбрала тэму, звязаную з італьянскай літаратурай. Вось так праз некаторы час і атрымала стыпендыю на шэсць месяцаў у горад Перуджу.

**Э.А.** — *Чым цябе вабіць «радзіма сусветнай культуры» — архітэктурным, прыродным ці чалавечым хараством? Што табе падабаецца ў італьянскім характары?*

**А. Д.** — Хутчэй усім разам. Мне здаецца, беларусы могуць шмат чаму навучыцца ў італьянцаў — стаўленню да дзяцей, напрыклад, культуры жыццёвай прасторы, любові да жыцця. Італьянцы (у большасці выпадкаў) адкрытыя, лёгкія людзі.

**Э.А.** — *Дзіна Буцаці, Італа Кальвіна, Джані Радары, Табукі, Сілонэ... Далёка не поўны спіс італьянскіх творцаў, якіх ты пераствáрыла па-беларуску. Гэта што датычыць тваіх празаічных перакладаў. А каго з італьянскіх паэтаў ты здалела «абеларусіць»?*

**А. Д.** — Леапардзі, Фоскала, Мандзоні, Павэзэ і іншых. Тых, каго люблю, у асноўным. Асабліва ганаруся перакладам паэмы Уга Фоскала «Пахаванні», напісанай у 1807 г. Вельмі актуальны для беларусаў твор, які вучыць з пашанай ставіцца да сваіх продкаў.

**Э.А.** — *Даволі прадстаўнічы спіс атрымаўся. Ці не думала ты пра выданне аўтарскай анталогіі перакладаў з італьянскай?*

**А. Д.** — Думала, тым больш, што заўсёды нехта вось так імкнецца да гэтага падштурхнуць. Але трэба час. Я не так даўно скочыла перакладаць «Кветачкі» святога Францішка Асіскага, так што можна вярнуцца да перакладаў паэзіі. Праблема ў тым, што ўсё ў нас робіцца на голым энтузіязме і любові саміх перакладчыкаў да пэўнай літаратуры. Мяркую, што не памылюся, калі скажу, што, на жаль, у нас адсутнічае якая-небудзь палітыка ў галіне літаратуры, адсутнічае сістэма грантаў і г.д. Няма установы, якая нейкім чынам імкнулася б, не кіраваць, а спрыяць літаратурнаму працэсу.

**Э.А.** — *Пасля заканчэння аспірантуры ты даволі працяглы час працавала ў Інстытуце літаратуры НАН, абараніла кандыдацкую дысертацыю... А цяпер працуеш перакладчыкам. Гэта нейкім чынам звязана з літаратурнай дзейнасцю?*

**А. Д.** — На жаль, непасрэдным чынам не звязана ніяк. А вось апасродкавана... Я вывучаю жыццё ў даволі цікавых яго праявах, часам даволі для мяне балючых. Думаю, што праз некалькі год мы зможам вярнуцца да гэтай тэмы. А па навуковай дзейнасці я сумую. Хацелася б нейкім чынам згарманізаваць два бакі майго жыцця, аднак я не выключаю, што давядзецца выбіраць. І тут абсалютна адназначны выбар.

**Э.А.** — *Ты аўтарка двух паэтычных зборнікаў «Абрыс скарпіёна» (1996) і «Il mezzogorno. Поўдзень»(2006). Інтэрвал паміж іх выхадам у свет складае дзесяць гадоў, а тэматычны «абрыс», як мне здаецца, застаўся той жа самы — лірыка кахання. Ці не баішся ты вычарпаць сябе ў тэме кахання, і ці не вычарпала сябе гэтая тэма ў сучаснай беларускай паэзіі?*

**А. Д.** — Ну тут я з табой не пагаджуся, у мяне прыкладна 50 на 50. Дарэчы, Камю пісаў, што і ў вершах пра каханне адчуваецца пульс эпохі. І потым, калі з'ява мае месца... Думаю, што тэма кахання ў нас недаацэненая. Варта звярнуцца да кнігі Святланы Калядкі «Беларуская сучасная жаночая паэзія: мастацкія канцэпцыі жаночага шчасця», каб пераканацца, што ў вершах пра каханне можна шмат чаго вычытаць і пра аўтара, і пра час яго існавання. У мяне шмат вершаў, дзе пра каханне — ні слова, а ёсць настрой і асэнсаванне ўласнай рэальнасці. У другой кнізе цэлы раздзел «Сумная мелодыя 2002» зусім не пра каханне, а пра жыццё, так бы мовіць.

**Э.А.** — *Каго з беларускіх паэтак ты назвала б сваёй духоўнай сястрой?*

**А. Д.** — У мяне нешта ўсё больш браты. Люблю паэзію Раісы Баравіковай за мудрасць, а Джэці за аптымізм. Але маё светаадчуванне іншае.

**Э.А.** — *«Я — не Ганна Карэніна...» — саркастычна заўважыла ты ў адным з вершаў. А як ты пачувала сябе ў вобразе Яўгеніі Янішчыц — паэтэсы з трагічным лёсам, калі здымалася ў фільме «Небяспечны талент»? Ці цяжка было прымяраць вярыгі чужога лёсу на ўласныя плечы?*

**А. Д.** — Сюжэт фільма амаль цалкам паўтарыў тое, што я рабіла за два гады да здымак, калі працавала над артыкулам «Ёсць паэзіі сакрэт і ў лёсе асабістым: Яўгенія Янішчыц і Эн Сэкстан», так што сама па сабе тэма жанчыны-творцы не была для мяне новай. Я ўжо казала, што Яўгенія Янішчыц напісала прадмову да маіх вершаў, і я хацела з ёю пазнаёміцца, нават сустракала ў Доме друку незадоўга да смерці. І на пахаванні яе была. Я добра памятаю канец семідзесятых — пачатак васьмідзесятых, ведаю эпоху. Мяне запрашалі і ў «Зубраня», і на семінар творчай моладзі ў 1985 годзе (пазней я даведалася, што там была і Янішчыц). Але я нікуды не хацела ехаць. І не ездзіла. Чаму? Можа таму, што ў той час я вучылася ў гарадской рускамоўнай школе, дзе бы-

ла і так белай варонай, а можа таму, што адчувала нейкі фальш ва ўсім гэтым. Ведаеш, нельга прымерыць чужы лёс. У кожнага ён свой. Соцыум часта навязвае табе пэўную ролю, з якой пасля вельмі цяжка выйсці. Пра гэта можна і трэба думаць, у тым ліку, разважаючы над чужым досведам. Адзінае, што нас сапраўды яднае — і Я.Янішчыц, і я, і, дарэчы, Эн Сэкстан — скарпіёны. Хочаце верце ў гараскопы, хочаце — не.

**Э.А.** — *Ці спадабаўся табе твой кінематаграфічны досвед? Ці згадзілася б ты яго паўтарыць?*

**А. Д.** — Вельмі люблю кіно і заўсёды хацела ўдзельнічаць у стварэнні фільма. Вось маё жаданне і спраўдзілася. Калі надарыцца яшчэ магчымасць — з задавальненнем. Я ніколі не марыла стаць актрысай, мне цікава было б удзельнічаць у любой якасці, сцэнарыста, напрыклад.

**Э.А.** — *Як нарадзілася твая «Павуцінка на агрэсце» — кніга вершаў для дзяцей?*

**А. Д.** — Вельмі пяшчотна яна нарадзілася. Калі я чакала другога сына, то пазбірала свае дзіцячыя вершы, каб пасля раздрукаваць на кампутары і пакінуць сынам у спадчыну. Насамрэч, гэта і ёсць мая першая кніжка, бо амаль усе вершы, акрамя першага, звернутага да сына, некалі друкаваліся ў «Бярозцы», я проста лічыла, што яны даўно нікому не патрэбныя, але, як высветлілася, памылялася. Больш за тое, не так даўно мяне знайшоў амерыканскі фатограф Джон Кунстадтэр, якому вельмі спадабалася кніга і ён менавіта верш «Павуцінка на агрэсце» апублікаваў на сваім сайце, прысвечаным Беларусі. Я была вельмі ўражаная. Мне здавалася, што такая паэзія амерыканцам не можа быць цікавай. А назву прыдумаў мой старэйшы сын.

**Э.А.** — *Тваім дзецям падабаюцца вершы з гэтай кнігі?*

**А. Д.** — Нядаўна высветліла, што падабаюцца, і яны нават чытаюць іх на ўроках у школе.

**Э.А.** — *Ты чалавек публічны? Што значаць у тваім жыцці — тэатральныя прэм'еры, творчыя вечарыны, паэтычныя фестывалі?*

**А. Д.** — Як літаратар я чалавек не публічны, і ніколі ім не была. Іншым разам у мяне ўзнікае ўражанне, што вершы існуюць самі па сабе, а я сама па сабе. Я не магу сказаць, што я жыву літаратурным жыццём, я жыву звычайным жыццём. Так было заўсёды, але апошнім часам я пачынаю задумвацца над пытаннямі «публічнасці», бо мяне цікавіць тое, што адбываецца ў літаратурным свеце. А паэтычныя фестывалі — гэта тая самая раскоша чалавечых зносін, якая незвычайна цябе ўзбагачае і дае штуршок для новых пошукаў. Насамрэч, думаю, у нас няшмат публічных літаратараў, у сэнсе тых, хто ўвесь час навідавоку. І потым у кожнага свае жыццёвыя рытмы.

**Э.А.** — *А што для цябе сям'я? Ці не засціць сямейная «глеба» твайго паэтычнага «неба» ?*




*З сынамі*

**А. Д.** — Хай толькі паспрабуе! Жартую, безумоўна. Сям'я, як і любы праект нашага жыцця, патрабуе пэўных высілкаў. Але само па сабе існаванне чалавека патрабуе пэўных высілкаў. Самога сябе таксама трэба карміць, апранаць, мыць, суцяшаць і г.д. Я не хачу сказаць, што жанчына абавязана мець дзяцей, але я заўсёды іх хацела. І я іх вельмі люблю. Спадзяюся, узаемна.

**Э.А.** — *Якая з дзвюх кухняў — паэтычная ці сямейная — адбірае найбольш твайго часу?*

**А. Д.** — Скажам так, літаратурная. Ну не кухар я! Паесці звару, але імкнуся скараціць працэс гатавання да неабходнага мінімума.

**Э.А.** — *Ці раўнуе цябе твой муж да паэзіі?*

**А. Д.** — Думаю, раўнуе, а што рабіць? Або я і літаратура, або...

**Э.А.** — *У сваёй біяграфічнай даведцы ты прызналася, што «любіш матылёў». Матылёк — гэта ажыўшы васілёк Максіма Багдановіча... Ці не сведчыць гэта аб тым, што ты, як і Багдановіч, прыхільніца «чыстае красы» ў паэтычнай эстэтыцы?*

**А. Д.** — Першая кніга, якую я прачытала ў сваім жыцці, называлася «Таму што яны прыгожыя» і распавядала пра матылёў. З тых юных часоў у мяне засталося пяшчотнае пачуццё да гэтых істотаў. Што ж датычыцца літаратурнага густу, то я, безумоўна, хутчэй прыхільніца эстэтыкі, чым антыэстэтыкі. Я вырасла ў прыгожым свеце. А тое, што мы засвойваем у юным узросце застаецца з намі назаўсёды. Ёсць розныя светапогляды, таленты рознай прыроды і рознай скіраванасці. Наўрад ці я змагу стаць прыхільніцай «крывавай» паэзіі. Пачытаць — пачытаю, але перачытваць не стану.

**Э.А.** — *Як ты адносішся да так званай эксперыментальнай паэзіі? У прыватнасці да творчых пошукаў Дзмітрыя Дзмірыева і Зміцера Плакса?*

**А. Д.** — Люблю. Мяне вельмі прывабліваюць эксперыменты са словам, з мастацкай формай. Гэта — праява смеласці. Раней, я лічыла, што ў аснове кожнага эксперымента павінен ляжаць пошук выяўленчых сродкаў для перадачы думкі, цяпер мне падаецца, што эксперымент мае права на жыццё і ў якасці эксперыменту. Зараз чытаю паэзію Вішнёва і мне прыкольна, хоць гэта абсалютна далёка ад таго, як пішу я. Кожны паэт у прынцыпе мае багаты выбар мастацка-вобразных магчымасцяў для творчасці, але выкарыстоўвае яго ў залежнасці ад уласнага таленту, густу, светапогляду, урэшце. Арсенал паэтычных сродкаў увесь час папаўняецца. Гэта заўважна і ў кожным канкрэтным выпадку — выяўленчая палітра аўтара часта змяняецца ад кнігі да кнігі. Увогуле, мне блізкая паэзія тых творцаў, чые вершы перадаюць пачуццё і адпаведна, як пісаў Э.Т.Гофман, «пачуццё нараджае пачуццё». Эксперменты рэдка ўзнікаюць на голым месцы, у сэнсе без адпаведнай тэарэтычнай базы і абгрунтавання (нават для самога аўтара). Мы маем справу з канцэпцыямі паэзіі, а гэта не можа не спрыяць яе развіццю. Вельмі часта мы размаўляем на гэтыя тэмы са Зміцерам Плаксам, спрачаемся нават, але такі абмен досведам, надзвычай карысны. Я лічу перспектыўным удасканальваць спалучэнне *мэсыджа*, што імкнецца пасланць навакольнаму свету аўтар, з формай, якая найлепш яго перадае. Акрамя таго, жыццё не стаіць не месцы. Гэта не значыць, што трэба ледзь не ў кожным радку паўтараць слова інтэрнэт ці SMS, але імкненне існаваць у рэальным сённяшнім свеце вызначае сучасную паэзію.

**Э.А.** — *Ці вядзеш ты дзённікі? Ці не задумвалася над стварэннем свайго персанальнага блога? Да каго з беларускіх літаратараў любіш наведвацца ў віртуальныя госці?*

**А. Д.** — Дзённікі я вяду час ад часу. Напрыклад, калі я здымалася ў фільме пра Янішчыц, то вяла дзённік. Бо гэта не шараговая падзея ў маім жыцці. Тым больш, што фотаапарат катэгарычна адмовіўся працаваць. Але весці дзённік пастаянна і рэгулярна я не магу, у мяне не стае на яго часу. Я запісваю думкі, выразы, вобразы без пазначэння даты. Некаторыя так і ляжаць гадоў дваццаць, а потым я магу нешта напісаць. А магу і не напісаць.

Персанальны блог — рэч файная, і ён у мяне нядаўна з'явіўся: danilchyk.livejournal.com. Але гэта не дзённік у звычайным разуменні. Там я публікую фотаздымкі і пераклады. Нават уласных вершаў пакуль не друкавала. Думаю, гэта выдатны сродак камунікацыі, але творца павінен найперш прысутнічаць творчасцю і выказваць свае думкі ў творах мастацкай формы. Як, дзе — пакуль вырашаю. Інакш вельмі лёгка збіцца на публіцыстыку. Для мяне блогі, найперш — крыніца інфармацыі. Не магу не адзначыць старонку «Прайдзісвета» — для душы і творчага росту.

**Э.А.** — *Як ты ставішся да камплімептарнай крытыкі?*

**А. Д.** — Ведаеш, заўважыла безадносна да літаратуры — беларусы не ўмеюць гаварыць кампліментаў. Гэта таксама навука, якой трэба вучыцца. Калі кампліменты робяцца занадта відавочнымі, то гэта ўжо не кампліменты... Крытык — адначасова і даследчык, і папулярызатар. Гэтыя дзве якасці павінны заставацца ў роўных прапорцыях. Кампліметарная крытыка — перакос у бок папулярызыцыі, матывы якога часта ляжаць на паверхні.

**Э.А.** — *А да літаратурнага крытыканства? Ці сустракалася ты з гэтай з'явай у сваім творчым жыцці?*

**А. Д.** — Як літаратуразнаўца, я даволі лаяльна стаўлюся да крытыкі, бо кожны мае права выказаць сваю думку. Аднак вельмі сумна, калі чытаеш рэцэнзію і разумееш, што цябе не чыталі, а калі і чыталі, то вельмі павярхоўна. Сумна, калі ў рэцэнзіі на тваю кнігу пад тваім прозвішчам замест тваіх вершаў цытуюць чужыя. З крытыкай можна пагаджацца, можна не пагаджацца, але, на маю думку, крытык павінен любіць аўтара. І любіць літаратуру. Найбольш крытыкі я атрымала за фільм «Небяспечны талент», але мы гэта прадбачылі, у тым сэнсе, што нашая трактоўка можа выклікаць неадназначныя рэакцыі. Так што ўсё нармальна.

**Э.А.** — *Апошнім часам цябе нярэдка можна ўбачыць з фотаапаратам у руках. У цябе з'явілася новае творчае хобі? Што ты любіш фатаграфаваць?*

**А. Д.** — Я заўсёды любіла маляваць, але часу цяпер вельмі не хапае. А фотаздымкі — такая рэч, што можа перадаць і настрой, і захаваць пэўныя ўражанні. Я пачала фатаграфаваць як усе — у падарожжах, на сямейных святах, а цяпер шмат фатаграфую проста так. Заўважыла, што амаль не фатаграфую людзей, але я пакуль што ў самым пачатку, магчыма, прыйдзе і гэта. Мае фотаздымкі былі надрукаваныя ў сумесным польска-беларуска-літоўска-украінскім альманаху «У каралеўскіх далонях», так што можна сказаць, нейкім чынам атрымалі прызнанне.

**Э.А.** — *Якая твая любімая фотапара года?*

**А. Д.** — Кожная пара года мае свае колеры, хоць у Беларусі яны часта супадаюць. У нас толькі лета адрозніваецца ад усяго астатняга, а вясну, восень і зіму часта можна паблытаць адну з адною. Я люблю сам кадр, незалежна ад пары года.




*Здымак А. Данільчык «Вакно»*

**Э.А. —** *Ці сочыш ты за творчасцю маладых літаратараў? Каго з маладых паэтаў можаш назваць у якасці сваіх любімых аўтараў?*

**А. Д. —** Увогуле імкнуся сачыць за развіццём літаратуры, асабліва паэзіі. Маладых таксама чытаю, і чытаю даволі многа, але любімымі аўтарамі пакуль не назаву нікога. Любімы аўтар — гэта ўся творчасць, канцэпцыя, светапогляд, свая эстэтычная сістэма. У маладых яны знаходзяцца на стадыі выпрацоўкі.

**Э.А. —** *У першым нумары «Верасня» Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч засцерагае юных творцаў ад «заразнай хваробы цынізму». Ці падзяляеш ты творчую занепакоенасць Ніла Сымонавіча? І што пажадаеш маладым беларускім літаратарам, у тым ліку аўтарам часопіса «Верасень»?*

**А. Д. —** У дадзеным выпадку, баюся, што не падзяляю. Свет змяніўся. Не думаю, што літаратары павінны ствараць літаратуру патрэбную народу. Гэта не пазбаўляе іх пэўнай адказнасці за мастацкую якасць твораў і за іх этычнае напаўненне. Ёсць абсалютна пэўныя рэчы, кшталту нацызма, папулярызацыя якіх не можа выклікаць станоўчай рэакцыі. Мяне ўражвае іншае. Кнігі некаторых даволі маладых літаратараў сведчаць аб тым, што іх аўтары проста не

ведаюць куды ісці і як жыць далей. Магчыма, такое пачуццё татальнай разгубленасці і ёсць сведчанне нашага часу? У такім разе хацелася б пажадаць, у першую чаргу, маладым, а таксама ўсім літаратарам не баяцца жыцця, вызначыцца з напрамкамі эстэтычных пошукаў, і ўпэўнена рухацца ў складаным, але цудоўным свеце, які называецца мастацтвам слова.

*7 чэрвеня 2010 г.*



# Алеся Сівохіна

бард, рэжысёр, акцёр. Скончыла факультэт псіхалогіі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта (2004), Маскоўскую вышэйшую школу сацыяльных і эканамічных навук (2006). З 2006 года — рэжысёр народнага літаратурнага тэатра «Жывое слова», што працуе ў БДПУ імя Максіма Танка. Нарадзілася ў 1983 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Творчасць — гэта Каханне...

**Эдуард Акулін.** — *Алеся, мы пазнаёміліся ў мінулым годзе на свяце паэзіі «Дух — гэта, людзі, Я!», якое штовосень ладзіцца ў Гарошкаве на радзіме паэта Анатоля Сыса. На думку Уладзіміра Някляева паэзія Анатоля цяжка кладзецца на музыку. У цябе ж атрымалася лёгкая, нязмушаная песня на ягоныя словы. Чым цябе прывабіла творчасць «брата Максіма Багдановіча і сына Янкі Купалы»?*

**Алеся Сівохіна.** — Добра, што гэта пытанне першае ў нашай гутарцы. Адразу хацелася б расказаць пра тую частку песень, якія прысутнічаюць у маім рэпертуары, але музыка ў іх не толькі мая. Хутчэй, гэта мая інтэрпрэтацыя музыкі. Удзельнікі нашага тэатра за ўсю гісторыю яго існавання пісалі песні: хто — шмат, а хто — толькі адну ці дзве. Іх музыка не запісана нотамі, а перадаецца ад аднаго пакалення да другога і трансфармуецца, а песні становяцца так званымі «тэатральнымі». Вось з такіх і «Каля твайго парога» на словы Анатоля Сыса. Я згодна, што напісаць музыку на словы Анатоля — праца не з лёгкіх. Але калі верш адпавядае твайму ўнутранаму настрою, тады музыка ствараецца сама сабой. І тое, што кранае мяне эмацыянальна, заўсёды пачынае для мяне «гучаць».

**Э.А.** — *Па сваёй адукацыі — ты псіхолаг, вывучала таксама сацыялогію. Якім чынам ты трапіла ў славуты народны тэатр «Жывое слова»?*

**А.С.** — На самай справе ў Маскве я вывучала таксама псіхалогію, але з боку сямейнага кансультавання. А ў тэатр «Жывое слова» мяне прывяла сяброўка. Гэта толькі здаецца, што мая прафесія і тэатр — рэчы несумяшчальныя. Псіхалогія вывучае душу, а тэатр — гэта магчымасць убачыць чужую душу і паказаць сваю.

**Э.А.** — *Чатыры гады ты працуеш рэжысёрам тэатра. Але наколькі я ведаю ты не абмяжоўваешся чыста рэжысёрскай дзейнасцю?*

**А.С.** — Я наогул мультыпрактык: працую на сцэне ў якасці акцёра, выконваю песні. Ну а першай уласнай працай у іншым амплуа было стварэнне музыкі да спектакля «Я кахаЮ» паводле п'есы Вольгі Мухінай «Ю».

**Э.А.** — *Ствараць музыку да спектакля — няпростая справа, якая патрабуе, як мінімум, веданне музычных канонаў. Ты маеш музычную адукацыю? Можаш запісаць мелодыю на нотны стан? Ці музыка — гэта стан тваёй душы?*

**А.С.** — А ці ёсць людзі для якіх музыка — не стан душы? Музыка суправаджае мяне з самага нараджэння. Часам здаецца, што я нават думаю нотамі. У сувязі з апошнім выказваннем пытанне пра наяўнасць музычнай адукацыі становіцца неактуальным.

**Э.А.** — *Якую сцэнічную працу ў тэатры ты лічыш сваёй творчай удачай?*

**А.С.** — Паколькі я не абмяжоўваюся толькі рэжысурай, але і раблю сцэнаграфію, падбіраю касцюмы, музыку да спектакляў, таму немагчыма вызначыць больш удалае ці менш. Кожны спектакль я люблю па-свойму. Вельмі кранаючым атрымаўся спектакль «Апельсіны ў падарунак» паводле Э.-Э.Шміта «Оскар і Ружовая Дама». Гэта філасофская гісторыя пра сутнасць чалавечага існавання. Галоўны герой — дзесяцігадовы хлопчык Оскар, хворы на рак. Да апошняга моманту ён змагаецца са смерцю, а заставацца мужным дапамагае надзейны сябра і дарадца — Ружовая Дама.

**Э.А.** — *Амаль кожны рэжысёр марыць паставіць на сцэне «Караля Ліра» або «Гамлета»... Аб чым твае творчыя мроі?*

**А.С.** — У жыцці амаль заўсёды так, што мары застаюцца марамі.

**Э.А.** — *У якім тэатры, акрамя «Жывога слова», ты любіш бываць?*

**А.С.** — У добрым.

**Э.А.** — *Якая музыка табе падабаецца?*

**А.С.** — У кожны момант розная, таму што жыццё рознае. Сітуацыя і настрой дыктуюць мне прыярытэты. Нават самая любімая песня можа надакучыць, калі слухаць яе кожную вольную хвіліну. Трэба шукаць заўсёды нешта свежае, арыгінальнае, нечаканае.

**Э.А.** — *Як сказана ў біблії — «не ствары сабе куміра»... І тым не менш, хто з айчынных бардаў натхняе цябе на ўласную творчасць?*

**А.С.** — Калі мяне будзе натхняць нехта з бардаў, тады ніякай маёй уласнай творчасці не атрымаецца. У вялікім і ўсеабдымным захапленні талентамі іншых мы становімся майстрамі мімікрыі, замест таго каб развіваць свае ідэі.

**Э.А.** — *Наколькі я ведаю, ты сама не пішаш вершаў. Якім чынам ты знаходзіш тэксты для сваіх песень?*

**А.С.** — Я іх не знаходжу, яны самі знаходзяць мяне.

**Э.А.** — *Каго з беларускіх пісьменнікаў ты любіш перачытваць?*

**А.С.** — Уладзіміра Караткевіча.

**Э.А.** — *Тэатральнае жыццё — вандроўнае. Табе падабаецца адкрываць для сябе новыя далягляды — беларускія і не толькі? Якое з апошніх падарожжаў табе запомнілася найярчэй?*

**А.С.** — Новае — заўсёды цікава: уражанні, эмоцыі, людзі, мясціны. Так заўжды, асабліва яскрава запамінаецца апошняе. У сярэдзіне красавіка мы з тэатрам ездзілі на фестываль «Рампа» ў Днепрапятроўск.

**Э.А.** — *У якіх краінах ты пабывала ў якасці рэжысёра і барда? На якой сцэне марыш праспяваць і сыграць?*

**А.С.** — Пакуль што наш тэатр выступае толькі ў межах СНД, але я з задавальненнем выступлю на любой гасціннай сцэне і ў зале з удзячнымі гледачамі, незалежна ад геаграфічнага месцазнаходжання гэтай залы.

**Э.А.** — *Ці ёсць у Мінску сцэна, на якой ты адчуваеш сябе камфортна і куды табе хочацца вяртацца зноў і зноў?*



**А.С.** — Гэта сцэна нашага тэатра ў БДПУ — 500-я аўдыторыя, якую мы пяшчотна называем «пяцісотачка».

**Э.А.** — *Ці згодная ты з думкай, што «толькі ў Вільні і больш нідзе» можна адчуць сябе сапраўдным беларусам?*

**А.С.** — На жаль, у Вільні я ніколі не была. Падчас маёй вучобы ЕГУ яшчэ знаходзіўся ў Мінску якраз у цэнтры, каля Акадэміі Навук. Але гэта не перашкаджае мне адчуваць сябе сапраўднай беларускай.

**Э.А.** — *«Няма таго, што раньш было»... Сённяшні час не зусім спрыяльны для развіцця беларускай аўтарскай песні. Свой першы кампактдыск я запісаў у студыі дзяржаўнага радыё... Якая сітуацыя з выхадам у свет тваёй першай кружэлкі? Хто акрамя цябе сабой у гэтым зацікаўлены?*

**А.С.** — Цяжкасці, на самай справе, і ёсць выклік, і сапраўднаму творцу яны дазваляюць лепш раскрыць свой талент. Творца павінен нешта пераадольваць: сябе, матэрыял, норму. Мы захапляемся вялікімі майстрамі, таму што яны зазірнулі туды, куды мы не маглі ці наогул баяліся зазірнуць. У маім жыцці ўсё складваецца так, што ўсё прыходзіць сваечасова. Так што, для ўсяго свой час, і для кружэлкі таксама. Яна выйдзе тады, калі проста не зможа не выйсці.

**Э.А.** — *Алеся, цябе даволі часта можна заўважыць на розных сталічных «тусоўках» — творчых вечарынах, кніжных прэзентацыях і г.д. Як ты лічыш, каб трапіць у «абойму», трэба, перафразоўваючы Барадуліна, на сцэне бываць часцей? Ці для цябе — гэта патрэба пабыць сярод блізкіх па духу людзей?*

**А.С.** — Я не лічу сябе «тусоўшчыцай». Проста стараюся адгукацца, калі мяне просяць выступіць. Часта проста прыходжу паглядзець, што новага ў культурным жыцці. Думаю, што гэта нармальна, калі чалавек цікавіцца не толькі сваёй творчасцю.

**Э.А.** — *Нядаўна выйшаў кампактдыск «Барды свабоды». Са здзіўленнем і шкадаваннем заўважыў, што цябе няма ў ліку аўтараў. Як ты ставішся да падобных праектаў? Калі б запрасілі да ўдзелу ў такім праекце, пагадзілася б? Ці ты не лічыш сябе «бардам свабоды»?*

**А.С.** — Я ніколі не лічыла сябе бардам. Бард — выканаўца ўласных песень. А я вершы сама не пішу, часам выконваю песні маіх сяброў, ці перакладзеныя на беларускую мову вядомыя песні, ці проста рамансы. Які ж я бард?

**Э.А.** — *Сціпласць у нашай беларускай крыві. Янка Купала таксама калісьці прызнаўся: «Я не паэта, о крый мяне Божа!» І ўсё-ткі што, на тваю думку, патрэбна, каб адбыцца як барду?*

**А.С.** — Тое самае, што і любому чалавеку — рэалізоўваць сваё Я.

**Э.А.** — *Ці верыш ты ў сяброўства сярод творчых людзей? Чамусьці згадалася гісторыя Моцарта і Сальеры... З кім ты сябруеш? І што найбольш цэніш у сваіх сябрах?*

**А.С.** — Сапраўдных сяброў у мяне не шмат і амаль усе — з часоў вучобы ў універсітэце; кожны — чалавек у пэўнай ступені творчы; кожнага з іх я проста цаню за тое, што яны ёсць. А яны прымаюць мяне з усімі маімі асаблівасцямі.

**Э.А.** — *«Пакуль кахаю, я жыву...» — аднойчы сказаў паэт Алесь Пісьмянкоў. Якую ролю ў сваім жыцці адводзіш ты каханню?*

**А.С.** — Жыццё — і ёсць каханне. Без кахання не будзе жыцця, не будзе творчасці, таму што Творчасць — гэта таксама Каханне, якое цябе перапаўняе настолькі, што застаецца толькі адно — ствараць. Ты проста не маеш іншага выйсця.

**Э.А.** — *Што ты не змагла б дараваць каханаму чалавеку?*



*На «Ракуцёўскім леце»*

**А.С.** — Калі кахаеш, уласны эгаізм змяншаецца да той ступені, што інтарэсы другога выходзяць на першы план, становяцца прыярытэтнымі. А ў такой сітуацыі і адносіны пачынаеш разумець па-іншаму. Калі так — даравацьможна ўсё і зразумець можна ўсё. Які адбітак нейкі ўчынак пакіне на адносінах — гэта ўжо іншая справа.

**Э.А.** — *Як у тваіх вачах павінны выглядаць сапраўдны мужчына? Ці лічыш ты, што час донкіхотаў даўно кануў у Лету?*

**А.С.** — Стэрэатыпаў сапраўднага мужчыны і так шмат. Навошта яшчэ і мой? Не ведаю, як наконт донкіхотаў... ён, здаецца, і без жонкі застаўся. Калі б усе мужчыны былі такімі — чалавецтва перастала б існаваць... Так што добра, што такі час мінуў.

**Э.А.** — *Вось як! Тады які вобраз сучаснай жанчыны табе бліжэй — свецкай львіцы, феміністкі, гламурнай сэрцаедкі ці мележаўскай Ганны?*

**А.С.** — Абсалютна не хочацца трапляць у рамкі існуючых клішэ. Мне бліжэй вобраз жанчыны, якая слухае сябе, сваё сэрца, сваю інтуіцыю і выражае сябе адпаведна; жанчыны гарманічнай, справы і ўчынкі якой адпавядаюць яе думкам і настрою.

**Э.А.** — *Апошнім часам сярод беларускіх творцаў стала модна здымацца для глянцавых выданняў у аголеным выглядзе. Як ты ставішся да гэткіх фотасесій?*

**А.С.** — Вытокі нашай культуры — у Антычнай Грэцыі, дзе лічылася непрыстойным ужываць любыя мастацкія сродкі не да месца. Чалавечае цела мае нейтральнае значэнне. Усё залежыць ад таго, што аўтар хацеў гэтым сказаць і дзе ён гэта хацеў сказаць. Такія фотасесіі — таксама форма выказвання.

**Э.А.** — *У тэатры ты прывыкла рэжысіраваць жыццё, а ў рэальным жыцці — хто, на тваю думку, рэжысіруе нашыя лёсы?*

**А.С.** — У тым ліку і мы самі. У любой сітуацыі нам даецца выбар і толькі ад нас залежыць, якім будзе наступны ўчынак, што будзе далей. Наша жыццё можа змяніцца каардынальна ад аднаго кароткага «так» ці няўпэўненага «не». Але ж выбіраем мы самі. Няхай ёсць Той, хто сочыць, хто дапамагае. Але ўся адказнасць за наша жыццё — на нас саміх.

**Э.А.** — *Кажуць, каб паверыць у Госпада, трэба зняверыцца ў людзях? Ці праўда гэта? Што значыць вера ў тваім жыцці? Хто ці што з'яўляецца «падмуркам» тваёй Веры?*

*З Алесем Ласём*





**А.С.** — Як сказаў іспанскі пісьменнік Артур Перэс Рэвертэ, «вера — гэта скачок з заплюшчанымі вачыма насустрач нечым рукам, якія падхопяць і прымуць цябе». У веры няма ніякага падмурка, гэта прыманне апрыоры таго, што ёсць нешта такое, чаго мы не можам зразумець. А калі мы спрабуем даведацца, хто ці што гэта «іншае» — нараджаецца навука. І калі мы верым у Госпада, мы не шукаем яго ў іншых — Ён у сэрцы кожнага з нас.

*14 траўня 2010 г.*



# Рыгор Сітніца

мастак, паэт, публіцыст. Акадэмік Беларускай акадэміі мастацтваў. Першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў. Вершы друкаваліся ў часопісах «Полымя» і «Дзеяслоў». Карціны знаходзяцца ў музеях Беларусі, Польшчы, Грэцыі, у прыватных зборах Беларусі, Літвы, Польшчы, Германіі, Галандыі, Ізраіля, Вялікабрытаніі, Грэцыі. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў в. Курыцічы  на Петрыкаўшчыне. Жыве ў Мінску.

# «І голас Бога слухае душа...»

**Эдуард Акулін.** — *Іван Мележ назваў беларусаў «людзьмі на балоце». Маючы такое каларытнае прозвішча «Сітніца», ці адчуваеш ты сябе насельнікам беларускага балота?*

**Рыгор Сітніца.** — Маё прозвішча сапраўды вельмі беларускае й вельмі зямное, бо сітніцай беларусы называлі муку, з якое выпякалі сітны хлеб. Таму я адчуваю сябе насельнікам і беларускага поля, і беларускага лесу, і беларускага луга, і беларускіх балотаў, якія ў нашым краі зараз пачалі інтэнсіўна аднаўляць, бо нарэшце зразумелі сапраўднае іх значэнне і для краю, і для свету. Так што, зусім не заганна часам адчуць сябе насельнікам тутэйшага балота, бо яно таксама ёсць не найгоршай часткаю нашай Бацькаўшчыны, над якой ёсць яшчэ і беларускія нябёсы, насельнікам якіх я таксама сябе разпораз адчуваю.

**Э.А.** — *Як удалося табе, звычайнаму вясковаму хлапчуку, з палескай «глушы» трапіць у беларускую сталіцу і стаць навучэнцам школы па музыцы і выяўленчаму мастацтву імя Ахрэмчыка?*

**Р.С.** — У маёй палескай «глушы» — вёсцы Курыцічы, што ў Петрыкаўскім раёне, якая расцягнулася на чатыры кілометры, недзе годзе ў 75-м былі заасфальтаваныя вуліцы і пад'езды да фермаў і палявых станаў. Праз вёску тройчы на дзень праходзілі рэйсавыя аўтобусы да райцэнтра і чыгуначнай станцыі. У вясковай школе было па два, а то і па тры паралельных класы, у кожным з якіх вучылася па-беларуску 25-30 чалавек. У вёсцы было 5 крамаў, велізарны клуб і шмат чаго іншага. Так што мяркуйце самі, якой была тая «глуш». А галоўнае, гэта было натуральнае беларускае асяроддзе, не сапсаванае ні пахабнай расейскай папсой, ні павальным п'янствам, ні сучаснай амаральнасцю ды цынізмам. Мастаком я захацеў стаць недзе гадоў з пяці. Жаданне тое было амаль шалёным — маляваў прагна і зацята і ўжо тады спрабаваў уявіць свае малюнкі ў залатых рамах на музейных сценах. Гадоў з васьмі пачаў дасылаць бандэролі з малюнкамі на ўсялякія конкурсы, што ладзіліся газетамі «Піянер Беларусі» ды «Пионерская правда», якія выпісвала мая старэйшая сястра. Кожны тыдзень з вялікім нецярпеннем чакаў тыя газеты, жадаючы ўбачыць свае малюнкі надрукаванымі. Іх чамусці не друкавалі: пэўна мае хаты, хлявы, парканы, дрывотні былі нефарматнымі побач з касманаўтамі, піянерамі ды пад'ёмнымі кранамі. Гэта пачынала абураць, бо надрукаваныя правільныя карцінкі падаваліся мне непараўнальна горшымі за мае-родныя. Сумненняў не было, і цярпенне лопнула: гадоў у дзесяць накатаў на шыкоўнай трасянцы гнеўны ліст у тую «Пионерскую правду» з патрабаваннем даць мне адрас вучэльні, дзе я магу вучыцца на мастака. Маскоўскія дабрадзеі доўга не напружваліся ды адказалі, што я мушу-такі скончыць восем класаў і тады ўжо паступаць у.....Чарнігаўскую мастацкую вучэльню. У

Маскве пэўна й зараз лічаць, што калі вёска ў Гомельскай вобласці, дык Чарнігаў адразу за суседскім гародам. Да восьмага класа, як і да Чарнігава, было дужа далёка. Мяне гэта задаволіць не магло. На маё шчасце, у нашу вёску, пасля заканчэння музычнае вучэльні, прыслалі выкладаць музыку ды спевы Івана Пятровіча Маліноўскага. Апроч іншага, ён яшчэ някепска маляваў, дык яму даручылі выкладаць і маляванне. Гэта было сапраўдным шчасцем. Іван Пятровіч кардынальна змяніў жыццё нашай вёскі. Ён стварыў два харавыя калектывы — дзіцячы і дарослы: дамогся, каб ім пашылі канцэртныя строі, вазіў іх на ўсялякія агляды ды конкурсы ў Гомель, Мінск і шмат куды яшчэ. Пры школе Іван Пятровіч заснаваў музычны гурток, дзе прафесійна вучыў вясковых дзяцей ігры на баяне ды акардэоне. Тры гады навучаўся ў тым гуртку й я. Займаўся Іван Пятровіч з кожным індывідуальна ў сябе дома. Ніякіх грошай настаўнік не браў. Заўважыўшы мае мастацкія здольнасці, ён пачаў вельмі сур'ёзна і сістэмна са мной займацца маляваннем: паказваў рэпрадукцыі класікаў, ставіў нацюрморты, вадзіў на эцюды, прывучаў маляваць з натуры. Менавіта Іван Пятровіч вышукаў недзе адрас Рэспубліканскай школы па музыцы і выяўленчаму мастацтву ды, угаварыўшы маіх бацькоў, сам адвёз мяне ў Мінск. Вось такія бываюць настаўнікі, і дзякуй Богу, што аднаго з іх ён паслаў мне.

**Э.А.** — *Я ведаю, што першым тваім малюнкам сталі крамлёмскія муры... У пазнейшай сваёй творчасці ты неаднойчы звернешся да мураванай тэматыкі. Але на змену крамлёўскім прыйдуць муры Сынкавіцкай царквы, касцёла св.Ганны, Мірскага замка... Чым абумоўлены твой зварот да беларускай гісторыі?*

**Р.С.** — Першым маім малюнкам была выява з галубамі, стужачкамі, галінкамі ды вежай з пяцікутнай зоркаю і гадзіннікам, — усё тое, што малявала старэйшая сястра для школьнае насценгазеты. А я —пяцігадовы, падглядваючы з-за спіны, узяў ды й перамаляваў тое піянерскае шчасце на свой аркуш. Здалося, што зрабіў значна лепей за сястру. А яна ж на шэсць гадоў старэйшая... З таго моманту ўсё й пачалося. Тое, што мая творчасць сцвярджае сябе на грунце нацыянальнай гісторыі, этнаграфіі, фальклору, дойлідства — з'ява цалкам натуральная. Бо для мяне такія паняткі, як нацыянальны светапогляд, нацыянальны менталітэт, душэўнае пакліканне далёка не пусты гук. Мы — еўрапейская нацыя і нашы нацыянальныя каштоўнасці ёсць неад'емнаю часткаю агульнаеўрапейскага культурнага кантэксту. Мастак, які са скуры вылузваючыся, імкнецца быць суперсучасным і еўрапейскім, пры гэтым пагарджаючы нацыянальнымі каштоўнасцямі, можа, канешне, стварыць больш ці менш прафесійную рэч дзеля аздобы інтэр'еру, якая будзе мець вартасць не большую, чым астатняя мэбля. Зрэшты, мастак, які свядома вырабляе мастацкі тавар і хоча за яго мець капейчыну, — звычайны рамеснік, да якога не можа быць ніякіх прэтэнзіяў. Той жа, хто насамрэч лічыць сябе мас-

таком, мусіць ведаць, што мастацкае янычарства мае ўрэшце вынікі не менш пачварныя, чымся янычарства сапраўднае.

**Э.А.** — *У сувязі з гэтым, ці адчуваеш ты сябе вучнем Язэпа Драздовіча, які лічыцца Нестарам беларускага дойлідства?*

**Р.С.** — Кожны свядомы беларускі мастак у пэўнай ступені ёсць вучнем Драздовіча хоць бы таму, што дзяцька Язэп першым з тутэйшых мастакоў падпісаў свае творы па-беларуску. Увогуле ж постаць Драздовіча, ягоны жыццёвы чын ды духоўны подзвіг вартыя таго, каб быць далучанымі да беларускіх Святыняў. Аднак жа знайшоўся сярод тутэйшых мастакоў дзеяч, які справіў сваю пільную патрэбу на помнік Драздовічу ды яшчэ й пахваліўся гэтай гнюснасцю ў кніжачцы «СУчаснікі». Ну хіба не янычарства? Міжволі прыгадваеш, чым пасля плацілі за свае подзвігі тутэйшыя камсамольцы, што палілі храмы ды секлі святыя абразы.

**Э.А.** — *Цябе часта называюць «мастаком магічнага рэалізму». Заўсёднае ж імкненне да палёту, светлаценяў і німбаліній выдае прысутнасць у тваёй творчай манеры элементаў супрэматызму. Прадстаўніком якога мастацкага накірунку ты сам сябе лічыш?*

**Р.С.** — Гэтак назваў мяне нямецкі калекцыянер і тэарэтык мастацтва Франц Салес Грыль, які зрабіў вельмі грунтоўнае даследванне паводле маёй творчасці. Што да элементаў супрэматызму, а найчасцей канструктывізму, дык гэта прынцыповыя рэчы, якія кладуцца ў аснову маіх кампазіцыйных канструкцыяў у спалучэнні з гіперрэалістычнай трактоўкай формы. У гэтым спалучэнні, на думку мастацтвазнаўцаў, і палягае адметнасць маіх твораў. Хай сабе й так. Мяне ж гэта турбуе найменей. Галоўнае, — быць шчырым і праўдзівым ды сцвердзіць сваю задумку ў максімальна дасягальнай дасканаласці.

**Э.А.** — *Яшчэ грэчаскі лірык Сіманід заўважыў, што жывапіс — гэта нямая паэзія. І, наадварот, паэзія — гэта жывапіс словам. Ты згодны з гэтай думкай? Ці жывапіс і паэзія ў тваім жыцці існуюць паралельна?*

**Р.С.** — Я пагаджаюся з гэтым і магу толькі дадаць, што жывапіс, як і паэзія, гэта яшчэ й музыка, і архітэктура, і ... У маім асабістым творчым досведзе выяўленчае мастацтва і літаратура спалучаюцца хіба на ўзроўні эмоцыяў. У астатнім жа гэта два самастойныя паралельныя працэсы, якія, аднак жа, пачынаюцца з аднаго вытока ды працуюць на адну й тую ж мэту й вынік.

**Э.А.** — *Сёння — ты прызнаны мастак слова, лаўрэат літаратурных прэмій часопіса «Полымя» і «Дзеяслоў». А з чаго пачынаўся Рыгор Сітніца як паэт?*

**Р.С.** — Дзякуй. Пра сябе я так меркаваць не рызыкну. Паэзія была ў маім жыцці заўсёды, а ўласныя паэтычныя спробы пачаліся з жадання выславіць тое, што немагчыма выказаць праз малюнак ці будзённыя словы. Жаданне выказаць свае пачуцці й думкі ў слоўна-гукавай гармоніі, якая павінна стац-

ца паэтычнай дасканаласцю (па маёй асабістай ацэнцы) — гэта дужа цяжкая праца, але ж і найвялікшая асалода пры жаданым выніку.

**Э.А.** — *Я ведаю, што ты сябруеш з Рыгорам Барадуліным. Калі яно пачалося і што дае табе, як творцу, гэтае сяброўства?*

**Р.С.** — Сяброўства з дзяцькам Рыгорам пачалося больш як пятнаццаць гадоў таму ў зусім выпадковых абставінах, але сёння я аніяк не магу назваць гэта выпадковасцю, бо такія сустрэчы проста так не адбываюцца. Для мяне гэта й вялікае шчасце, і немалая адказнасць, бо я ўсведамляю, што маю сяброўскія стасункі з Геніем. І ніяк не менш. Ён першы, каму я чытаю свае новыя тэксты. Зрэшты, я таксама раз-пораз адным з першых чую ягоныя новыя шэдэўры. Барадулін фактычна стаўся маім літаратурным хрышчоным бацькам, бо без ягонага прымусу і дабраславення мая першая паэтычная публікацыя магчыма не адбылася б і да сёння.

**Э.А.** — *Многім тваім карцінам і вершам уласціва глыбокая ўнутраная светлыня. Адкуль вытокі гэтага «духоўнага бачання» свету?*

**Р.С.** — Мастацтва — наогул справа духоўная, і калі твору бракуе ўнутранай светлыні, дык узнікаюць сумненні, а ці з мастацтвам мы маем справу. Хоць усё гэта нашмат складаней, бо найтрагічнейшы шэдэўр Пікаса «Герніка» таксама прыклад духоўнай светлыні, як і абстрактныя палотны Хуана Міро, Джэксана Полака, ці шмат каго іншага. Вытокі ж духоўнага бачання — ад Госпада Бога, ды «Ад прадзедаў спакон вякоў...»

**Э.А.** — *Найвялікшай падзеяй у сваім жыцці ты лічыш Каханне... Ці памятаеш ты сваё першае каханне?*

**Р.С.** — Каханне, сапраўды, — найвялікшая падзея для кожнага, каму пашчасціла спазнаць гэтую неацэнную Божую ласку і ці не самую светлую ісціну. Каханне — гэта пасвячэнне ў найвышэйшую Веду, якая, аднак, патрабуе найвялікшай адказнасці і напружанай духоўнай працы, вынікам якой ёсць сапраўдныя Дзівосы, што апраўдваюць нашае зямное быццё і набліжаюць да Звышняга. Той жа, хто размяняў гэты Дар на будзённую драбязу ды ўсялякія спакусы, ніколі не застаецца беспакараным, і вынікі гэтае кары ў кожнага навідавоку. Захоўваючы ў памяці тое, што ёсць маёй прыватнай Святыняй, лічу не вартым рабіць яе агульнадаступнай, бо ў гэтым заўсёды ёсць небяспека разбурэння сакральнасці.

**Э.А.** — *Якая, на тваю думку, галоўная праблема сучаснага выяўленчага і паэтычнага мастацтва? Мастацтва і мараль для цябе — паняцці супастаўляльныя ці супрацьлеглыя?*

**Р.С.** — Найвялікшая праблема палягае ў тым, што фактычна знішчаная сістэма крытэрыяў, паводле якіх ацэньвалася вартасць твора. Мастацкая самадзейнасць, якая сама сябе назвала актуальным мастацтвам і аматарскі постмадэрнізм у літаратуры знялі ўсялякія перашкоды перад графаманіяй і непрафесійнасцю, якія, нягледзячы на прафесійную нямогласць (за рэдкім выняткам), як правіла, маюць неабмежаваную самаўпэўненасць, агрэсіўнасць,



*З графічнай серыі «Гаспода»*

ды неабцяжаранасць аніякімі маральнымі абмежаваннямі. Тэксты, наладкаваныя брыдоццем, вычварэннямі, бязглуздзіцай ды мацюкамі з дамешкам паракрыўленых цытатаў з класікі выстаўляюцца зараз як найвялікшыя дасягненні сучаснай літаратуры. «Жывапіс», напэцканы экскрыментамі аўтара, выпатрашаныя чалавечыя трупы, што выстаўляюцца ў якасці арт-аб'екта ў прэстыжнейшых галерэях, святыя старажытныя абразы, пасечаныя канцэптуалістам на вачах у гламурнай публікі, лайно англійскага «мастака», закатанае ў слоікі і выстаўленае на буйны арт-аукцыён — усё гэта падаецца як узор прагрэсіўнейшай авангардовай думкі. Нязгодныя з гэтай думкаю рызыкуюць патрапіць у лік рэтраградаў а то й цемрашалаў. Таму шмат хто баязліва маўчыць, каб, не дай Бог, яго не зачапілі. Зрэшты, прымаючы творчасць ва ўсіх яе формах і накірунках, я далёкі ад думкі, што актуальнае мастацтва ды постмадэрнізм зусім не далі твораў, вартых шырокай увагі. Такія творы ёсць, але гэта хутчэй вынятак з агульнае даволі бруднае плыні.

**Э.А.** — *У адным сваім інтэрв'ю ты заявіў, што «жыццё трымаецца на маральных прынцыпах»...*

**Р.С.** — Мастацтва — частка нашага жыцця, а мастацкі прадукт — люстэрка душы аўтара. Адсюль вынікае, што маральныя нормы ніяк не могуць быць

супрацьлеглымі мастацтву. Бо логіка падказвае, што калі твор свядома выведзены за межы маралі, дык выходзіць, што ён амаральны. А як інакш? Дужа пацешна гучыць: аўтар, які творча працуе ў галіне амаральнага мастацтва. Безумоўна, з ацэнкамі трэба быць вельмі асцярожным, бо развешванне ярлыкоў — улюблёны занятак тых, хто сам мала чаго варты. Але ж, як на дарозе, мы, каб застацца жывымі, мусім датрымоўвацца ўсталяваных правілаў, гэтак і ў мастацтве, пры ўсёй разняволенасці авангардовай думкі, не лішне раз-пораз прыгадваць тысячагадовыя арыенціры, каб засталася жывою душа. Ведаю, што ў такой пазіцыі знойдуцца ці мала працаўнікаў, якія таксама залічаць мяне ў цемрашалы. Але такой бяды. Мараль — гэта сумленне і пачуццё сораму, якія ёсць асновай духоўнага імунітэту. Іх адсутнасць спараджае духоўны СНІД, які пазбаўляе чалавечую душу імуннай абароны і робіць адкрытай для ўсялякага смецця і бруду. На вялікі жаль, прыклады гэтай хваробы маем і сярод тутэйшых. Аўтар «СУчаснікаў» — найбольш цяжкая форма захворання. Хлусня, паклёп, абразы, смакаванне ўсялякіх вычварэнняў — вось баявы арсенал гэтага аўтара. Скандальная вядомасць, здабытая праз аплёўванне сваіх сяброў, калегаў, настаўніка ды знакавых асоб нацыянальнай культуры выклікае не толькі абурэнне ды агіду, але й шчырае шкадаванне. Бо чалавек, які скарыстоўвае свае магчымасці на слугаванне злу і цемры, заслугоўвае не толькі пагарды, але й спачування, калі падумаць пра ягоныя перспектывы. Спроба гэтага аўтара сёлета ўступіць у Беларускі саюз мастакоў, папярэдне апляваны ім з галавы да ног, мела для Адамчыка—Глёбуса камічна — драматычныя наступствы. Бо лётаць «як фанера над Парыжам» ён, вядома, не прывык, але ж давялося. Цяпер, як і чакалася, інтэрнэт-пляўкі на адрас кіраўнікоў Саюза паляцелі з новым імпэтам, што вельмі нагадвае паводзіны малога смаркача, якога пакрыўдзілі ў дваровай пясочніцы. У сваёй улюблёнай манеры ён крыўляе прозвішчы кіраўнікоў Саюза, спрабуючы такім чынам паквітацца. Саюз мастакоў, куды ён так хацеў уступіць, цяпер для Адамчыка — сабачая зграя. Не спыняецца гэты тып і перад тым, каб абразіць даўно памерлых бацькоў старшыні Саюза... Зрэшты пляўкі Глобуса хоць і з ядавітай слінаю, але ніякай рэакцыі, апроч спачуванняў да хворага, не выклікаюць, бо ўсё гэта ёсць актам самазнішчэння асобіны, што ў жывой прыродзе не такая ўжо й рэдкая з'ява.

**Э.А.** — *Якія галоўныя маральныя прынцыпы існуюць для цябе як паэта і мастака?*

**Р.С.** — Папярэдне выказанае вычуванне вынікае з маіх маральных прынцыпаў, якія грунтуюцца на Божых запаветах. Нічога больш праўдзівага ды ўніверсальнага людства, як бачым, не выпрацавала ды й не магло, бо з Богам не паспаборнічаеш. Адмаўленне маральных нормаў ёсць, у выніку, адмаўленнем Бога. І тады ты суперсвабодны. А дзе гэткая свабода, там вольніца і спакуса. І тады лёгка можна апынуцца ў цэнтры шматлюднай увагі ды зрабіцца скандаль-

на вядомым, апаганіўшы Святыню, ці апляваўшы лепшых Сыноў нацыі, як тое зрабіла сумнавядомая Марыйка М. Лукаш Бэндэ можа спачываць спакойна: справа ягоная жыве і квітнее нават там, дзе ён і не спадзяваўся. Не прыняць гэтае хамства і цынізм, запярэчыць ім, абурыцца... Паспрабуйце. Паспрабавала праз «ЛіМ» інтэлігентна і годна запярэчыць літаратурнаму янычарству спадарыня Людміла Сінькова і адразу ж у «Архэ» нейкі Вратачкін абвінаваціў яе ў напісанні даноса. Хеўра абараняцца ўмее. «Ды нічога страшнага, гэта ўсяго толькі дэсакралізацыя нашай літаратуры» — прыблізна так супакойвае спада-



рыню Сінькову і ўсіх нас А. Лапіцкая — маладая супрацоўніца «ЛіМа». Дык можа й сапраўды не варта абурацца? Але ж дэсакралізацыя — гэта абвяржэнне святыняў. Гэта разбураныя храмы, пасечаныя абразы, спаленыя святыя кнігі. Дэсакралізацыя — гэта апаганеныя Купала, Колас, Багдановіч, Ластоўскі, Быкаў, Брыль... «...Не давайце Святыню псам». Гаворка не пра тое, каб нашай літаратуры вечна хадзіць у сініх панчохах ды звекаваць цнатліўкай. Але ж і ў базарныя лярвы ды правакатаркі яе вербаваць не варта. «Не апраўдваю, не аспрэчваю — спрабую разабрацца,»— гэтак завяршае свае развагі ў часопісе «Верасень № 1» В.Кустава, адказваючы на пытанне, датычнае гнюсных правакацыяў М.М., хоць гэтыя развагі — акурат пошук апраўдання тым гнюснасцям. « ... З іншага боку...спрабую дайсці да сутнасці, зразумець, чаму... Яна іх шкадуе: а шкадаваць... — значыць кахаць...» Вось як, аказваецца. Мілая дзяўчынка Лера! Калі табе, не дай Бог, нейкі вулічны хам, абмацюкаўшы, плюне ў вочы, — паспрабуй дайсці да сутнасці і зразумець яго. Можа гэта зусім не хамства, а праява глыбокага кахання. Мне ж у мае 52 гады даўно зразумела, што ў

*Менск. Верхні горад. 1994*



хамстве няма іншай сутнасці, апроч хамства, а цынізм, як ты яго ні разглядвай, застаецца цынізмам. А яшчэ я ведаю, што жывучы з ваўкамі, зусім не абавязкова па-воўчы выць, бо гэтак можна хутка страціць чалавечае аблічча. Я ўжо аднойчы назваў гэтую з'яву беларускім хунвэйбінствам, эпідэмія якога, на жаль, пашыраецца й набірае моц, не сустракаючы належнага супраціву з боку тых, хто яшчэ не страціў духоўны імунітэт. А вось і свежая порцыя бруду там, дзе я ніколі не думаў у бруд патрапіць. Да майго вялікага смутку ў маім любімым «Дзеяслове», які ствараюць блізкія мне людзі і шанаваныя мной літаратары, чытаю вялізную падборку прысвячэнняў Ларысе Геніюш, сярод якіх нямала й такога, ад чаго бедная Ларыса Антонаўна пэўна не раз перавярнулася ў сваёй дамавіне. Я дапускаю, што юныя аўтары тых «прысвячэнняў» пагуляліся ў эпатаж, ці наогул не цямілі, каму прысвячаюць сваю пісаніну. Але ж тое журы, што дабраславіла іх у друк.... Хай гэта будзе прыкрай недарэчнасцю. Даруй нам, Святая Жанчына.

**Э.А.** — *Адной з галоўных ліній тваёй творчасці з'яўляецца тэма «Храма». Гэта таму, што «голас Бога слухае душа...»*

**Р.С.** — Праз усё, што я раблю ў мастацтве, я спрабую пачуць Божы голас. Можа залішне пафасна, але шчыра.

**Э.А.** — *З 2007 года ты з'яўляешся першым намеснікам старшыні Беларускага саюза мастакоў. Як пачуваешся ў новай іпастасі? Наогул, ці магчыма кіраваць творцамі? І наколькі ўдзячная гэта справа?*

**Р.С.** — Кіраванне творчым саюзам — справа цяжкая, тлумная і няўдзячная, але рабіць яе некаму трэба. Можа й не ўсё мы зрабілі як хацелася б, але працуем мы сумленна і аддана, што за тры гады прынесла вынікі, якімі не грэх і пахваліцца. Кіраваць творчымі людзьмі немагчыма і непатрэбна, бо кіраваць імі можа толькі Той, хто сапраўды з'яўляецца Творцам. Мы ж, у лепшым выпадку, толькі Ягоныя чаляднікі.

**Э.А.** — *Ведаю, што займаешся яшчэ адной «няўдзячнай» справай — паэтычнымі перакладамі. Каго ты перастварыў па-беларуску? Для цябе мастацкі пераклад — творчае спаборніцтва ці сумоўе з аўтарам?*

**Р.С.** — Так. Зрэдку ўзнікае такая патрэба. Па-беларуску ў маіх перакладах загучалі Бунін, Набокаў, Хадасевіч, Таркоўскі, Самойлаў, Вазнясенскі ды некалькі сучасных польскіх аўтараў. Мастацкі пераклад, калі да яго ставіцца сур'ёзна, — працэс нашмат складанейшы, чым стварэнне ўласнага верша. Таму для мяне гэты занятак ёсць спробай яшчэ раз праверыць свае мажлівасці адносна высокіх класічных узораў. Апроч таго, дасканалы пераклад шырокавядомага твора дазваляе лёгка паставіць на месца любога недабразычліўца беларушчыны, калі заходзіць гаворка пра нашу мову. Ну і да ўсяго, гэта высокая асалода ў выпадку ўдачы.

**Э.А.** — *Аднойчы ты назваў мастацтва — «тэрыторыяй свабоды». Ці маеш ты сваю асабістую тэрыторыю для свабоды творчасці?*

**Р.С.** — Мастацтва — сапраўды тэрыторыя свабоды, якая знаходзіцца ў душы мастака. Ларыса Геніюш, зняволеная ў сталінскім Гулагу, заставалася абсалютна вольнай як паэт у сваё духоўнай тэрыторыі. Разам з тым мы зараз бачым шэрагі так званых творцаў, сытых, уладкаваных, але дабраахвотна паняволеных рабскай псіхалогіяй лёкая, ці адбіваннем халяўных даляровых грантаў. І тое, і другое — несвабода, што паралізуе творчасць, якая не церпіць фальшу.



*З Уладзімірам Тоўсцікам*

**Э.А.** — *Здаецца, што само слова «тэрыторыя» ўтрымлівае ў сабе абмежавальны сэнс. Ці былі ў тваім творчым лёсе творчыя абмежаванні? Ці трапляў ты ў «пракруставае ложа» айчыннай цэнзуры?*

**Р.С.** — Калі мастак адказны, ён абавязаны сябе абмяжоўваць, але гэтыя абмежаванні датычаць духоўнай тэрыторыі. Я не цярплю ніякай вонкавай цэнзуры, але самы строгі цэнзар для мяне — я сам. З айчыннай цэнзурай я практычна не сутыкаўся, можа таму, што «не пашчасціла», а хутчэй таму, што імаверныя цэнзары ведаюць мой верагодны адказ на вонкавую цэнзуру.

**Э.А.** — *У твайго сябра паэта Леаніда Дранько-Майсюка ёсць мясціны ў Мінску, якія ён апаэтызаваў: оперны тэатр, вуліца Сухая, кавярня «Батлейка». Які ён твой, любімы Мінск?*

**Р.С.** — Эстэтычныя прыярытэты Леаніда, як і маральныя, практычна супадаюць з маімі. Што да Мінска, дык я шчымліва люблю ў ім усё, што хоць — кольвек нагадвае пра нашу гісторыю. Як асабістую трагедыю я перажываю разбурэнне хоць якога старога будынка. Я шмат у чым не згодны з працэсам, які ў нас называюць рэстаўрацыяй і рэканструкцыяй, ды усяляк спрабую ўплываць на яго праз грамадскую наглядчую камісію пры Міністэрстве культуры, сябрам якой я з'яўляюся.

**Э.А.** — *Ты ўмееш і любіш спяваць. Гэта ад бацькоў ці ад Бога? Якая музыка табе падабаецца?*

**Р.С.** — Спяваць вельмі люблю, асабліва ў вясёлых сябрынах. Людзі кажуць, што і ўмею гэта рабіць. Спеўнай, дзякуй Богу, была ўся наша сям'я: маці, сястра, брат.... Музыку люблю ўсялякую: класічную, джазавую, эстрадную. Шмат што ў гэтай галіне (асабліва класічнай) ведаю, ці, прынамсі, імкнуся даведацца. Не цураюся й найноўшых плыняў.

**Э.А.** — *Вось чаму ўжо колькі год запар ты з'яўляешся вядоўцам фольк-мадэрн-фестывалю «Таўкачыкі». Што гэта за фестываль, дзе ён праходзіць?*

**Р.С.** —Так, сапраўды з маім сябрам Юр'ем Выдронкам — заснавальнікам і колішнім лідэрам гуртоў «Палац», «Крыві», «Юр'я» я правёў чатыры фестывалі фольк-мадэрну, у якім бралі ўдзел шматлікія гурты з Беларусі, Украіны, Польшчы, што працуюць у галіне рок-фольку ці фольк-мадэрну. Разам з імі выступалі аўтэнтычныя калектывы з глыбінных вёсак. Фестываль ладзіўся ў Маладзёжным тэатры эстрады, канцэртнай зале «Мінск», Белдзяржфілармоніі, Палацы ветэранаў, а таксама ў палявых умовах, дзе рабіліся рэканструкцыі старажытных беларускіх абрадаў. Робіцца гэта на голым энтузіязме, але ж вымагае немалых грошай, таму рэгулярным быць, на жаль, не можа.

**Э.А.** — *«Жыццёвы шлях прайшоўшы да паловы», ты кнігу вершаў так і не займеў... Калі чытачы дачакаюцца твайго паэтычнага зборніка?*

**Р.С.** — У чарговы раз кажу, што неўзабаве... і зноў сарамачуся сваіх абяцанкаў. З іншага боку, я даўно ўжо злавіў сябе на тым, што мне цікава дасягнуць жаданага выніку ў напісанні ды «прэзентацыі» новага твора таму-сяму з сяброў. А вось публікацыя ды выданне кнігі натыкаюцца на маю ляноту, а хутчэй на тлум і бясконцыя асабістыя ды грамадскія клопаты. І так з года ў год.... Але ж неўзабаве....

**Э.А.** — *У адным з вершаў ты напісаў:*

*«І гэтых аблокаў маўклівы рух,*
*І рэха зліваў і завірух,*
*І цемры велічнае Нішто —*
*Пра што?»*

*Ці адшукаў ты адказ на сваё запытанне?*

**Р.С.** — Той верш заканчваецца так: «... Калісь аднойчы я стану вамі, тады спасцігну ваш альфабэт». Адказ наперадзе.

*5 кастрычніка 2010 г.*



# Міхась Скобла

паэт, парадыст, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (2000 г.). Аўтар паэтычных кніг «Вечны Зніч», «Вочы Савы», «Нашэсце Поўні», кнігі гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» , кнігі літаратурных пародыяў «Розгі ў розніцу», зборніка вершаў для дзяцей «Камень-перунок» і інш.Складальнік анталогій беларускай паэзіі 20 ст. «Краса і сіла» (2003 г.) і сусветнай паэзіі ў беларускіх перакладах «Галасы з-за небакраю» (2008 г. ).Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Паляжын на Зэльвеншчыне. Жыве ў Мінску.

# «Адны бігборды націю не згуртуюць...»

**Эдуард Акулін.** — *Усім вядома, але не ўсім падабаецца, што беларусаў як нацыю стварылі паэты... Неаднойчы «нацыяй паэтаў» беларусаў называў і ты. На чым грунтуецца тваё меркаванне?*

**Міхась Скобла.** — Калі ўжо дашуквацца адпаведнай першакрыніцы па гэтай тэме, то трэба прыгадаць радкі выдатнага беларускага паэта і даследчыка літаратуры Рыгора Семашкевіча: «Вайсковыя могілкі Мінска / не будуць варот зачыняць. / Спыніся — далёкі ці блізкі — / тут маршалы нацыі спяць — / Купала і Колас...». Стварэнне нацыі — працэс складаны і доўгатрывалы, адным паэтам ён наўрад ці па сіле. У беларускім нацыятварэнні ўдзельнічалі і друкарскі варштат Францішка Скарыны, і абарончы меч Кастуся Астрожскага, і пяро Яўхіма Карскага, і «Мужыцкая праўда» Кастуся Каліноўскага, і «Дудка беларуская» Францішка Багушэвіча... Заслуга паэтаў найперш у тым, што яны паднялі з-пад ног, адшліфавалі, як каштоўны дыямент, адзін з кутніх камянёў у падмурку нацыі — мову. Адгарніце любы тлумачальны слоўнік — пры слове «нацыя» неадменна прыпрэжанае слова «мова». Нацыя без сваёй мовы — гістарычная фікцыя. Гэта заўсёды разумелі беларускія паэты — у адрозненне ад беларускіх палітыкаў, якія лічаць: варта напісаць «За Беларусь!» на бігбордзе, і беларусы адчуюць сябе згуртаванай і моцнай нацыяй. Адны бігборды нацыю не згуртуюць.

**Э.А.** — *У якім узросце ты ўсвядоміў сябе прадстаўніком «паэтычнай нацыі»? Ці памятаеш ты свой першы вершаваны радок? Што натхніла цябе на словатворчасць?*

**М.С.** — У сёмым класе Угрыньскай васьмігодкі мне захацелася нейкім незвычайным чынам павіншаваць маці з 8 Сакавіка. Я залез на печ, зашыўся ў куток паміж вянкамі цыбулі, каб ніхто не бачыў, і напісаў першы ў сваім жыцці верш, які пачынаўся радкамі: «Сёння свята, вясновае свята, / сакавік ужо крочыць планетай. / Дык няхай льецца песень багата / над зямлёй нашай, сонцам сагрэтай»... Напісаў і паслаў у рэдакцыю зэльвенскай раённай газеты «Праца», дзе верш праз тры дні і быў апублікаваны. Паштовыя скрынкі ў нашай вёсцы чамусьці не карысталіся папулярнасцю, і паштаноша проста пакідала газеты паміж штыкецінаў плоту. Памятаю, як я ішоў па вёсцы, разгортваў газету, бачыў там свой верш-віншаванне, вяртаў «Працу» на месца і ішоў далей. І так ад падворка да падворка, не чуючы пад сабою ног ад незразумелага шчасця. Увечары мой першы твор прачытала ўся сям'я. Бацька ўсміхнуўся, маці пацалавала мяне, а два старэйшыя браты дражніліся. Але і яны прыціхлі, калі праз пару дзён я атрымаў першы ў сваім жыцці ганарар — 5 паўнаваж-

кіх савецкіх рублёў. Зразумела, што аніякім прадстаўніком паэтычнай нацыі я сябе не ўсведамляў, але напоўніцу карыстаўся славай школьнага паэта. Скажам, на выпускным іспыце па беларускай мове мне было дазволена пісаць сачыненне ў вершаванай форме. Я набраўся нахабства і заявіў, што ў класе да мяне не прыходзіць натхненне. І — насуперак усім правілам і інструкцыям — быў адпушчаны ў расквітнелы школьны сад. Сядзеў пад белай яблыняй і сачыняў. Тое адчуванне раптоўнай свабоды ў паднявольны экзаменацыйны дзень помніцца і дагэтуль.

**Э.А.** — *Атрымліваецца, што паэзія напачатку разглядалася табою як нешта практычна-карыснае? Верш-віншаванне, верш-сачыненне...*

**М.С. —** А што тут заганнага? Увесь наш геніяльны фальклор узнік з гэтай практычна-карыснай патрэбы. Жніўныя песні, вясельныя песні, песні-галашэнні... Паэзія мне заўсёды дапамагала жыць і выжываць, знаходзіць выйсце са складаных жыццёвых сітуацый. Памятаю, у войску закінулі нас на тыдзень у Карпаты. Зіма, мароз, спім на снезе ў хімічных камбінезонах. Стаю на вар-

*Пасля прэзентацыі кнігі Анатоля Сыса “Лён” у «Беларускай хатцы» 2006 г.*



це ўначы, зуб на зуб не патрапляе, вогнішча паліць нельга. Дык я глядзеў на зорнае неба і «Зорку Венеру» Багдановіча на памяць чытаў. Чытаў Уладзіміра Жылку, Янку Купалу, Пімена Панчанку, Міхася Стральцова, Уладзіміра Караткевіча — «Заяц варыць піва». Саграваўся вершамі. І час незаўважна мінаў. Альбо, памятаю, на філфаку БДУ здаваў іспыт прафесару Звознікаву па расейскай літаратуры. І выпаў мне білет з пытаннем пра самы няўдалы, на мой погляд, твор Аляксандра Блока — паэму «Дванаццаць». Што пра яе добрага сказаць — не ведаю. А крытыкаваць Блока проста ў вочы прафесару (светлая яму памяць) — самагубства. І я проста прачытаў яму чатырохрадкоўе Ігара Шклярэўскага, у якім сказана галоўнае адразу пра трох расейскіх класікаў: «Земные взоры Пушкина и Блока / устремлены с надеждой в небеса. / А Лермонтова чёрные глаза / с небес на землю смотрят одиноко». Задаволены прафесар ажно з крэсла прыўстаў... Ці яшчэ адзін прыклад практычнай карысці ад паэзіі прыгадаю. Пасля заканчэння ўніверсітэта нам з жонкай не было дзе жыць разам. Наталля жыла ў інтэрнаце ў Заслаўі, дзе працавала ў гісторыка-культурным запаведніку, я — у інтэрнаце ў Менску. Аднойчы на Гуканні вясны ў Заслаўі я пазнаёміўся з Аляксеем Восіпавічам Пылілам — былым настаўнікам, які меў свой дом непадалёк ад славутай заслаўскай царквы. Ён быў улюбёны ў паэзію Сяргея Ясеніна, а я яго цэлы томік на памяць ведаў. І вось мы сядзім у хаце Аляксея Восіпавіча, нагукаўшыся вясны, адаграваемся гарбатай. І раптам ён пачынае: «Отговорила роща золотая...». І на мяне запытальна глядзіць. Што ж, я падхопліваю эстафету і працягваю: «Берёзовым весёлым языком...». Ён далей: «Шаганэ ты моя, Шаганэ...». Я: «Потому что я с севера, что ли...». Ён: «Каждый труд благослови, удача...». Я: «Рыбаку чтоб с рыбой невода...». Так мы з ім гадзіны дзве Ясеніна чыталі. Калі ж Аляксей Восіпавіч — залатая і чулая душа — даведаўся пра наша маладое бескватэр'е, то аддаў нам цэлы пакой з асобным уваходам. І два гады не браў з нас ні капейкі — дзякуючы Ясеніну.

**Э.А.** — *Ты аўтар-укладальнік дзвюх фундаментальных паэтычных анталогій: «Краса і сіла» (2003) і «Галасы з-за небакраю» (2007). Звычайна, з'яўленне такіх выданняў — гэта плён працы навуковага калектыву цэлага Інстытута літаратуры... Ты адзін здалеў узняць ношку айчыннай паэзіі за ўсё XX стагоддзе... Пасля шматгадовай тытанічнай працы чаго ўсё-ткі ты больш пачуў у свой адрас — падзякаў ці папрокаў?*

**М.С.** — Былі і падзякі, і папрокі — хапіла ўсяго. Але, паклаўшы руку на сэрца, магу сказаць: пры складанні анталогій я нікому не стараўся дагадзіць ці, крый Божа, адпомсціць. Ад паэта да паэта мяне, як памесяўніка, вершы вялі. Я чытаў іх запоем у Нацыянальнай бібліятэцы, раз-пораз звяраючыся з электронным каталогам, каб нікога не прапусціць. І так мусіць рабіць укладальнік любога анталагічнага выдання. А то неяк давялося пачуць ад аднаго калегі: «Ва ўкладзеных мною зборніках ніколі не будзе Глобуса!». Грош цана

будзе такім зборнікам, укладзеным паводле асабістых стасункаў. Памятаю, калі выйшла «Краса і сіла», паэтка Данута Бічэль напісала мне абураны ліст — чаму ў анталогіі няма паэта-ксяндза Вінцука Адважнага? А мне і самому балюча было, калі давялося адкласці ўбок ягоныя зборнікі. Помню, прачытаў ліст і засумняваўся ў сваёй рацыі. Але вось нядаўна ў «Беларускім кнігазборы» выйшаў падрыхтаваны Ірынай Багдановіч том Адважнага, дык там ён найперш прадстаўлены як празаік, мемуарыст, перакладчык славутай «Элегіі» Юльюша Славацкага. Шмат хто і з сяброў крыўдзіўся: «А чаму ты ў N. шэсць вершаў выбраў, а ў мяне толькі тры?». На што я звычайна адказваў: «Дарагі дружа, калі ў складзенай табой анталогіі знойдзецца месца хоць для аднаго майго радка, я буду табе бязмежна ўдзячны». Што да падзякаў, то мне асабліва прыемна ўспомніць ацэнкі Янкі Сіпакова, які зычліва сачыў за маімі анталагічнымі пошукамі і нават змог апублікаваць у «ЛіМе» захопленую рэцэнзію на анталогію перакладаў — «Роздум над вялікай кнігай». Незадоўга да сваёй смерці Іван Данілавіч расказаў мне, як тую рэцэнзію спачатку год трымалі ў рэдакцыі, а потым надрукавалі, скараціўшы на траціну. Хай гэткія адносіны да шаноўнага аўтара застануцца на сумленні супрацоўнікаў тыднёвіка. Дарэчы, я заўважыў, як маё імя (і не толькі маё) старанна выкрэсліваецца з лімаўскіх старонак. Цэнзура на імёны — найгоршая і найганебнейшая з усіх магчымых цэнзураў.

**Э.А.** — *А як ты ўвогуле ставішся да крытыкі ў свой адрас?*

**М.С.** — Спакойна — да крытыкі добрасумленнай і непрыхільна — да нядобрасумленнай. Я паважаю Леаніда Галубовіча, сябрую з ім гадоў дваццаць, але не магу пагадзіцца з ягонай літаратуразнаўчай метадай у рэцэнзіі «Ад поўні да поўдня» («Дзеяслоў», №51). Галубовічу чамусьці хочацца зрабіць мяне паслядоўнікам Анатоля Сыса. Хочацца — і ўсё тут. І ён пачынае пад сваю канцэпцыю падганяць факты — прыдумвае, як я з Анатолем прыходзілі да яго ў госці, як Анатоль чытаў вершы, а я з рыцарскай вернасцю слухаў... Далей — болей. Пад тую ж канцэпцыю Леанід Галубовіч пачынае падганяць і вершы. Цытуе радок Сыса: «Тапталі поле валуны...». Потым цытуе мой радок: «Паўзлі па полі камяні...». І — заўважае падабенства. Падабенства сапраўды ёсць, але яно з'явілася пасля таго, як шаноўны рэцэнзент замяніў у маім радку «зямлю» на «поле». У арыгінале ж было: «Паўзлі па зямлі камяні...». Не хочацца думаць пра горшае. Але калі ўсё вышэйпералічанае зроблена наўмысна, то гэта папросту літаратурнае шулерства. У што мне, прызнаюся шчыра, верыць не хочацца. Хай лепш гэта будзе аберацыяй зроку і памяці, ад якой ніхто з нас не застрахаваны.

**Э.А.** — *Супрацоўнічаючы з выдавецтвам «Беларускі кнігазбор», ты падрыхтаваў тамы Уладзіміра Жылкі, Ларысы Геніюш, Рыгора Крушыны, Алеся Салаўя, Рыгора Барадуліна. Уклаў, адрэдагаваў, напісаў прадмовы,*

*пракаментаваў. А хто рэдагаваў твае паэтычныя зборнікі? Каго ты лічыш сваім творчым настаўнікам і які галоўны ўрок ты засвоіў для сябе як паэта?*

**М.С.** — Адно ўдакладненне: збор твораў Алеся Салаўя выйшаў у іншай слыннай серыі — «Галасы Айчыны», якую летась запачаткавала выдавецтва «Лімарыюс». У гэтай серыі пасля Салаўя ўжо выйшлі выбранае Уладзіміра Дудзіцкага і юбілейны двухтомавік Ларысы Геніюш. На чарзе — два тамы Уладзіміра Дубоўкі. Што да маіх рэдактараў, то мне на іх шанцавала. Першы зборнік «Вечны Зніч» (выйшаў у бібліятэчцы часопіса «Маладосць» рэкордным для першых кніг накладам 23 000 асобнікаў) рэдагаваў пільнавокі і чулы да паэтычнага вобраза Казімір Камейша. Кнігу «Дзярэчынскі дыярыюш» даводзіла да моўнага ладу Ліна Іванаўна Каўрус — з фантастычным вычуваннем роднага слова. «Акно для матылькоў» рэдагавала Хрысціна Лялько, празаік і паэт надзіва гарманічны. А два зборнікі — «Вочы Савы» і «Нашэсце Поўні» — прайшлі праз рэдактарства Анатоля Сыса. Ён меў учэпістае вока на розныя моўныя агрэхі. Памятаю, падкрэсліў ён словазлучэнне «дрымучы лес». Думаў я думаў, чым яму той дрымучы лес не спадабаўся, і, нічога не прыдумаўшы, пакінуў так, як было. Ну і атрымаў потым у каршэнь за той лес! «Гэта відавочная расейшчына, слоўнікі мне — не ўказ!» і г.д. «А як трэба, Толік?» — ласкава так пытаюся, каб яшчэ больш не раз'ятрыць. «Трэба — пагудасты!». Упершыню тады пачуў я такое слова, але — пагадзіўся з рэдактарам, і стаў мой лес пагудастым. Цяпер, калі бываю на атуленай высокімі бярозамі магіле Анатоля ў ягоным Гарошкаве, думаю, ці дапасоўваецца слова «пагудасты» да бярозавага гаю? Бо не маўчаць на ветры бярозы, ідзе ад іх пагудка... Што да паэтычнага настаўніцтва, то самы галоўны настаўнік паэта — маленства. Я гадаваўся на хутары і штодня захапляўся паэзіяй прыроды. Выходзячы за вішняк, бачыў, як пад сонцам жаўцеюць залатыя зубы кукурузных кіяхоў, ледзь прыкрыўшыся сваімі чубамі-асяледцамі. Слухаў, як ціха шапаціць у рэзгінах бярозы сена дажджу. Назіраў капеж, які нагадваў мне заплеценыя коскі. Бачыў, як раніцай вусаты ячмень казытаў заспанае сонца... У нас казалі не хутар, а футар. І футар, нібы казачны футарал, атуляў мяне прыгажосцю. А яшчэ адным незаменным настаўнікам літаратуры для мяне была Кніга. Пакідаючы сцены Дзярэчынскай сярэдняй школы, я ўжо няблага ведаў паэзію Рыгора Барадуліна, Анатоля Вярцінскага, Ларысы Геніюш, Генадзя Бураўкіна, Дануты Бічэль, Ніла Гілевіча («Сказ пра Лысую гару» ведаў на памяць ужо дзесяцікласнікам). Іх творы я знаходзіў не ў школьных падручніках, а ў бібліятэцы, якую наведваў двойчы на дзень — па дарозе ў школу і назад. Помню, маці нават сварыцца да бібліятэкаркі хадзіла, баялася, што я ўсе астатнія прадметы запушчу. Ад каго меў непасрэдныя літаратурныя ўрокі... Я яшчэ паспеў пабываць на семінарах маладых літаратараў у Каралішчавічах, у Іслачы, нават у Пецярбургу (тагачасным Ленінградзе) і Піцундзе. Апошнія два — усесаюзныя, і ўрокі (цяпер сказалі

б — майстар-класы) на іх давалі знакамітыя расейскія паэты. Але нешта не далася мне іхняя навука... Аднойчы з прыгаданага ўжо Заслаўя я быў запрошаны Анатолем Вялюгіным на яго лысагорскае лецішча. Было застолле, былі галубы ў небе, былі паэтычныя чытанні ў альтанцы. Калі я прачытаў сваю «Баладу пра стайню», Анатоль Сцяпанавіч задаволена крэкнуў і паабяцаў напісаць прадмову да «тома маёй паэзіі». Сваё абяцанне майстар пацвердзіў і на падараванай тады ж сваёй кнізе «З белага камення — сіняе пламенне». З таго часу я пісаў вершы з міжвольнай аглядкай на тую прадмову — каб не расчараваць Вялюгіна. Але не паспеў — праз два гады яго не стала. Гэта ж не жарты — том паэзіі! Тут і за цэлае жыццё можна не паспець.

**Э.А.** — *Ты парупіўся над выданнем пасмяротнага томіка паэзіія Анатоля Сыса «Лён». Зусім нядаўна ў архівах паэта адшукаўся невядомы рукапіс ягонага першага зборніка паэзіі «Берагі майго юнацтва». У яго ўвайшлі юнацкія вершы, напісаныя Анатолем у студэнцкія гады. Як ты лічаш, ці варта выдаваць гэты зборнік, улічваючы тое, што Анатоль неаднойчы заяўляў аб тым, што нібыта ўласнаручна яго спаліў...*

**М.С.** — Любы выдавец сёння схопіцца за нявыдадзены зборнік Анатоя Сыса. Але тут не варта спяшацца. «Берагі майго юнацтва» могуць стаць асобным, дадатковым раздзелам у выніковым томе Анатолевай спадчыны, але выдаваць гэтыя вершы асобнай кнігай не варта. Трэба лічыцца з воляй самога аўтара — ён жа іх забракаваў. З другога боку, усе вялікія пісьменнікі асуджаныя, як пісаў Янка Брыль, на пасмяротнае пакаранне — Поўны збор твораў. Ці заслугоўвае на Поўны збор Анатоль Сыс? Думаю — так. Усё ім напісанае павінна быць беражна сабранае (улучна да аўтографаў на кнігах), пракаментаванае і выдадзенае, скажам, у класічнай серыі «Беларускі кнігазбор». Такі падыход — звычайная практыка ў тэксталогіі. Не пачынаецца ж збор твораў Янкі Купалы з ягоных юначых польскамоўных вершаў, а збор твораў Якуба Коласа — з ягоных ранніх расейскамоўных практыкаванняў. Ім знайшлося месца — у адпаведных раздзелах. Аналагічным чынам трэба абысціся і з адшуканым рукапісам Анатоля Сыса.

**Э.А.** — *Да стагоддзя Ларысы Геніюш ты падрыхтаваў тры тамы яе вершаванай і эпісталярнай спадчыны. Гэта ўсё, што да часу пылілася ў нетрах «архіўнай схованi»?*

**М.С.** — Архіў Ларысы Геніюш, які акуратна зберагаецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа, даследаваны мною хіба напалавіну. Там — сотні тэчак з рукапісамі, машынапісамі і фотаздымкамі. Дэталёва абследаваць іх усе я проста фізічна не мог. Мы і так з жонкай Ларысай тэксты па начах у чатыры рукі набіралі, каб паспець да юбілею. У названым табой трохтомавіку (насамрэч гэта два тамы і біяграфічны альманах «Асоба і час») больш за сотню твораў і каля сотні фотаздымкаў апублікаваныя ўпершыню. Чытайце, глядзіце — асэнсоўвайце. Добра, што ў

архіве Анатоля Сыса адшукаўся рукапіс невыдадзенай кнігі. Думаю, знаходак у архіве Ларысы Геніюш набярэцца тамоў на 15 — хопіць працы ўсім наступным пакаленням геніюшазнаўцаў. Любому ахвотніку я гатовы падказаць архіўныя сігнатуры. А пакуль тое, яшчэ сёлета, спадзяюся, пабачыць свет новая кніга вялікай паэткі пад умоўнай назвай «Лісты з Зэльвы».

**Э.А.** — *Я ведаю, што да 100-годдзя Ларысы Геніюш выйшаў дакументальны фільм «Няскораная». Ты з'яўляешся адным з ягоных аўтараў. Як ты пачуваў сябе ў новай творчай іпастасі — кінасцэнарыста? Дзе атрымалася здабыць унікальныя кінакадры з удзелам Ларысы Антонаўны?*

**М.С.** — Сцэнарысткай названага фільма з'яўляецца паэтка і этнакультуролаг Антаніна Хатэнка. Яна бліскуча справілася і з гэтым жанрам. Я кансультаваў трохі і яе, і рэжысёрку Зою Катовіч. Мы разам выязджалі на здымкі ў Жлобаўцы, Зэльву, Гародню, Прагу. Па хадзе здымак часам сумесна ўносілі змены ў сцэнар. Для мяне гэта быў унікальны досвед працы ў кіно. З цяжкасцю верылася, што з наздыманых похапкам эпізодаў атрымаецца цэласны лёс. Але — атрымаўся, і тут ужо заслугі маёй няма. Пасля прэм'еры «Няскоранай» на Белсаце ўсе адрасаваныя мне словы ўдзячнасці я старанна перадаваў сцэнарыстцы і рэжысёрцы. А ўнікальныя кінакадры з Ларысай Геніюш я атрымаў ад паэта Юркі Голуба, які ў свой час здымаў паэтку для гарадзенскага абласнога тэлебачання. Дарэчы, пабачыўшы фільм, ён падараваў мне тую стужку, і яна зберагаецца ў мяне, як найкаштоўнейшая рэліквія. Між іншым, на здымках фільма да мяне трапіла яшчэ адна геніюшаўская памятка. Здымалі мы ў вёсцы Палаўкі. Ніколі не забудуся, як васьмідзесяцігадовы палаўчанін Сцяпан Навіцкі, які да вайны наймаўся да «пана Міклаша» на сезонныя работы, прыгадваў са шкадаваннем сваіх працадаўцаў: «Бедна яны жылі, усяго 250 гектараў зямлі мелі...». А бабулька адна раптам спахапілася: «А дзеткі мае, гэта ж Ларачка мне некалі жалязко падарыла!». Унук палез на гарышча і дастаў тое жалязко — электрычны прас даваеннай пары пражскай вытворчасці. Ён цяпер у маёй хаце таксама на пачэсным месцы стаіць.

**Э.А.** — *У сваёй хатняй бібліятэцы я маю не адзін дзясятак паэтычных зборнікаў з аўтарскімі аўтографамі. Але гэта — абсалютны мізер у параўнанні з тваёй калекцыяй. Колькі аўтографаў налічвае твой кнігазбор?*

**М.С.** — Нядаўна, даведаўшыся пра выдадзенага ў Менску Алеся Салаўя, знакаміты наш гісторык Юры Туронак зрабіў мне фантастычны падарунак — кнігу Салаўя «Мае песні» 1944 года выдання з дароўчым надпісам Наталлі Арсенневай. Гэты рарытэтны аўтограф стаў 1995-м у маёй калекцыі. Яшчэ шаснаццаць, і я даганю летазлічэнне. (Смяецца.) Але мне не ўласцівая жарсць калекцыявання. Калі пэўная кніга камусьці пільна патрэбная, — магу саступіць. Кніга з аўтографам — адзіная ў сваім родзе, яна ў дадатак да ўсяго валодае патэнцыяльнай культурнай значнасцю. Кожная надпісаная кніга

мае сваю гісторыю, дароўчы надпіс можа шмат пра што расказаць чалавеку дасведчанаму. Асаблівую каштоўнасць маюць вершаваныя аўтографы. Часам гэта — закончаныя міні-творы, але рэдка калі яны трапляюць у друк і становяцца прадметам даследавання. Надпісы на падараваных мне асабіста кнігах я прыводзіць не буду, а вось пару-тройку з даўніх сваіх набыткаў прапаную ўвазе чытачоў «Верасня». Анатоль Вялюгін — Эдзі Агняцвет (на зборніку «Насцеж», 1960): «Хачу, каб усё прачытала, / гартала старонкі смялей. / Бо кніжка, хоць аркушаў мала, / «премногих томов тяжелей». Андрэй Вазнясенскі — Віктару Жаку (на зборніку «Взгляд», 1972): «Родные Виктор с Валентиной, / люблю вас, Валентина с Витей, — / мои чудесные дельфины! / Когда-нибудь мы вспомним, свидясь, / как заповедную святыню, / и нас, и светозарный Свитязь». Рыгор Барадулін — Анатолю Вялюгіну (на зборніку «Вечалле», 1980): «Ніхто не зможа пасварыць нас, даўніх. / Любоў да Вас — віна мая адна. / У гонар Ваш, шаноўнейшы Настаўнік, / гатовы выпіць Вечалле да дна!». Хіба ж не цудоўныя экспромты? Тут і багавейныя адносіны выдатнага расейскага паэта да нашай Свіцязі, і бліскавічны досціп другога возерапаклонніка — Барадуліна. Мая мара — напісаць кнігу пра цікавыя аўтографы беларускіх паэтаў. А на кнігу трэба яшчэ дазбіраць. Таму я люблю наведвацца ў букіністычныя крамы — і ў Менску, і калі бываю за мяжой. Праўда, у Вільні, Кіеве, Варшаве ці Маскве купіць кнігу з аўтографам не заўсёды ўдаецца — цана кусаецца. А ў нас — дайце веры! — аўтограф Уладзіміра Караткевіча я аднойчы набыў коштам двух боханаў хлеба! Пытаюся ў свайго варшаўскага сябра Андрэя Масквіна: ці можна ў вас за два бохaны хлеба набыць аўтограф Генрыка Сянкевіча ці Чэслава Мілаша? Ён на мяне паглядзеў, як на вар'ята...

**Э.А.** — *Аднойчы ты вывеў закон паэтычнай тоеснасці: «Паэзія — як золата, калі яго зашмат, настае дэвальвацыя», згодна якому замнога пісаць шкодна. Ці прытрымліваешся ты сам гэтага закона?*

**М.С.** — Паэзія — самы энергазатратны жанр у літаратуры. Каб самаадна віцца, паэт мусіць рабіць перапынкі ў вершапісанні, часам пераходзіць на прозу. Калі ён не будзе перапыняцца, то апустошыць сябе дарэшты, да неўзнаўляльнага стану. Падобныя выпадкі ў гісторыі сусветнай літаратуры здараліся. Так, напрыклад, апустошыў сябе Адам Міцкевіч — «Дзядамі» і «Панам Тадэвушам». І потым маўчаў да самай смерці. Але геній — гэта вынятак з любых правілаў. Што да мяне, то я свой закон нікому не навязваю. Верш напішацца — я шчаслівы. Не пішацца — нагрымзолю якую-небудзь рэцэнзію... З-за маўчання не перажываю — ні з-за свайго, ні з-за чужога. Слухай, якая мне справа, што ў Вільні замаўчаў Алег Мінкін? Мне дастаткова ягонай кнігі «Пенаты» — адной з найлепшых, па-мойму, за апошнія дваццаць гадоў.

**Э.А.** — *Нехта трапна заўважыў: «Пародыя і эпіграма — найлепшая рэклама». У свой час ты выдаў цэлы зборнік вершаваных пародый «Розгі ў*




*З гасцямі і ўдзельнікамі Першага фестываля хрысціянскай паэзіі, які прайшоў у старажытным Сынкавіцкім храме. 2005 г.*

*розніцу», у якім зрабіў рэкламу не аднаму дзясятку беларускіх паэтаў. Жанр паэтычнай пародыі сёння гэткі ж актуальны, ці ператварыўся ў літаратурны анахранізм?*

**М.С.** — Пародыя існавала да нас, існуе пры нас і будзе існаваць пасля нас. Не варта спісваць яе ў анахранізмы з прычыны часовага затухання да яе чытацкай цікавасці. А чаму так сталася? Таму што сучасная паэзія сама з сябе насміхаецца і нярэдка выглядае самапарадыйна. Што там паэзія — усё жыццё наша стала нагадваць перасмешніцкі калейдаскоп. Вось іду я днямі па сталічным праспекце Незалежнасці і чытаю расцяжку: «Остановим тор-

говлю женщинами!». Разумееш, адным плакатам уся гендэрная палітыка адпраўленая кату пад хвост. Чытаеш і не можаш зразумець, ці гэта сур'ёзна, ці нехта пажартаваў не зусім удала. З тае самае прычыны неактуальная сёння і байка. Але ж байка — самы старажытны літаратурны жанр, які зрадзіўся на свет яшчэ на шумерскіх гліняных таблічках. Кожны жанр зведвае пару росквіту і пару заняпаду. Вернуцца яшчэ ў наша жыццё і літаратурныя пародыі, і байкі, чалавецтва смяяцца ніколі не развучыцца.

**Э.А.** — *У тваім творчым даробку ёсць і дзіцячы зборнік вершаў «Камень-перунок». Табе не здаецца, што сёння ў заняпадзе не толькі парадыйны жанр, але і жанр дзіцячай літаратуры? Ці я памыляюся?*

**М.С.** — Не пра заняпад жанраў тут трэба гаварыць, а пра тое гета, у якое паступова і мэтаскіравана заганяюцца наша мова і літаратура. Вось у чым галоўная і адзіная прычына згаданых табою «заняпадаў». Нядаўна мы з салісткай Белдзяржфілармоніі Таццянай Матафонавай выступалі ў адной з ашмянскіх школаў. Пасля выступу да мяне падышоў хлопчык, на выгляд пяцікласнік, і падзякаваў за тое, што мы так прыгожа размаўляем... па-польску. Яго бабуля таксама навучае польскай мове... Я проста аслупянеў. Ні пры якой ранейшай уладзе такога не было, каб школьнікі родную мову за польскую прымалі. І дзе — у Ашмянах, заходнебеларускім гарадку! Беларуская мова ў нашых школах пачуваецца ўсё больш няўтульна, быццам у нас замест міністэрства адукацыі дзейнічае міністэрства акупацыі. Знікае чытач дзіцячай літаратуры, то якога росквіту ад яе можна чакаць? Беларуская школа мусіць быць пастаўленая на нацыянальныя рэйкі, іначай праз пяцьдзясят гадоў жыцьмуць нашы ўнукі ў паўночна-заходнім краі і абслугоўвацьмуць расейскія газа- і нафтаправоды. Не дай Божа ім гэткай долі.

**Э.А.** — *Апошнім часам у межах культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!» ты шмат выступаеш перад прыхільнікамі паэзіі. Як ты лічыш, гэтая акцыя своечасовая ў культурным жыцці Беларусі? Ці можаш згадаць нейкі цікавы выпадак са сваёй «будзьмаўскай» адысеі?*

**М.С.** — Будзьмаўская кампанія разварушыла ўсю Беларусь. Адбыліся тысячы літаратурных сустрэчаў, сотні прэзентацый кніг, часопісаў, музычных гуртоў, дакументальных і анімацыйных фільмаў. Асабліва істотна тое, што імпрэзы ў межах кампаніі «Будзьма беларусамі!» ладзяцца і далёка ад сталіцы, у правінцыйных гарадках, у аддаленых нават ад райцэнтраў вёсках. Прыязджаеш часам у якую-небудзь школку, і настаўніца кажа: апошнім пісьменнікам у нас быў байкапісец Уладзімір Корбан у 1972 годзе! А бываюць школы, дзе зусім не ступала нага пісьменніка. Так, прынамсі, нам сказалі ў вёсцы Бакуны Пружанскага раёна. Так што акцыя гэтая вельмі своечасовая — як антыдзеянне на тую палітыку русіфікацыі, якая апошнім часам праводзіцца ў нашай краіне. Можна было б пра шмат якія мясціны і сустрэчы згадаць — яны таго вартыя, але абмяжуюся дзвюма. Травень, малалюдная вёсачка Дубок на

Смаргоньшчыне. Драўляны касцёл проста ў лесе — як для набожных зайцоў ці мядзведзяў. На выгінастым беразе — скульптура Маці Божай, і здаецца, што імклівая Вялля малітоўна прыпадае да яе падножжа. Пасля выступу перад байдарачнікамі сядзім у хаце барда Алега Мізулы ў недалёкіх ад Дубка Жодзішках. Выпілі па шклянцы-другой бярозавага соку, і раптам у мяне з'яўляецца дзіўнае адчуванне, быццам сяджу я не ў вясковай хаце, а на палубе карабля, якая... нахілілася. А пілі ж толькі сок! Алег нада мною пасмейваецца: ты, відаць, ператаміўся (а ў той дзень было тры выступы). Дзіўнае адчуванне мяне не пакідае. Дастаю з кутка гантэлю, стаўлю на падлогу, і — о дзіва! — яна з грукатам коціцца да парога. Аказваецца, у выніку нейкага патаемнага землятрусу адзін канец хаты на дваццаць сантыметраў апусціўся, а другі — на столькі ж падняўся. Хату тую турыстам можна паказваць, як Пізанскую вежу! Алег Мізула паабяцаў падумаць над маёй прапановай. Другі выпадак. Зіма, заснежаная Нарач, лягер «Зубраня». Выхавацелькі папярэдзілі нас з Касяй Камоцкай, што аўдыторыя будзе няпростай — школьныя лідары з усёй Беларусі, чалавек пяцьсот (ты, напэўна, ведаеш тую «зубранячую» залу). Выступаю першым і з улікам папярэджання выкладваюся дарэшты, ажно кашуля на спіне ўзмакрэла. Бачу — позіркі ў лідараў пацяплелі, але на поўнае паразуменне разлічваць не даводзіцца. Перадаю мікрафон Касі. Адна песня, другая, трэцяя... На сцэну прыходзіць цыдулка — выканайце песню «Мая краіна». Кася пачынае: «Мая краіна пад белым сцягам, пад белым сцягам з чырвонай стужкай...». І тут я бачу, што зала пачынае ўставаць, як пад гімн. Хваля пачынаецца на прыцемненай камчатцы, набірае сілу, і пасярод песні стаяць усе пяцьсот школьных лідараў! Апошні акорд і — авацыя. Калі такое бачыш і чуеш, то нацыянальны аптымізм цябе доўга не пакідае.

**Э.А.** — *Ці чытаеш часопіс «Верасень»? Каго з маладых аўтараў выдання ўзяў на прыкмету для будучых перавыданняў сваіх анталогій?*

**М.С.** — «Верасень» я чытаю і жадаю яму як мага хутчэй ператварыцца ў квартальнік. Падабаецца, што часопіс у кожным нумары адкрывае новыя імёны. Што да перавыданняў маіх анталогій, то яны прывязаныя да XX стагоддзя. Падрахаванне ягоных здабыткаў зробленае, цяпер трэба ствараць паэтычныя шэдэўры для анталогій XXI стагоддзя. Не сумняваюся, што сённяшнія аўтары «Верасня» зоймуць у іх самае пачэснае месца..

**Э.А.** — *Чаго не стае сённяшняй маладой беларускай паэзіі?*

**М.С.** — Я яшчэ не ў тым веку, каб бурчаць, як той дзед на прызбе: моладзь у нас такая-сякая, вось мы ў свой час... Наша літаратурная моладзь выклікае ў мяне захапленне. Яна таленавітая, абазнаная ў сусветнай літаратуры, ведае замежныя мовы, яна крэатыўная, мабільная і камунікабельная. Вось я Валерыю Куставу ўжо другі месяц злавіць не магу — яна то ў Нямеччыне, то ў Варшаве, то ў Швецыі. Слаўная наша моладзь мае хіба адзін маленькі недахоп: ёй часам бракуе начытанасці ў айчыннай класіцы. Моладзь наша пра-

чытала Борхеса з Маркесам, Муракамі і Пялевіна, але забылася ў школьнай парце Максіма Гарэцкага, Алеся Гаруна, Уладзіміра Жылку, Пімена Панчанку, Міхася Стральцова... Вось чаму я Валерыю Куставу шукаю? Каб сказаць ёй далікатна, што ва ўкладзеным ёю для серыі «Школьная бібліятэка» аднатомавіку Жылкі верш «Беларускаму люду» належыць усё ж Якубу Коласу. Пра гэтую ўкладальніцкую памылку прафесара Уладзіміра Калесніка я пісаў у «кнігазбораўскім» Жылкавым томе яшчэ ў 1998 годзе. І вось ізноў яна вялікім накладам ідзе ў беларускія школы. Ну мілыя мае, можна шмат чаго не ведаць, але нельга блытаць Уладзіміра Жылку з Якубам Коласам!.. Здаецца, усё ж я не стрымаўся і трохі пабурчаў.

**Э.А.** — *З беларускімі нябёсамі цябе парадніла не толькі паэзія, але і служба ў дэсантных войсках. Як ты лічыш, у наш час каму патрэбна большая смеласць — дэсантніку ці паэту?*

**М.С.** — Служба ў яшчэ савецкіх паветрана-дэсантных войсках не ўспрымаецца мною як дарэмна пражытыя два гады. Па-першае, войска дало мне фізічную вынослівасць (як забыцца на марш-кідкі з поўнай выкладкай на 35 км!). Па-другое, у інтэрнацыянальным войску (у Літве і Заходняй Украіне) я атрымаў першыя ўрокі нацыянальнага загартоўвання. І па-трэцяе, калі ты перамагаеш страх і ступаеш у пустэчу на вышыні двух кіламетраў, то пазней разумееш, што маеш сілу і волю і тое, што атрымліваецца ў суме. Адчуванне, калі над табой раскрываецца парашут, не параўнаеш ні з чым. Хочацца крычаць ад радасці і спяваць на ўсе нябёсы! Праўда, спеву твайго не чуе нават парашутыст, які знаходзіцца ад цябе ў нейкай паўсотні метраў. Рэч у тым, што ў небе гукавым хвалям няма ад чаго адбівацца, і яны незваротна разлятаюцца на ўсе бакі свету. І ўсё роўна фантастычнае адчуванне. Аднойчы на вечаровых скачках, пакуль прызямляўся, я нават верш прыдумаў. Усяго чатыры радкі, больш не паспеў: «Жаўнер па аблоках тупае, / свае там лагчыны і ўзгоркі. / А ў пацяжэлым купале, / бы ў невадзе, плешчуцца зоркі». Што да смеласці, то яна патрэбная і дэсантніку, і паэту. Паэту нават у большай ступені. Як там у ранняга Алеся Разанава? «Задумай велічную справу і абвясці: — Іду на вы!». Без гэтага «іду на вы» паэт адбыцца не можа. А самае галоўнае, каб беларускія паэты не траплялі ў сітуацыю дэсантнікаў, калі ты спяваеш, а цябе — не чутно.

**Э.А.** — *«О баразна — беларускі акоп! / Хай дыктатура ці мор у краіне, / Хай землятрус ці сусветны патоп — / А беларус баразны не пакіне...» Гэта радкі з твайго верша «Ода баразне». Ты напраўду так лічаш? Няўжо гэткі наш гістарычны лёс?*

**М.С.** — «Ода баразне» друкавалася ў трох выданнях — у часопісе «Дзеяслоў», у тыднёвіку «Наша ніва» і ў маёй апошняй па часе выдання кнізе «Акно для матылькоў». Агульны наклад — 8000 асобнікаў. Плюс чытачы электроннай бібліятэкі kamunikat.org. Відаць, з гэтай прычыны «Оду...» ве-

даюць і часам просяць прачытаць на сустрэчах. Баразна — гэта, вядома ж, метафара. Але метафара, якая прарасла з рэальнасці. Калі паблізу вёскі Шышчыцы на Случчыне выбухнуў склад боепрыпасаў, ніводзін случак не ўцёк з бульбянога поля! Капалі як пад артабстрэлам — тое я на свае вочы бачыў. Баразна — гэта не толькі свая бульбачка, свой бурачок, свая капуста. У баразне працалюбны беларус, нібы ў акопе, пераседзеў усе войны, усе раскулачванні, усе дыктатуры і застойныя часы. Але як позна ці рана з акопа вылазіць жаўнер, так і беларус мусіць нарэшце вылезці са сваёй баразны. У акопе добра трымаць абарону, а сучасны глабалізаваны свет змушае нас да больш актыўных дзеянняў.

Фота Станіслава Шушкевіча.

*12 чэрвеня 2011 г.*



# Глеб Лабадзенка

**паэт, журналіст. Аўтар кніг: «Пагер-вершы» (2005 г.) і «Дзіцячая заМова» (2012 г.). Як журналіст напісаў больш за 1200 артыкулаў. Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

# Бог добра разумее па-беларуску...

***Ягонай энергіі і жыццёваму пазітыву можна толькі пазайздросціць. Яго хапае літаральна на ўсё. І за што ён не бярэцца, робіць гэта па-сапраўднаму крэатыўна, ярка і запамінальна. Сённяшні мой суразмоўца — паэт, журналіст, фотамастак, лінгвіст, краязнаўца, выкладчык і выдавец Глеб Лабадзенка.***

**Эдуард Акулін.** — Скажы, калі ласка, Глеб, якая з пералічаных творчых іпастасяў табе найбольш імпануе як творцу? Ці не замінае гэта табе ў дасягненні галоўнай жыццёвай мэты?

**Глеб Лабадзенка.** — У цяперашні момант мяне найбольш займае арганізацыя публічных курсаў беларускай мовы «Мова нанова». У Менску штотыдзень на курсы прыходзіць пад 250 чалавек. Апроч таго, курсы пад нашаю назваю адкрыліся ў Бабруйску, Гародні, Берасці, Баранавічах, Нясвіжы, Маладзечне і нават Кракаве. Што да пытання празмернай колькасці актыўнасцяў, то ёсць такі выраз — і швец, і жнец, і на дудзе ігрэц. Зрэшты, не думаю, што гэта некаму шкодзіць. Хоць некаторых, ведаю, раздражняе. Але нічога — хай таксама варушацца.

**Э. А.** — *З чаго ты пачынаўся як паэт?*

**Г. Л.** — У 13 год пачаў пісаць вершы па-беларуску. Праз гэта пазнаёміўся з Рыгорам Барадуліным — прынёс паказаць яму свае крэмзы.

**Э. А.** — *А хто цябе пазнаёміў з Рыгорам Барадуліным? Які ўплыў на твой творчы лёс аказаў дзядзька Рыгор?*

**Г. Л.** — Да нас у школу прыйшла выкладаць кабета, якая вучылася разам з Барадуліным ва ўніверсітэце. Я, сямікласнік, быў шакаваны навіной, што нехта з беларускіх пісьменнікаў яшчэ жыве. Беларуская літаратура ў нас у школе выкладалася так, што літаратары для мяне былі толькі партрэтамі-абразамі на сценах кабінета беларускай літаратуры. Без перабольшання скажу, што дзядзька Рыгор — той чалавек, які ў прынцыпе зрабіў у гэтым жыцці на мяне найбольшы ўплыў. 14 гадоў, праведзеных побач з ім, я лічу шчасцем. Бо даволі хутка зразумеў, што гэта чалавек маштабу Купалы, Багдановіча... Робячы нешта, я заўжды распавядаў пра гэта дзядзьку Рыгору, раіўся. І цяпер часта лаўлю сябе на думцы, што ўяўляю, што б ён сказаў на тое ці гэта.

**Э. А.** — *Сябраваць з Барадуліным было цяжка?.. Я маю на ўвазе не толькі няпросты характар народнага паэта, але і велізарную розніцу ва ўзросце паміж вамі? Гэта дапамагала ці перашкаджала знаходзіць ўзаемапаразуменне?*

**Г. Л.** — Думаю, што да мяне 13-гадовага хлапчука дзядзька Рыгор паставіўся як да ўнука, няхай даруе ён такое нахабнае меркаванне. Мы ні разу не пасварыліся. А розніца ва ўзросце... Дзядзька Рыгор часта казаў пра маладых, што ў стасунках з імі ён і сам маладзее. Я ж стараўся хоць крыху сталець і

разумнець побач з ім, цягнуцца да яго, слухаць і чуць яго. Дзякуючы Барадуліну, я не наступіў на многія граблі: ведаючы ад яго, з кім не варта вадзіцца, куды не варта лезці.

**Э. А.** — *У сяброўстве вельмі важны аспект — узаемадараванне... А што ты ніколі б не змог дараваць сябру?*

**Г. Л.** — Здраду. Асабліва здраду ў цяжкія моманты, у моманты выбару. Напрыклад, памятаю, як улады закрывалі наш Коласаўскі ліцэй. І ўсім прыйшло запрашэнне без іспытаў перайсці ў ліцэй БДУ. Гэта быў нялёгкі выбар: скокнуць ва ўтульнае месца з перспектывай паступлення, або пайсці ў невядомасць, на падпольную адукацыю са сваімі настаўнікамі. І хлопец, які сядзеў са мной за адной партай, абраў лягчэйшы і цяплейшы варыянт. Для мяне гэта быў удар, бо я лічыў яго сваім сябрам. Хоць потым падумаў, што з яго боку гэта было не зусім нечаканасцю: бацька — чаргінцоўскі падпявала, маці таксама афіцыйны чалавек. Ён сам так і застаўся па жыцці прыстасаванцам: і вашым, і нашым. Але я вельмі цаню такія моманты ў жыцці. Калі чалавеку побач з табой наканавана аказацца мудаком — то хай гэта адбудзецца чым раней.

**Э. А.** — *У тваім фотаархіве сотні фотаздымкаў нашых вядомых пісьменнікаў, мастакоў, музыкаў... Фотамастацтва — для цябе хобі, ці нешта большае?*

**Г. Л.** — Ніякіх амбіцый фатографа ў мяне няма, ды і тэхніка самая простая. Свой архіў, дзе сапраўды здымкі сотняў і сотняў асобаў, цаню найперш з дакументальнага пункту гледжання. Там ёсць здымкі людзей, якія ўжо пакінулі гэты

*З юнай чытачкай «Дзіцячай заМовы»*





*Музы і паэты*

свет. Напрыклад, толькі дзядзькі Рыгора каля 4500 здымкаў. Зробленых у ягонай хаце, на імпрэзах, у Вушачах, падчас нейкіх сумесных вандровак... Можа, яны і не маюць мастацкай вартасці, але на іх зафіксаваная гістарычная асоба, найвялікшы беларускі паэт апошніх дзесяцігоддзяў — таму яны ўнікальныя. Таксама ў архіве шмат здымкаў архітэктуры. Гэта маё вялікае захапленне: аб'ехаў у нашай краіне больш за 1000 населеных пунктаў, дзе захаваліся нейкія архітэктурныя цікавосткі. Зноў жа, можа гэта і невысокай мастацкай вартасці фота... Але, як у нас часам бывае, помнікі архітэктуры руйнуюць — і трэба іх фіксаваць як найболей.

**Э. А.** — *Ты некалькі гадоў працаваў журналістам у газетах «Камсамольская праўда» і «Звязда», у цябе ёсць асабісты інтэрнэтблог... Што табе дала праца ў журналістыцы? Ці лічыш ты гэты этап у сваім жыцці пройдзеным?*

**Г. Л.** — Журналістыка — мая прафесія, якая давала і дае мне хлеб. Таму пройдзеным этапам яна быць не можа, бо я пакуль жыць без хлеба не навучыўся. Прафесія вельмі цікавая! Пра журналістаў кажуць: людзі, якія нічога не ведаюць добра, але ўсяго ведаюць патроху. Тысячы і тысячы кантактаў, набытых у працоўных стасунках, прыдаюцца і ва ўсіх іншых актыўнасцях, пералічаных вамі вышэй.

**Э. А.** — *Пасля выхаду твайго першага паэтычнага зборніка «Пагер-вершы» прайшло некалькі гадоў... Чаму такая затрымка з новай кнігай? Не стае натхнення, жадання, вершаў, грошай ці часу?*

**Г. Л.** — Няма такой мэты. У нас жа паэтаў — ё-маё! Ці магу я нешта дадаць да гэтай пляяды галасоў?.. Да таго ж, літаратура добра ўдаецца тым, хто займаецца толькі літаратурай. У мяне такой магчымасці няма. А быць шэраговым паэтам, каб у пераліку тваіх «рэгаліяў» дадалося яшчэ адно слова?.. Сумнеўнае жаданне.



*Ля святыні*

**Э. А. —** *Твая «Дзіцячая заМова» зрабіла сапраўдны фурор у айчынным кнігавыдавецтве. Хто падказаў табе ідэю жывых малюнкаў — відэаскрайбінга для ажыццяўлення мастацкай задумы кнігі? Ці плануеш ты далейшую працу ў гэтым накірунку?*

**Г. Л. —** Вось, спадар Эдуард, дзякуючы вам даведаўся новае слова — відэаскрайбінг!.. Ідэя з'явілася выпадкова — намаляваў для жонкі схему з розніцай

між «цяпер» і «зараз». Падумаў, што схема можа быць карысная і іншым — вывесіў у блог. Людзі пачалі пытаць: а гэта як адрозніць, а тое як запомніць?.. Так і пайшлі малюнкі. У кнігу ўвайшло 112. І яна за год прадалася амаль цалкам — а гэта 2000 асобнікаў. Цяпер ужо гатовыя новыя 70 малюнкаў — два разы на тыдзень яны з'яўляюцца на сайце кампаніі «Будзьма беларусамі!» Дзякуй «Будзьме» за такую прапанову — бо сам бы я, пэўна, ленаваўся рабіць гэта з такой рэгулярнасцю. Як назбіраецца сотня ці больш — хачу зрабіць другую частку «Дзіцячай заМовы», раз ужо яна прыйшлася даспадобы чытачам!

**Э. А.** — *Як актыўны ўдзельнік культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!» ты аб'ехаў велізарную колькасць беларускіх гарадоў, мястэчкаў і вёсак... І калі напачатку аб'ектам тваіх вандровак-выступаў была літаратура, то апошнім часам ты ўсклаў на сябе місію айчыннага цмоказнаўцы... Гэта для цябе звычайная літаратурная авантура, ці нешта іншае?*

**Г. Л.** — Калі мы з калегамі з «Будзьмы» абмяркоўвалі канцэпцыю кампаніі «У пошуках Цмока», то прыйшлі да высновы, што няважна, «пад якім соўсам» людзі паедуць вандраваць па Беларусі — абы паехалі. А край наш бязмежны! Дзе ўжо я люблю вандраваць па радзіме, але і тое пабыў у дзясятках найцікавейшых месцах, дзе не бываў раней. Скажам, адзіная ў Беларусі пячора пад Празарокамі... Сапраўдная пячора, са сталактытамі і сталагмітамі, хоць і з пясчаніка!.. Або адзін з самых вялікіх у Беларусі валуноў — Змееў камень — пад Чашнікамі. Ці 5000-гадовыя крамянёвыя шахты пад Ваўкавыскам... Дарэчы, шукаць Цмока нескладана. Нас даслоўна пераследавалі рознага кшталту цмокі на нашым шляху. У Гомелі за палацам Румянцавых і Паскевічаў стаіць фігура першага гамельчука — на чаўне з рыссю. У яго на шыі — амулет з Цмокам! У Ветцы знайшлі выяву Цмока ў рукапісным Евангеллі XVII стагоддзя. У Браславе фігура Цмока стаіць проста перад мясцовым пунктам аховы правапарадку. У Жыткавічах Цмок пазірае са стэлы каля вядомай кавярні-карабля. У Міры нам распавялі легенду, што некалі тут забілі Цмока — а каб не вылез з магілы, на гэтым месцы паставілі замак... Увогуле ж, Цмок — гэта для мяне сімвал звышбеларуса. Дарэчы, збольшага станоўчы персанаж! Калі ўсё спакойна — то і ён нікога не чапае. А як надарыцца небяспека — абернецца праз сябе, здабудзе крылы і гатовы агнём паліць ворагаў. Я б хацеў, каб беларусы былі якраз такімі цмокамі...

**Э. А.** — *Нядаўна ты спрычыніўся да выхаду ў свет унікальнай рукапіснай кнігі Рыгора Барадуліна «Лепей», якой паэт паспеў парадавацца яшчэ пры жыцці... Ці плануеш ты надалей працаваць з архівам народнага паэта?*

**Г. Л.** — Я чалавек несістэмнага, ненавуковага складу. Таму ў працы з архівамі дзядзькі Рыгора ўвесь спадзеў на ягонага сябра і даследчыка ягонай творчасці Сяргея Шапрана. Ужо да саракавін Сяргей падрыхтаваў зборнік апошніх вершаў «У неба пехатою». Усім раю займець! Там проста касмічныя вершы, паэт размаўляе з Богам... І ўзнікае жывое адчуванне, што Бог добра разумее па-беларуску.

**Э. А.** — *Скажы яшчэ колькі слоў пра свой удзел у праекце «Мова нанова». Што, на тваю думку, дае людзям гэты праект?*

**Г. Л.** — Самае неверагоднае і каштоўнае: калі на першыя заняткі прыйшло пад 300 чалавек — я практычна нікога з іх не ведаў! Нават у твар! Бо ведаеце, як гэта бывае: прыходзіш на канцэрт ці вечарыну — і прынамсі ў твар большасць ведаеш... А гэта — новыя, незаангажаваныя раней у беларускую справу людзі. Для якіх мова — гэта не «палітыка» і «апазіцыя», а пункт уваходу ў грамадскую актыўнасць. Як прыемна прыходзіць у філармонію, у мастацкі музей, на іншыя беларускія імпрэзы — і сустракаць там слухачоў нашых курсах. «Вучняў» язык не паварочваецца сказаць, бо палова людзей за мяне старэйшая. Гэта яшчэ адзін цікавы момант — навошта на курсы ходзяць людзі сярэдняга і нават старэйшага веку? Я распытваў — і выявілася, што яны даўна хацелі неяк увайсці ў гэтую беларускую плынь, але не ведалі як. А курсы — безбалючы спосаб. Галоўнае — прыйсці. Да таго ж, ніхто з іх тут не белая варона. Ніхто не смяецца за трасянку, не паказвае пальцам за памылкі. Атмасфера дабразычлівая і нават сямейная. Таму колькі людзям будуць патрэбныя такія курсы — мы з калегай Алесяй Літвіноўскай будзем іх ладзіць.

**Э. А.** — *Якія перспектывы дадзенага праекту?*

**Г. Л.** — Перспектывы бачу ў тым, каб не спыняцца, развівацца. Тое, што курсы папулярныя — нагода не сядзець і цешыцца, а думаць, як зрабіць іх яшчэ лепшымі. Важным лічым далейшае развіццё курсаў у рэгіёнах. Цяпер, апроч Менска, ахоплена шэсць гарадоў, але ж у нас райцэнтраў больш за 100!..

**Э. А.** — *А які Глеб Лабадзенка па-за межамі грамадскай дзейнасці? Што для цябе сям'я?*

**Г. Л.** — Сям'я — гэта, безумоўна, самае галоўнае. Тое, што дае сілы і энергію на ўсё астатняе. Бо калі б у сям'і нешта было не так — то і астатняе не клеілася б.

**Э. А.** — *Без чаго, на тваю думку, не могуць існаваць сямейныя адносіны?*

**Г. Л.** — Без сяброўства, без даверу, без рады і згоды.

**Э. А.** — *Што галоўнае для цябе ў жанчыне?*

**Г. Л.** — Здольнасць разумець. Мужчына — ён жа па сваёй натуры каўбой, воін. Хай і ў драбязе. Мудрая жанчына павінна адчуваць гэта і даваць мужчыну рэалізавацца — бо іначай ён будзе анучаю ці ўвогуле сап'ецца. Канешне, я кажу няправільныя рэчы з пункту гледжання гендэрнай роўнасці... Але сваёй жонцы часта стаўлю ў прыклад Валянціну Міхайлаўну Барадуліну. Дзядзька Рыгор за ўсё жыццё не ўбіў дома ніводнага цвіка, нават паліцу павесіць яна клікала суседа. Мне жонка на гэта адказвае, што я не Барадулін. Але каб Валянціна Міхайлаўна кіравалася такой логікай, уявіце: мы б не мелі сёння Рыгора Барадуліна! Я не хачу сказаць, што мужчына не павінен забіваць цвікі і вешаць паліцы — сам я ўсё па хаце і на лецішчы раблю сваімі рукамі. Але разумная жанчына павінна памятаць, што доля мужчыны — не толькі забіваць цвікі...



*Сувеніры ад кампаніі «Будзьма беларусамі!»*

**Э. А.** — *Ці можа быць жонка Музай?*

**Г. Л.** — Натуральна! Больш за тое, бачу і ведаю такія прыклады: Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Уладзімер Арлоў... Калі ёсць каханне, то жонка будзе і Музаю.

**Э. А.** — *Не сакрэт, што жонкі беларускіх літаратараў у сям'і нярэдка размаўляюць па-руску... Як ты да гэтага ставішся? На якой мове ты размаўляеш са сваёй жонкай?*

**Г. Л.** — Не хачу судзіць іншых. Мне пашанцавала — сваю жонку я ўзяў ужо беларускамоўнай. Не тое, каб гэта стала вырашальным чыннікам... Але ці змог бы я дарэшты даверыцца чалавеку з чужой моваю? Таму выбару, на якой мове размаўляць у сям'і, паўстаць не магло. І сына мы гадуем выключна па-беларуску.

**Э. А.** — *Якія сямейныя святы вы адзначаеце? Хто ў хаце гаспадар? Ці любіш ты кухарыць?*

**Г. Л.** — Шчыра скажу, увогуле не люблю святы. Нават свой дзень нараджэння не адзначаю. З фармальнага пункту гледжання свята: вось вам нейкі дзень — і мусіце весяліцца. А калі настрой кепскі? А калі зуб баліць? Найбольшае сямейнае свята для мяне — нараджэнне сына. Кожны месяц кажам: вось яму столькі, а вось яму ўжо на месяц больш. А іншыя фармальныя даты абмінаю. Лепш прынясу кветкі жонцы ў звычайны дзень, чым на якое свята. У хаце гаспадар раней быў кот, а цяпер, натуральна, Стэфан Глебавіч — усё падпарадкавана яму, усё круціцца вакол яго. А наконт кухарыць, маем у сям'і такую завядзёнку, што дранікі раблю выключна я. І жонка нават кажа, што ёй падабаюцца!



*З лепельскім цмокам*

**Э. А.** — *Твая любімая страва...*

**Г. Л.** — Я тут не арыгінальны — люблю ўсё з бульбы. Дранікі са смятанаю ці калдуны гатовы есці штодня. З супоў люблю флякі, супы-пюрэ з брокалі, са шпінату. З замежных страваў дужа люблю сушы і сыр з цвіллю. У нас яно дарагое, але як трапляю куды за мяжу — то наядаюся.

**Э. А.** — *Твой любімы адпачынак...*

**Г. Л.** — Вандроўкі па Беларусі, майстраванне нечага на лецішчы. Увогуле, не магу легчы і ляжаць — даволі хутка пачынаю дурэць. Люблю пасядзець пры вогнішчы з сябрамі — у такіх гутарках нараджаюцца планы, з'яўляюцца адказы на пытанні, тлумачэнні многіх рэчаў.

**Э. А.** — *Твой любімы гурт...*

**Г. Л.** — З нашых музыкаў дужа люблю Лявона Вольскага, Змітра Вайцюшкевіча, гурты HandmadE, «Босае сонца», «Троіцу»... Мая любімая музыка — гэта нашыя народныя спевы, а таксама класіка — Шапэн, Агінскі, Манюшка... Пад гэта магу і працаваць, і адпачываацьь, і асабліва думаць у доўгіх дарогах за стырном.

**Э. А.** — *Твае любімыя кветкі...*

**Г. Л.** — Вельмі люблю ландышы — за пах і кітайскія гваздзікі, пралескі, гваздзікі — за выгляд.

**Э. А.** — *Твая запаветная мара...*

Г. Л. — Каб мары паспяхова пераходзілі ў разрад задач, а затым увасабляліся!



# Васіль Дранько-Майсюк

акцёр, рэжысёр, мастак, драматург, культуролаг, тэатральны крытык. Друкаваўся ў часопісах «Дзеяслоў» і «Верасень». У 1999-м скончыў Беларускі ліцэй мастацтваў (мастак-жывапісец), у 2003-м — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў (культуролаг) і ў 2009-м — Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў (рэжысёр драматычнага тэатра). Нарадзіўся ў 1981 годзе ў мястэчку Давыд-Гарадок. Жыве ў Мінску.

# Творчае шчасце нельга ўкрасці...

***Ён, малады таленавіты акцёр, рэжысёр, мастак, драматург, які, каб не трапіць у цень літаратурнай славы бацькі, пачынаў сваю творчую дзейнасць пад псеўданімам — Мюр Фарыдовіч. Пра неспадзяванкі жыццёвага і творчага лёсу Васіля Дранько-Майсюка — наша гутарка.***

**Эдуард Акулін:** — *Скажы, калі ласка, Васіль, адкуль з'явіўся такі экзатычны творчы псеўданім — Мюр Фарыдовіч?*

**Васіль Дранько-Майсюк:** У Амерыцы ёсць цудоўны артыст тэатра і кіно Фарыд Мюррэй Абрахам. Ён адзін з самых разнастайных і творча-нечаканых акцёраў. Сярод яго роляў: Іосіф Сталін і Папа Рымскі Юлій II, бацька Грышкі Мелехава і Ал Капонэ, Антоніо Сальеры і біблейскі Лот. Здымалі яго такія рэжысёры, як Вудзі Ален і Гас ван Сэнт, Пітэр Грынуэй і Ліна Вертмюллер, Мілаш Форман і Сяргей Бандарчук. Яго ігра паэтычная і вельмі натхняльная. Таму нічога дзіўнага, што ў аснове майго псеўданіма было імя Абрахама.

**Э. А.** — *Твая маці — карэнная масквічка... Бацька — давыдгарадзецкі паляшук. На якой мове яны цябе выхоўвалі?*

**В. Д.-М.** — Бацька — па-беларуску, маці — па-беларуску і па-руску. У сям'і было гарманічнае двухмоўе. Для мяне не з'яўляецца праблемай думаць па-беларуску, а гаварыць па-руску і наадварот.

**Э. А.** — *У цэнтры Менску, дзе ты жыў, не было ніводнай беларускай школы... Ці здолеў ты атрымаць беларускую адукацыю?*

**В. Д.-М.** — Так. На вуліцы Чарнышэўскага была беларуская школа № 20 з французскім ухілам. Там я і правучыўся да 1991-га года, а затым перайшоў у Беларускі ліцэй мастацтваў імя Ахрэмчыка.

**Э. А. —** *Ці паўплывала тое, што ты нарадзіўся ў сям'і вядомага паэта, на твой творчы выбар?*

**В. Д.-М.** — Вялікая колькасць кніг па мастацтву ў нашым доме, асабліва альбомы Яцэка Мальчэўскага, Фернана Лежэ, Марка Шагала, ілюстрацыі Валерыя Славука — натхнялі на маляванне. Бацькава захапленне кіно (асабліва камедыямі Чапліна і Луі дэ Фюнеса), матчына любоў да тэатра (МХАТ, калі там яшчэ быў Алег Яфрэмаў, спектаклі Пятра Фаменкі) — перадаліся і мне: захацелася самому ставіць і іграць.

**Э. А**. — *Каго з беларускіх пісьменнікаў ты любіў чытаць у дзяцінстве?*

**В. Д.-М**. — Янку Маўра, Паўла Місько, Уладзіміра Ягоўдзіка, Станіслава Шушкевіча.

**Э. А.** — *Сённяшнія твае літаратурныя куміры...*

**В. Д.-М.** — Міхась Зарэцкі, Пятро Глебка, Ніна Мацяш, Міхась Стральцоў, Барыс Мікуліч...



**Э. А**. — *Што дала табе як творцу вучоба ў Беларускім ліцэі мастацтваў імя Ахрэмчыка?*

**В. Д.-М.** — «Творца» — занадта гучнае слова. Як пісаў славуты майстар фільмаў жахаў Марыё Бава: «Хочацца быць проста ўмелым «цесляром», які ўмее рабіць добрыя крэслы». У мяне выкладалі вялікія педагогі: Валянціна Свентахоўская (выкладчыца жывапісу) — навучыла каларыстычнай свабодзе. Рыгор Сітніца (графіка) — кампазіцыі — г.зн. гарманічнаму суладдзю рытмаў і плямаў. Генік Лойка (скульптура) — акуратнасці (прывучыў мяне, інфантыльна-несамастойнага 10-гадовага дзіцёнка, майстэрству прыборкі).

**Э. А.** — *Хто з выкладчыкаў ліцэя аказаў найбольшы ўплыў на твой мастацкі і жыццёвы светапогляд?*

**В. Д.-М.** — Рыгор Сітніца.

**Э. А.** — *Ці спатрэбіўся табе твой мастацкі досвед у далейшым жыцці?*

**В. Д.-М.** — Так. Я малюю вялікія графічныя партрэты прыгожых спадарынь (цудоўны спосаб для новых рамантычных знаёмстваў).

**Э. А.** — *У свой час шырокую папулярнасць займеў твой спеўны праект «Жаба ў каляіне». Ці ёсць у яго працяг?*

**В. Д.-М.** Гэта не толькі «мой» праект! Я яго рабіў разам з кампазітарам Максімам Іўкіным. «Шырокая папулярнасць»? Дазвольце не пагадзіцца! Так, гэта быў цікавы гурт, з арыгінальнай праграмай, які запісаў усяго дзве песні і зараз ужо практычна не існуе. Прычына неіснавання — гультайства ды чыста беларуская інертнасць яго ўдзельнікаў.

**Э. А.** — *Атрымаўшы адукацыю культуролага, ты вырашыў звязаць свой лёс з рэжысурай. Што падштурхнула цябе на гэты крок?*

**В. Д.-М.** — Эгацэнтрызм і страшная няўпэўненасць у сабе. Хацелася кіраваць працэсам, каб цябе аднаго слухаліся ўсе. Зараз я стаўлю ў Маскве мала-

бюджэтныя іранічныя спектаклі. Выключна дзеля заробку і добрага настрою. Вось які я меркантыльны!

**Э. А**. — *Як для цябе адбыўся зварот да творчасці Францішка Аляхновіча? Ці лічыш ты п'есу «Шчаслівы муж» сваёй творчай удачай? Які сённяшні лёс гэтай пастаноўкі?*

**В. Д.-М.** — Францішка Аляхновіча люблю за яго небеларускі авантурны характар і арыгінальныя вострыя самаіранічныя творы. «Шчаслівы муж» — мой першы спектакль з прафесійнымі акцёрамі, пастаўлены ў РТБД. Каб не тагачасны кіраўнік тэатра Валерый Анісенка, балетмайстар Марына Філатава, мастачка Вольга Вячорка і кампазітар Максім Іўкін — ніякага б спектакля не адбылося. Пастаноўка не вызначалася асаблівымі рэжысёрскімі дасягненнямі, але гледачам падабалася (немудрагелістыя жарты, пікантныя сітуацыі, запамінальная музыка) — поўная зала была заўсёды. Творчай удачай назваць яго нельга. Зараз «Шчаслівы муж» ужо зняты з рэпертуару.

**Э. А.** — *Твой ад'езд з Беларусі — гэта вымушаны крок, творчая эміграцыя ці проста неабходнасць «у розных краях пабываць...»?*

**В. Д.-М.** — Ды якая эміграцыя? З-за чаго эміграваць? Страх застацца да сівых гадоў на шыі ў бацькоў — вось галоўная прычына майго ад'езду.

**Э. А.** — *Ці ўдалося табе рэалізавацца ў Маскве як акцёру?*

**В. Д.-М.** — Вось яна, мая рэалізацыя: я іграю ў дзіцячым тэатры СНАРК, праводжу тэатралізаваныя святы для дзяцей, пішу сцэнары і п'ескі, часам іг-



раю ў малабюджэтных серыялах і тэлепраграмах, выкладаю дзеткам ад 2 да 8 год акцёрскае майстэрства. Зараз ізноў пачаў ставіць. Адным словам, змагаюся з уласным гультайствам.

**Э. А. —** *Чаго, на твой погляд, не хапае беларусам як нацыі?*

**В. Д.-М. —** Калі казаць пра «нацыянальна свядомую» частку, то — упэўненасці, любові да той справы, якую яны робяць. Калі навучымся любіць адно аднаго і тое, што робім (а не толькі выключна саміх сябе), калі палюбім сваю культуру і будзем усяляк адно аднаго падтрымліваць — станем нацыяй. Але ў гэта верыцца з цяжкасцю.

**Э. А. —** *Распавядзі, калі ласка, пра свой удзел у праекце «Мова ці Кава». Што дае гэты праект для маскоўскіх беларусаў?*

**В. Д.-М. —** Гэты праект узнік дзякуючы журналістцы канала ОРТ Кацярыне Кібальчыч. Яна мяне запрасіла выкладчыкам. Мая задача была — зрабіць займальныя, вясёлыя, тэатралізавана-арыгінальныя заняткі. Дзякуючы гэтаму праекту беларусы гуртуюцца, абменьваюцца навінамі, знаёмяцца, і, што самае галоўнае — размаўляюць па-беларуску.

**Э. А. —** *У тваім аўтарскім спісе некалькі тэатральных п'есаў... Ведаю, што адна з апошніх тваіх п'ес прысвечана Уладзіміру Мулявіну. Які сцэнаграфічны лёс гэтага твора?*

**В. Д.-М.** Спадзяюся, што шчаслівы... Прэм'ера спектакля «Пясняр» у пастаноўцы рэжысёра Валянціны Ераньковай адбылася ў Мінску 10 кастрычніка на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага рускага тэатра імя М. Горкага.

**Э. А. —** *Хто з'яўляецца тваім творчым дарадчыкам?*

**В. Д.-М. —** Людзей, якія натхняюць і могуць творча на мяне паўплываць, даволі многа. У Маскве гэта — саксафаніст Міця Шамшын, прадавец курэйгрыль Шах, мастачка Валянціна Паўлава. У Мінску — арганісты Юры Габрусь, дворнік Валянцін Якаўлевіч, масажыст Аляксандр, кампазітарка Вольга Падгайская.

**Э. А. —** *Што акрыляе цябе ў жыцці і творчасці?*

**В. Д.-М. —** Беларуская літаратура і творчасць піцерскага гурта НОМ.

**Э. А. —** *Ці марыш ты калі-небудзь вярнуцца назад у Беларусь? Што для гэтага неабходна?*

**В. Д.-М. —** Мару. Калі будзе магчымасць займацца любімай працай на беларускай мове і пры тым добра зарабляць — вярнуся абавязкова.

**Э. А. —** *Дзе лягчэй пачувацца беларусам у Мінску ці ў Маскве?*

**В. Д.-М. —** Каму як. Асабіста мне, лепей працаваць у Маскве, а ў Мінску бываць некалькі разоў у год па два тыдні.

**Э. А. —** *Што табе больш падабаецца: пісаць п'есы ці іграць у іх?*

**В. Д.-М. —** І тое, і другое. Гэта два розныя творчыя «шчасці».



# Наста Кудасава

паэтка. Аўтар кніг паэзіі: «Лісце маіх рук», «Рыбы». Скончыла філалагічны факультэт і магістратуру БДУ. Нарадзілася ў 1984 годзе ў Рагачове. Жыве ў Рагачове.

# Як просіцца з сэрца...

***У «лісці яе рук» жывуць дзівосныя птушка-рыбы. Яе паэтычныя шляхі — біблейскія рэкі. Вуснам яе цесна вясной... А размаўляць яна прывыкла «пчаліным голасам» на «кветкавай мове». Цела яе — цеціва напятая, а душа — у парэзах здрады... Яна любіць і піць, і жыць на брудэршафт з лёсам... А марыць: «Дняпром шматрадковым разліцца» на старонках новай кнігі. Наша гутарка з маладой таленавітай паэткай Настай Кудасавай.***

**Эдуард Акулін:** — *Скажыце, калі ласка, Наста, кім вы сябе на дадзены момант адчуваеце — паэткай, жанчынай, маці?..*

**Наста Кудасава**: — Усё адразу, падзяленне на іпастасі мне даецца з цяжкасцю. Я нават раздражняюся, калі ўва мне бачаць адасоблена толькі жанчыну ці толькі маці, напрыклад.

**Э. А.** — *Вашы любімыя паэтычныя тэмы — гэта...*

**Н. К.** — Не люблю, калі ў паэзію трапляюць публіцыстыка ці маралізатарства. Астатняе прымаю ўсё. Галоўнае — шчырасць. Сама ж я тэму для верша свядома не абіраю ніколі, гэта проста маё інтуітыўнае штодзённае быццё.

**Э. А.** — *Аднойчы вы сказалі, што «паэзія ствараецца насуперак жыццю...» Што гэта значыць?*

**Н. К.** — Адразу папярэджу, што я вельмі жыццялюбівы чалавек, таму тут ніякага дэпрэсіўнага сэнсу я не мела наўвеце. Проста чалавека кожны дзень клічуць нейкія больш «важныя» заняткі, чым выношванне і напісанне вершаў. Пытанне ў тым, што лічыць прыярытэтным для сябе. Пісаць насуперак жыццю — гэта значыць пісаць насуперак усім тым рэчам і людзям, якія сцвярджаюць, што твая паэзія нікому не патрэбная, ці не прыносіць грошай, што трэба заняцца чымсьці больш значным, карысным, прагматычным.

**Э. А.** — *Якое, на вашу думку, галоўнае прызначэнне жанчыны?*

**Н. К.** — Такое ж, як і галоўнае прызначэнне мужчыны, — шчыра і годна пражыць сваё жыццё. Калі звяртацца да стэрэатыпных жаночых роляў, то безумоўна быць маці — для мяне найвялікшая каштоўнасць і цуд, але я не хацела б абагульняць, кожная жанчына мае права на свае ўласныя прыярытэты.

**Э. А.** — *Што прыемней: быць цяжарнай новым вершам ці новым жыццём?*

**Н. К.** — Вельмі падобнае адчуванне. І гэта аднолькава хвалюе, здзіўляе і надае сэнсу жыць. Але ўсё ж такі вершы выношваць не настолькі адказна, можна заўжды выйсці з гульні, з жывымі людзьмі так немагчыма...

**Э. А.** — *Дзе для вас пачынаецца паэзія?*

**Н. К.** — Яна нідзе і не заканчваецца. Гэта тое паветра, якім я дыхаю. Паэзія — гэта ж не род і не жанр нейкі літаратурны. Як па мне, гэта асаблівасць светаўспрымання. Яна, калі ёсць у чалавеку, то ёсць заўсёды, гэтаму немаг-

чыма навучыцца, паэтам немагчыма перастаць быць, і тут справа не ў інтэнсіўнасці вершаскладання.

**Э. А.** — *Ці можна назваць каханне — паэзіяй? І наадварот?*

**Н. К.** — Каханне — вельмі паэтычная з'ява і вельмі натхняльная, але такая чалавечая... Паэзія ўсё ж — штосьці нашмат большае, хаця і нагэтулькі ж невытлумачальнае.

**Э. А.** — *Што для вас «незваротная нота» ў каханні?*

**Н. К.** — Той цудоўны і крыху страшны момант, калі адчуваеш, што з гэтай мінуты ўжо ніколі не будзеш ранейшым, што ў тваім жыцці адбылося штосьці лёсавызначальнае і дарогі назад няма... У кожнай гісторыі кахання ёсць свая незваротная нота, тут немагчыма даць адно тлумачэнне, якое падыходзіла б усім.

**Э. А.** — *Вы маці двух цудоўных дзетак — Ягоркі і Марыі. Пасля іх народзін, ці сталі з'яўляцца дзіцячыя вершы?*

**Н. К.** — Пакуль што не, але мне хочацца, каб яны з'явіліся. Па-мойму, дзеці бліжэй за ўсіх стаяць да паэзіі як ёсць, да самага чыстага яе праяўлення.

**Э. А.** — *Па адукацыі — вы рускі філолаг. Чым для вас з'яўляецца беларуская мова? Мовай паэзіі, сям'і, жыцця?*

**Н. К.** — Мовай паэзіі, мовай патаемнага, мовай маіх інтымных стасункаў з сусветам і Богам. У штодзённым жа жыцці я аднолькава карыстаюся і рускай, і беларускай мовай у залежнасці ад сітуацыі, і ўжо прызвычаілася не адчуваць у гэтым супярэчнасці, бо рускую мову таксама люблю і шаную.

**Э. А.** — *Ваш муж — прафесійны мастак. Не цесна двум творцам пад адным дахам?*

**Н. К.** — Муж не прафесійны мастак, а мастак, хутчэй, паводле светаадчування, але працуе і жыве ў сферы мастацтва. Мы як розныя слаі атмасферы — не перасякаемся. Кожны жыве на сваёй хвалі, неяк мы прыйшлі паступова да такога кампраміснага неўмяшальніцтва, бо іначай было б невыносна цесна, сапраўды.

**Э. А.** — *Ці збылася вашая мара аб «доме з потам і бытам»?*

**Н. К.** — Так, збылася напоўніцу, і гэта мне дало вельмі шмат. Кожны дзень я вучуся самадысцыпліне, адказнасці і ўмельству існаваць адначасова ў розных праявах.

**Э. А.** — *Ваша творчая стыхія — гарадскі шторм ці вясковы штыль?*

**Н. К.** — У творчасці я пераважна трымаюся стыхіі негарадской, раслiннай, жывёльнай... Хаця ў жыцці я амбівалентная натура і мне вельмі важная разнастайнасць, мажлівасць чаргаваць вясковую няспешнасць і гарадскую вірлівасць, бо іначай я страшэнна сумую, калі доўга заседжваюся на адным месцы.

**Э. А.** — *У кухарстве вы гэткая ж непрадказальная, як і ў паэзіі? Назавіце свае кулінарныя шэдэўры...*

**Н. К.** — Не, у кухарстве я даволі аднастайная, для мяне — гэта працэс чыста побытавай неабходнасці. Была б мая воля, я б харчавалася якой садаві-

най-гароднінай і ні пра што не клапацілася, але дзеля сям'і даводзіцца часам прыдумляць штосьці новае. Пра шэдэўры казаць баюся, проста ёсць тое, што я люблю гатаваць больш за ўсё — напрыклад, пячы бліны.

**Э. А.** — *Ваша паэзія прывязаная да пораў года? Калі вам лепш пішацца?*

**Н. К.** — Нядаўна ўбачыла першы жоўты лісток і ўнутры як быццам хваля нейкая захлынула... Я вельмі люблю восень за шчырасць памірання. Вясна таксама мне даспадобы за дынаміку, за цуд нараджэння, за надзею на новае, без якой чалавек не можа жыць. Але менавіта восень расстаўляе правільна ўсе акцэнты, нагадвае таму, хто загуляўся летам, што ўсё мінае. Бо па-сутнасці чалавечае жыццё — гэта і ёсць штодзённае паміранне, я не як песіміст гэта кажу, наадварот — гэтае адчуванне штодзённага сыходу і ёсць тая хваля, што падступае да горла шалёным захапленнем і шчасцем быць — тут і цяпер. Таму восень для мяне заўжды самая натхняльная пара года.

**Э. А.** — *Літаратурныя крытыкі схільны бачыць вашу паэзію паміж «мэнстрымам» і класікай... Мне ж здаецца, што хвароба «стылезмяшання» — гэта абсалютна не ваш паэтычны дыягназ. Скажыце колькі слоў пра свае творчыя прыярытэты...*

*З Таццянай Светашовай*





**Н. К.** — Ніколі не задумвалася над гэтым. Усё неяк бессвядома адбываецца, стыхійна. Мне ўсё роўна, як мяне назавуць крытыкі, і я ніколі не баялася быць да кагосьці падобнай у творчасці, галоўнае, рабіць сваю справу шчыра, так, як просіцца з сэрца.

**Э. А.** — *Не сакрэт, што многія маладыя паэты сёння ў сваіх творах ужываюць так званую ненарматыўную лексіку. Як вы лічыце, што гэта — даніна часу, модзе, імкненне да літэпатажу ці адсутнасць паэтычнага густу?*

**Н. К.** — Я не маю нічога супраць. Але, па шчырасці, вельмі рэдка можна сустрэць верш, дзе ненарматыўная лексіка гучала б арганічна. Часцей за ўсё гэта чапляе слых і падаецца эпатажам, жаданнем вылучыцца. Магчыма я памыляюся. Але сама я пакуль што заўжды магла знайсці іншыя словы для самавыражэння, якія мне падаюцца больш глыбокімі, тонкімі і цікавымі, чым ненарматыўныя. Час усё паставіць на свае месцы. Дарэчы, у прозе сітуацыя зусім іншая, там я цалкам прымаю любую лексіку, але ж проза — выспа зусім іншага кшталту, якая паэзіі не радня.

**Э. А.** — *«Цябененамацвальная далячынь» , «ягадная моўч», «бездарогая пушча» і г. д — гэта вашыя аўтарскія наваслловы. Ужыванне ў вершах лексічных наватвораў для вас — самамэта, стыхійны працэс ці натуральная з'ява?*

**Н. К.** — Самамэта — гэта несур'ёзна, я такім не займаюся. Важна, каб гэта быў натуральны працэс. Так што я стараюся выкарыстоўваць наватворы ў крайнім выпадку, калі гэта сапраўды адзіна магчымы варыянт для перадачы сэнсу. Да таго ж я не бачу ў маіх словах нічога вельмі новага, усё гэта даволі

празрыста, як мне падаецца, і патэнцыйна ў нашай мове можа быць, бо не супярэчыць ейным агульным законам.

**Э. А.** — *Каго з сучасных беларускіх паэтаў вы лічыце сваёй «раднёй па духу»?*

**Н. К.** — Проста любых мне і цікавых паэтаў многа. Ажно складана пералічыць, але яны ўсе вельмі розныя і кожны са сваёй манерай, а роднага мне, менавіта роднага па духу... Здаецца, я ўсё яшчэ яго чакаю.

**Э. А.** — *Якую музыку вы любіце слухаць? Ці спрабавалі вы сябе ў жанры песні?*

**Н. К.** — Я шалёна люблю музыку, самых розных жанраў. І спяваць вельмі люблю, але ўсур'ёз гэтым заняцца так і не атрымалася, а цяпер ужо і часу няма, хаця мара такая ёсць. У дзяцінстве я заўсёды выступала з песнямі, дзе толькі можна, праўда сама так і не напісала ніводнай.

**Э. А.** — *Хто з айчынных выканаўцаў вам даспадобы?*

**Н. К.** — «Троіца», Зміцер Вайцюшкевіч, Андрэй Мельнікаў, «Серебряная Свадьба» — гэта першае, што прыходзіць у галаву. А ўвогуле спіс можа працягвацца доўга...

**Э. А.** — *Хрыстос. Алах. Буда... Ваш паэтычны Бог — шматаблічны... Хто або што з'яўляецца сімвалам вашай веры?*

**Н. К.** — Я думаю, Госпад — вельмі таленавіты і тонкі мастак, раз задумаў і стварыў нашыя культуры такімі разнастайнымі і шматаблічнымі. Усе гэтыя шляхі да Ісціны, якою Ён ёсць, усе гэтыя імёны Бога, што ёсць на свеце, — гэта, мабыць, дзеля таго, каб нам было не сумна жыць, каб стварыць нейкую інтрыгу на Зямлі. Таму я не бачу ніякай супярэчнасці ў тым, каб выкарыстоўваць то тое, то іншае найменне ці сімвал. Хаця сама я хутчэй магу назваць сябе закаханым монатэістам. Я з павагай і цікавасцю вывучаю розныя традыцыі і пісанні, але мяне ўсё ж выгадавала Біблія, усё астатняе — дапаўненні і ўдакладненні.



# Валерыя (Валярына) Кустава

паэт, літаратарка. Аўтарка кніг паэзіі: «Кроў Сусвету», «Каб неба сагрэць...», «Тамсама». Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» часопіса «Дзеяслоў» (2009 г.). Нарадзілася ў 1984 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Не бойцеся рызыкаваць...

***Творчы лёс маёй суразмоўцы — яркі доказ таго, што паэтамі не становяцца, а нараджаюцца... Сваю першую кнігу вершаў яна выдала ў 11 гадоў... А блаславілі юную паэтку на шчаслівую паэтычную дарогу, напісаўшы прадмову да яе першай нізкі вершаў у 6 гадоў, Алесь Разанаў, а да другой кнігі паэзіі «Каб неба сагрэць...», ніхто іншы, як сам Рыгор Барадулін. Але, калі творца таленавіты, ён таленавіты ва ўсім. Знаёмцеся — паэт, эсэіст, тэлевядоўца, кінасцэнарыст — Валерыя Кустава, або проста — Валярына.***

**Эдуард Акулін**: — *Валярына, кажуць, што ты пачала пісаць вершы, яшчэ да таго, як навучылася чытаць... Тваё захапленне паэзіяй — гэта заслуга бацькоў, настаўнікаў, Госпада-Бога?..*

**Валярына:** — Хіба што гэта не заслуга, а дадзенасць. Хутчэй не я захапілася паэзіяй, а паэзія захапіла мяне. Ад пачатку, колькі сябе памятаю, жыццё навокал мысліла і ўяўляла вобразамі, толькі не так даўно пачала яго больш здзяйсняць, чым думаць, прыдумваць ды фантазіраваць. Бацькі мне заўжды шмат чыталі, нават калі я яшчэ ў чэраве была, ненароджаная. Калі казаць пра школьных настаўнікаў — не, хутчэй я сама абірала ў каго вучыцца — гэта былі найлепшыя аўтары і няпростыя людзі. Я веру ў тую сілу, якую называю Космас, у маленстве называла яе Богам, ён рытмуе маю душу, праз яго я раюся з сабой найлепшай, ідучы да Самасці.

**Э. А.** — *А хто і калі паспрыяў твайму паэтычнаму дэбюту?*

**В.** — Мама. Бабуля. І Алесь Разанаў, калі выпадкова даведаўся, што яго вершы любіць маленькая чатырохгадовая дзяўчынка. Ён захацеў пачытаць тое, што яна піша. У выніку — праз тыдзень перадаў разам з маімі вершамі назад і сваю прадмову да маёй першай публікацыі. Таму, дзякуй Алесю Сцяпанавічу, чыю думку і чые тэксты бязмежна абажала ўсё маленства, перадусім паэмы, кнігі «Вастрыё стралы», «Шлях-360».

**Э. А**. — *Хто твае літкуміры? Ці маеш ты свайго духоўнага настаўніка?*

**В.** — Куміры — штука непастаянная і юначая. У розныя перыяды розных любіла, хтосьці заставаўся, хтосьці сплываў — Купала, Караткевіч, Багдановіч, Жылка, Панчанка — засталіся. Барадулін, Някляеў, Сыс, Дранько-Майсюк... Гэта, калі казаць пра юначыя беларускія захапленні. Потым больш еўрапейскай літаратурай зацікавілася — французамі: Віёнам, Апалінэрам, Бадлерам, Верленам, Рэмбо, Както; палякамі: Лемам, Тувімам, Мілашам, Шымборскай, Галчыньскім, Міцкевічам нашым... Ну і іншымі.

**Э. А.** — *Ці магчыма беларускаму паэту сёння быць цалкам апалітычным? Займацца толькі літаратурай?*

**В.** — Было б клёва. Але, на жаль, немагчыма. Я ўвесь час спрабую адасобіцца ад сацыяльнага, палітычнага. Але перыядычна ўсё ж зрываюся. Бо — ба-

ліць. Калі натуральна не кранае — ок. Але калі змушаеш сябе не глядзець, не адчуваць — гэта ўжо штучная такая абыякавасць, ненатуральная. Але ў любым выпадку — няўлобава, а метафарамі, сімваламі, знакамі паэты гавораць пра тое несправядлівае і трагічнае, што адбываецца тут і цяпер... Я адчуваю нацыянальную адказнасць — таму, магчыма, мае метафары, што датычна сучаснай вайны — зусім не празстрыстыя, як хацелася б. Адна маладая крытык Марына Яўсейчык нават у мяне нядаўна спыталася, з якога года я пачала пісаць свае «ваенныя вершы». Я паглядзела — і праўда, ёсць у мяне такія. Нават цыкл. І вырашыла, што няхай тое акрэсленне і застанецца — «ваенныя вершы». Бо ў нас не палітыка — а вайна — унутры, што перыядычна выліваецца вонкі. З галоваў — на вуліцы. Генералы маёй краіны, дзе вы, дзе вашы мундзіры?

**Э. А.** — *У адным са сваіх інтэрв'ю ты сказала, што «Беларускасць — гэта вірус...» Дзе ты падхапіла «вірус беларускасці» ? Што значыць — «быць хворай на Беларусь»?*

**В.** — Ад бабулі Валі (бабуля па кудзелі). Яна гадавала нас з братам беларусамі — на народных песнях і казках, на паганскіх рытуалах, на вершах Геніюш і Сяргея Новіка-Пеюна, на крэмнях і медзі Алеся Белакоза, на куцці Дзядоў, на зорцы Калядаў... Значыць, успрымаць беларускасць унутры сябе не столькі абавязак, як натуральнасць твайго быцця. Уласным жыццём паўсюль нястомна даводзіць радасць і перавагу беларускасці.

**Э. А.** — *Ці праўда, што беларуская мова стварае праблемы ў жыцці?*

**В.** — Не, няпраўда. Наадварот — дае больш нагодаў для новых камунікацый і знаёмстваў.

**Э. А.** — *З тваіх слоў, «каб аднавіць беларускую мову, трэба зрабіць усяго некалькі крокаў»... Якія гэта крокі? Твой удзел у моўным праекце «Мова ці кава» — адзін з такіх крокаў?*

**В.** — Хутчэй, працяг дарогі, пражытай да таго... Мне быў цікавы ўдзел у гэтым праекце, бо ён прыводзіць да канчатковай беларускасці тых, хто яе прагнуў. І перадусім — гэта крэатыўная моладзь. Я люблю сваю аўдыторыю, тых цудоўных маладых асобаў, што наведвалі нашыя курсы, што прыносілі свае ідэі і надзеі. Якія гатовыя былі браць нашыя напрацоўкі — і ўвасабляць іх у жыццё. Гэта цудоўна. Так сказаць — практычная беларускасць. Беларускасць робіцца віруснай. Ужо самі людзі пачынаюць самаарганізоўвацца на базе беларускага — мовы, музыкі, моды, тэлебачання, кіно... І гэта файна.

**Э. А.** — *У свой час ты выступіла ініцыятаркай моладзевага фэсту «Кахай па-беларуску, жыві па-еўрапейску...» Што гэта для цябе — гучны лексічны брэнд, ці жыццёвы дэвіз?*

**В.** — Я проста так раблю і так жыву. Жыву як беларуская еўрапейка. Нашу якасную вопратку, падарожнічаю, вучу замежныя мовы, ляжу на газонах і іду да сваёй мэты. І кахаю па-беларуску. І толькі беларускі хлопец стане маім абранцам. Гэта мой брэнд. Беларускасць — гэта эратычна, модна, натуральна і сваё.



*Падчас перадачы «Чорным па белым»*

**Э. А.** — *Адна з формаў тваёй творчай рэалізацыі — праца на незалежным тэлеканале «Белсат». Хто з'яўляецца аўтарам тэм для перадачы «Чорным па белым», якую ты вядзеш?*

**В.** — Я сама прыдумляю тэмы, шукаю гасцей і пішу сцэнары. Я і мая новая сувядоўца — рэкламістка Юлія Рымашэўская. Таксама нядаўна прайшло два сезоны маёй другой праграмы «Фітнес-Шмітнес». Гэта першае беларускамоўнае забаўляльна-аздараўляльнае шоу з элементамі буфанады і лёгкай эротыкі, якое вялі мы разам з выдатным музыкам Паўлам Аракелянам.

**Э. А.** — *Нядаўна рэжысёр Андрэй Куціла разам з Вячаславам Ракіцкім у цыкле «Пераемнікі» зняў пра цябе дакументальную стужку, дзе ты іграеш самую сябе. А ці ўзнікала ў цябе жаданне паспрабаваць свае сілы ў мастацкім кіно?*

**В.** — Так, мне прапаноўвалі некалькі разоў. Пакуль — не выпадала. Думаю, у будучыні я пагаджуся, калі будзе сапраўды цікавая прапанова. А стужка ў Андрэя і Вячаслава атрымалася вельмі займальная!

**Э. А.** — *У Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў ты больш за тры гады выкладала сярод іншых такія дысцыпліны як «тэорыя драмы» і «драматургія сучаснага фільма»... Можа настаў час перайсці ад тэорыі да практыкі... Я маю на ўвазе — напісанне тэатральнай п'есы ці кінасцэнарыя?*

**В.** — Я даўно пішу п'есы і кінасцэнары. Сёлета, напрыклад, адзін з іх заняў першае месца на нацыянальным конкурсе сцэнароў — і па ім быў зняты фільм «Крыніца часу. Рака часу» (рэжысёр Іван Пінігін). Прэм'ера фільма адбылася на нацыянальных каналах. Цяпер працую яшчэ над сцэнарамі двух мастацкіх фільмаў сумесна з рэжысёрамі.

**Э. А**. — *Памятаю тваё апантанае захапленне аўтарскай песняй. Але апошнім часам вельмі рэдка ўдаецца ўбачыць цябе з гітарай на сцэне...*

*Не магу паверыць, што твая цікавасць да беларускай песні прайшла. Можа яна набыла новыя формы? Калі так, то якія?*

**В.** — Даўно супрацоўнічаю з музыкамі як аўтар тэкстаў да песень. Але перыядычна і сама граю. Весела: нават увайшла ў 50 абраных бардаў Свабоды. Правільна, што не верыце — яшчэ спяю! Апошняя мая праца — супольная песня «Казкі» з найлепшым гуртом мінулага года «Bosae Sonca» (сумесна з гуртом Zui, Hurma, Navi), кліп на якую выйшаў у сеціве акурат на Каляды і адразу набраў каля 6 000 праглядаў, што не так і кепска, калі ўлічыць, што рабілі мы яго папросту для ўласнай радасці. Музыку на яе напісаў мой сябар — выканаўца і кампазітар, саліст гурта Алесь Кот-Зайцаў. Мы з ім часама пішам разам.

**Э. А.** — *У цябе шмат літаратурных узнагарод. Якая з іх табе найдаражэйшая?*

**В.** — «Залаты апостраф» ад «Дзеяслова» ў намінацыі «Паэзія» і перамога ў конкурсе вершаваных твораў, які праводзіла ЮНЭСКА ў Парыжы. Таксама журналісцкія ўзнагароды (за інтэрв'ю і культурніцкія рэцэнзіі) — перамога на «Тваім Стылі» і ў «Вольным слове».

**Э. А.** — *Ці праўда, што твая паэтычная формула «Дзеўка-паэт—неба» нядаўна дзівосным чынам урэчаіснілася... Як і дзе гэта здарылася?*

**В.** — Летась. На выспе Родас. У старым горадзе, заблукаўшы між вузенькіх грэчаскіх вуліцаў (каб спазнаць месца — там трэба заблукаць), трапіла ў ма-

*На здымках фільма*



ленькую крамку старасветчыны... За столікам пад мядзяным гадзіннікам сядзеў дзядок з абветранай земляной скурай і густымі сівымі бровамі, смуглявая, белавалосая бабулька падносіла яму кветкавую гарбату ў белым парцаляным кубку з сінімі кветкамі. Яны ўсміхнуліся мне, дзядуля падміргнуў і хітнуў галавой да правай паліцы. Там стаяла дзеўка-паэт з лірай-вянком і з крыламі. Яе падножжа нат крыху ззелянела ад часу. Як я даўно яе шукала?! А знайшла — на радзіме Паэзіі, у Грэцыі...


Статуэтка «Дзеўка-паэт-неба» з Грэцыі

**Э. А.** — *Ты любіш падарожнічаць... Самыя яркія ўражанні тваіх падарожжаў — гэта экзатычныя мясціны, архітэктурныя дастапомнасці ці нечаканыя сустрэчы з незвычайнымі людзьмі?*

**В.** — Новыя гарады — гэта перадусім людзі. І менавіта яны адкрываюць для мяне сэрцы краінаў — музеі, архітэктуру, кавярні, сады, ночы і дні... З апошніх месцаў, дзе я пабывала, і пачувалася абсалютна ўтульна — гэта Рым, Іерусалім, Парыж і выспа Родас у Грэцыі.. На Родасе жыла некалькі месяцаў, частку часу — у манастыры... Атрымала там неверагодны духоўны досвед, які змяніў мяне. Мяркую, вярнуцца зноў у гэтыя мясціны, хаця раней мне асабліва нікуды не хацелася вяртацца. Таксама падабаюцца Кіеў, Львоў, Стакгольм, Берлін... У Варшаве пачуваю сябе абсалютна камфортна. Верагодна, таму, што за апошні час моцна падцягнула свае замежныя мовы і сустрэла блізкіх мне людзей тамака, што сталіся маімі сябрамі.

**Э. А.** — *Аднойчы ты заявіла, што прызнавацца ў каханні патрэбна вершамі беларускіх паэтаў? Чыімі б вершамі прызналася ў каханні ты?*

**В.** — Мне здаецца, каханне патрабуе не столькі вершаў, колькі ўчынкаў, якія могуць быць і без словаў спакойна. Ведаю, дастаткова гісторый, як іншыя прызнаваліся ў каханні менавіта маімі вершамі. І як прасілі імі пра першы пацалунак, і нават завесці раман ці дзіця. Зазвычай у каханні вершамі прызнаюцца — мне. Я веру ў сілу слова і ў паэзію, якая матывуе, натхняе на жыццё. Але ў жыцці — я веру ў паэзію жыцця, то бок ва ўчынкі, а не ў словы... Напрыклад,

словам «кахаю» па-мойму папросту нельга раскідвацца, абясцэньваць яго пастаяннымі прызнаннямі розным людзям. Тады яно страчваецца — і можа не знайсціся ўжо. І прызнавацца ў ім больш чым двойчы за жыццё — дзіўна. Першы раз — першаму свайму каханню (таму, якое кахаеш, бо маеш неадольны лішак юначай пяшчоты). І другі раз — апошняму (то бок сапраўднаму) свайму каханню. Гэта аптымальна — але не ўсім так шанцуе. Спадзяюся, што мне пашанцуе менавіта так. Гэта я да таго, што каханне — гэта ўжо паэзія пачуцця і жыцця, тут і вершы меркнуць.

**Э. А.** — *У кожнага паэта ёсць свой улюбёны куток. Твой паэтычны Менск — гэта...*

**В.** — Найперш — мой пакой, а таксама раён Сухарава — з ляском, крынічкай, царквой... Затым — раён Сцяпянкі з тамтэйшым лесам. Там, сосны, гледзячы на якія, я вырасла... Гэта Дом Літаратара, на Фрунзэ, 5, у якім я гадавалася, бо там працавалі мая бабуля і мая мама, пакуль яго не аднялі... Гэта маленькі дворык на Данілы Сердзіча, дзе прайшло маё маленства, і дзе я хадзіла ў тэатральны ліцэй, адкуль ездзіла ў музычную школу і на фігурнае коўзанне... Гэта вуліца Чачэрына, дзе я выкладала амаль чатыры гады, там, за Оперным, дзе восенню так неверагодна кружляюць лісты і што шалёныя кідаюцца пад ногі, а зімою строі яжынак высвечваюць ліхтарні...

**Э. А.** — *Калі чакаць тваю новую паэтычную кнігу?*

*Самой не верыцца... з пярсцёнкам*





*З мужам Васілём Дранько-Майсюком*

**В.** — Яна гатовая. Засталося, каб яе прачытаў рэдактар, аформіў мастак. І можна здаваць у друк...

**Э. А.** — *Чаго табе не стае ў жыцці?*

**В.** — Усё клёва. Што мусіць быць — будзе.

**Э. А.** — *Што ты пажадала б перадусім маладым творцам?*

**В.** — Жадаю, каб сілаў ставала на ўсе жаданні. І не бойцеся рызыкаваць!.. Найлепшы ўзрост для памылак — гэта маладосць. Потым можа быць позна памыляцца. Рабіце як мага болей памылак да 30 гадоў. Асабіста я акурат гэтым цяпер і займаюся...



# Таццяна Грыневіч-Матафонава

спявачка, музыка. Скончыла Маладзечанскую музычную вучэльню і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры. Працуе ў Белдзяржфілармоніі. Нарадзілася ў 1977 годзе ў Ашмянах. Жыве ў Мінску.

# Адкрыць у сабе Беларусь...

***Пра тое, як філарманічную сцэну яна змяніла на рамантыку бардаўскага жыцця, пра ўплыў песні і танца на фармаванне нацыянальнага характару, а таксама пра тое, што без веры не адродзіцца Беларусь — гутарка з вядомай спявачкай Таццянай Грыневіч-Матафонавай.***

**Эдуард Акулін:** — *Спадарыня Таццяна, якую падзею ў сваім жыцці вы лічыце знакавай, лёсавызначальнай?*

**Таццяна Грыневіч-Матафонава:** — Мне было тады два гады. Дзядзька, пачуўшы, як я, бегаючы па хаце, напяваю сабе песенькі, сказаў: «Будзе мая пляменніца спявачкай. «Гэтыя словы, як зярняткі, прараслі з маёй падсвядомасці, калі мне споўнілася 16 гадоў. З таго часу ўсё жыццё было аддадзена спевам.Такі ж лёс раздзяляе са мной сыночак Адась, які спявае з самага маленства.

**Э. А.** — *Чаму менавіта нараджэнне сына, а не нейкая іншая падзея, падштурхнула вас размаўляць і спяваць па-беларуску?*

**Т. Г.-М.** — А што застаецца маці, калі нараджаецца беларус? Толькі размаўляць і спяваць па-беларуску. Яшчэ за некалькі гадоў да нараджэння сына пачалося маё звяртанне да мовы праз захапленне архітэктурай, гісторыяй, літаратурай, культурай Беларусі... Але толькі з нараджэннем дзіцяці я нарэшце адкрыла Беларусь у сабе, бо бацькоўскі прыклад заўжды мусіць граць галоўнейшую ролю ў выхаванні чалавека.

**Э. А.** — *Як вы, філарманічная артыстка, прафесійная спявачка апынуліся ў сябрыне выканаўцаў аўтарскай песні?*

**Т. Г.-М.** — Неяк так сталася, што два Зміцеры — Бартосік і Сідаровіч прынялі мяне ў сваю бардаўскую кампанію, і мы ездзілі на сустрэчы з дзецьмі па школах, дзе я спявала вядомыя беларускія песні «Мой родны кут», «Спадчыну», «Зорку Венеру». Але вядома, каб бардам звацца, трэба пісаць песні самому. А каб трапіць у залатую сотню бардаў свабоды, то трэба і не адну песню напісаць, ды яшчэ і на ўласны верш. Так з лёгкай рукі Зміцера Бартосіка я прыбілася да берага бардаўскай песні...

**Э. А.** — *Ведаю, што вам асабліва падабаецца спяваць рамансы. Як бы вы ацанілі сённяшні стан беларускага раманса?*

**Т. Г.-М.** — Вось думаю, ці за дзесяць год працы ў філармоніі сустракаўся мне ў афішы «Вечар беларускага раманса»? Баюся, што не. Адзінае, хочацца верыць, што гэта я такая няўважлівая .

**Э. А.** — *З гэтай прычыны і ўзнікла ідэя запісу альбома «Шыпшына»? Што сабой уяўляе гэтая кружэлка?*

**Т. Г.-М.** — Так. Вітаўт Мартыненка на працягу некалькіх гадоў мне казаў, што трэба запісаць кружэлку рамансаў, бо ў нас такой няма. Вось за гэтыя некалькі гадоў, дзякуючы сябрам, і сабраўся адпаведны матэрыял. Кірыл




*З сынам Адасем і Тамашом Сідаровічам*

Насаеў параіў звярнуцца да творчасці Элы Зубковіч і Канстанціна Галкоўскага. Аляксей Крукоўскі, з якім мы граем народныя танцы, сказаў, што абавязкова трэба праспяваць песню з кінафільма «Гадзіннік спыніўся апоўначы». Канешне, я не магла абысці ўвагай і творчасць цудоўнага беларускага паэта Сяргея Новіка-Пеюна. Таксама на кружэлцы прадстаўлены некалькі маіх рамансаў.

**Э. А.** — *У суаўтарстве са Зміцерам Сідаровічам вы спрычыніліся да выхаду ў свет «Дзіцячага альбома»? Колькі слоў пра гэты праект. Каму належала ідэя запісу дзіцячых песень? Як ішла праца над кружэлкай? Хто прыняў непасрэдны ўдзел у запісе?*

**Т. Г.-М.** — Дзіцячы альбом складаецца з дзвюх частак, у першай — беларускія народныя дзіцячыя песні, якія, як пасля аказалася, ужо 100 год таму Антон Грыневіч уклаў у свой дзіцячы спеўнік, у другой — падборка калядных і школьных песень. Ідэя такога праекта прыйшла да нас аднačасова са Зміцерам Сідаровічам падчас адной з размоваў пра выхаванне нашых дзяцей — Адася і Тамаша. У той жа вечар дома знайшлася кніга з народнымі дзіцячымі песнямі і пачалася праца, якая цягнулася добрых сем гадоў. Галоўнымі выканаўцамі песень былі Адась і Тамаш, якім на момант першых запісаў у студыі было 5 і 8 гадоў. Дарэчы, яны і зараз працягваюць спяваць разам, толькі ўжо дарослымі галасамі. Спадзяюся, некалі гэтыя маленечкія зорачкі заззяюць напоўніцу...

**Э. А.** — *Большасць беларускіх выканаўцаў аўтарскай песні падыходзяць да сваёй дзейнасці спантана... Выхад іхніх альбомаў, як правіла,*

*эклектычны і непаслядоўны. У вашай жа дыскаграфіі назіраецца цэльная канцэпцыя. Вы выдалі некалькі тэматычных альбомаў. Сярод іх альбомы з дзіцячымі, калядными і школьнымі песнямі. Якой будзе тэматыка наступнай кружэлкі?*

**Т. Г.-М.** — Так, плюс быў яшчэ аўдыёдапаможнік для настаўнікаў і дзяцей па беларускай літаратуры, у якім можна знайсці ўсе вершы з 4 па 11 клас, якія вучацца на памяць, а зараз ужо амаль падрыхтаваны да выдання працяг аўдыёдапаможніка, у якім сабраны вершы для выразнага чытання, якія праходзяць у школе цяпер, і тыя, якія былі з розных прычынаў скарочаны са школьнай праграмы. Зараз у працэсе рэалізацыі маюцца яшчэ два вялізныя праекты. Гэта «Галасы паэтаў», ды кружэлка з беларускімі народнымі танцамі. Ну і, вядома, не губляю надзею дарабіць зноў жа распачаты працяг «Паспевак» — песні ды пераклады Сержука Сокалава- Воюша. Яшчэ я абяцалася, што буду займацца жаўнерскімі песнямі, дык і займаюся. Але, на жаль, не ўсё рабіцца так хутка, як хочацца.

**Э. А.** — *Каго з беларускіх музыкаў вы лічыці сваёй «раднёй па духу»? Чыя паэзія кладзецца на музыку вашай душы?*

**Т. Г.-М.** — Усіх, з кім я калісьці супрацоўнічала, можна лічыць роднымі па духу, бо без духоўнага адзінства ці атрымалася б супрацоўніцтва? Тое ж скажу і пра паэзію. Музыка маёй душы ўжо пакладзена на вершы Сержука Сокалава-Воюша, Ларысы Геніюш, Наталлі Арсенневай, Рыгора Барадуліна, Ніны Мацяш, Генадзя Бураўкіна. А паэзія Міхася Скоблы, праўда пакуль што без музыкі, вельмі натхняе мяне ў кожны наш сумесны выступ.

*На філарманічнай сцэне*





*З Міхасём Скоблам ля музея М. Багдановіча ў Гародні*

**Э. А. —** *Цягам трох гадоў вы супрацоўнічалі з хорам праваслаўнага сабора Гайнаўкі. Зварот да царкоўных песнаспеваў — чыста прафесійнае ці духоўнае памкненне?*

**Т. Г.-М. —** Калі прафесіяй займаешся ад душы, то рана ці позна духоўнасць прыйдзе, тым больш, калі твая прафесія звязана з харавымі спевамі.

**Э. А. —** *Якое ў вашым жыцці месца займае вера? На якой мове вы звяртаецеся да Бога?*

**Т. Г.-М.** — Ужо доўгі час я, звяртаючыся да каго б то ні было, ужываю беларускую мову. А да Бога сам Творца загадаў звяртацца на роднай мове. У жыцці я кожны дзень малюся за родных, блізкіх, сяброў і ворагаў. Лічу, што без веры не адродзіцца Беларусь...

**Э. А.** — *Аднойчы вы сказалі, што песня і танец фармуюць беларускі характар... А што тады рабіць абдзеленым голасам і слыхам людзям? Ці існуе ў Мінску народная школа танца, і як туды трапіць?*

**Т. Г.-М.** — Навошта ж так бязлітасна казаць пра абдзеленасць? Кавалак дрэва, калі над ім добра папрацаваць, можа ператварыцца ў скрыпку... Калі ж доўга пасядзець і папрактыкавацца ў музыцы, то й скрыпка нарэшце загучыць. Хто паверыць, што я сама калісьці была абдзелена голасам? Так што наведвайце вечарыны народнага танца разам з капэлай «На таку» і клубам «Сіта» і забудзьце пра тое, што хтосьці чымсьці абдзелены. Пакуль што вечарыны праходзяць у верхнім горадзе кожную нядзелю з 18-й да 21-й гадзіны, але неўзабаве пяройдуць на закрытую пляцоўку. Больш дакладную інфармацыю можна знайсці ў фэйсбуку, адкрыўшы старонку «Сіта», ці ў кантакце — суполка «Беларускія народныя танцы».

**Э. А.** — *Ці згодны вы з тым, што «каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць»? Дзе вам пашчасціла прадстаўляць беларускую песню за мяжой? Дзе беларуская песня больш запатрабаваная — на Радзіме ці за межамі Беларусі?*

**Т. Г.-М.** — У 2009 годдзе мы са Зміцерам Сідаровічам прадстаўлялі ў Нью-Ёрку і Кліўлендзе не толькі беларускую песню, але й беларускі народны танец. Склалася такое ўражанне, што беларусы, якія жывуць за акіянам з большай цеплынёй нясуць Беларусь у сваіх сэрцах, чым тыя, хто ні разу не выязджаў з Беларусі. Таму сапраўды, «каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць», толькі б не забываць вяртацца...

**Э. А.** — *Як актыўная ўдзельніца кампаніі «Будзьма беларусамі», вы частая госця беларускай глыбінкі. На вашу думку — кампанія вычарпала сябе? Ці ў яе наперадзе вялікія перспектывы? Якую форму дзейнасці кампаніі вы лічыце найбольш запатрабаванай?*

**Т. Г.-М.** — На маю думку, у кампаніі «Будзьма беларусамі!» наперадзе працяг вялікай працы, якая ўжо колькі год паспяхова вядзецца.

**Э. А.** — *Кажуць, што асабліва хваляўніча і адказна выступаць перад землякамі... Ці бываеце вы з канцэртамі на малой Радзіме? Як беларускую песню ўспрыймаюць у Ашмянах?*

**Т. Г.-М.** —Канешне, бываю. А беларускую песню ўспрымаюць выдатна не толькі ў Ашмянах, але паўсюль, дзе адбываюцца мае выступы.

**Э. А.** — *Гледзячы на манеру вашага выканання, вы вельмі трапяткі і эмацыйны чалавек... Ці можна пачуццё, якое вы перажываеце на сцэне, назваць шчасцем?*

**Т. Г.-М.** — Так. Гэта сапраўднае шчасце...



# Кацярына Ваданосава

**паэтка, музыка. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка. Лаўрэат конкурсаў бардаўскай песні: «Пецярбургскі акорд — 2008», «ОРРА — 2009» і «Бардаўская восень — 2009». Нарадзілася ў 1986 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

# Неба ў глыбіні душы...

***Яе называюць беларускай Мерыдай — прынцэсай з «адважным сэрцам». Абсягу яе творчых захапленняў можна толькі пазайздросціць: музыка, паэзія, пепраплётная справа, дэкаратыўная каліграфія, вышыўка, шытво, выраб жаночых упрыгожванняў, рэстаўрацыя мэблі, праца фотамадэллю... А яшчэ яна лаўрэатка адразу некалькіх прэстыжных песенных фестываляў і маці дваіх цудоўных дзетак... Знаёмцеся — Кацярына Ваданосава!***

**Эдуард Акулін:** — *Пачнем нашу гутарку з «Alta mente». Так называўся створаны вамі музычны гурт, што ў перакладзе з лаціны азначае « У глыбіні душы»... Як і калі ўзнікла ідэя стварэння гэтага музычнага праекта? Што легла ў аснову музычнай стылістыкі калектыву?*

**Кацярына Ваданосава:** — Ідэя стварэння гурта з'явілася ў маёй галаве яшчэ ў далёкім дзяцінстве. Мой бацька быў музыкантам, у доме заўсёды гучала музыка, і, колькі сябе памятаю, мне заўсёды хацелася выступаць на сцэне. Потым, калі мне было 4 гады і бацька пайшоў з жыцця, ідэя стварэння музыкі набыла для мяне крышку маніякальны характар: страшэнна хацелая даказаць камусьці (на той момант пераважна цацкам ды маме), што я змагу стаць такой, як тата, нават без нічыёй падтрымкі. На жаль, здзейсніць у поўнай ступені сваю мару я змагла толькі ва ўніверсітэце, калі знайшла некалькіх аднадумцаў, якія не толькі ўмелі граць, а яшчэ і змаглі вытрымаць мой даволі няпросты характар. А стылістыка музыкі была прадыктаваная маімі музычнымі перавагамі: з самага дзяцінства я ведала на памяць усе песні «Бітлз», у кватэры была сабраная агромністая фанатэка на вініле, і «Led Zeppellin», «Deep Purple», «The Doors», «Pink Floyd» ды іншыя аксакалы класічнага року выхавалі мой музычны густ. Пазней праз рок я прыйшла да фольку — спачатку ў ягоным больш сучасным выглядзе (той жа «Jethro Tull», напрыклад), а потым і да велізарных пластоў народнай музычнай культуры, а таксама сярэднявечнай музыкі. Мне вельмі пашанцавала: сям'я, а таксама 11 гадоў вучобы ў музычнай школе сфарміравалі мой музычны сусвет, у якім не знайшлося месца для звычайнай папсы.

**Э.А.** — *Па якім крытэры адбіраліся ўдзельнікі гурта? Як часта і ў сувязі з чым мяняўся склад музыкаў?*

**К.В.** — Першы ды найважнейшы крытэр — гэта жаданне граць ды хадзіць на рэпетыцыі. Таксама важны ўзровень валодання інструментам — ён павінен быць хаця б прыстойным. Ну і, што немалаважна, трэба вытрымліваць мае заўвагі ды апантанасць творчасцю. Склад гурта мяняўся па розных чынніках: часцей за ўсё людзям проста не хапала цярпення (бо працэс стварэння песень, аранжыровак ды вывучэнне матэрыялу — даволі руцінная насамрэч праца), і яны ціхенька сыходзілі. Часам мы проста не маглі «прыцерціся» характарамі — натхненне не церпіць псіхалагічнага дыскамфорту...

**Э.А**. — *У адным з інтэрв'ю вы назвалі «Alta mente» — «музейным гуртом». Чаму?*

**К.В.** — Таму што склад гурта поўнасцю акустычны, тэксты ды музыка даволі сур'ёзныя — гэта не кабацкія разухабістыя прыхлопы-прытопы, якія даспадобы большасці звычайных людзей. Для нашых выступленняў патрэбная вельмі інтымная, удумлівая атмасфера, калі слухачы могуць асэнсаваць тое, што яны чуюць, ды атрымаць нейкія эмоцыі, недаступныя ў паўсядзённым жыцці, а калі мы добра адыграем — катарсіс нават перажыць, хаця б маленечкі такі, кароценькі катарсічак!.. Музейныя прасторы якраз у найбольшай ступені пасуюць для падобных выступленняў.

**Э.А.** — *Працэс стварэння песеннага рэпертуару для гурта — калектыўны? Ці гэта асабіста ваша творчая прэрагатыва?*

**К.В.** — Я пішу тэксты ды мелодыю. Раней пісала і партыі для ўсіх інструментаў, але зараз з цяперашнімі сваімі музыкамі спрабую адысці ад гэтай даволі заганнай практыкі: згадзіцеся, што, напрыклад, партыю для цымбал прасцей напісаць цымбалісту, чым вакалісту, бо я не дужа ведаю ўсе тэхнічныя акалічнасці валодання гэтым інструментам. Таму зараз мы практыкуем пэўныя «мазгавыя штурмы»: я паказваю песню, задаю стылістычны накірунак, мы садзімся ды калектыўна прыдумваем кожнаму ягоную партыю. Канешне, гэта не тычыцца сэсійных музыкаў: ім ноты прапісваю я.

**Э.А.** — *Чыёй ініцыятывай стала прыўнясенне ў канцэртную дзейнасць гурта «балканскіх матываў»? Я маю на ўвазе выкананне сербскіх, македонскіх і баснійскіх песень?*

**К.В.** — Маёй. Мне вельмі падабалася балканская музыка: дзікая сумесь еўрапейскай ды ўсходняй традыцый, нечаканыя для нашага вуха хады ды пульсуючы нязвыклы рытм. Але зараз я крышку адышла ад «балканшчыны». Мы граем выключна напісаны мною матэрыял. Бо народныя, напрыклад, сербскія матывы лепш за ўсё сыграюць самі сербы, а вось мае песні, акрамя мяне, не сыграе ніхто...

**Э.А**. — *Што стала плёнам творчай працы гурта «Alta mente» — канцэртная дзейнасць, студыйныя запісы, выпуск кампактдыску?*

**К.В.** — Так, гэта шматлікія канцэрты, некалькі запісаў, розныя музычныя ўзнагароды, а таксама асэнсаванне таго, якое менавіта зерне я хачу ўзрошчваць на музычнай ніве.

**Э.А.** — *Чаму ўзнікла неабходнасць стварэння новага калектыву — «Птушыным шляхам»?*

**К.В.** — Па-першае, мне насамрэч вельмі не падабалася назва старога калектыву. Яна аказалася вельмі цяжкатраўнай для славянскага вуха. А, па-другое, склад гурта столькі разоў мяняўся, што я не бачыла сэнсу называць аднымі і тымі ж словамі арганізм, састаўныя часткі якога поўнасцю змяніліся з моманту яго стварэння. Але «Птушыны шлях» не надта дапамог мне ў вырашэнні гэтай праблемы. Я зразумела, што музыканты прыходзяць ды сыходзяць, а я заста-



*У вобразе Мадонны*

юся, і называць нейкай (любой) назвай тое, што па сутнасці з'яўляецца вельмі аморфнай адзінкай, немэтазгодна. Таму зараз я выступаю проста як Кацярына Ваданосава, але з дапамогай музыкантаў — ансамбля, у якім ёсць маленькі касцяк-«шкілет», а «мышцамі» ён абрастае па ступені неабходнасці.

**Э.А.** — *Хто ці што падштурхнула вас да захаплення музыкай? Дзе вы атрымалі азы музычнай адукацыі?*

**К.В.** — Як я ўжо казала, першым правадыром у свет музыкі для мяне стала сям'я: тата, а за ім старэйшы брат, з якім у мяне 13 гадоў розніцы ды якому прыйшлося замяніць мне бацьку, калі той памёр. Для мяне не паўставала пытання, ісці ці не ісці ў музычную школу: усё было передвырашана, прычым

перадвырашана мной. Пасля 9 класаў музычнай школы (якую я ненавідзела, уласна кажучы), я перавялася ў гімназію з музычна-педагагічным класам, дзе адвучылася яшчэ два гады. Але працягваць адукацыю ў гэтай плыні не стала, бо зразумела, што мне ў значна большай ступені падабаецца рабіць сваю музыку, чым граць чужую. Канешне, зараз адчуваю: мне часта нестае ведаў, і тыя моманты, якія мне даюцца цяжкім эмпірычным шляхам, былі б значна прасцей дасяжныя шляхам тэарэтычным, але на момант выбару вышэйшай адукацыі я гэтага яшчэ не разумела.

**Э.А.** — *З чым звязана ваша імкненне да інструментальнай разнастайнасці: фартэп'яна, гітара, акарына?..*

**К.В.** — Я проста люблю гучанне розных інструментаў і ўсё. Таксама быў у маім жыцці перыяд, калі здавалася, што валоданне рознымі інструментамі зможа замяніць мне ансамбль: я проста буду сама пасцежкава запісваць партыі, потым зводзіць іх у песні, і атрымаецца шэдэўр. Але зараз мне ўсё ж-такі падаецца, што мультыінструменталіст — гэта чалавек, які не валодае нармальна ніводным інструментам, і я імкнуся займацца пераважна тым, што атрымліваецца лепш за ўсё: пісаць песні, а потым спяваць іх. І «дэлегаваць паўнамоцтвы» — інструментальныя партыі аддаваць на водкуп прафесіяналам.

**Э.А.** — *У 12 нумары «Верасня» вы дэбютавалі вялікай вершаванай нізкай... А ці памятаеце вы свае першыя паэтычныя крокі? На якой мове вы пачалі пісаць? Ці плануеце выданне вершаванага зборніка?*

**К.В.** — Вершы я прыдумвала яшчэ ў дзіцячым садочку. У памяці захаваліся ўрыўкі з жыцця: бацькі вядуць мяне дадому, а я ім расказваю нейкія вер-



шаваныя «опусы» свайго сачынення. А таксама ў нас з мамай была гульня, якая называлася «палка-сялёдка» (як алюзія на Нязнайку, які хацеў стаць паэтам ды рыфмаваў гэтыя словы). Мы загадвалі адна адной словы і прыдумвалі на іх рыфмы ці нават вершаваныя радкі. Тое, што можна назваць канкрэтна вершамі, стала з'яўляцца падчас навучання ў школе. Некалькі разоў мяне прасоўвалі на нейкія конкурсы, выступленні, але ніхто не сказаў мне, што гэта можа быць сур'ёзнай справай, таму да вершаскладання я ставілася як да свайго асабістага ды крышку ганебнага з боку атачэння занятку. Сярод сваіх аднакласнікаў я заслужыла рэпутацыю «ненармальнай». Першыя вершы, як ні дзіўна, былі па-беларуску: пачатковыя чатыры гады ў школе прыйшліся на беларусізацыю, навучанне вялося цалкам на беларускай мове, і пачаць пісаць менавіта на ёй было для мяне абсалютна натуральнай з'явай. Цяпер у сваім арсенале я маю даволі шмат твораў (з іх на музыку пакладзена больш за сотню), і, канешне, выданне хоць невялічкага зборнічка было б для мяне вельмі ўрачыстай падзеяй. Але я зусім недасведчаная ў плане ўсіх арганізацыйных акалічнасцяў гэтага працэсу, а таксама вельмі не люблю нахабна «прасоўваць» сваю творчасць. Таму, як сціплая Асоль, чакаю свайго літаратуразнаўчага Грэя, які возьме мяне за руку ды выведзе ў паэтычны свет, дзе мне падкажуць, што трэба рабіць для выдання ўласнага зборніка вершаў.

**Э.А.** — *Каго з беларускіх паэтаў вы лічыце сваім духоўным настаўнікам?*

**К.В.** — Духоўны настаўнік — вельмі моднае зараз азначэнне, і я, уласна кажучы, не надта яго люблю. Няма ў мяне настаўнікаў. Ёсць тыя, чыя творчасць натхняе, працінае душу, робіць больш добрай, разумнай, спагадлівай. Напэўна, усё даволі трывіяльна, але гэта ў першую чаргу — Караткевіч ды Багдановіч.

**Э.А.** — *Назавіце свае любімыя творы з сусветнай класікі.*

**К.В.** — «Уладар пярсцёнкаў» Толкіна (думаю, што магу назваць гэты твор класікай, хаця масавая культура зрабіла яго і сваім здабыткам), «Майстар і Маргарыта» Булгакава, «Цяжка быць богам» Стругацкіх.

**Э.А.** — *Што, акрамя сціплага заробку, дае вам праца ў Купалаўскім музеі?*

**К.В.** — Сыходзячы з таго, што я агулам ужо больш за чатыры гады ў дэкрэце, зараз не магу пахваліцца нейкімі подзвігамі на ніве музейнай працы. Раней — адчуванне таго, што я веру ў дасягальныя ідэалы, і ў мяне ёсць аднадумцы, для якіх беларуская культура — не міф ды не здранцвелы мярцвяк. Ну, а таксама я магла многа чытаць, пашыраць літаратурны кругагляд, а таксама ладзіць розныя мерапрыемствы ды імпрэзы не толькі «дзеля птушачкі», але і для душы.

**Э.А.** — *Аднойчы вы прызналіся, што «кладзецеся спаць з планамі на заўтра»... Гэта таму, што абсяг вашых творчых захапленняў проста неверагодны: музыка, паэзія, пепраплётная справа, дэкаратыўная каліграфія, вышыўка, шытво, выраб жаночых упрыгожванняў, рэстаўрацыя мэблі, праца фотамадэллю... Для ўвасаблення творчых задум у вас нават ёсць уласная дызайнерская студыя... Як пры гэтым вам удаецца ашчаджаць час на сям'ю?*

**К.В.** — Сакрэт просты: я вельмі мала сплю ды не гляджу тэлевізар. Пастаянна хачу спаць, але прага рабіць нешта карыснае ці прыгожае пераважае прагу залезці пад коўдру хаця б гадзінак на шэсць запар. Мяне насамрэч здзіўляюць мамачкі ў дэкрэце, якія скардзяцца, як цяжка ім жывецца ды як яны нічога не паспяваюць, а самі абмяркоўваюць серыялы ці ток-шоу. Я зусім не гляджу ні фільмы, ні перадачы, ні серыялы — духоўны голад спатольваю аўдыёкнігамі, якія слухаю падчас працы ў майстэрні, пакуль дзеці спяць. Таксама шмат якія дзеянні я раблю з малымі: хаджу па магазінах, гатую ежу, раблю прыборку, а калі мне прыходзіцца выходзіць на подыум ці на сцэну, дзеці знаходзяцца за кулісамі. Увогуле, той, хто скардзіцца на адсутнасць часу, проста не надта хоча нешта паспець.

**Э.А.** — *Сямейны клопат вас стамляе, ці, наадварот, надае творчага імпэту? Што для вас — вашы дзеці?*

**К.В.** — Вядома, стамляе. Я не буду маляваць усё ружовымі фарбамі ды казаць, што хатнія справы — гэта «жыватворная крыніца майго натхнення». Але гэта і не катарга. Я не змагу зрабіць, напрыклад, прыгожую кнігу, калі вакол мяне бардак. Таму стаўлюся да хатніх абавязкаў як да натуральнай часткі жыцця — як да чысткі зубоў, напрыклад. А дзеці — гэта тое, дзеля чаго я існую, як бы патэтычна гэта не гучала. Таму, у каго няма дзяцей, гэтую думку давесці не атрымаецца — яна прыходзіць толькі пасля пачатку мацярынства.

**Э.А.** — *Дзе вы пазнаёміліся са сваім мужам? Хто ён па адукацыі? Якая ягоная роля ў сямейным і творчым тандэме? Ці падрымлівае ён вашы творчыя памкненні?*

**К.В.** — Вось дзіўна, чаму ўсіх так цікавіць мой муж? Ды і мае дзеці таксама... Мне падаецца, што гэта трывожны званочак, які характарызуе стан нашага айчыннага грамадства: калі ў маладой жанчыны ёсць муж ды дзеці, а яна паспявае (і хоча) рабіць нешта па-за межамі трыяды «Kinder, Kuche, Kirche», то гэта ўспрымаецца як нешта незвычайнае — маўляў, творчасць ды сям’я несумяшчальныя, а замуж да 30 гадоў увогуле не варта выходзіць... Пазнаёміліся мы з будучым мужам у мяне дома — сябар прывёў на хатнюю рэпетыцыю свайго знаёмага, сказаў, што «нармальны такі гітарыст», а мы якраз знаходзіліся ў пошуках музыканта. Таму знаёмства адбылося «на маёй тэрыторыі». Па адукацыі муж гісторык, як і я, толькі ягоная спецыяльнасць — этналогія, а мая — рэлігіязнаўства. Ягоная роля — быць маім рыцарам, цярпець усе мае выбрыкі, дапамагаць рэалізоўваць ідэі, граць на гітары ў гурце, а таксама любіць ды выхоўваць нашых дзяцей. Можа, ён быў бы і рады, калі б я менш фантаніравала рознымі праектамі ды хоць час ад часу давала магчымасць проста пасядзець ды паглядзець фільм, але, спадзяюся, каханне пакуль перамагае прагу спакою.

**Э.А.** — *Нехта з журналістаў назваў вас беларускай Мерыдай — прынцэсай з «адважным сэрцам». А як называе вас ваш абраннік? Якія рамантычныя ўчынкі ён здзейсніў, каб заваяваць вашу прыхільнасць?*



*«Дзеці — гэта тое, дзеля чаго я існую...»*

**К.В.** — З усіх азначэнняў, якімі ён мяне надзяляе, мне найбольш даспадобы «querida» (нават сугучна з Мерыдай, ці не праўда?), а таксама вельмі трапяткое ды глыбокае «душа мая». Зараз мала хто так звяртаецца да сваёй жонкі. Ніякіх «коцікаў», «малышак», «дарагіх» ды «бусечак» мы не практыкуем. Хаця, праўду кажучы, гэта нашая асабістая справа — як ён мяне называе ды якія рамантычныя ўчынкі здзяйсняе. Я не 17-гадовая дзяўчынка, якая любіць пісаць у сацсетках, як ёй падарылі кветкі ці прысвяцілі чужымі рукамі напісаны верш. Хай нашае прыватнае жыццё і надалей застанецца больш-менш прыватным.

**Э.А.** — *Вы задаволены сваім сённяшнім жыццём? Ці хацелі б жыць у іншым месцы і часе?*

**К.В.** — Задаволенасць — прыкмета абмежаванага інтэлекту, мне падаецца. Я шмат чаго хачу паспець, шмат чаго хачу зрабіць. Але гэта няблага, напэўна. А ў іншым часе, думаю, мне б цяжкавата прыйшлося — як гісторык я цудоўна разумею, што, напрыклад, маё ўлюбёнае Сярэднявечча было зусім не такім, як у раманах Вальтэра Скота. Я люблю эстэтыку іншых часоў, але тагачаснае жыццё не было пастаянным атрыманнем духоўнай асалоды ад культурных здабыткаў ці, напрыклад, ад прыроды. Таму, для спатольвання прагі эскапізму мне хапае гістарычнай рэканструкцыі, а таксама выраблення нечага сваімі рукамі ці галавой — пачынаючы ад копій сярэднявечных кніг, заканчваючы напісаннем вершаў у рэнесанснай стылістыцы.

**Э.А.** — *Зразумела, што пры такім рытме жыцця ў вас зусім не застаецца часу на адпачынак... І тым не менш, калі ўдаецца, як і дзе вы любіце адпачываць?*

**К.В.** — Там, дзе няма людзей — толькі самыя блізкія ды родныя. Цудоўна, канешне, калі гэта марское ўзбярэжжа ці горы, парослыя лесам, але такое было толькі некалькі разоў у маім жыцці. Я не мізантроп, проста сучасныя спосабы

баўлення вольнага часу амаль выключаюць захапленне прыродай, цішынёй, ветрам, а менавіта яны з'яўляюцца для мяне першаснымі крыніцамі натхнення.

**Э.А.** — *У 2009 годзе вы сталі лаўрэаткай адразу некалькіх прэстыжных песенных фестываляў: «Культурная эвалюцыя —2009», «Бардаўская восень — 2009», «ОРРА —2009». Як вы ставіцеся да сцэнічнай славы? Ці падзяляеце думку Барыса Пастэрнака, які пісаў: «Быць знакамітым — непрыгожа...» ?*

**К.В.** — Я не лічу сябе знакамітай. Думаю, я ёй у поўнай ступені і не з'яўляюся, таму аб'ектыўна адказаць на гэтае пытанне не змагу. Мне падабаецца азначэнне «шырока вядомая ў вузкіх колах» — гэта якраз мая сітуацыя (як і сітуацыя большасці прадстаўнікоў беларускай культуры, на жаль). Але не буду хлусіць — да сцэнічнай славы я стаўлюся добра. Мне падабаецца быць на сцэне, падабаецца дзяліцца сваёй творчасцю, бо песні — гэта нібыта мае дзеці, і шкада, калі яны змарнуюць сваё жыццё без святла, нікому не паказаныя, нічога не змяніўшыя (хаця б на крышачку) ў людскіх душах. Калі я доўга не выступаю, я натуральна хварэю: не проста сумую, а фізічна адчуваю сябе блага, з тэмпературай, арытміяй ды іншымі праявамі. Але, калі кожны крок чалавека асвячаецца ў прэсе ды абмяркоўваецца потым у размовах пасажыраў маршрутак — гэта сапраўды крышку прыніжальна, на мой погляд.

**Э.А.** — *Падчас вучобы ў БДПУ імя Максіма Танка вы вывучалі гісторыю і рэлігіязнаўства. Якое ваша стаўленне да веры? Выказванне Уладзіміра Караткевіча: « Чалавек носіць сваё неба з сабою...» — для вас толькі цытата, ці нешта большае?*

**К.В.** — Мне яшчэ вельмі падабаецца цытата з Евангелля, якую потым Булгакаў уклаў у вусны Воланда: «Кожнага ўшануюць па веры яго». Неба ў кожнага чалавека — сваё. І вера таксама. Гэта ні ў якім разе не звязана з рэлігіяй, толькі з унутраным адчуваннем праўды. Таму я не люблю абмяркоўваць каштоўнасці розных рэлігійных сістэм альбо адметнасці розных цэркваў, дэнамінацый ці, напрыклад, сект — гэта вельмі інтымная справа.

**Э.А.** — *Ці згодныя вы з тым, што сапраўдная паэзія нараджаецца з болю? Хто ці што дапамагае вам пераждыць жыццёвыя выпрабаванні?*

К.В. — Згодная, але толькі ў дачыненні да такіх, як я. Не ўпэўненая, што гэтае выказванне правільнае для ўсіх. Самыя лепшыя вершы, песні нараджаюцца ў мяне ў часы трывогі. Але нехта, напэўна, можа пісаць толькі ў гадзіны шчасця ды эйфарыі. Гледзячы, пра што пісаць, напэўна. Жыццёвыя выпрабаванні я пераадольваю за працоўным сталом — творчасць, няважна якая — ад напісання песень да пераплётнай справы, надае сіл. Таксама ад любой дэпрэсіі выратоўваюць дзеці — з імі не атрымаецца пазаймацца самаедствам ці рэфлексіяй, гэта заняткі для свабодных людзей.

**Э.А.** — *Вы прымхлівы чалавек? Чаму вы лічыце, што «лёсавызначальнай падзеі ў вашым жыцці яшчэ не адбылося»?*

**К.В.** — Я абсалютна непрымхлівы чалавек. Не веру ні ў якія забабоны. Увогуле, мяне як рэлігіязнаўцу заўсёды цікавіла, як у людскіх галовах могуць ужы-



вацца вера ды цемрашальства. Ці, наадварот, атэізм ды цемрашальства. І ў лёс я не веру. Таму і лёсавызначальнай падзеі, напэўна, не дачакаюся ніколі. Усе падзеі людзі ствараюць сабе самі.

**Э.А.** — *Што , на вашу думку, трэба рабіць «таму, хто з крыламі народжаны...»?*

**К.В.** — Лётаць над зямлёй, канешне. Хаця рэдка той, у каго ёсць сапраўдныя крылы, згодзіцца лётаць у небе адзін, пакінуўшы каханых на зямлі...



# Алесь Емяльянаў-Шыловіч

паэт, перакладчык, бард. Аўтар зборніка вершаў «Парасонечнасць». Лаўрэат шматлікіх паэтычных конкурсаў. Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Крычаве. Жыве ў Мінску.

# Калі ты паэт...

***Што робіць творцу папулярным? Ці схільныя паэты да авантур? На што здольны пісьменнік дзеля вядомасці? Што трэба рабіць, калі ты паэт?.. Вакол чаго гуртуюцца беларускія літаратары? Адказы на гэтыя і іншыя пытанні ў гутарцы з маладым паэтам і бардам Алесем Емяльянавым-Шыловічам.***

**Эдуард Акулін:** — *З чаго пачаць?*

**Алесь Емяльянаў-Шыловіч:** — Пачнем з Радзімы...

**Э. А.** — *Сапраўды. Пачнем нашу гутарку з твайго радавода. Дзе ты нарадзіўся? Хто твае бацькі?*

**А. Е.-Ш.** — Нарадзіўся я на Крычаўшчыне. Бацька мой — трэнер, у свой час трэніраваў Крычаўскую футбольную каманду, маці — інжынер-хімік, працуе ў ЖКГ. Пасля таго, як бацькі разышліся, з першых месяцаў ад нараджэння жыў у Слуцку. Гадавалі мяне бабуля з маці. Бабуля паўплывала на мяне і маё сталенне.

**Э. А.** — *Ты вучыўся ў беларускай ці рускай школе? Які твой любімы школьны прадмет?*

**А. Е.-Ш.** — Школа была беларускай недзе да 4 класа, а пасля ўсе прадметы ў нас выкладаліся па-руску. Класным кіраўніком была настаўніца рускай мовы і літаратуры, вельмі прыемны і шчыры чалавек. Менавіта руская мова і літаратура сталі маімі ўлюбёнымі дысцыплінамі да заканчэння школы.

**Э. А.** — *У якім узросце прыйшло да цябе захапленне паэзіяй? Пісаць па-беларуску — гэта твой свядомы выбар? Бо, не сакрэт, што многія з сучасных беларускіх паэтаў, у тым ліку, такія выбітныя як Уладзімір Някляеў, Алег Мінкін, Міхась Шэлехаў і іншыя пачыналі як рускамоўныя...*

**А. Е.-Ш.** — Цікавіцца паэзіяй пачаў класе ў восьмым. Больш за ўсё любіў Высоцкага, з яго і пачалося захапленне паэзіяй. Да таго ж, я вучыўся граць на гітары і гэта таксама падштурхнула мяне да прыгожага мастацтва слова. Я таксама пачынаў пісаць вершы па-руску, бо «дзякуючы» нашай школьнай праграме, якая і на той час была не лепшай ад сённяшняй, я не любіў беларускую мову. А ў школе не было таленавітых педагогаў. Любоў да беларускай мовы і літаратуры прыйшла да мяне, як ні дзіўна, у медвучэльні. Я паступіў туды пасля дзявятага класа і вывучаў на першым курсе скарочаную школьную праграму 10-11 класаў. У той перыяд я пазнаёміўся з лепшымі творамі айчыннай класікі і яна мне вельмі спадабалася. Другім штуршком да беларушчыны стаў фестываль маладых паэтаў Міншчыны ў 2007 годзе да 125-годдзя Янкі Купалы. Там я пазнаёміўся з сапраўднымі беларускімі паэтамі — Леанідам Дранько-Майсюком і Раісай Баравіковай. Яны зрабілі на мяне вялікае ўражанне, асабліва шляхетныя манеры і цудоўная мова сп. Леаніда.


З Музай

**Э. А.** — *Кажуць, што першы верш, як першае каханне — самы незабыўны. Ці памятаеш ты яго?*

**А. Е.-Ш.** — Так, канечне, памятаю. Неўзабаве пасля Купалаўскага фэсту ён і напісаўся. Не па гадах сур'ёзны, але вельмі наіўны.

**Э. А.** — *Мяркуючы па тваёй адукацыі, сёння на змену філалагічнаму пакаленню ў паэзіі, якое дало такіх бліскучых майстроў слова як Ніл Гілевіч, Міхась Стральцоў, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Васіль Зуёнак, прыйшло пакаленне біялагічнае... Як табе, прафесійнаму масажысту, біёлагу ўдаецца так гарманічна балансаваць паміж фізічным і духоўным светам? Гэта дапамагае ці перашкаджае табе ў творчасці?*

**А. Е.-Ш.** — Адна мая сяброўка псіхолаг сказала, што мая прафесія непасрэдна звязаная з пісьменніцтвам, бо, аказваецца, людзі, якія працуюць пальцамі, у якіх развітая дробная маторыка, маюць схільнасць да літаратуры. Проста праца — гэта праца, а вершы — гэта вершы.

**Э. А.**— *Першыя свае паэтычныя публікацыі ты падпісваў як Алесь Емяльянаў. З нядаўняга ж часу ты стаў Алесем Емяльянавым-Шыловічам... Шляхетны дадатак да прозвішча — гэта ад жадання быць больш паэтычна гучным?*

**А. Е.-Ш.** — І так, і не. У першую чаргу я зрабіў так, каб не выклікаць блытаніны з іншым Алесем Емяльянавым. Я доўга думаў, як зрабіць так, каб не браць псеўданім і адначасова застацца самім сабой. Выйсце падказаў адзін з нашых пісьменнікаў. Прапанаваў дапасаваць да прозвішча яшчэ якое-небудзь. Я абраў дзявочае прозвішча бабулі.

**Э. А.** — *У мінулым годзе ў серыі «Кнігарня пісьменніка» выйшаў твой дэбютны зборнік вершаў «Парасонечнасць», які атрымаў шырокі розгалас і высокую крытычную ацэнку. Сам жа ты падчас ягонай прэзентацыі прызнаўся, што «пакуль яшчэ шукаеш сябе» і «хістаешся ад верлібра да класічнага верша». Твае творчыя хістанні працягваюцца, ці ўрэшце рэшт ты зрабіў свой паэтычны выбар?*

**А. Е.-Ш.** — Чалавек заўсёды шукае. Пакуль я вызначыўся і схіляюся больш да верлібра. Час ад часу пішу рыфмаваныя вершы, але гэта хутчэй выключэнне. У вольным вершы мне зручней выказаць нейкія думкі, пачуцці. Рыфма іх не скоўвае і не вядзе за сабой. Але верлібры пісаць складаней, і працую я з імі болей, чым з класічнымі.

**Э. А.** — *Твой зборнік вершаў выйшаў разам з кампакт-дыскам. На кружэлцы твае аўтарскія песні ці нешта іншае? Хто ці што падштурхнула цябе да бардаўскай песні?*

**А. Е.-Ш.** — На дыску не зусім песні, там проста вершы з музычным суправаджэннем, а недзе і без яго. А песні я пачаў пісаць нават раней за вершы, дакладней, спяваць пачаў раней, чым пісаць. Але песні пішу апошнім часам усё радзей і радзей, бо пакуль я шукаю свой накірунак у музыцы і эксперыментую.

**Э. А.** — *Я ведаю, што ты з'яўляешся яшчэ й сузаснавальнікам музычнага гурта «аРБа». Што гэта за гурт? У якой стылістыцы працуе? Якога музычнага кірунку трымаецца? Дзе ўжо паспеў выступіць з канцэртамі?*

**А. Е.-Ш.** — Гурт створаны мной і маім лепшым сябрам, цудоўным чалавекам, таленавітым гукарэжысёрам і музыкам Аляксандрам Вальковым. «аРБа» расшыфроўваецца, як анархічна-рамантычна-брутальны аркестр. Стылістыку вызначыць складана, нават мы час ад часу не ведаем, як назваць тое, што мы робім. Я лічу, што музыка проста павінен пісаць добрую музыку, як і пісьменнік якасныя творы, а ў якой стылістыцы мы працуем — не так істотна. Тое самае магу сказаць пра кірунак. Аднойчы мы жартам вызначылі яго як дыска-фольк-панк, але гэта вельмі ўмоўна. Вялікіх канцэртаў і праграм пакуль не было, але паспелі атрымаць нейкі прыз на «Купалаўскіх вакацыях».

**Э. А.** — *Алесь, як ты лічыш, паэты схільныя да авантураў? Я маю на ўвазе твой удзел у жаночым слэме... Што падштурхнула цябе на такі неардынарны ўчынак?*

**А. Е.-Ш.** — Перш за ўсё — неўтаймоўная энергія і спроба выйсці з нейкіх рамак, зрабіць сабе самому свята. Шкадую, што я не пайшоў у тэатральнае. У мяне б атрымалася. А жаночы слэм — гэта менавіта рэалізацыя нейкіх акцёрскіх здольнасцяў. А паэты збольшага людзі авантурныя. І дзякуй Богу, што ў добрым сэнсе гэтага слова. Такія бяскрыўдныя жарты патрэбны. Паэт таксама павінны ўмець пераапранацца.

**Э. А.** — *Адкуль у такога «парасонечнага» паэта як ты з'явіліся такія радкі: «Калі ты паэт, абавязаны ганіць і пляміць...», «калі ты паэт, абвяргай збранзавелых ідалаў...»? Ты, насамрэч, так лічыш, ці гэта даніна сучаснай паэтычнай модзе? Таму што іначай, як паэтычным пазёрствам гэта назваць нельга... Табе не сорамна за гэты паэтычны «шэдэўр»?*

**А. Е.-Ш.** — Гэты верш не даніна модзе, і я яго спачатку напісаў, а пасля пашкадаваў, што дзесьці ён прасачыўся. Калі «Маніфест» пісаўся, я меў на

мэце спарадыраваць сучасную модную манеру пісьма сваіх калегаў па пяры, і гэты верш хутчэй носіць сцёбны характар, чым выказвае мае асабістыя думкі. Спрэчны твор, і я хваляваўся, што яго могуць не так успрыняць.

**Э. А.** — *Скажы колькі словаў пра сваё супрацоўніцтва з інтэрнэтсайтам «Тэкстура». Што ён сабой уяўляе? Якую мэту ставіць перад сабой? Чыімі творамі на ягоных старонках прадстаўлена беларускамоўная паэзія?*

**А. Е.-Ш.** — Літпартал ставіць на мэце папулярызацыю літаратуры праз інтэрнэт-прастору. Геаграфія пісьменнікаў і літаратараў вельмі шырокая. На жаль, на сайце бракуе беларускамоўных аўтараў, але я з гэтым актыўна працую і збіраюся надалей працаваць. А пакуль там ёсць вершы такіх вядомых аўтараў як Наста Кудасава, Ілля Сін, Алесь Замкоўскі, Віктар Жыбуль, Адам Шостак, Андрэй Хадановіч і шмат іншых. Сайт існуе з 2012 года, заснаваны ён Андрэем Фаміцкім, рускамоўным паэтам, маім добрым сябрам.

**Э. А.** — *Ведаю, што ты даўні сябра літаратурнай суполкі «Літаратурнае прадмесце», удзельнік паэтычнага тэатра АРТ.С, неаднаразовы пераможца шматлікіх конкурсаў... Гэта ад жадання лішні раз «засвяціцца» на публіцы ці ад імкнення да творчага сумоўя?*

**А. Е.-Ш.** — Наконт засвяціцца — гэта, па шчырасці, было ўжо даўно, але такі перыяд сапраўды быў, калі пачынаў пісаць, вельмі хацелася і туды, і туды трапіць, на сённяшні момант я магу сабе дазволіць абіраць куды пайсці, а куды не. Я стаў больш пераборлівы, ці што? Творчае сумоўе мне патрэбна ў меншай ступені. Калі я хачу параіцца ці кагосьці паслухаць, я звычайна сустракаюся з сваімі сябрамі з літаратурных суполак.

**Э. А.** — *Не так даўно ты абзавёўся сям'ёй і нават паспеў стаць бацькам...Міжволі згадаўся геніяльны Анатоль Сыс, які заўсёды казаў, што, «каб стаць сапраўдным паэтам, трэба быць жанатым толькі з паэзіяй...» Не баішся, што сямейнае шчасце можа аднойчы ператварыцца ў паэтычнае балота?*

**А. Е.-Ш.** — Калі я стаў бацькам, месяцы два не мог анічога напісаць. З аднаго боку гэта цяжка, але калі побач такая мілая, непаўторная мая дачушка, забываюся і на вершы, і на песні. Адчуваў сябе героем аднаго з вершаў згаданага Анатоля Сыса:

*Каб сагрэць каханую,*
*пілігрым спаліў свой посах,*
*які толькі адзін ведаў*
*дарогу да роднага краю,*
*вандроўны музыка — скрыпку,*
*якая помніла яшчэ прадзедавыя песні,*
*рыбак — вёслы*
*на пустэльным востраве,*
*якія не раз ратавалі яго*
*ў самыя жорсткія штормы.*



*У Таліне*

*Ці змагу я спаліць свае вершы,*
*каб агнём іх сагрэць*
*дарагога мне чалавека?*

Але цяпер магу з упэўненасцю сказаць, што калі спатрэбіцца спаліць апошняе, што маю — не задумваючыся, зраблю гэта.

**Э. А.** — *Адна з «яркіх» прадстаўніц твайго паэтычнага пакалення неяк заявіла, што «у адрозненне ад папярэднікаў, мы яднаемся не вакол нацыянальнай ідэі, а вакол літаратуры»... Насамрэч так? Што, на тваю думку, сёння павінна аб'ядноўваць маладых літаратараў у іх творчых памкненнях?*

**А. Е.-Ш.** — Трэба ствараць якасную літаратуру — гэта асноўнае. Якасную, у самым шырокім сэнсе слова, беларускую літаратуру. Гэтая ідэя і павінна гуртаваць вакол сябе творцаў.



# Ніл Гілевіч

народны паэт Беларусі. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Прафесар. Паэт, празаік, драматург, перакладчык, фальклярыст, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1980 г.). Аўтар кніг: «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Перазвоны», «Святлынь», «Родныя дзеці», «Замова ад страху» і інш. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Памёр 29 сакавіка 2016 года.

# З клопатам пра Бацькаўшчыну...

***Гэтая гутарка рыхтавалася як юбілейная, прымеркаваная да 85-годдзя Ніла Сымонавіча Гілевіча, а сталася развітальнай... Аб тым, чым жыў вялікі Паэт і Грамадзянін, што яго хвалявала да астатніх хвілін жыцця і аб чым ён клапаціўся больш за ўсё — апошняя гутарака з апошнім Народным паэтам Беларусі...***

**Эдуард Акулін:** — *Шаноўны, Ніл Сымонавіч, па іроніі лёсу, ваш юбілейны год абвешчаны ў Беларусі Годам культуры. Як вы лічыце, аднагадовая акцыя можа ўратаваць нашу культуру, ці хаця б спыніць працэс дэградацыі, які ахапіў сферу нацыянальнай культуры ў апошні час?*

**Ніл Гілевіч:** — Абвясцілі Годам культуры... І што? Ужо вызначылі хоць два-тры дзясяткі ўшчэнт зрусіфікаваных школ, якія на працягу года стануць беларускімі? Я пра такое не чуў. Ці ў два-тры разы болей беларускамоўных кніг выйдзе за гэты год у дзяржаўных выдавецтвах? І пра такое нідзе не паведамлялася. Дык пра якую культуру гаворка? Якой культуры Год? Дадуць трохі больш канцэртаў, правядуць трохі больш паказушных мерапрыемстваў... І гэта зробіць перралом у трагічным лёсе нашай нацыянальнай культуры? Гэта спыніць працэс духоўнай дэградацыі беларускага грамадства? Развіццё культуры — у адрыве ад нацыянальных традыцый, ад нацыянальнага грунту? Хто ў такія казачкі паверыць? Ну, але ж ружовы дым у вочы трэба пускаць. Без гэтага мы не можам. Дарэчы, законнае пытанне: пройдзе, закончыцца Год культуры, а далей што? А далей? Колькі будзе ўвагі праблемам культуры? Застаецца толькі цяжка ўздыхнуць...

**Э.А.:** — *Нядаўна Таварыства беларускай мовы, ля вытокаў стварэння якога вы стаялі, выступіла з ініцыятывай заснавання Нацыянальнага ўніверсітэта. Ці своечасовая такая ініцыятыва? Чаму гэтая ідэя не была рэалізаваная, у, так бы мовіць, найноўшыя часы «беларусізацыі»? Я маю на ўвазе дзевяностыя гады, калі вы асабіста ўзначальвалі пастаянную Камісію Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры й захаванні гістарычнай спадчыны?*

**Н. Г.:** — У першай палове 90-ых(1990-1995), калі я працаваў у Вярхоўным Савеце РБ, пытанне пра заснаванне асобнага Нацыянальнага беларускагаўніверсітэта не ўзнікала і не магло ўзнікнуць, бо кіраўніцтвам краіны ажыццяўляўся курс на беларусізацыю ўсёй сістэмы адукацыі — і школ, і ВНУ( пасля абвяшчэння беларускай мовы адзінай дзяржаўнай у студзені 1990-га). Падкрэсліваю: усіх ВНУ рэспублікі, і найперш БДУ — Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта(Беларускага!). На вялікі жаль, з абвяшчэннем у нас і рускай мовы дзяржаўнай(1995), цудоўны перспектыўны курс на беларусізацыю быў скасаваны, адменены, і ўсё жыццё пакацілася па рэйках нахабнай беспардоннай русіфікацыі. Па гэтых рэйках яно коціцца і да сёння. Задача ўсіх патрыётаў Беларусі — вярнуць яго на рэйкі 1991 года, на рэйкі беларусізацыі.



З Васілём Быкавым і Яўгеніяй Янішчыц.

**Э.А.:** — *У свой час Авідзій сказаў: «Часы мяняюцца і мы разам з імі»... Ці згодны вы з выказваннем старажытнага філосафа ў адносінах да сябе? На колькі змяніліся вашы жыццёвыя ідэалы і творчыя прэарытэты на шляху даўжынёй у 85 гадоў?*

**Н. Г.:** — Было б элементарна неразумна аспрэчваць выснову Авідзія. Натуральна, і я не мог быць нейкім выняткам, непадлеглым агульнай заканамернасці. Тым больш, калі на лёс майго пакалення выпалі падзеі сусветна-гістарычнага значэння, якія не маглі не прыводзіць да істотных перамен у настроях і самапачуванні кожнага члена грамадства. Больш паловы жыцця я пражыў тыповым савецкім чалавекам — з той агаворкай, што ў адрозненне ад бальшыні іншых тыповых з маладых гадоў быў зацятым «нацыяналістам», то-бок, шчырым патрыётам Беларусі, беларускай мовы і культуры. Чым бліжэй да старасці, тым больш вызваляўся ад догмаў партыйна-савецкай ідэалогіі. Пры гэтым даражыў і даражу да сёння тым лепшым, што давала чалавеку, усяля-

ла ў чалавека ідэя сацыялізму: адухоўленасць, маральная чысціня, агіда да пошласці і цынізму, да вульгарнай пражэрлівасці.

**Э.А.:** — *Назавіце, калі ласка, галоўнае, без чаго, на вашу думку, не можа існаваць сапраўдная паэзія. І ў звязку з гэтым, каго, з беларускіх і не толькі літаратараў, вы лічыце сваімі настаўнікамі?*

**Н. Г.:** — Без праўдзівасці высакароднага пачуцця, якое натхніла на паэтычны твор. Хлусня і пошласць несумяшчальныя з паэзіяй. Найбольш удзячны за навуку Максіму Багдановічу, Янку Купалу, Якубу Коласу, Францішку Багушэвічу, Аркадзю Куляшову, Пімену Панчанку... З небеларускіх — Тарасу Шаўчэнку, Аляксандру Пушкіну, Міхаілу Лермантаву, Уладзіміру Маякоўскаму, Сяргею Ясеніну, Аляксандру Твардоўскаму.

**Э.А.:** — *На вялікі жаль, некаторыя прадстаўнікі сучаснага літаратурнага пакалення прынцыпова не прызнаюць ніякіх творчых аўтарытэтаў. Для іх звычайная справа абазваць генія нацыянальнай паэзіі Янку Купалу — «Каянам Лупакам», а Максіма Багдановіча — «Няздарам-сухотнікам»... Як вы ставіцеся да такой звыклай з'явы сярод сённяшняй творчай моладзі як літаратурны нігілізм? Адкуль, на вашу думку, бярэ пачатак гэты ганебны рэцыдыў?*

**Н. Г.:** — Пачатак ганебнага нігілізму, які дазваляе беспардонна абражаць нацыянальных геніяў, гонар і славу нашай літаратуры, — у нелюбові і нянавіс-

*З аднакласніцамі.*



ці да Беларусі. У сапраўднага сына (ці дачкі) Бацькаўшчыны ніколі не павернецца язык на такое багахульства. На маё перакананне — гэта верх цынізму, і наогул — гэта антычалавечна. А значыць — гэта не мае дачынення да сапраўды інтэлегентнага асяроддзя.

**Э.А.:** — *Ці згодны вы са сцвярджэннем Бялінскага, што «Свабода творчасці — ёсць служэнне сучаснасці...»? Чым адрозніваецца ваша «сучаснасць» ад сучаснасці пісьменнікаў, якія згуртаваліся ў «Саюз пісьменнікаў Беларусі»?*

**Н. Г.:** — Мая сучаснасць — гэта мой несціханны боль за лёс Беларусі, нашай мовы і культуры. Гэта — мая пагарда і нянавісць да ворагаў Беларусі...

Што да расколу пісьменніцкай арганізацыі... Я глыбока засмучаны гэтым расколам, які з'ініцыявалі і ажыццявілі ў подлых палітычных мэтах замаскаваныя ворагі нашай свабоды і незалежнасці. На жаль, многія наіўныя дзеці Бацькаўшчыны гэтага не зразумелі і не разумеюць. У нашай трагічнай сітуацыі нам больш за ўсё патрэбна адзінства, сцэментаванае вернасцю вялікім Традыцыям, вялікім Запаветам вялікіх Бацькоў Нацыі.

**Э.А.:** — *На пачатку 2016 года ў выдавецтве «Про Хрысто» асобнай кнігай выйшла манаграфія Тамары Нуждзіной прысвечаная вашай творчасці. Як вы ацэньваеце гэтае крытычнае даследванне, і, увогуле, стан сучаснай літаратурнай крытыкі?*

*З Эдуардам Акулінім і Анатолем Вярцінскім.*



**Н. Г.:** — Манаграфію Т.С. Нуждзіной ацэньваю вельмі высока, на маё разуменне — гэта змястоўнае, глыбокае, шчырае — ад душы і сэрца — слова таленавітай даследчыцы. Лічу, што мне ў гэтым сэнсе пашанцавала.

Што датычыць стану сучаснай літаратурнай крытыкі — на жаль, не маю падстаў выказаць якое-небудзь пэўнае меркаванне: па стану здароўя чытаю зусім мала наогул і крытыку ў прыватнасці, аб чым вельмі шкадую.

**Э.А.:** — *Не сакрэт, што апошнім часам цікавасць да літаратуры імкліва падае... Што, на вашу думку, стала прычынай духоўнага збяднення нацыі — «інтэрнэтазалежнасць» сённяшніх патэнцыйных чытачоў, палітыка сучаснай улады ў галіне культуры ці адсутнасць вартых чытацкай увагі твораў? У чым вы бачыце ратаванне ад гэтай згубнай з'явы? На якой глебе праараслі парасткі сённяшняй бездухоўнасці? Ці існуе магчымасць спыніць гэты працэс, ці ён ужо незваротны?*

**Н. Г.:** — Што стала прычынай? Як казалі ў нашым баку: і гэта, і гэна, і тое. Выліць віну на пісьменнікаў — маўляў мала пішуць выдатных твораў — будзе несправядліва: ва ўсе часы пісаліся творы рознай якасці, — і выдатныя, і добрыя, і пасрэдныя, і дрэнныя! Гэтаксама і сёння. Усё залежыць ад таленту. Бяда, аднак, у тым, што і на самыя дасканалыя, нават на геніяльныя кнігі чытацкі попыт няўхільна скарачаецца. Што спыніць гэты гібельны працэс? Пытанне вельмі і вельмі цяжкое. Ці апомніцца, ці спахопіцца чалавецтва, ці і далей будзе каціцца ў бездань бездухоўнасці — адзін Бог ведае. Будзем аптымістамі, будзем верыць, што чалавечы род не для таго ўзнік на планеце, каб аднойчы бязглузда, бяздарна згінуць.

**Э.А.:** — *Цяпер, калі паўсюдная эйфарыя ад атрымання «першага беларускага Нобеля» прайшла, як вы ацэньваеце гэту падзею ў кантэксце гісторыі беларускай літаратуры?*

**Н. Г.:** — Хтось быў у стане эйфарыі, а хтось і не, і нават зусім наадварот(ведаю па водгуках). Што да мяне — на якія прэміі, на якія ўзнагароды я магу рэагаваць, калі сэрца дзень і ноч краваточыць адным болем: гіне апошняя беларуская школка, а значыць — гіне беларуская мова, беларуская культура, а з мовай і культурай — і сама Беларусь.

**Э.А.:** — *Вас, адзінага на сённяшні дзень Народнага паэта Беларусі, не засмучае факт абсалютнага замоўчвання як з боку афіцыйных улад краіны, так і з боку незалежных СМІ? У чым вы бачыце прычыну такога стаўлення да сябе?*

**Н. Г.:** — Поўнае замоўчванне з боку «афіцыйных улад» мяне засмучаць не можа — наадварот, радуе: значыць, паэт на вернай дарозе, служыць той праўдзе, што ад Бога, той, якой служылі мае вялікія папярэднікі, мае настаўнікі. Што датычыць няўвагі, а значыць і непавагі, з боку некаторых незалежных СМІ, — тут ёсць пытанне. Для мяне — пытанне-праклёнцце. Думаю, што і яны «залежаць», толькі іх залежнасць ужо іншага парадку. Я прызнаю незалежнасць толькі ў імя беларускай Беларусі. Падкрэсліваю: беларускай!

**Э.А.:** — *За апошнія дзесяць гадоў вы ўласнымі сіламі падрыхтавалі і выдалі 23-томны збор сваіх твораў. Няўжо за гэты час не знайшлося ніводнага чалавека, грамадскай інстытуцыі, або дэмакратычнай ініцыятывы, хто б прапанаваў вам хоць нейкую дапамогу ў гэтай нялёгкай і патрабуючай немалых сродкаў справе? Той жа «Саюз беларускіх пісьменнікаў», напрыклад, які мае сваю кніжную серыю і выдавецкія магчымасці ўрэшце рэшт?*

**Н. Г.:** — На самым пачатку два сябры для выдання аднаго тома пасільны ўклад зрабілі. І ўсё. Больш не было. Па той прычыне, што мае сараўдныя сябры таксама бедныя людзі. Адзінай фінансавай крыніцай была мая вартая жалю пенсія. Таму і наклад выдання: 100,70,50 паасобнікаў. Ганебна, канечне, і для дзяржавы, і для грамадскасці. Але хто адчувае гэтую ганьбу? Калі мы, беларусы, выжывем, а мы — насуперак усім злым, варожым сілам — выжывем, тады ўбачым і зразумеем усе праявы нашай нацыянальнай ганьбы, у тым ліку — і непараўнана больш значныя, чым гэта. Страшныя праявы! Такія страшныя, што ад сораму можна памерці.

Маю адчуванне, што сённяшнія маладыя беларусы пачынаюць гэта ўсё больш разумець...

**Э.А.:** — *Я ведаю, што ў вашых творчых планах працягнуць выданне Збору твораў. Што не ўвайшло ў выдадзены 23-томнік? І колькі дадатковых тамоў рыхтуецца да выдання?*

**Н. Г.:** — Так, тры гады назад я пачаў рыхтаваць да выдання Дадатак да Збору твораў. Ён будзе ў сямі тамах: паэзія, публіцыстыка, літаратуразнаўства і крытыка, эсэістыка, дзённікі, запісы з рабочых сшыткаў... Гэта тое, што па недагляду ці з нейкіх іншых меркаванняў я не ўключыў у Збор. Але — не горшае, не абы-што, як можна падумаць. Нялёгкая (у маім узросце!) праца па складанні Дадатка працягваецца, ці паспею закончыць — аднаму Богу вядома...

**Э.А.:** — *Ніл Сымонавіч, у свой час вы выступілі з ініцыятывай адмены ўсіх ганаровых званняў, у тым ліку, і звання «Народны паэт Беларусі». Цяпер, калі вы засталіся адзіным уганараваным гэтым званнем творцам, вы не памянялі сваю думку? Адсутнасць прыжыццёвых званняў у Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча і Міхася Стральцова не перашкодзіла ім быць аднымі з самых любімых беларускіх пісьменнікаў. Бо, як мне падаецца, вартасць літаратара вызначаецца не ягонымі званнямі, а ягонымі творамі... Ці я ў нечым памыляюся?*

**Н. Г.:** — Па-першае, гаворка ўзнікла таму, што за гады працы ў Вярхоўным Савеце РБ пераканаўся, як некаторыя дзеячы літаратуры і мастацтва літаральна «выбіваюць» для сябе (а нават для жонкі) гэтае ганаровае званне. Бачыць гэта было больш чым непрыемна. Асабліва, калі «выбівальшчыкам» быў пісьменнік. Па-другое, кідаўся ў вочы прыклад іншых краін: ні ў Расіі, ні ва Ўкраіне, ні ў заходне-еўрапейскіх дзяржавах ніякіх падобных званняў няма. Па-трэцяе, прыйшла вестка з Балгарыі: урад НРБ адмяніў званні ў літаратуры.




*З Янкам Брылёмц.*

І адмяніў па ініцыятыве саміх пісьменнікаў, якія ўбачылі ў гэтай завядзёнцы прыкмету правінцыйнай старамоднасці. Хоць «завядзёнка» павялася яшчэ з 1913 года: першым народным быў вялікі Іван Вазаў.

На жаль, маю ініцыятыву нашы народныя сустрэлі ў штыкі. Помню, патэлефанаваў Аляксей Дудараў, старшыня Саюза тэатральных дзеячаў: «Ніл Сымонавіч, пашкадуйце мяне: артысты заявілі, што разарвуць мяне на кавалкі, калі ганаровыя званні будуць адменены. Для іх гэта галоўны стымул творчага росту — мара пра званне...»

І аднак жа ў галіне літаратуры «завядзёнка» ўжо даўно не працягваецца. Для недасведчаных скажу, што за ўсе 25 гадоў, як маю званне, ні адну сваю публікацыю я не падпісаў з дадаткам «Народны паэт». Калі дзе-небудзь такое было — гэта рабілі ў рэдакцыі без мяне. Як і ні разу за ўсё жыццё не начапіў на грудзі ордэны і медалі — ні айчынныя, ні замежныя. Ніколі, ні разу.



*З жонкай Нінай Іванаўнай.*

**Э.А.:** — *Ці не шкадуеце аб тым, што вам прыйшлося рассакрэціць самую галоўную інтрыгу беларускай літаратуры, я маю на ўвазе — аўтарства «Сказа пра Лысую гару» ? Што прымусіла вас зрабіць гэты крок?*

**Н. Г.:** — Я меў цвёрды намер не «раскрывацца» да канца жыцця. Але з'явіўся «самазванец», які пачаў нахабна заяўляць, што аўтар «Сказа» — ён. Убачыўшы, што гэта зайшло занадта далёка і ўжо многія паверылі яму, я вырашыў прызнацца і апублікаваў вялікі — на ўсю паласу «Народнай волі» — артыкул пад назвай «Як быў напісаны «Сказ пра Лысую гару?». Пасля гэтага звяганне маіх незычліўцаў спынілася( праўда не адразу і не ўсіх).

**Э.А.:** — *У сваім славутым «Апокрыфе» Максім Багдановіч сказаў: «Калі зварухнецца душа чалавека, толькі песня здалее спатоліць яе...» Як вы ставіцеся да песеннай творчасці? Якое месца песні ў душы народа? Якую са сваіх песень лічыце самай удалай? Якая па-сапраўднаму «зварухнула» народную душу? З кім з беларускіх кампазітараў сёння вы падтрымліваеце творчыя стасункі?*

**Н. Г.:** — На сто адсоткаў згодзен з Максімам Багдановічам. Пра маё стаўленне да беларускай песні я дагэтуль расказаў у трох сваіх манаграфіях («Наша родная песня», «З клопатам пра песні народа. Паэтыка беларускай народнай лірыкі»). Люблю творчасць паэтаў, якія апіраюцца на народную песню, выка-



*З сынам Сяргеем.*

рыстоўваюць яе цудоўныя якасці. Што да маіх вершаў-песень — я далучаюся да ацэнак народа, які прыняў да душы і палюбіў бадай цэлы дзясятак («Вы шуміце, бярозы», «Жаўраначка», «У бацькоўскім кутку», «Клёны-ясені спяць», «Край мой, беларускі край», «Талісман», «Палыновая ростань» і інш.).З іх, «па-сапраўднаму зварухнула народную душу» (добра сказалі!) — гэта, думаю, «Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы», якая пайшла па ўсім былым Савецкім Саюзе і нават далёка па свеце.

Сёння мае даўнія сябры-сааўтары на маю паэзію ўвагі не звяртаюць. Ну і такой бяды... Я павек удзячны ім за тое, што яны ў свой час зрабілі.

**Э.А.:** — *Ваша перакладчыцкая дзейнасць — гэта велізарны перыяд у вашым творчым лёсе... Перакладаючы цэлымі кнігамі балгарскіх, славенскіх, украінскіх аўтараў, не шкадуеце, што столькі часу аддалі прапагандзе чужой творчасці?*

**Н. Г.:** — Мае чытачы звычайна помняць і гавораць пра мае паэтычныя пераклады, якія склалі ў Зборы твораў тры аб'ёмныя тамы. Але далёка не ўсе ведаюць, колькі мною «перавернута» на беларускую мову балгарскай прозы, а гэта: тоўсты раман, дзве аповесці, дзясяткі апавяданняў і казак... Божа, колькі на гэта я ахвяраваў творчага часу — на вялікую шкоду сваім пісьменніцкім і навуковым інтарэсам! Пазней зразумеў, што гэта была мая вялікая памылка. Як нейкае ачмурэнне найшло на мяне. Нейкая загана ў характары. Здольнасць празмерна захапляцца, ці што? Між іншым, мая мудрая Ніна Іванаўна цягам усіх тых гадоў у моцным засмучэнні выказвала мне абурэнне: «Што ты робіш? Апомніся! Ты дзярэш лыка на чужыя лапці! Хіба ты для гэтага прыйшоў на свет божы?...»

Невыпадкова ў народзе ходзіць прымаўка: «Разумных жонак трэба слухаць!» На вялікі жаль, я рабіў гэта не заўсёды.

*Нараджэнне песні*





*З Уладзімірам Караткевічам.*

**Э.А.:** — *Вы шчаслівы чалавек? Што ў вашым уяўленні патрэбна для поўнага шчасця? Ці лічыце вы, што шчасце без кахання не існуе? Ці пашчасціла вам у жыцці на сапраўднае каханне?*

**Н. Г.:** —Хіба можна пачувацца шчаслівым паэт, бачачы, які няшчасны, ашуканы, прыгнечаны, пазбаўлены нацыянальнай самасвядомасці — яго народ? Тут і каханне — толькі падтрымка, моцная, можа нават выратавальная падтрымка. Мне пашчасціла — я зведаў яго, тое сапраўднае каханне, якое са студэнцкіх гадоў вяло мяне праз жыццё поплеч з цудоўнай жанчынай.

**Э.А.:** — *Што для вас азначае сяброўства? Ці магчыма сяброўства паміж літаратарамі? Які ўчынак вы лічыце недаравальным у сяброўстве?*

*Ці маеце вы сяброў, якія не здрадзілі вам на працягу ўсяго жыцця?*

**Н. Г.:** — Сяброўства — адзін з самых каштоўных дароў Божых. Блізкае сяброўства паміж літаратарамі? Не толькі магчыма, але і не такая рэдкая з'ява. Вядома, паміж аднадумцамі, аднапалчанамі.



*З сястрой Святланай*

Здрада сяброўству — адзін з самых цяжкіх грахоў чалавечых. Я такое зведаў, перажыў. Але верных сяброў, у тым ліку і даўніх, пажыццёвых, дзякаваць Богу, маю.

**Э.А.:** — *Ці ёсць у вашым творчым лёсе ўчынкі, за якія вам сёння сорамна перад людзьмі і самім сабой? Што б вы памянялі ў сваім жыцці, каб з'явілася магчымасць прайсці яго нанова?*

**Н. Г.:** — Такіх учынкаў у сваім творчым лёсе, за якія мне было б сорамна і перад людзьмі і перад самім сабой, я не помню. Памылковыя крокі рабіў, я не святы, — памылковыя, але не подлыя. Не такія, каб сёння пакутаваць ад згрызотаў сумлення. Літаратуры і навуцы я служыў у вышэйшай меры шчыра, душой не крывячы.

Каб прыйшлося пражыць нанова... У размовах пра жыццё я гэты ўмоўны лад: каб, калі б, а вось каб — не прымаю.

**Э.А.:** — *У 2009 годзе, вы дабраславілі часопіс «Верасень» на доўгае творчае жыццё... Дзякуй Богу, не гледзячы ні на што, часопіс і па сёння жыве, пашыраючы культурную і літаратурную прастору Беларусі. Што б вы пажадалі аўтарам і чытачам выдання напярэдадні свайго слаўнага Юбілею?*

**Н. Г.:** — І тым, і другім зычу аднаго: своечасова, не запознена, пачаць думаць пра тое, як прайсці свой жыццёвы шлях з сыноўскай годнасцю, прыгожа, высакародна, а гэта значыць — у клопатах пра Бацькаўшчыну, пра яе веліч і славу.

*15 студзеня 2016 г.*



# Гурт NAVI

самы рамантычны дуэт Беларусі. Удзельнік фінала Нацыянальнага адбору на Еўрабачанне-2016. Лаўрэат прэміі «Ліра-2015» за лепшую песню на беларускай мове. Мае выступленні на песенных фестывалях у Польшчы, Расіі і Украіне. Быў заснаваны ў 2013 годзе.

# Мы не любім азірацца назад...

***Ці можа гурт узнікнуць з «абдымкаў»? Ці патрэбна быць закаханым, каб пісаць песні? Аб чым марыць самы «рамантычны дуэт» Беларусі — наша гутарка з Ксеніяй Жук і Арцёмам Лук'яненкам.***

**Эдуард Акулін:** — *Што падштурхнула вас абвясціць акцыю: «Я за беларускую мову на Еўрабачанні!»?*

**«Наві»:** — Па-першае, гэта тое, што толькі наша песня сярод 10 фіналістаў адборачнага тура была напісана і прадстаўлена па-беларуску. Па-другое, беларуская мова яшчэ ніколі не гучала на Еўрабачанні. Гэта быў бы добры эксперымент.

**Э.А.:** — *Патлумачце, калі ласка, паходжанне назвы гурта — «Наві»...*

**«Наві»:** — Назва нашага гурта не змяшчае пэўны сакрэтны сэнс. Гурт NAVI — гэта і ёсць мы і тое, што мы робім. Мы хочам, каб гэта назва была поўнай асацыяцыяй з чым-небудзь добрым, светлым, цёплым і ўтульным.

**Э.А.:** — *Як і калі ўзнік гурт?*

**«Наві»:** — Гурт быў створаны выпадкова. Нашае знаёмства прывяло да стварэння песні «Абдымі мяне», пасля якой мы вырашылі, што нам трэба прцягнуць працу. Толькі зараз, пасля неверагоднай колькасці падзей азіраешся і разумееш, што ўсё далёка невыпадкова.

**Э.А.:** — *Хто ці што прымусіла вас звярнуцца да беларускай песні?*

**«Наві»:** — Па-першае, нас ніхто не прымушаў))). Гэта было абаюднае рашэнне пачаць нашу творчасць з беларускай мовы. Вялікі ўплыў на Арцёма аказала беларускамоўнае выхаванне і навучанне ў Глыбоцкай раённай гімназіі. Ксюша не была так блізка да мовы, але паступова прыйшла да таго, што нават піша песні па-беларуску.

**Э.А.:** — *Працэс стварэння песні ў гурце «Наві» — калектыўны ці персанальны? Хто з вас піша словы? Каму належыць музыка?*

**«Наві»:** — У самым пачатку працэс стварэння песень быў калектыўны, бо два чалавекі — гэта ўжо калектыў. Мы разбіраем песні разам, пасля дапрацоўваем з музыкамі. Але ж аснову складаем разам.

**Э.А.:** — *Што для вас даў удзел у «Бардаўскай восені — 2014» ?*

**«Наві»:** — Мы калісьці думалі падаць заяўку на ўдзел у конкурсе «Бардаўскай восені», але ж так сталася, што нас запрасілі, як артыстаў. Удзел у фестывалі нас вельмі натхніў на стварэнне акустычнага беларускамоўнага альбома «Сонцам сагрэтыя». І пасля ўжо на наступным фестывалі ў 2015 мы прывезлі дыск, выказаўшы падзяку. Гэта быў вынік мінулай паездкі. Гэта цудоўна.

**Э.А.:** — *Вашы адчуванні ад канцэрта ў орлінскай сінагозе...*

**«Наві»:** — Мы вельмі любім выступаць у незвычайных месцах. Гэта натхняе і застаецца ў памяці. Гэта быў цудоўны канцэрт. Энергетыка месца неверагодная, некаторыя песні адчуваеш па-іншаму.

**Э.А.:** — *Якія яшчэ «экзатычныя» сцэны абжыў гурт «Наві»?*

**«Наві»:** — Аднойчы мы выступалі на прыцэпе аўтамашыны часоў Вялікай Айчыннай вайны падчас аднаго фестывалю. Справа адбывалася на полі за горадам, і аўто паслужыла своеасаблівай сцэнай. Аднойчы нам давялося граць сярод карцін у Нацыянальным мастацкім музеі. Атмасфера была вельмі творчая. Ды і людзей было шмат. Было крута. Таксама ў мінулым годзе мы адыгралі некалькі гадзінных канцэртаў у розныя дні ў Маскве на лядовым катку ВДНГ.

**Э.А.:**— *У якой музычнай стылістыцы вы працуеце? Ці трапляе бардаўская песня ў ваш творчы дыяпазон?*

**«Наві»:** — Мы не лічым сябе бардамі і ніякім чынам не адносім сваю музыку да бардаўскай творчасці. Усё ж бардаўская песня — гэта больш самадзейная праца, музыка для душы і сяброў. Мы лічым сябе прафесійным калектывам, бо сваёй творчасцю мы і зарабляем грошы. Наконт музычнай стылістыкі — мы адносім сябе да стылю indie-folk.

**Э.А.:** — *Ваш удзел у конкурсным адборы на Еўрабачанне — сур'ёзная заяўка ці жаданне лішні раз прапіярыцца?*

**«Наві»:** — Мы не ведаем, як адказаць дакладна на гэта пытанне. Наша мэта — расказаць пра нашу музыку як мага большай колькасці людзей. Гэта была добрая магчымасць, каб нас пачулі, каб мы цікава правялі час, заспяваўшы на сцэне фінала. Усё ж, калі ў нас будзе вартая песня ў наступным годзе — мы абавязкова паспрабуем свае сілы яшчэ раз.

**Э.А.:** — *Ці лічыце вы рашэнне журы конкурсу справядлівым? Якія, на вашу думку, вы мелі шанцы на перамогу ў Еўрабачанні?*

**«Наві»:** — Займацца разборам працы журы конкурсу мы не вельмі хочам. Нам вельмі спадабалася спяваць там, прымаць столькі слоў падтрымкі і падзякі. Еўрабачанне не з'яўляецца нашай галоўнай мэтай, таму атрымалася так, як атрымалася.





**Э.А.:**— *Як вы ставіцеся да сцэнічнага эпатажу? Намер Айвана выступіць на Еўрабачанні голым у атачэнні ваўкоў — гэта, на ваш погляд, — што?*

**«Наві»:** — Гэта магчымасць прывабіць увагу.

**Э.А.:** — *Ці бачыце вы пэўную сімволіку ў тым, што гурт «Наві» быў заснаваны 14 лютага 2013 года, менавіта ў Дзень закаханых?*

**«Наві»:** — Па-першае, гэта не дата заснавання, а дата нашага знаёмства. Але ж сімвалічнасць адпаведна ёсць. Нездарма наш вялікі сольны канцэрт прайшоў у гэтым годзе менавіта 14 лютага.

**Э.А.:** — *Ці закаханыя вы адзін у аднога? Ці дапамагае вам каханне ў творчасці?*

**«Наві»:** — Каханне і ёсць наша жыццё. Гэта самае дарагое, што ёсць у кожнага чалавека. Безумоўна, гэта галоўная крыніца натхнення.

**Э.А.:** — *Ці праўда, што да сустрэчы ў гурце «Наві» вы, Ксенія, і вы, Арцём, існавалі ў супрацьлеглых музычных плынях?*

**«Наві»:** — Гэта праўда, але мы не вельмі любім азірацца назад. У гэтым інтэрв'ю мы і так шмат азіраемся)))).

**Э.А.:** — *Няўжо сапраўды спрацаваў закон прыцягнення супрацьлегласцяў?*

**«Наві»:** — Мы лічам, што не без гэтага. Але ж мы не зусім супрацьлегласці, як гэта можа паказацца. Вельмі важна, каб баланс у жыцці чалавека быў хаця б на 50 адсоткаў. Гэта адносіцца да дзеянняў, імкненняў, да стаўлення да жыцця і спробе зразумець і вызначыць наяўнасць балансу.

**Э.А.:** — *Якую ролю сыграла ў вашым творчым лёсе Дзіяна Арбеніна?*

**«Наві»:** — Так атрымалася, што наша сустрэча адбылася, калі нам было толькі паўгады. Гэта неверагодным чынам узрушыла нас. Зайграўшы на адной сцэне і пасля паразмаўляўшы, мы атрымалі вялікую падтрымку. Мы вельмі ўдзячны Дзіяне Арбенінай за гэта. Мы жадаем кожнаму пачынаючаму музыканту сустрэць такога ж натхніцеля. Гэта сапраўды абуджае на працу.



Пасля такіх сустрэч і канцэртаў ты кажаш сабе, што ўсё атрымаецца, што мы будзем працаваць яшчэ больш. Гэта важна.

**Э.А.:** — *Ці верыце вы ў забабоны? Ці маеце сцэнічны талісман?*

**«Наві»:** — Так мы вам усё і расказалі)).

**Э.А.:** — *Кажуць, што «першы блін» заўсёды атрымоўваецца комам... Ці задаволены вы сваім дэбютным альбомам «Лаві!»?*

**«Наві»:** — Шчыра кажучы, зараз мы некаторыя песні ўвогуле не можам слухаць. Амаль усе)))). Хочацца ўсё перапрацаваць і перапісаць. Але ж без гэтай заканамернасці нікуды. Мы працуем і ідзем далей. Дзякуй Богу, ёсць куды.

**Э.А.:** — *Якое «сонца» вас грэла пры запісе аднайменнага акустычнага альбому?*

**«Наві»:** — Сонца кахання і жаданне падзяліцца ім з усімі.

**Э.А.:** — *Ваша перамога ў музычнай прэміі «Ліра» — творчы аванс ці заслужаная ўзнагарода?*

**«Наві»:** — Мы лічам, што песня «Абдымі мяне» сапраўды заслужана атрымала гэту прэмію. Менавіта з-за гэтай кампазіцыі ў нас пайшла праца, канцэрты, інтэрв'ю і рух наперад. Да таго ж, на сольных канцэртах мы гэту песню амаль толькі граем, а не спяваем, бо людзі спяваюць яе за нас. Гэта і ёсць сапраўднае адлюстраванне пэўнага поспеху.

**Э.А.:** — *На якіх сцэнах і перад кім вам найбольш камфортна выступаць?*

**«Наві»:** — Самыя лепшыя канцэрты — сольныя. Калі ты можаш падтрыхтаваць сцэну для сябе. Быць упэўненым у кожным чалавеку на пляцоўцы. Быць упэўненым у сваім гледачу і слухачу, а яны ў нас неверагодныя. Прыгожыя, светлыя, адкрытыя і разумныя. Мы вельмі ганарымся нашымі прыхільнікамі.

**Э.А.:**— *Аб чым марыць гурт «Наві»?*

**«Наві»:** — У нас ёсць мара атрымаць Грэмі і выступіць на адной сцэне са Сцінгам.

**Э.А.:** — *Цудоўная мара! Шчыра жадаю, каб яна аднойчы спраўдзілася...*



# Андрусь Такінданг

**музыка, мастак, спявак, паэт, тэлевядоўца, рэжысёр. Скончыў Гімназію-каледж мастацтваў імя Ахрэмчыка і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры. Кіраўнік музычных гуртоў «Рэха» і «Гаротніца». Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

# У спадзяванні на Бога...

***Слава пра гэтага маладзёна коціцца «Рэхам» ад Віцебска да Брэста і ад Гомеля аж да Гародні... Сёння яго можна пабачыць з домрай у руках на экране БТ, а заўтра ён «гаротнічае» ў падземным пераходзе на плошчы Перамогі... Ён мог бы запраста без грыма сыграць Атэла ў аднайменнай трагедыі Уільяма Шэкспіра... Бо ён — гэта вядомы беларускі музыка, мастак, паэт, тэлевядоўца і рэжысёр Андрусь Такінданг.***

**Эдуард Акулін:** — *Андрусь, вас не бянтэжыць, што ваша этнічнае вызначэнне як «афрабеларус» — гучыць як моўны антонім? Чорны бусел — гэта яшчэ куды не йшло... Чорны гумар — таксама... А вось чорны беларус — гэта сапраўдны нонсенс... Як лічыце — гэта ваш жыццёвы вырак ці наадварот падарунак лёсу?*

**Андрусь Такінданг**: — Колер скуры мяне не бянтэжыць, я звыкся са сваім выглядам, спадзяюся, што і для большасці маіх суграмадзян гэта не з'яўляецца перашкодай. Вядома, сумна, калі ступень пігментацыі з'яўляецца крыніцай станоўчай ці адмоўнай увагі, але такіх выпадкаў няшмат, усё ж беларуская супольнасць адэкватная і цывілізаваная.

**Э.А.** — *Я ведаю, што ваш бацька, ураджэнец Рэспублікі Чад, — па адукацыі матэматык. Што ці хто падштурхнуў вас зрабіць крок насустрач Творчасці? Вучоба ў мастацкім каледжы Ахрэмчыка — гэта ваш свядомы выбар ці жаданне бацькоў — адгарадзіць сваё «чада» ад згубнага ўплыву вуліцы?*

**А.Т.** — Пачатковую школу я наведваў у вёсцы Чэрцы, дзе жыў у дзядулі. Тады і пачаў маляваць, родныя заахвочвалі і падтрымлівалі мае мастацкія высілкі. Каледж Ахрэмчыка, у народзе названы "Парнат", стаў лагічным завяршэннем дзіцячага жывапіснага перыяду. Я пераехаў у Мінск і распачаў у "Парнаце" прафесійнае мастацкае навучанне. Каледж Ахрэмчыка не Суворaўская вучэльня, там не схаваешся ад "шкодных" уплываў вуліцы. На час майго навучання каледж быў найперш месцам, дзе панаваў вольны мастацкі, хуліганскі дух.

**Э.А.** — *Дзе вы падхапілі «вірус» Беларушчыны? Як уздзейнічае беларуская мова на вашых суразмоўцаў?*

**А.Т.** — Мая маці — беларускамоўная, таму выраз "матчына мова" для мяне цалкам натуральны. У дадатак асяродак, навучанне спрыялі маёй "беларусізацыі". Суразмоўцы напэўна здзівіліся, калі б Андрусь раптам змяніў мову.

**Э.А.** — *Доўгі час разам з Аленай Анісім вы былі вядоўцам перадачы «Беларуская мова» на АНТ, заявіўшы ў адным з інтэрв'ю, што трапілі на тэлебачанне выпадкова... Гэта як?*

**А.Т.** — Прапанова ўдзельнічаць у тэлепраекце была для мяне нечаканай, але прыемнай. Студыя здымала рэкламу, для роліка патрэбны быў мой ты-

паж. Рэкламны ролік малака, здаецца, так і не выйшаў, але мая беларуская мова натхніла здымачную групу на стварэнне лінгвістычнай перадачы.

**Э.А.** — *Патлумачце, калі ласка, сваё выказванне: «Не трэба махаць мовай, як сцягам...» Вы сапраўды лічыце, што двухразовыя ўрокі роднай мовы па БТ могуць уратаваць беларусаў ад нацыянальнага нігілізму? Што неабходна для таго, каб карэнным чынам змяніць сітуацыю з беларускай мовай у Беларусі?*

**А.Т.** — Мова існуе, калі функцыянуе, калі з'яўляецца сродкам сувязі, камунікату між людзьмі. Мова жыве, найперш у побытавым, а не ў гераічным, паэтычным, мастацкім фармаце. Калі мова ператвараецца ў сцяг, поле яе жыццядзейнасці значна звужаецца, абмяжоўваецца. Цяпер беларуская мова пазбаўляецца ад німбу элітарнасці, моўныя курсы, музычныя гурты, маладыя моднікі, раварысты, каталіцкі касцёл спрыяюць моўнаму ўнармаванню.

Чакаю тых часоў, калі выпадковыя суразмоўцы не будуць дзякаваць за беларускую мову. Для гэтага неабходна прынцыповая дзяржаўная пазіцыя, беларускамоўнае чынавенства, беларускамоўная школа і праца музыкаў, мастакоў.

**Э.А.** — *Што прымусіла вас арганізаваць гурт «Рэха»? Чаму менавіта фольк-мадэрн абраны як асноўны стылістычны накірунак гурта? Вы прыхільнік танцавальнай музыкі?*

**А.Т.** — На самой справе, гурт Recha не працуе ў стылістыцы фольк-мадэрна, не ведаю, чаму гэта вызначэнне прычапілася да нас. Калі казаць пра музычны накірунак, то гэта хучэй, рок ды шансон. Напісаннем песень я пачаў займацца ў старэйшых класах, акурат тады знаходзіўся пад уплывамм беларускага року. Стварэнне музыкі выдавала на чараўніцтва, вельмі хацелася спрычыніцца да гэтага магічнага дзейства. Што тычыцца танцавальнай музы-

*Гурт* Recha.





кі, як і лірычнай, магу адказаць станоўча, я прыхільнік усякай музыкі. У юнацтве моцна пільнаваўся музычнай "правільнасці"(толькі рок!), цяпер жа кіруюся музычным плюралізмам (усё цікава).

**Э.А.** — *Ці згодныя вы з выказваннем, што беларусы створаны толькі, каб «гараваць і змагацца»? Чаму тады ўзнік новы музычны праект «Гаротніца»? «Ска-джаз-рэп-панк» — ці не занадта шырокі стылістычны дыяпазон для аднаго гурта? Можа варта было б скіраваць творчыя намаганні на нейкі адзін накірунак? Той жа джаз — гэта цэлы акіян у сусвеце музыкі...*

**А.Т.** — З майго гледзешча, беларусы імкнуцца максімальна ўнікнуць памежных, скрайніх станаў. Мы імкнемся да "нармальнасці", да "сярэдзіны". У большасці беларусы не гатовыя а ні гараваць, а ні змагацца. Мы прагнем "святога спакою". Harotnica (першапачатковая назва "спевы прастытутак") задумвалася, як філасофскі праект, як галашэнне самотнай душы да Бога. Дэструктыўны, нязручны, скіраваны супраць слухача, такім мусіў быць гэты праект. Аднак цяпер, Harotnica наблізілася да эстрады, адышла ад першапачатковай сваёй экзальтаванасці. Harotnica ўзнікла таму, што была неабходнасць выказвацца пранізліва, надрыўна, была неабходнасць у галашэнні.

**Э.А.** — *Мне вельмі падабаецца ваша праца ў выяўленчым мастацтве. Прынамсі, цыкл карцін прысвечаны біблейскай тэматыцы... Здаецца, такога яшчэ не было ў гісторыі беларускага іканапісу... Але існуе строгі канон іканапіснага мастацтва. Вас не папракалі ў парушэнні гэтага мастацкага канону?*

**А.Т.** — Дзякуй! Ёсць розныя традыцыі іканапісу: строгі візантыйскі канон, больш вольны заходні рэлігійны жывапіс, ёсць беларускі народны іканапіс. Калі працую ў рэлігійнай тэматыцы заўжды азіраюся на выпрацаваныя каноны, імкнуся захоўваць сутнасць іканапіснага мастацтва. Але, вядома, мае рэлігійныя карціны не прэтэндуюць на ўзорнасць.

**Э.А.** — *Напісанне вершаў — гэта для вас вытворчая неабходнасць ( як тэксты для песень) ці творчае пакліканне? Калі плануецца выхад вашай першай паэтычнай кнігі?*

**А.Т.** — Даўно не пісаліся вершы, усё больш тэксты для песняў. Словы нараджаюцца адначасна з музыкай, вытворчасць і творчасць у сяброўскіх стасунках. Выдаваць паэтычны зборнік не планую, працую над чарговым музычным альбомам.

**Э.А.** — *Вы чалавек горада ці вёскі? Што вас натхняе на паэзію? Ці праўда, што перад напісаннем вершаў вы, як Уладзімір Караткевіч, апранаеце белую кашулю? Дзеля чаго вы гэта робіце?*

**А.Т.** — Сваё дзяцінства я правёў у вёсцы, гэта шмат у чым мяне сфармавала, але ўсё ж я месціч. У Менску мой дом. Так, была смешная гісторыя з белай кашуляй, у пачатковай школе я гуляўся ў "паэта" і пад уплывам Караткевіча спрабаваў пісаць вершы за сталом у гарнітуры, трэба будзе як-небудзь паўтарыць дзіцячы вопыт.

**Э.А.** — *Аднойчы вы сказалі, што ваш творчы дэвіз: «Смех і шчасце скрозь прыносіць людзям...» Амаль такі ж, як у музыкаў з Брэмена... Таму вы так любіце выступаць на вяселлях і карпаратывах? Вас не бянтэжыць, што градус радасці на такіх мерапрыемствах узрастае разам з градусам выпітага алкаголю?*

**А.Т.** — Паколькі Recha працуе ў рэчышчы папулярнай музыкі, то выступы на карпаратывах, вяселлях для нас надзвычай важныя. Менавіта там можа быць найбольш строгая, патрабавальная публіка. Выступ на карпаратывах — гэта, як іспыт, экзамен на прафгоднасць для музыкаў. Ну і, вядома, такія канцэрты дазваляюць артысту жыць.

**Э.А.** — *У чым шчасце Андруся Такінданга? Гэта праўда, што можна быць шчаслівым жабраком? Ці гэта проста метафара нашага сённяшняга жыцця?*

**А.Т.** — Маё шчасце ў спадзяванні на Бога. Так, напэўна, нехта можа быць шчаслівым жабраком, але не кожны.

**Э.А.** — *Раскажыце, калі ласка, пра самыя рамантычныя выпадкі, якія здараліся падчас вашых канцэртаў... Гэта праўда, што пасля вашага выступу на адной з плошчаў Магілёва вулічная прадавачка кветак падарыла вам увесь свой латок з таварам?*

**А.Т.** — Пра Магілёў не памятаю, але падарункі атрымліваем. Да прыкладу аўтарскі торт пад назвай "Усмешка Андруся". Маю свой партрэт прэзентаваны падчас аднаго з канцэртаў. Былая скрыпачка і цяперашні басіст Recha пазнаёміліся ў гурце, на сёняшні момант у іх цудоўная сям'я, дзве прыгожыя дачкі.

**Э.А.** — *Вас не бянтэжыць, што гурты «Рэха» і «Гаротніца» запрашаюць на выступы афіцыйныя ўстановы ўлады... У той час, калі забараняюцца канцэрты іншых беларускіх музыкаў?*

**А.Т.** — Рады за сябе, перажываю за калег. Уздымаю пытанне адносна чорных спісаў пры любой магчымасці. Нядаўна размаўляў пра гэту праблему на АНТ.



*Гурт Harotnica.*

**Э.А.** — *Што для вас з'яўляецца крытэрам жаночага харастваʼ? Якой павінна быць вашая абранніца? Якое месца каханне займае ў вашай творчасці?*

**А.Т.** — Прага кахання стымулюе творчасць. Жаночая краса разнастайная, мне цяжка вылучыць агульны крытэр. Мая абранніца прыгожая і пяшчотная, разумная і верная.

**Э.А.** — *І напрыканцы невялікая бліцапытанка:*

*Ваша любімая песня:* на дадзены момант гэта выканаўца Stromae і яго твор "Formidable".

*Ваша любімая кветка:* дзядоўнік (не ведаю толькі на колькі ён кветка).

*Ваша любімая кніга:* на гэтыя тры гады — Вінцук Адважны. «Выбраныя творы».

*Ваш любімы горад:* Менск.

*Ваша любімая пара года:* лета.

*Ваш любімы музычны інструмент:* голас.

**Э.А.** — *Дзякуй, сп. Андрусь, за цікаую гутарку. Новых творчых здзяйсненняў!*



# Людміла Шчэрба

**празаік, паэтка, спявачка. Аўтар рамана-фільмаслова «Уладар рыбаў» (электронная кніга, 2016 г.), нанарамана-правакARTцыі «Урб@н.М: Адзін дзень майго жыцця» (2017 г.). Нарадзілася ў 1973 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

# Для мяне важная гармонія...

***З яе знешнасцю, музычнай адукацыяй і вакальнымі дадзенымі яна магла стаць беларускай попдзівай і заваёўваць эстрадныя залы як у Беларусі, так і за яе межамі. А яна замахнулася на большае — захацела стаць вядомай пісьменніцай... Для гэтага трэба няшмат — напісаць адзін, а лепей два, таленавітыя раманы... Што яна, мая суразмоўніца Людміла Шчэрба, і зрабіла.***

**Эдуард Акулін:** — *Спадарыня Людміла, амаль адначасовы выхад вашых раманаў «Уладар рыбаў» і «Урб@н.М: Адзін дзень майго жыцця» выклікаў велізарную цікавасць як сярод шараговых чытачоў, так і ў асяродку літаратурных крытыкаў. Тым не менш, шырокаму колу чытачоў ваша імя яшчэ мала вядома. Калі ласка, распавядзіце крыху пра сябе...*

**Людміла Шчэрба:** — Не дужа люблю, калі трэба ўцісквацца ў прасторавачасавы каркас пад назовам «Мая біяграфія», таму майму раману «Урб@н.М» папярэднічае жартоўная аўтабіяграфія — для аматараў павесяліцца з гэтага нуднаватага жанру. Ну а калі па парадку, дык нарадзілася я ў Мінску. І, наслухаўшыся ад маці дарослай і дзіцячай паэзіі, з уласнага верша гады ў чатыры распачала сваю сцежку ў літаратуру, якая прывяла мяне спачатку ў радыёперадачу «Першыя сцяжынкі» паэта Міколы Чарняўскага, потым на філфак БДУ, у літаб'яднанне «Першацвет» пісьменніка Алеся Масарэнкі ды ў аспірантуру Інстытута літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Ну і, вядома ж, друкавалася ў розных беларускіх выданнях, удзельнічала ў перадачах на радыё ды тэлебачанні.

**Э.А.:** — *Наколькі я разумею, абодва творы напісаны ў постмадэрновых традыцыях. Аб гэтым яскрава сведчаць іх жанравыя вызначэнні: раманфільмаслоў і нанараман-правакARTцыя... Здаецца, такога яшчэ не было ў гісторыі беларускай літаратуры. Таму — колькі слоў пра жанравыя адметнасці вашых раманаў...*

**Л.Ш.:** — Сапраўды не было, і не толькі ў беларускай літаратуры. Гэта мае аўтарскія жанры. Адзінства зместа і формы ўласна і ўтварае мастацкі твор. Чым больш складаны змест, тым больш багатай павінна быць і форма. Згодна з Гегелем, цэласнасць твора вынікае з творчай канцэпцыі: адзінства разумеецца як падпарадкаванне кожнай дэталі ідэі — яно ўнутранае, а не знешняе. Таму скажу, што наўмысна я нічога не выштукоўвала і не прыдумляла, гэтыя формы нарадзіліся натуральна разам са зместам. «Уладар рыбаў» — фільмаслоў, бо словы і вобразы тут настолькі выразныя і інтэрактыўныя, што, калі чытаеш, ствараецца ўражанне, нібы глядзіш кіно. Нана-арт як візуальны від мастацтва ўзнік на мяжы навукі, мастацтва і тэхнікі — гэта стварэнне «скульптур» і «пейзажаў» нанапамераў пад уздзеяннем

хімічных ці фізічных працэсаў апрацоўкі матэрыялаў ды фатаграфаванне гэтых нанавобразаў з дапамогай электроннага мікраскопа. Заснавальнік яго — румынскі вучоны і мастак Крыс Арфеску. Нішто тэхналагічнае літаратуры не чужое. І ўсё, што тычыцца новых тэхналогій у мастацтве ў цэлым, пранікае і ў літаратуру ў прыватнасці. «Урб@н.М» складаецца з невялічкіх частачак (смс-перапіскі, каментаў на форуме ў сацсетках, правілаў жыцця і г. д. — бо хуткасць жыцця вымагае кароткай формы для інфармацыі), як своеасаблівы літаратурны пэчворк — гэтакая лапікавая тэкставая коўдра — адсюль вызначэнне нанараман. А яшчэ і таму, што зрухі чалавечай душы ў рамане літаральна прэпаруюцца і разглядаюцца настолькі пільна, пры максімальным набліжэнні, што ты нібы жывеш у гэтым псіхалагічным нанасвеце. А правакARTцыя — здольнасць тэкста справакаваць чытача, выклікаць эмоцыі, суперажыванні сродкамі мастацтва.

**Э.А.:** — *Вас не бянтэжыць, што выкарыстанне ў рамане «Урб@н.М» такога мастацкага прыёму, як літаратурны рэмікс, можа выклікаць абвінавачванне ў мастацкай кампіляцыі?*

**Л.Ш.:** — Тут трэба крышачку расставіць акцэнты, каб не заблытацца ў азначэннях. Рэмікс — гэта пераробка, новы варыянт старога твора. Кампіляцыя — твор, складзены са звестак, запазычаных з чужых твораў. Ні першым, ні другім «Урб@н.М» не з'яўляецца, усё не так просталінейна. Як і «Уладар рыбаў», гэта постмадэрновы раман з характэрнымі прыкметамі: тэкставай шматузроўневасцю, цытатнасцю, алюзіямі, «іранічным модусам» і г. д. Ён разлічаны на любога чытача. Дзякуючы такой асаблівасці постмадэрновых твораў, як «падвойнае кадаванне» (тэрмін уведзены Ч. Джэнксам і Т. Д'анам), постмадэрновы твор, выкарыстоўваючы матэрыял і тэхніку масавай культуры, валодае прывабнасцю як для не асабліва адукаванага ў мастацтве чытача, так і для самага дасведчанага — дзякуючы іранічнай трактоўцы і парадыйнаму пераасэнсаванню іншых твораў, іх сюжэтаў і прыёмаў. Якраз новы для беларускай літаратуры прыём мэшап (ад англ. mash-up — «змешваць кампазіцыі») я выкарыстоўваю ў рамане «Урб@н.М». Мэшап мае на ўвазе кампаноўку(!) дзвюх крыніц у адну, якая з'яўляецца арыгінальным творам. Толькі ва «Урб@не.М» іх не адна, а некалькі: Баркалабаўскі летапіс, навуковыя манаграфіі, біблейская прытча пра Адама ды Еву, старажытная легенда пра Ліліт — на грунце арыгінальнага аўтарскага тэкста. Разам з гэтым нароўні з выдуманымі персанажамі дзейнічаюць рэальныя гістарычныя асобы (напрыклад, Януш Радзівіл, каралева Людвіка Ганзага, Канстанцін Паклонскі). Таму, канешне, і не дзіўна, што ў гэтай мастацкай насычанасці можна паддацца на правакARTцыю і трапіцца на вуду спрошчанага звыклага ўспрымання, а аналіз падмяніць абвінавачваннямі.

**Э.А.:** — *Як вы ставіцеся да літаратурнай крытыкі на свой адрас? Якія пачуцці выклікае ў вас такая прыкрая з'ява, як літтролінг? Чаму неабходна бараніць пісьменніка ад крытыкі?*

**Л.Ш.:** — Да крытыкі — абсалютна нармалёва. Толькі тут усё трэба называць сваімі імёнамі. Літаратурная крытыка — гэта аргументаваны аналіз на грунтоўнай літаратуразнаўчай і агульнакультурнай базе. Водгук — гэта прыватнае, больш эмацыйнае меркаванне, якое тым не менш таксама мае на ўвазе хаця б элементарнае валоданне літаратурнымі паняццямі. На жаль, сёння ў асноўнай масе назіраецца поўнае неразуменне самога паняцця «літаратурная крытыка». За яго выдаюць дзіцячыя гульні ў Белінскага, у якіх ролі вызначаныя адпачатку: пісьменнік — дурань, крытык — разумнік, які ўпэўнены, што твор трэба «бэсціць», не грэбуючы нават абразай. Твор трэба — аналізаваць! А інакш гэта ўжо тролінг — тонкі або тоўсты, залежыць ад культурнага ўзроўню і выхавання. З аднаго боку, гэта піяр для твора, і негатыў уздзейнічае заўсёды мацней ад пазітыву. З другога — асноўная маса не хоча разбірацца ў «тонкасці» ды «таўшчыні», і атрымліваецца, як у тым анекдоце: «Ці спадабалася вам опера? — Не! — А вы слухалі? — Не, мне Рабіновіч наспяваў — не спадабалася». Хочацца, каб людзі мелі сваё меркаванне, а не з чужога голасу. Ну а свайго троля трэба заслужыць. Бо чалавек жа вас вылучыў, выдаткоўвае на вас свой час ды высілкі адпаведна свайму розуму. Значыць, усё не марна — калі да пазітыву ўзнікае негатыў, да правіла — выключэнне, да гарэлкі — піва і да ласося — мармелад. Так што, асобны дзякуй, за іх тужлівую працу. А бараніць трэба ад абразы і неразумення.

**Э.А.:** — *У сваім літаратуразнаўчым эсэ «Крытыка Tabula rasa» вы выказалі занепакоенасць адсутнасцю ў сучаснага чытача «смакавых рэцэптараў», неабходных для правільнай дэгустацыі твора і распазнання сапраўднай літаратуры з «першых нот»... Што, на вашу думку, уплывае на фармаванне мастацкага густу чытача?*



**Л.Ш.:** — Штодзённае існаванне ў нашай інфармацыйнай прасторы — калі любыя крыніцы інфармацыі метадычна б'юць па асноўных кропках чалавечай успрымальнасці: смерць, грошы, сэкс, дзеці, пасяховасць і г. д. — ператварае чалавека ў таўстаскурую істоту, бо гэта ягоная адэкватная ахоўная рэакцыя. Таму ў мяне выклікае захапленне эмацыйная жывучасць чытача і яго здольнасць да эмпатыі. Але ж і занепакоенасць, што ўжо выхавалася пакаленне, для якога Дэн Браўн — гэта навуковая літаратура, а Каэльа — філасофская, хаця насамрэч — прыгодніцкая ды псіхатэрапеўтычная. Лекі для смакавых рэцэптараў і мастацкага густу — чытанне класікі, беларускай, сусветнай, рускай, ды разумнае сумненне да рэкламы.

**Э.А.:** — *Ведаю, што, як творца, вы пачыналі з вершаў... Чым абумоўлены пераход да суровай прозы: набытым жыццёвым досведам, неабхонасцю выказацца па-новаму, узроставым бар'ерам ці нечым іншым?*

**Л.Ш.:** — Так, пачынала з вершаў, але ж у тым жа «Першацвеце» друкаваліся і мае лірычныя замалёўкі ды апавяданні. Проза, відаць, сапраўды проста іншая форма выказвання для мяне. Тут, магчыма, прасочваецца больш глабальная тэндэнцыя. Калі адбываецца нейкая падзея, першы водгук на яе — эмацыйны. Нездарма першымі заўсёды выказваюцца паэты. Проза ўжо мае на ўвазе асэнсаванне і аналіз, а ён робіцца зазвычай, калі эмоцыі ўжо крыху ўлягуцца. Магчыма, жыццёвы вопыт надае большую глыбіню выказванню ў прозе. Але ж і вершы я не кінула...

**Э.А.:** — *Ці мае права на існаванне літаратурны «шырспажыў»? Ваша стаўленне да так званай «канвеернай» літаратуры? Па якіх крытэрах адрозніваецца сапраўднае мастацтва ад мастацкай прафанацыі?*

**Л.Ш.:** — Калі ёсць попыт, то будзе і прапанова. Думаю, усё мае права на існаванне, аднак чытач павінен разумець, з чым ён мае справу — з літаратурнай папсой (калі не шкада часу, можна не напружваючыся яго бавіць), класікай, андэграўндам, псіхадэлам або цяжкім рокам ці чым іншым. Знарок выкарыстоўваю музычную тэрміналогію, бо музыкі ўжо прывучылі людзей разумець і арыентавацца ў музыцы «для ног» і «для душы». Задача пісьменнікаў — выхаваць пісьменнага чытача. Бо прафанацыя вынікае з невуцтва, са зняважлівага стаўлення да мастацтва, але — увага! — ненаўмыснага. Таму трэба яшчэ ў дзяцінстве рабіць прышчэпку ад канвеернай літаратуры — чытаць усё лепшае, што створана майстрамі за ўсю гісторыю існавання літаратуры, тлумачыць і навучаць думаць. Не даваць дзіцяці кожны раз рыбу, а даць адзін раз вуду і навучыць лоўлі. Крытэры — тэма вечная, якая выклікае шмат спрэчак і па сённяшні дзень. Таму назаву толькі адзін крытэр сапраўднага мастацтва — майстэрства.

**Э.А.:** — *Як вы лічыце, ці патрэбны сучаснаму пісьменніку піяр-менеджар? Ці пра сваю літпапулярнасць павінны дбаць сам творца? Якія формы піяр-маркетынгу найбольш эфектыўныя на сённяшні дзень?*

**Л.Ш.:** — У творцу рэдка спалучаюцца талент пісьменніка і талент піяршчыка — гэта велізарная ўдача. Я за прафесіяналізм ва ўсім: пісьменнік піша, вы-




давец выдае, піяр-менеджар рэкламуе і прасоўвае. Як гэта ні прыкра, але твор і сам пісьменнік — гэта тавар на літаратурным рынку, і зараз папулярнасць ствараюць піяр-тэхналогіі. Чалавек уладкаваны такім чынам, што яму трэба шляхам шматразовага паўтарэння даводзіць пэўную інфармацыю, каб яна адклалася ды зафіксавалася. Прымітыўна кажучы, калі ўсе сродкі інфармацыі пазіцыянуюць, скажам, Джулію Робертс як прыгажуню, у пяты раз паважаны таблоід называе яе самай сэксуальнай жанчынай у свеце, то нават тыя, каму яна не падабаецца, пачынаюць з гэтым лічыцца і шукаць гэтыя якасці. Так і з творам: з кожнага праса казаць, які ён варты, і пажадана, каб гэта рабілі аўтарытэтныя асобы. А ў астатнім — ужо прафесійныя тонкасці піяру.

**Э.А.:** — *Як вядома, Уладзімір Караткевіч, перад тым як сядаць за пісьмовы стол, абавязкова апранаў чыстую кашулю... Калі ласка, падзяліцеся сакрэтамі сваёй «творчай кухні». Што вам патрэбна для аптымізацыі творчага працэсу?*

**Л.Ш.:** — Камп'ютар ці ноўтбук ды кубачак кавы. А яшчэ каб з сабою заўсёды была асадка ды аркуш — калі раптам дзе верш заспее.

**Э.А.:** — *З творчай кухняй усё зразумела... А займацца кухарствам вам падабаецца? Калі так, то якія вашы любімыя стравы?*



**Л.Ш.:** — Падабаецца, бо раблю гэта выключна ў добрым гуморы і з радасцю, тады ўсё атрымліваецца смачна. Трэба, каб ежа несла добрую энергетыку. Найбольш усім падабаецца піца ды пірагі. Сама люблю смажаную бульбу.

**Э.А.:** — *Ці падзяляеце вы думку Аляксандра Блока аб тым, што творчая і сэксуальная энергія маюць адну і тую ж прыроду? У сувязі з гэтым якое месца ў вашым жыцці займае каханне? І ці праўда, што для вас яно павінна быць абавязкова замешаным на небяспецы і таямніцы?*

**Л.Ш.:** — Думаю, Блок тут не зрабіў адкрыццё. Яшчэ ў Бібліі чытаем: і сказаў Бог Адаму ды Еве — пладзіцеся ды размнажвайцеся, а адна з запаведзяў кажа аб любові да блізкага. Такім чынам, плён узнікае з любові. Ужо іншая справа, як хто разумее любоў ды каханне. Лічу, што патрэба ў любові з'яўляецца адной з базавых для чалавека — як дыхаць, піць, есці, любоў — гэта паветра для душы. А наконт небяспекі ды таямніцы — не варта атаясамліваць аўтара з яго героямі.

**Э.А.:** — *У вашых творах значнае месца надаецца эротыцы... Гэта даніна сучаснай літаратурнай модзе ці адзін з бакоў вашай творчай індывідуальнасці? Што для вас з'яўляецца асновай творчасці? Ці гатовая вы на поўную духоўную аголенасць перад чытачом?*

**Л.Ш.:** — Гэта нежаданне збядняць палітру праяваў жыцця. Гэта жаданне падняць некаторыя «сараматныя» тэмы і паставіць пэўныя праблемы перад грамадствам для зрухаў у іх вырашэнні. І, відаць, гэта ўжо сталася маім адметным почыркам. А наконт аголенасці... Памятаеце ў рамане «Тэатр» Сомерсэта Моэма, калі Джулія Ламбэрт на сцэне выплюхнула голыя ўласныя эмоцыі і перажыванні, упіваючыся імі, ёй падавалася, што яна іграе сёння, як ніколі, геніяльна, а ўсе ў адзін голас папракнулі яе ў бяздарным выкананні і не разумелі, што з ёй здарылася. Таму шчырасць — безумоўна, аголенасць — як мастацкая форма.

**Э.А.:** — *Я ведаю, што вы закончылі музычную школу па класе цымбалаў. Ці дапамагае вам у творчасці музычная адукацыя? Каго з айчынных, і не толькі, музыкаў вы любіце слухаць? Ці маеце ўласны песенны досвед?*

**Л.Ш.:** — Музычная адукацыя, у прыватнасці, дапамагла поліфанічнаму гучанню рамана «Урб@н.М», трымаць у галаве ўсю «партытуру» на працягу твора. Можа, тут выявілася мая любоў да арганнай музыкі. Баха, Моцарта, Вівальдзі магу слухаць заўсёды. Падабаецца фолк-рок. Зараз слухаю фінаў — «Корпіклаані». З беларускіх — Flat, Omut. Уласных песень яшчэ няшмат. Трэба навучыцца пісаць тэксты песень, бо не кожны верш можа стаць песняй.

**Э.А.:** — *З вашымі знешнімі і вакальнымі дадзенымі вы запраста маглі б рэалізавацца на сцэне... Ці не ўзнікала ў вас думка пра заснаванне музычнага гурта? Нават назоў ужо сам напрошваецца — «Урб@нband»...*

**Л.Ш.:** — Дзякуй, Эдуард! І за назву таксама — шыкоўная. Я адкрытая для супрацоўніцтва.

**Э.А.:** — *Ці любіце вы, спадарыня Людміла, падарожнічаць? Калі так, то дзе вам пашчасціла пабываць? Які ваш любімы від адпачынку? Ці маеце нейкае хобі?*

**Л.Ш.:** — Так, пашчасціла шмат дзе пабываць. Найбольш уразіў Стакгольм і фьёрды, грабніцы ды саркафагі егіпецкіх фараонаў у Луксоры, Чырвонае мора — акварыум, сталактыты ды сталагміты ў пячорах, а яшчэ нашая Беларусь — замкавая ды храмавая. Люблю хадзіць у грыбы ды з вудай на беразе пасядзець, толькі каб клёў быў «як на чорных камянях» (смяецца).

**Э.А.:** — *Апошнім часам з'явілася шмат літаратурных прэмій... На вашу думку, гэта стымулюе развіццё сучаснай літаратуры ці, наадварот, выклікае зайздрасць і нядобразычлівасць у творчым асяродку, раздзімае полымя літаратурных скандалаў...*

**Л.Ш.:** — Любая прэмія ці рэйтынг — вынік спалучэння некалькіх складнікаў. Першы — безумоўна, таленавіты твор, другі — піяр, трэці — руплівая праца па кантактаванні, над стасункамі ў патрэбным асяродку, каб цябе добра ведалі. Трэба таксама памятаць, што прэмія «не гумавая», і творы, не адзначаныя ёю, з'яўляюцца не менш цікавымі ды вартымі. А калі зайздрасць ёсць у чалавеку, дык ужо ўсё адно чаму зайздросціць — заколцы ў валасах або літаратурнай прэміі. А сучасная калялітаратурная сітуацыя мне нагадвае англійскі анекдот. На незаселеным востраве знайшлі рабінзона-англічаніна, які абжыўся там і паказвае гаспадарку сваім ратавальнікам. Падводзіць да адной пабудовы і кажа: «Гэта клуб, які я наведваю». — «А там што за будынак?» — пытаюцца ў яго. — «А гэта клуб, які я ігнарую».

**Э.А.:** — *Як вы ставіцеся да такой рысы характару, як рэўнасць? Ці сутыкаліся ў сваім жыцці з літаратурнай рэўнасцю? Ваш муж не раўнуе вас да творчасці? Ці не пераносяцца ў звязку з гэтым псіхалагічныя дуэлі паміж мужнынам і жанчынай са старонак вашых раманаў на рэаліі сямейнага жыцця?*

**Л.Ш.:** — На жаль, сутыкалася ва ўсіх праявах поруч з зайздрасцю. Муж да творчасці ставіцца з разуменнем. Яшчэ раз падкрэслю, што жыццё пісьменніка не тоеснае жыццю ягоных герояў. Неяк едзем з мужам у машыне на працу. Па радыё: «Сын Нікаля Сарказі пайшоў сцежкай бацькі». Я: «У сэнсе гэтаксама ажаніўся з мадэллю?» Муж: «У палітыку пайшоў! А ты, перш чым сцябацца, паспрабуй дасягнуць чаго сур'ёзнага!» Я: «Што, і пажартаваць ужо нельга?» Муж: «Думаеш, гэта лёгка?» Слова за слова — пасварыліся, сядзім надзьмутыя, маўчым. І тут я ўзрываюся ад рогату: «Цікавая мы сям'я. Пасварыліся з-за... Нікаля Сарказі!» Вось такія «дуэлі» (смяецца).

**Э.А.:** — *Ці падзяляеце вы думку аб тым, што ў чалавеку павінна быць усё прыгожа? Што для вас важней — фізічнае ці духоўнае хараство? Ці любіце вы модна апранацца? Што выбераце для творчага раўта — красоўкі ці лабутэны? Ці мае значэнне знешні выгляд творцы для ягоных чытачоў?*

**Л.Ш.:** — Для мяне важная гармонія. І калі чалавек знаходзіць гэты баланс — духоўнага і фізічнага, то заўсёды цікава зазірнуць за яго знешнасць — «фасад». Апранаюся я вобразамі — ствараю іх пад сённяшні настрой, і красоўкі з лабутэнамі залежаць ад майго ўнутранага адчування на той момант. Ну і, як і Янка Купала, люблю з гэтага пажартаваць. Ва «Урб@не.М» я моцна павесялілася з брэндазалежнасці асноўнай сучаснай масы. А творца абавязаны быць цікавым, хай гэта будзе яго адметны позірк, рух, голас ці што іншае, тады ён будзе прыгожым.

**Э.А.:** — *Каго з беларускіх пісьменнікаў вы лічыце сваімі духоўнымі настаўнікамі? Ці цікавіцеся творчасцю маладых? Назавіце апошні прачытаны вамі твор...*

**Л.Ш.:** — Купалу, Чорнага, Мележа. Маладых адкрываю з вялікай цікавасцю для сябе, і бывае прыемна адчуць сугучнасць з уласнай творчасцю. З апошніх прачытаных — «Сядзіба» Алеся Аркуша і «Дагератып» Людмілы Рублеўскай. Жыве літаратура!

**Э.А.:** — *Ваша любімая літаратурная пара года...*

**Л.Ш.:** — Пара, калі пішуцца вершы.

**Э.А.:** — *Вашы любімыя кветкі... І ад каго іх прыемней атрымоўваць?*

**Л.Ш.:** — Нечаканыя. Ад каханага.

**Э.А.:** — *У якіх выдавецтвах выйшлі вашы кнігі? Які фармат выхаду? І дзе іх сёння можна набыць, каб прачытаць?*

**Л.Ш.:** — «Уладар рыбаў» выйшаў у «Выдавецтве «Янушкевіч» электроннай кнігай у мінулым годзе. Набыць яго можна на сайтах kniharnia.by, smashwords.com і інш. «Урб@н.М» — таксама ў «Выдавецтве «Янушкевіч», у гэтым годзе, у друкаванай версіі. Прыдбаць можна ў самім выдавецтве, у буйных кнігарнях (напрыклад, «Акадэмкнізе») і ў мяне таксама — з аўтографам.

**Э.А.:** — *Вашы пажаданні чытачам часопіса «Верасень»...*

**Л.Ш.:** — Чытайце як мага больш якаснай літаратуры. І не журыцеся ў наш цяжкі час. Жадаю ўсім шчасця!




# Павел Падкарытаў

**бізнэсовец, мецэнат, старшыня культурніцкага фонду «Вяртанне», які падтрымлівае шматлікія літаратурныя, музычныя, тэатральныя і выдавецкія ініцыятывы на Беларусі. Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Снежынску на Урале. Жыве ў Варшаве.**

# Я не выпадкова апынуўся ў Беларусі...

***Ці мелі б мы сёння Біблію Францішка Скарыны, ці чыталі б «Вянок» Максіма Багдановіча, ці любаваліся б залатымі ўзорамі слуцкага пояса, калі б не існавала такіх людзей, якіх называюць мецэнатамі? Сённяшні мой суразмоўца, расійскі бізнэсовец з беларускімі каранямі Павел Падкарытаў якраз належыць да кагорты гэткіх людзей. Ён вядомы як мецэнат, заснавальнік культурніцкага фонду «Вяртанне», стваральнік Музея беларускай шляхты ў маёнтку Падароск... Аб тым, што падштурхнула яго да падтрымкі беларускай Культуры, прымусіла змяніць нацыянальную самасвядомасць і заахвоціла вывучыць беларускую мову — нашая з ім гутарка.***

**Эдуард Акулін:** — *Спадар Павел, сёння на Беларусі вы вядомы, як мецэнат, старшыня культурніцкага фонду «Вяртанне». Як атрымалася, што вы, грамадзянін Расіі, прадстаўнік сучаснай бізнэссферы апынуліся ў самым цэнтры беларускага культурнага мэйнстрыму?*

**Павел Падкарытаў:** — Гісторыя гэта даўняя, але, здаецца, для Екацярынбурга ўжо амаль тыповая, бо вялікі Пясняр Уладзімір Мулявін, мой уральскі зямляк, першы праклаў шлях з расійскай культуры ў беларускую. Так што я толькі пайшоў па ягоных слядах...))

А калі сур'ёзна, то ўсё пачалося з дзяцінства, калі мая бабуля Ірына, якая паходзіць з вёскі Варкі з-пад Чашнікаў, упершыню паведаміла мне пра краіну з назвай Беларусь. Яна яшчэ маладой з'ехала назаўжды з Беларусі, пабраўшыся шлюбам з маім дзедам, які родам з Вяткі, таму што дзеда, які працаваў на чыгунцы, часта перакідвалі з месца на месца: з Лепеля ў Воршу, з Воршы — у Петразаводск, і гэтак далей. У выніку яны апынуліся ў Свярдлоўску (як тады называўся сучасны Екацярынбург), дзе і жыла далей наша сям'я.

Я не выпадкова апынуўся ў Беларусі, таму што з дзяцінства ведаў, што недзе за гарамі і барамі ёсць краіна, не чужая мне. Бабуля апавядала мне пра сваё дзяцінства, казала цудоўныя беларускія словы кшталту «калідор» і «спінжак», спявала народныя песні, а калі чула «Песняроў» — заўжды падцягвала за імі, а па яе шчоках каціліся слёзы. Яна не магла спакойна чуць словы: «Молодость моя, Белоруссия!», казала: «Гэта ж пра мяне песня...».

Так што ўсё гэта было пэўным чынам прадвызначана.

**Э.А**. — *А гэта праўда, што ў школьныя гады, каб падкрэсліць сваю беларускую ідэнтычнасць, на кастрычніцкіх дэманстрацыях вы заўсёды выбіралі беларускі сцяг?*

**П.П.** — Так, быў такі грэх — хадзіў я на кастрычніцкія дэманстрацыі... Ведаеце, мы жылі тады ў Савецкім Саюзе, вакол мяне на Урале гучала толь-

кі руская мова, нікуды мы не ездзілі асабліва, і, хаця я ведаў, што ў СССР ёсць шмат саюзных нацыянальных рэспублік, але чамусьці быў упэўнены, што Мінск, Алма-Ата, Кіеў і Ерэван — такія ж дакладна савецкія гарады, як і Свярдлоўск (Екацярынбург зараз), і там таксама ўсе гавораць па-руску. Але, мабыць, падсвядома я і тады ўжо пратэставаў супраць гэтай аднолькавай руска-савецкай афарбоўкі, і калі фізрук Уладзімір Дзмітрыевіч (ён камандваў усімі транспарантамі на савецкія святы) выдаваў нам сцягі саюзных рэспублік — то я заўсёды браў сабе, хай і савецкі, але беларускі сцяг. Памятаю, як аднойчы нехта мяне апярэдзіў, і мне давялося шукаць сабе іншы сцяг — і я выбраў сцяг Літоўскай ССР. Таксама нядрэнна, лічу.))

**Э.А.** — *А якім вы былі школьнікам? Якія прадметы вам падабаліся больш за ўсё? Чым вы захапляліся? Магчыма складалі вершы ці ігралі на нейкім музычным інструменце?*

**П.П.** — Школьнікам я быў даволі ўзорным. У сэнсе, што ніякіх праблемаў у мяне не было з навучаннем, амаль да самага сканчэння школы я быў, як кажуць, «круглым выдатнікам». Мог, канешне, схапіць і «траяк», і нават «двойку», але гэта было два-тры разы на год. А вось паводзіны кульгалі: вельмі любіў на ўроках «пачасаць» языком з сябрамі — бо, напэўна, хутка разумеў усё, пра што распавядаў настаўнік, і мне было ўжо нецікава...

Вельмі любіў гісторыю. Звычайна я прачытваў увесь падручнік па гісторыі ўжо ў першы дзень, як атрымліваў яго на новы навучальны год. А потым можна было гісторыю і не вучыць. Я, памятаю, купляў нават інстытуцкія падручнікі па гісторыі і праглынаў іх. Дарэчы, менавіта з нейкага вузаўскага падручніка сярэднявечнай гісторыі я даведаўся пра існаванне дзяржавы Вялікае Княства Літоўскае і гэта, упэўнены, таксама паклалася ў падмурак будучага вяртання да Беларусі. Канешне, як хлопца мяне вельмі цікавіла вайсковая гісторыя. Чытаў усё, што траплялася пад руку з гэтай галіны. Была, памятаю, такая кніга — «Книга будущих командиров». Яна зрабілася на пэўны час маёй настольнай кнігай. Мы з сябрамі вывучалі арміі і бітвы мінулых часоў, рабілі ваенна-гістарычныя рэканструкцыі. Я ведаю, што кніжка гэтая адыграла вялікую ролю не толькі ў маім жыцці, але і ў жыцці іншых людзей, якіх я лічу сапраўднымі патрыётамі Беларусі — напрыклад, Міраслава Лазоўскага ці Алеся Кіркевіча. Мы ў дзяцінстве рабілі вялізарныя папяровыя арміі і разыгрывалі асобныя бітвы і цэлыя кампаніі. Я асабіста камандваў французамі Банапарта — у мяне было некалькі скрынак з пяхотай, конніцай, артылерыяй.

Але, па вялікім рахунку, галоўнае захапленне майго дзяцінства — гэта ўсё ж такі кнігі. Кнігі я чытаў усе, што трапляліся. І гэтае захапленне працягваецца па сёння. Нават у войску, дзе ў цябе зусім няшмат рэчаў і месца для іх, я заўжды трымаў у афіцэрскім планшэце якую-небудзь кнігу і не было для мяне лепшага адпачынку, як чытанне... Дарэчы, чытаючы кнігі, я амаль не вучыў рускую мову ў школе — усе правілы правапісу адбіваліся ў галаве менавіта з кніг, і я ўпэўнены, што ўсе гэтыя «жи ши пиши..» вучыць не трэба, дастаткова толькі чытаць кнігі...

Са школьных прадметаў для мяне заўжды цікавая была матэматыка, асабліва, калі пачалася геаметрыя і трыганаметрыя. Вельмі здзіўляла мяне і падабалася, як запісаныя формулы на вачах ператвараюцца ў намаляваныя графікі, быццам нейкім чароўным заклёнам я вызваляў магічныя сэнсы са звычайных літар і лічбаў.



*Другі клас школы №2 г. Свярдлоўска. 1976 г.*

Захапляўся хіміяй, але чамусьці мяне не вельмі любіла выкладчыца хіміі (і загадчыца па вучэбнай частцы) — напэўна, з-за тых жа актыўных маіх паводзін на ўроках, якія ёй, відаць, замінялі весці заняткі. Яна ўляпіла мне ў 10 класе адзіную ў гісторыі майго навучання «тройку» за першую чвэрць, лічу, цалкам незаслужана, з-за чаго «праляцеў, як фанера» мой залаты школьны медаль, які быў цалкам да гэтага рэальны. А класны кіраўнік не здолеў аспрэчыць рашэнне завуча школы.

Вось што я абсалютна не любіў — дык гэта фізіку. Б-р-р-р... Не ведаю нават чаму. І бацькі мае скончылі радыёфак УПІ. І матэматыка ў мяне выдатна ішла, і хімія — таксама, вельмі блізкія да фізікі прадметы, але ж... Калі я нейкім цудам здаў выпускны школьны экзамен па фізіцы на «выдатна» (а там была свая амаль неверагодная гісторыя), то выкладчык з Уральскага дзяржуніверсітэта (электратэхнічны факультэт), які прысутнічаў на экзамене, запрасіў мяне ва ўніверсітэт на свой факультэт без уступнага экзамену — памятаю, як я на злом галавы ўцякаў з гэтага кабінету...

Па-за школай я таксама шмат чым займаўся. З дзяцінства любіў футбол. У школе на фізкультуры нас прымушалі рабіць рознае глупства — скакаць праз казла, падцягвацца, бегаць крос, гуляць у зале ў баскетбол. А я (і мае сябры) марылі пра адно — гуляць у футбол. Восенню і зімой, вясною і летам. Звычайна пасля школы я забягаў дадому, хуценька з'ядаў усе прысмакі, што прыгатавала бабуля Ірына, скідаў школьную форму і імчаў на корт, які месціўся ў суседнім двары. Там мяне ўжо чакалі мае сябры-аднакласнікі і аднашкольнікі, і мы лупцавалі па мячы амаль да прыцемкаў.

Заўзятар я быў таксама апантаны.Напрыклад, я ведаў па імёнах склад кожнай зборнай чэмпіяната свету 1982 года ў Гішпаніі, нават такіх экзатычных, як Алжыр ці Сальвадор. Не ведаю, навошта мне гэта было, але я памятаў гэтую інфармацыю. Як і вынікі кожнага матча, якія я запісваў у сшытку, рабіў групавыя табліцы і пары плэй-офф. У 1984 годзе гэтая ж гісторыя паўтарылася з чэмпіянатам Еўропы ў Францыі, а потым скончылася школа, і з'явіліся іншыя

нагоды для трэніроўкі памяці. Ну і, канешне, беларускасць і тут праявілася — я быў адзіным у класе заўзятарам менскага «Дынама». Усе заўзелі за кіеўскае «Дынама» ці за маскоўскі «Спартак», а я быў фанатам Гурыновіча, Пракапенкі, Курненіна. Памятаю стан абсалютнага шчасця, калі менчукі ў вырашальным матчы 1982 года перамаглі «Спартак» у Маскве з лікам: 4:3.

Я б гуляў у футбол увесь час, але вярталіся з працы бацькі, і даводзілася сядаць за ўрокі, ды яшчэ і наведваць музычную школу. Так, я скончыў музычную школу па класу скрыпкі, і вельмі добра вучыўся — мог бы зрабіць музычную кар'еру, бо быў адным з найлепшых скрыпачоў свайго ўзросту ў горадзе. Выпускны канцэрт я выдатна адыграў, атрымаў «пяцёрку» і запрашэнне ў музычную вучэльню, і нават падумаў — а чаму б і не? Але доўжылася гэта максімум пару дзён. Пачаліся канікулы пасля 8-га класа — лета, свабода, футбол, і думкі пра музычную кар'еру былі пакладзеныя ў шафу разам са скрыпічным футаралам. Праўда, я раз-пораз бяру скрыпку адтуль і нешта пілікаю для сябе. У мяне зараз дзве скрыпкі — адна XIX стагоддзя, сямейная рэліквія, якую перадала мне другая мая бабуля — Зінаіда, якая паходзіць з Санкт-Пецярбургу, і электраскрыпка, якую я набыў год таму.

Гуляў я падлеткам і ў хакей — тады амаль у кожным двары былі хакейныя пляцоўкі, і нават прафесійныя трэнеры працавалі з дваровымі камандамі. Я гуляў брамнікам і вельмі няблага, але калі трэба было зрабіць выбар на карысць хакейнай кар'еры і перавесціся ў адпаведную спартовую школу, то не змог развітацца са школьнымі сябрамі і «прафесійны» хакей кінуў. Больш за ўсё радая гэтаму была мая настаўніца па скрыпцы — думка пра тое, як я сваімі тонкімі музыкальнымі пальцамі два разы на тыдзень трымаю нейкую грубую клюшку і нават лаўлю шайбу, кідала яе ў дрыжыкі. Зараз мы часам збіраемся з сябрамі і таксама гуляем у хакей, але я ўжо гуляю ў полі, бо брамнікаў у нас няма.

А вось вершы — гэта не маё. За ўсё юнацтва я склаў адзіны верш, вядома, пра каханне, але зараз не рызыкну яго прачытаць. Хаця празаічныя формы мне добра даваліся — школьныя сачыненні заўжды атрымлівалі высокую адзнаку.))

**Э.А.** — *Як і Максім Багдановіч, па адукацыі вы — юрыст... А яшчэ, здаецца, пачыналі сваю прафесійную кар'еру як вайсковец... Хто паўплываў на выбар вашай прафесіі?*

**П.П.** — Натуральна, цікавасць да вайсковай справы і вайсковай гісторыі адыгралі сваю ролю. Памятаю таксама кнігу савецкага пісьменніка Уладзіміра Карпава «Маршальскае жазло», якую падаравалі мне ў школе за выдатнае заканчэнне 5 класа. Кніга была пра савецкую армію 70-х, яна мяне вельмі ўразіла, і ўпершыню тады з'явілася думка паступаць у вайсковую вучэльню. Напрыканцы школы я ўжо не так каб надта хацеў быць вайскоўцам, такой традыцыі не было і ў нашай сям'і. Я ўсё ж больш схіляўся пайсці ў юрыдычны інстытут. Але ў савецкі час хлопцаў бралі ў юрыдычны толькі пасля войска,



*За пяць хвілін да лейтэнанцкіх пагонаў... Экзамен па тактыцы. 1989 г.*

і пэўны час я вагаўся, што ж рабіць пасля школы — ці паступаць некуды ці чакаць прызыву, каб пасля службы ў войску пайсці ў юрыдычны. І тут бацька ўзяў мяне, як кажуць, «на слабо» — спытаў, можа, я баюся паступаць у вайсковую вучэльню? І я пайшоў. Памятаю, толькі крыху больш за тыдзень прайшло пасля выпускной вечарыны ў школе, а я ўжо пагрукаўся ў дзверы ваенкамата з рэчамі.

Вайсковая вучэльня была ў Свярдлоўску, і яна была не камандная, а ваенна-палітычная (і танкава-артылерыйская яшчэ). Дарэчы, конкурс туды складаў у 1985 годзе 12 чалавек на месца, так што трапіць у шэрагі курсантаў было не так і проста. Але я паспяхова здаў экзамены і ў 17 гадоў стаў вайскоўцам. Пасля сканчэння вучэльні атрымаў лейтэнанцкія пагоны і два гады служыў афіцэрам. Год быў у складзе савецкага кантынгенту ў Чэхаславаччыне, а ў 1990 годзе пасля вываду адтуль савецкага войска і пачатку масавага скарачэння арміі, я звольніўся ў запас і ў 1991 годзе ўсё-ткі паступіў у юрыдычны інстытут, спраўдзіўшы сваю школьную мару. Дарэчы, пра вайсковую службу не шкадую, бо знайшоў там лепшых сяброў на ўсё жыццё, атрымаў велізарны жыццёвы досвед, зрабіўшыся не «мальчиком, но мужем». Зрэшты, правёў я ў войску не так і шмат часу, каб гэта неяк негатыўна паўплывала на мой светапогляд. Ды й часы тады былі ўжо не такія людажэрскія... І хаця я і быў з 1986 года ў шэрагах камуністаў (для зампаліта не было іншых варыянтаў), але апынуўся ўжо сярод «партыйных дысідэнтаў» — падтрымліваў земляка Барыса Ельцына ў ягонай барацьбе з партыйнай наменклатурай, а таксама «Дэмплатформу» ў КПСС, потым МДГ на З'ездзе народных дэпутатаў СССР. А пасля путча 1991 года (які амаль супаў з маім сыходам з войска) спыніў сваё членства ў Камуністычнай партыі.

**Э.А.** — *Распавядзіце крыху пра сваіх бацькоў... Кім яны працавалі? Ці былі ў іх творчыя здольнасці?*

**П.П.** — Мае бацькі нарадзіліся ўжо на Урале і сваё дзяцінства правялі ў Свярдлоўску. Вучыліся ў адной школе, дзе і пасябравалі, потым пастулілі ў адзін інстытут — Уральскі Палітэхнічны, пабраліся шлюбам і разам паехалі працаваць у «паштовую скрыню» — сакрэтны горад паміж Свярдлоўскам і Чалябінскам, дзе распрацоўвалася савецкая ядзерная бомба... У гэтай «скрыні» я і нарадзіўся, зараз яна атрымала ўласнае імя — горад Снежынск. Праз тры гады мы адтуль з'ехалі, бо ў Свярдлоўску памёр мой дзед Павел Цімафеевіч (муж бабулі Ірыны), і мы пасяліліся разам з бабуляй у трохпакаёўцы, якую дзед атрымаў ад чыгункі. Больш з Свярдлоўска яны не з'язджалі нікуды і цяпер жывуць там, толькі перабраліся ў іншую кватэру. І бацька, і маці працавалі на абарончых прадпрыемствах інжынерамі ў канструктарскім бюро, а зараз ужо на пенсіі.

Бацька, Уладзімір Паўлавіч, — вельмі творчая асоба. У дзяцінстве навучыўся іграць спачатку на гармоніку, потым на баяне, акардэоне і піяніна. На акардэоне ён іграе проста віртуозна, цудоўна спявае, заўжды быў і ёсць у цэнтры кожнага нашага сямейнага ці сяброўскага свята — ад 70-х (ужо на маёй памяці) і дагэтуль.

Калі ён вучыўся ў інстытуце, то разам з сябрамі яны стварылі каманду КВЗ, удзельнічалі ў шматлікіх конкурсах, а потым стварылі ВІА «Вясёлыя рабяты», які быў зоркай інстытута, а потым Снежынска, куды ансамбль пераехаў на

*«З песняй па жыцці». Уладзімір Паўлавіч Падкарытаў. 2012 г.*





*Сям'я святкуе 70-гадовы юбілей Уладзіміра Паўлавіча, бацькі Паўла. 2012 г.*

працу амаль поўным складам. Яны выконвалі савецкія эстрадныя песні, джаз, а бацька адразу стаў салістам-вакалістам, візітоўкай калектыву.

Дагэтуль раз на год у Снежынску кіраўнік ансамбля Вадзім Андрэеў (зараз ён кіруе ўжо эстрадна-сімфанічным аркестрам Снежынска) ладзіць вялікі тэматычны канцэрт, прысвечаны то савецкай эстрадзе, то сусветнаму джазу — і запрашае бацьку як саліста на 2-3 кампазіцыі. І бацькаў выступ робіцца сапраўдным «цвіком праграмы». Я аднойчы трапіў на такі канцэрт (гэта быў адзіны раз, калі я наведаў горад свайго маленства, бо ён дагэтуль закрыты і патрапіць туды вельмі цяжка) і быў уражаны тым прыёмам, які снежынцы зладзілі бацьку.

У Свярдлоўску ён спяваў у мастацкай самадзейнасці свайго прадпрыемства, а таксама ў вакальнай студыі Палаца чыгуначнікаў, засвоіў і класічны рэпертуар, і аперэту, выступаў на шматлікіх канцэртах у Свярдлоўску-Екацярынбургу. Рабілі мы некалькі камерных нумароў сямейным трыа — бацька, я на скрыпцы і мая малодшая сястра Наталля на піяніна. Нас запрашалі некалькі разоў на Свярдлоўскае радыё і тэлебачанне. Карацей, ён — сапраўдны прафесійны спявак, і лепш за ўсё пра яго сказаць словамі, якія аднойчы папярэднічалі ягонаму выхаду на сцэну, а зараз з'яўляюцца ягоным жыццёвым дэвізам: «Через концерты и года шагает он с душой открытой — вчера, сегодня и всегда поёт Владимир Подкорытов!»

Маці, Ніна Паўлаўна, спяваць таксама ўмее, хаця і не так хараша, як бацька. У сямейных застоллях яна заўжды спявае, але сольнай кар'еры не зрабіла, яна фактычна была галоўным музычным менеджарам сям'і, апякуючы і

бацькаву творчасць, і нашае з сястрой Наталляй навучанне музыцы, і заняткі ўнучкі Міланы ў вакальна-харэаграфічнай студыі. Сястра мая, скончыўшы музычную школу, вучэльню і кансерваторыю па класе фартэпіяна, зараз працуе канцэртмайстрам у кансерваторыі, забяспечвае музычнае суправаджэнне студэнтам опернага факультэта.

**Э.А.** — *Ці памятаеце вы сваё першае каханне? Кажуць, што яно не заўжды шчаслівае... А як склалася ў вас? У якім узросце вы стварылі сям'ю?*

**П.П.** — Першае каханне не памятае хіба што зусім чэрствы чалавек... Скончылася яно, як і павінна было скончыцца тыповае першае каханне, — няўдала. Гэтую дзяўчынку, якая мела класічнае рускае імя Наташа, я прыкмеціў (і адразу закахаўся) у 5 класе. Партфель ёй я не цягаў, бо гэтак не было прынята ў нас, а часцей мы біліся з ёй і з яе сяброўкамі, вось такое суворае ўральскае

*З жонкай Вольгай. Нотр Дам дэ Пары.2015 г.*



каханне. Жартую, канешне, біліся мы не па-сапраўднаму, так, валтузіліся крыху, але гэтак мы, неразумныя падлеткі, выказвалі сваю ўвагу адно да аднаго. Адносіны нашыя складаліся ўвесь час зменліва, як на арэлях — яна то вельмі прыязна ставілася да мяне, то амаль не заўважала... А я моўчкі пакутваў. Прызнаўся ёй у каханні на Новы год у 10 класе, і да выпускной вечарыны мы былі амаль штодня разам, і кароткія белыя ночы падчас выпускных экзаменаў гулялі па начному Свярдлоўску, не даючы спакойна спаць бацькам.

Але потым я стаў курсантам, на першым і нават другім курсе хадзіў у звальненні вельмі рэдка (мы вучыліся на казарменным становішчы і дысцыпліна была вельмі жорсткая), сустракаліся нячаста і я, відаць, згубіў адчуванне сітуацыі. Яна чакала ад мяне наступнага рашучага крока, прапановы рукі і сэрца, а я чамусьці яго не зрабіў — нават зараз не магу адказаць сабе, чаму. І знайшоўся іншы хлопец, які такі крок зрабіў. Так што я сам цалкам вінаваты ў тым, што страціў сваё першае каханне...

Тры гады пасля гэтага я нават глядзець не хацеў на іншых дзяўчат, але неяк на вечарыне ў свайго сябра па вучэльні, з якім мы разам служылі потым, сустрэў ягоную аднакласніцу Вольгу, і як толькі зазірнуў у яе прыгожыя вялікія вочы, толькі пачуў яе голас — дык закахаўся адразу і назаўжды...

Праз 9 месяцаў мы пабраліся шлюбам, нам было па 23 гады, і мы ўжо 26 год разам.

**Э.А**. — *Бізнэс, асабліва буйны, напрыканцы 90-ых гадоў у Расіі быў вельмі небяспечным заняткам. Яго часам не без прычын параўноўвалі з сапраўдным полем бою... Ведаю, што асабіста для вас, гэтая бізнэс-вайна закончылася трагічна... І адабрала 5 гадоў вольнага жыцця. Але, як кажуць, ліха без дабра не бывае, бо менавіта ў вязніцы да вас прыйшло беларускае паклікане... Як гэта здарылася?*

**П.П.** — Уральскі бізнэс, сапраўды, вельмі часта быў полем бою — і па сёння пра гэта нагадваюць шматлікія помнікі на Шырокай Рэчцы ці на Паўночных могілках Екацярынбурга. Але мы не былі ў цэнтры гэтых разборак — бо былі ўсё ж не бандытамі ці спартсменамі. Наша каманда складалася з былых студэнтаў эканамічнай і юрыдычнай акадэміяў, і працавалі мы не на полі бітвы за рэчавыя рынкі ці каналы пастаўкі легальнага і нелегальнага алкаголю і цыгарэтаў, на якім часта гучала аўтаматная страляніна, а на іншай дзялянцы. Мы заснавалі чэкавы фонд прыватызацыі, які браў удзел у прыватызацыйных працэдурах, якія адбываліся тады з былымі савецкімі прамысловымі прадпрыемствамі. Наш фонд дзейнічаў у супрацы з кіраўніцтвам буйных энергетычных прадпрыемстваў Урала і карыстаўся пэўным заступніцтвам з боку гэтых, тады дзяржаўных, структураў. Таму канфліктаў з бандытамі ў нас амаль не было. Хаця пару разоў і нам давялося сутыкнуцца з прадстаўнікамі сапраўдных арганізаваных злачынных груповак... Нам тады і пагражалі, і некалькі разоў давялося літаральна фізічна сутыкацца каля заводаўпраўленняў з крымінальнікамі і міліцыянтамі, якія падтрымлівалі іх вядома з якіх прычынаў.

Але наш галоўны канфлікт выспеў унутры. На жаль, мы не змаглі выпрацаваць дасканалыя нормы адносінаў паміж партнёрамі, і ў 2004 годзе выбухнуў канфлікт паміж дзвюма групамі партнёраў унутры нашай кампаніі. Ва ўнутраны канфлікт, як гэта заўжды бывае, улезла магутная трэцяя сіла з мэтай атрымаць свае дывідэнды. Гэта прамысловы холдынг УГМК, які тады меў, і зараз мае, на Урале вялізарны адміністрацыйны рэсурс, пачынаючы з губернатараў і судовых установаў, і заканчваючы шэраговымі міліцыянтамі ў пастарунку. Яны зрабілі ўсё магчымае, каб пазбавіць нас маёмасці. Крымінальныя справы і зняволенні — адзін з шырока распаўсюджаных у постсавецкім буйным бізнэсе інструментаў. Так я і апынуўся разам з іншымі сваімі партнёрамі за кратамі СІЗА, дзе правёў пяць гадоў... Дзякуй Богу, мае сябры, якія засталіся на волі, падтрымлівалі мяне ўвесь час, змагаліся, як маглі, і ў выніку гэтай барацьбы мы здолелі ўрэшце рэшт адбіцца ад нападнікаў, вядома, згубіўшы частку бізнэсу, частку жыцця і частку здароўя.

Але за кратамі я сапраўды набыў сваю беларускую свядомасць. Адбылося гэта праз нелегальнае карыстанне Інтэрнэтам, калі я, праглядваючы расейскія СМІ з інфармацыяй аб Беларусі, перайшоў на беларускія сайты, пачаў чытаць па-беларуску, замовіў сабе слоўнік і даведнік, потым пачаў замаўляць праз адвакатаў беларускія кнігі. І вось зараз вяду гутарку па-беларуску з беларускім літаратурным выданнем!

**Э.А.** — *Тое, што вы самастойна дасканала авалодалі беларускай мовай і* карыс*таецеся ёй у рэальным жыцці, — абсалютна неверагодны ўчынак... Многім беларусам, у тым ліку вядомым дзеячам культуры, трэба браць з вас прыклад... А ці сутыкаліся вы асабіста з выпадкамі моўнай дыскрымінацыі ў Беларусі?*

**П.П.** — Ну не такі ўжо неверагодны гэта ўчынак... Ведаю шмат людзей, якія штодзённа карыстаюцца мовай і не робяць з гэтага ніякага геройства. Я асабіста ніколі не чуў — «гаварыце на нармальным языке», нават калі мае суразмоўцы не могуць размаўляць па-беларуску, дык, прынамсі, яны мяне разумеюць і не патрабуюць ад мяне падладжвацца пад іх. Я ўпэўнены, што беларуская мова не павінна быць сакральнай з'явай — то бок карыстацца ёй патрэбна не толькі, калі справа вядзецца пра культуру ці іншыя ўзнёслыя рэчы. Інакш яе напаткае лёс лаціны, якой карыстаюцца хіба што медыкі ды навукоўцы... А вось, калі я пачую беларускую мову з вуснаў звычайнага гопніка ў цёмным завулку — з радасцю аддам яму свой гаманец з беларускімі рублямі, бо тады палічу сваю місію выкананай...

**Э.А.** — *Да 2010 года вы ніколі не былі ў Беларусі. Якія былі першыя ўражанні ад сустрэчы з краінай вашых продкаў?*

**П.П.** — Упершыню я быў у Менску ў снежні 2010 года, напярэдадні «выбарчага пагрому». Але тады цягнуліся апошнія дні чарговай «лібералізацыі», і з боку падавалася, што Беларусь — досыць свабодная, амаль еўрапейская краіна. Прынамсі, я тады адчуваў сябе вельмі хораша. Мне вольна дыхалася.



*З Аляксандрам Надсанам у Скарынаўцы, Лондан. 2014 г.*

Было казачнае зімовае надвор'е, сам Менск зрабіў на мяне цудоўнае ўражанне, а сустрэчы з тымі, хто мяне запрасіў, гэтае ўражанне толькі ўмацавалі.

Тады мы наведалі з Уладзімірам Арловым ягоную малую Радзіму — Полацак, і я быў зачараваны ягонай сціпласцю і адначасова нейкай узнёслай прыгажосцю. Карацей, той прыезд у Беларусь умацаваў мяне ў думцы, што я вінен сваёй Бацькаўшчыне — і з тае пары я тую павіннасць адпрацоўваю.

**Э.А.** — *Пасля гэтага вы шмат разоў наведвалі Беларусь. Удзельнічалі ў разнастайных імпрэзах, творчых вечарынах, кніжных прэзентацыях, сяброўскіх вандроўках... Знаёмства з якімі выбітнымі асобамі адклала на вас самае незабыўнае ўражанне?*

**П.П.** — Я не магу згадаць усіх, хто мяне ўразіў. Сярод такіх людзей ёсць і знакамітыя асобы, і людзі, якія асабліва нікому не вядомыя. Але хачу адзначыць, што ўсіх іх яднае любоў да Беларусі, шчырасць і адкрытасць. І я такога не сустракаў раней у Расіі. Канешне, гэта адбываецца збольшага і таму, што кола маіх зносін вельмі змянілася з 2005 года, калі я трапіў за краты. І зараз я пераважна кантактую з тымі, каму не абыякавая Беларусь, хто жыве для яе і робіць усё, што можа. І кожнага разу, калі я прыязджаю і сустракаюся з такімі людзьмі, старымі і новымі знаёмымі — яны застаюцца ў маім сэрцы.

Хачу хіба што адзначыць Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна, якому мы з Сяргеем Шапранам і Глебам Лабадзенкам паспелі дапамагчы выдаць апошнюю кнігу вершаў «Нагаварыцца з зоркамі», калі ён ужо ляжаў на смяротным ложку. Сяргей Шапран запісаў на дыктафон ягоную падзяку асабіста мне, і я плакаў, калі яе слухаў... Падпісаць мне гэтую кнігу Генадзь Мікалаевіч ужо не змог...

Я памятаю, як некалькі разоў сустракаўся з ім падчас працы ў журы літаратурнага конкурсу «Дэбют». Які гэта быў аптымістычны чалавек, займальны апавядальнік, вясёлы і цікавы суразмоўца! Я шкадую, што ён не паспеў напісаць мемуары — столькі шмат ён ведаў і бачыў у сваім жыцці, што мог бы падзяліцца з іншымі! Калі я сказаў яму пра гэта, ён адказаў так: «Ай, Павел, рана мне пра гэта яшчэ думаць! Мне яшчэ іншае цікава...» Але вось як павярнуўся лёс...

**Э.А.** — *Нехта называе нашу зямлю «Краінай паэтаў», для іншых яна —«Краіна легендаў», а для кагосьці — «Краіна цмокаў»... Вы называеце Беларусь — «Краінай замкаў». Можа таму ў вас узнікла ідэя набыцця маёнтка ў Падароску? Чаму вы вырашылі там ствараць Музей беларускай шляхты, хоць існуе думка, што беларусы — гэта сялянская нацыя?*

**П.П.** — Ну якая ж гэта «сялянская» нацыя, калі шляхта складала да 10 адсоткаў насельніцтва? Калі існавалі і зараз яшчэ не зніклі цалкам шляхецкія вёскі, якія аралі зямлю і сеялі жыта, абвяргаючы прымаўку «шляхта не працуе»? Калі разам са шляхтай са старажытных часоў існавала і шматлікая сацыяльная група «баяры» (якія, падобна, паходзяць ад прафесійных вайсковых саюзаў аланаў-сарматаў, варагаў ды літвы), якія абавязаныя былі бараніць Айчыну ад ворагаў, і за гэта вызваляліся ад падаткаў і павіннасцяў? Як казаў Кастусь Каліноўскі ў адным з выпускаў «Мужыцкай праўды»: «Трэба было бараніціся, так князь кажа — «хадзем бараніці», а тут не ўсе ідуць, да і мала нашых пайшло. Выгналі то маскаля і немца — но каб жэнкі да і дзеці гэтых, што хадзілі на вайну, мелі за чым пражыці, так Князь наш і напісаў такое права: «Гэтыя, што не хочуць ісці бараніці сваей зямлі, няхай абрабляюць поле гэтым, што б'юцца за вольнасць і шчасце ўсіх». І гэтак было: адне баранілі краю, усё хадзілі па войнах, а другія то гаралі, то сеялі, то касілі, то жалі. З гэтуль то і ўзялася гэта паншчына. Помняць яшчэ нашыя дзяды, паказываюць яны, што за іх часоў мужыкі рэкрута і не зналі. Было войска, то праўда, но войска ўсё было зэ шляхты, а калі мужыкі часамі захацелі ісці на вайну, так зараз з іх знімалі мужыцтва, да і паншчыну, давалі зямлю, а ўсю вёску рабілі шляхтаю. Стуль-то ў нас і парабіліся гэтыя аколіцы шляхецкія. Так за тое, што чалавек шоў на вайну, бараніў сваю бацькаўшчыну, то ронд даваў зямлю, даваў вольнасць, даваў шляхетства».

А колькі царская Расія змагалася з гэтым вольным духам, вынішчаючы шляхту? Не кажучы пра крывавыя падаўленні паўстанняў, якія выбухвалі з кожным новым пакаленнем, адны гэтак званыя «разборы шляхты» (якія на-



*Партрэт. 2017 г.*

самрэч праводзіліся адно з мэтай паменшыць колькасць людзей, не згодных звацца халопамі Яго Царскай Вялікасці) цягнуліся з 1800 па 1866 год. Вось колькі было людзей, якія не пасавалі ўкладу царскай Расіі! Усіх трэба было знішчыць. Гэта і бальшавікі працягвалі, адначас спяваючы песні пра гаротных сялян-беларусаў з каўтуном на галаве.

Змагаючыся са шляхтай, расейскі ўрад насамрэч пазбаўляў Літву-Беларусь нацыянальнай эліты, ператвараючы астатні народ у статак, у быдла, кіраваць якім павінны былі аўчаркі-жандары і гэбісты. І той, хто зараз падпявае гэтай песні, ізноў выразна чутнай з Масквы, робіць антынацыянальную справу, мацуе каланіяльную залежнасць Беларусі ад былой метраполіі, якая, на жаль, існуе дагэтуль...

**Э.А. —** *Ці праўда, што ў 1812 годзе ў Падароскім маёнтку на тры дні спыняўся французскі імператар Напалеон Банапарт? Ці плануеце вы аднаўляць ягоны пакой?*

**П.П. —** Так, і дагэтуль у Падароску існуе легенда, адлюстраваная ў гістарыяграфіі, што французскі імператар спыняўся на тры начы ў маёнтку і нават

гандляваўся з гаспадыняй за нейкае люстэрка, якое нечым яму спадабалася. Вельмі прыгожая гісторыя...

І калі нават гэтая легенда не мае гістарычнага абгрунтавання, я не бачу ніякіх перашкодаў, каб скарыстацца ёю, расказваючы будучым наведвальнікам музея пра маёнтак, пра Вялікае Княства Літоўскае, аб узнаўленні якога аб'явіў Напалеон Банапарт, дэманізаваны расейскай гісторыяграфіяй, якая і дагэтуль фактычна пануе ў Беларусі на дзяржаўным узроўні. Мы шануем Суворава, які заліў крывёю паўстанне Касцюшкі, мы шануем Баграціёна... Але нашыя суайчыннікі павінны ведаць, што Напалеона шмат хто з жыхароў былога Княства Літоўскага вітаў як вызваліцеля, што на баку ягонай арміі змагаліся 25 тысячаў беларусаў, што зараз нам вядомыя імёны больш за 1000 літвінаў, якія служылі ў гвардыі Напалеона, а 51 з іх быў узнагароджаны ордэнам Ганаровага Легіёна.

Прыгожы міт таксама варты аповеду, таму мы абавязкова адновім пакой Напалеона ў маёнтку і абавязкова зробім экспазіцыю пра адноўленае Вялікае Княства Літоўскае і пра нашых суайчыннікаў, якія змагаліся за яго свабоду супраць расейскіх захопнікаў.

**Э.А.** — *Падароскі маёнтак — гэта чыста культурніцкі праект? Ці вы, як бізнэсовец, спадзяецеся на ягоны камерцыйны поспех? Што для гэтага робіцца на тэрыторыі сядзібы?*

**П.П.** — Музей у маёнтку — гэта культурніцкі праект, а сам маёнтак будзе адноўлены як турыстычна-рэкрэацыйны комплекс. Музей павінен стаць адной

*Марскі чалавек. Атлантычны акеан. 2015 г.*



з фішак гэтага месца, каб прыцягваць наведвальнікаў. На жаль, справа цягнецца досыць марудна. Па-першае, праз складаныя заканадаўчыя і арганізацыйныя ўмовы аднаўлення гісторыка-культурнай каштоўнасці, але, канешне, і праз недахоп досведу ў падобных справах. Я вяду аднаўленне цалкам за ўласныя грошы, гэта таксама абмяжоўвае нас і ўплывае на хуткасць, толькі зараз мы падыходзім да пытання магчымага ўдзелу ў транспамежных праграмах супрацы з Еўразвязам, але пакуль рана пра гэта гаварыць.

Маёнтак, канешне, павінен працаваць як камерцыйная ўстанова і зарабляць, калі не прыбытак для мяне, то, прынамсі, на ўласнае існаванне і падтрымку належнага стану гісторыка-культурных каштоўнасцяў, якія яго складаюць. Гэта пытанне не заўтрашняга дня, але мэта такая стаіць перад камандай, якая там працуе.

Мы хутка адчынім аграсядзібу побач з маёнткам, дзе можна будзе спыніцца на пэўны час, каб аглядаць маёнтак і ваколіцы — у тых мясцінах ёсць шмат цікавага. Увесну адчыніцца кавярня і крама сувеніраў на тэрыторыі маёнтка — гэта першая чарга будаўніцтва, і зараз праца ідзе поўнай хадою.

Неўзабаве запрацуе сайт маёнтка, а пакуль я запрашаю вас наведаць наш канал на Юцюбе, які так і называецца — «Маёнтак Падароск», мы размяшчаем там відэаблог з маёнтка і розныя цікавыя гісторыі, звязаныя з тым, што ў маёнтку здымаюцца некалькі серыяў вэб-серыяла «Заклятыя Скарбы». Таксама там выкладаюцца новыя серыі падарожжаў выбітнага беларускага акцёра і вандроўніка Юрыя Жыгамонта, які, на жаль, не знайшоў сабе месца на дзяржаўным тэлебачанні, і мы палічылі неабходным падтрымаць ягоны праект, а ён пагадзіўся выкладаць свае новыя фільмы на нашам канале.

**Э.А.** — *Набытыя вамі сёлета грашовыя купюры 1993 года, так і не пушчаныя ў зварот, з выявай Пагоні і партрэтамі Купалы, Коласа, Багдановіча, Скарыны — гэта экспанаты будучай музейнай экспазіцыі? Аб чым яны, на вашу думку, павінны нагадваць наведнікам музея?*

**П.П.** — Наўпрост яны, канешне, не маюць дачынення да гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, але гэта першыя ў гісторыі Беларусі нацыянальныя грошы з выявай нашага спрадвечнага герба «Пагоня», гістарычнага бел-чырвон-белага сцяга і партрэтамі культурных дзеячоў Беларусі, а не нейкіх там зайцоў ці вавёрак. І таму яны знойдуць сваё пашанотнае месца ў частцы экспазіцыі, прысвечанай грашам ВКЛ.

**Э.А.** — *Дарэчы, як былы музейшчык, ведаю, што экспанаты, калі яны проста ляжаць пад вітрынным шклом, акрамя музейнага пылу, мала каго цікавяць... Ці збіраецеся вы ўводзіць элемент інтэрактыву для будучых наведнікаў музейна-паркавага комплексу?*

**П.П.** — Так, я таксама не вельмі цікаўлюся экспанатамі, якія проста ляжаць на паліцы з папяровымі цэтлікамі. Безумоўна, наш музей павінен максімальна выкарыстоўваць усе магчымасці мульці-медыя і інтэрактыву. Але як гэта будзе канкрэтна — я зараз не магу сказаць, бо канцэпцыя музейнай экспазіцыі




*Уручэнне прэміі «Дэбют» Аляксею Палачанскаму. 2015 г.*

яшчэ не распрацаваная, нам яшчэ даволі далёка да гэтага. Паглядзім, зараз усё мяняецца ў гэтай сферы вельмі хутка, мо, праз год-другі з'явяцца ўжо зусім новыя магчымасці віртуальнай рэальнасці ці яшчэ чаго. Будзем сачыць за навінкамі і назапашваць сродкі...

**Э.А.** — *Вы з'яўляецеся заснавальнікам і старшынём культурніцкага фонду «Вяртанне». Якія мэты ставіць для сябе згаданы фонд? Ці можаце назваць праекты, якія былі падтрыманы непасрэдна вашым фондам?*

**П.П.** — Фонд ствараўся як арганізацыйная адзінка дзеля падтрымкі беларускіх культурніцкіх праектаў. Ён зараз працуе менавіта ў гэтым накірунку. Тут варта назваць літаратурную прэмію «Дэбют» імя Максіма Багдановіча для літаратараў-пачаткоўцаў, прэмію імя Цёткі — за лепшую кнігу для дзяцей і падлеткаў (прэмія як пісьменніку, так і мастаку-афарміцелю), прэмію імя Шэрмана за лепшы пераклад, сёлета мы спрычыніліся таксама да прэміяў, заснаваных Саюзам беларускіх пісьменнікаў, — «Кніга года» і прэмія Гедройца.

Мы разам з TUZIN.FM ужо чацьвёрты год ладзім музычную прэмію «Заспявай.BY», літаральна зараз праводзім цікавыя перамовы з верагоднымі партнёрамі, у выніку чаго конкурс можа змяніць свой фармат і набыць сапраўды нацыянальны маштаб.

Запусцілі праект «Беларускі Нобель» па выданні кніг нобелеўскіх лаўрэатаў, якія ніколі не выдаваліся па-беларуску. У гэтай серыяі выйшлі ўжо Кнут Гамсун і Габрыэль Гарсія Маркес.

Таксама Фонд падтрымлівае раз-пораз ініцыятывы іншых установаў ці проста людзей — галоўнае, каб праекты сапраўды спрыялі развіццю беларускай культуры.

**Э.А.** — *Асабіста мне вельмі імпануе падтрымка фондам маладых творцаў праз заснаванне літаратурных прэмій. Тым больш, што многія аўтары часопіса «Верасень» станавіліся лаўрэатамі і прызёрамі названых прэмій, у прыватнасці, прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча. Спадар Павел, дзякуй вам за тое, што вы пастаянны чытач нашага часопіса і вас хвалюе ягоны лёс... Каго з маладых аўтараў «Верасня» вы запомнілі і з цікавасцю чакаеце іхніх новых публікацый на старонках выдання?*

**П.П.** — Вартых імёнаў, аўтараў «Верасня» шмат, я не хачу вылучыць некага асобна, каб не пакрыўдзіць тых, каго не згадаю. Калі я чытаю чарговы нумар часопіса, то ў кожнага паэта знаходжу адзін-два-тры вершы, якія мне западаюць у душу, я падкрэсліваю іх, раблю заломы старонак, каб наступным разам хутчэй знайсці. Тое ж магу сказаць пра аўтараў прозы. На мой погляд, гэта вельмі ўдалая праца рэдакцыі, якая няспынна шукае маладыя таленты і дапамагае прагучаць іх галасам. Адзначу таксама вельмі годную і патрэбную ініцыятыву па выданні электронных кніг дэбютантаў, якую часопіс распачаў разам з выдавецтвам «Электронная кнігарня». Я дагэтуль часам чытаю кнігі Кацярыны Массэ і Кацярыны Ваданосавай, і хацеў бы, каб рэдакцыя часопіса хаця б раз на год выдавала дзве-тры кнігі маладых аўтараў. Мне прыемна бачыць, што аўтары «Верасня» не знікаюць у вірах жыцця, што яны часта вяртаюцца на ягоныя старонкі ці пачынаюць друкавацца ў іншых выданнях, выдаюць кнігі. Гэта менавіта тое, што і трэба рабіць моладзёваму часопісу — адкрываць новыя імёны і адчыняць ім шляхі ў літаратуру.

**Э.А.** — *А якая музыка вам падабаецца? Каго з беларускіх, і не толькі, музыкаў любіце слухаць? Ці змяніліся вашы музычныя густы з узростам?*

**П.П.** — Густы, вядома ж, мяняюцца. З'яўляюцца новыя фаварыты, якіх я слухаю часцей, а ранейшыя ўлюбёнцы апускаюцца ў топ-рэйтынгу.

Я вельмі люблю класічную музыку і шмат яе слухаю, мае любімыя кампазітары — Бах, Моцарт, Вэрдзі, Шапэн, Грыг, Вівальдзі, Ліст, Рахманінаў. Магу гадзінамі слухаць Астара П'яцолу. Вельмі люблю барочную музыку не надта вядомых і зусім невядомых кампазітараў. Напрыклад, нядаўна я даведаўся, што ангельскі кароль Генрых VIII быў даволі неблагім кампазітарам — ягоныя барочныя кампазіцыі вельмі цікавыя. «Полацкі сшытак» — таксама ў маім плэйлісце.

Вельмі паважаю джаз самых розных гатункаў — ад госпелаў і рэгтаймаў да бігбэндаў, бібопа, кула. Два маіх куміры пачатку 2000-х — Джанга Рэйнхард і Сімонэ Грапеллі. Падабаюцца мне і блюзы.

Не магу прызнацца ў любові да вялікіх грандаў рок-музыкі кшталту «Бітлз», «Дзіп Пёрпл» або «Рэйнбоў»— неяк гэтая хваля мяне абмінула, але вельмі паважаю хэві-метал і трэш-метал, мае ўлюбёнцы — «ЭйСіДзіСі», «Айран Мэйдэн», «Назарэт», «Металіка», «Хэлоўін», маю сентымент да ранняга Бон Джові. Слухаю і якасны заходні поп, паважаю Мадонну, Джэксана, Джорджа Майкла.

Зараз вельмі шмат слухаю музыку з папулярных фільмаў і серыялаў — «Хросны бацька», «Танцуючы з ваўкамі», «Шэрлак», «Гульня тронаў», музыку Эніа Марыконэ або Анджэла Бадаламенці.

З дзяцінства засталася павага да Мусліма Магамаева, Уладзіміра Кузьміна, музыкі Мікаэла Тарывердзіева і Эдуарда Арцем'ева.

Захапленне бардамі мяне таксама абмінула, але Высоцкага, Акуджаву і Міцяева я магу слухаць доўга, а вось Візбара і Галіча — не. Хаця Галіч цалкам мой па духу аўтар.

З юнацтва паважаю музыку свярдлоўскіх рок-гуртоў — «Наўцілуса», «Агаты Крысці», «Чайфа». Хаця ўсё лепшае яны зрабілі напрыканцы 80-х — пачатку 90-х. Вельмі люблю Сяргея Чыгракова — «Чыжа», магу слухаць з яго амаль усё. А вось Макарэвіча не слухаю, Шаўчука вельмі выбарачна.

Не люблю і не слухаю сучасную расейскую папсу і шансон. Хаця пад чарку, калі нешта цёмнае прачынаецца ў душы, магу з надрывам і слязой выканаць нейкі там «Уладзімірскі цэнтрал», «Мы пайдзём з канём» ці «Прасці за любоў» Юліі Савічавай.)))

З беларускіх музыкаў стала слухаю Вайцюшкевіча, часам — Бартосіка. «Песняры», безумоўна, таксама ўваходзяць у спіс, але не ўсё.

Пад гурт НАКА ў мяне адведзены асобны плэй-ліст, і ён гучыць часта. Зараз мне вельмі падабаецца Рэлікт, але не ўсе песні. Лявон Вольскі таксама выбарачна — некаторыя песні мне не падабаюцца, а некаторыя ўваходзяць у мой «залаты фонд» беларускай музыкі.

Адзначу галасы Дзмітрыя Нікановіча, Марыны Вярэніч, Ганны Крамер — дарэчы, пра іх я даведаўся менавіта праз конкурс «Заспявай.BY».

Але, калі шчыра, то я ўсё яшчэ чакаю з'яўлення ў беларускай музыцы гурта кшталту «Акіяна Эльзы». Гэта мой безумоўны фаварыт апошняга дзесяцігоддзя і, на жаль, пакуль я не бачу ў Беларусі музыкаў гэткага ўзроўню, нават не ведаю — чаму. Хаця, канешне, гэта цалкам мае суб'ектыўныя густы і, магчыма, я зусім не маю рацыі.

**Э.А.** — *Зразумела, што для падтрымкі такіх шматлікіх літаратурных, музычных, тэатральных, выдавецкіх і музейных ініцыятываў патрэбны сродкі і зусім немалыя... Мяркую, што знаходзіце вы іх, працуючы ў савеце дырэктароў міжнароднай кампаніі UNAKO. Толькі вось абсалютна не зразумела, дзе вы знаходзіце час, каб, як кажуць, ахапіць неахопнае... Тым больш, што ў вас ёсць сям'я, якая таксама патрабуе нямала часу і ўвагі... Калі ўсё ж такі надараецца вольная часіна, як вы ёй распараджаецеся?*

**П.П.** — Я стараюся як мага больш часу праводзіць з сям'ёй — вандруем разам, слухаем музыку, глядзім кіно дома ці ў кінатэатры. Сустракаемся з сябрамі ў рознай абстаноўцы — на футбольным полі, на хакеі, на шашлыках. Ходзім у тэатры і абмяркоўваем пастаноўкі. Выбіраемся кудысьці на прыроду, але не вельмі часта. Вось набыў у Менску складныя ровары і прывёз дамоў — пачнецца новы сезон, паспрабуем часцей выязджаць.




*Разам да перамогі. Павел, Антось і Вольга. 2016 г.*

Часам мне трэба проста пасядзець на канапе, паглядзець па ТБ, як пакутуе ў ангельскай Прэм'ер-лізе мой улюбёны лонданскі «Арсенал» ці пачытаць кнігу.

**Э.А.** — *Вы разам з жонкай, спадарыняй Вольгай і сынам Антосем, зараз жывяце ў Таліне... Якія поспехі ў вашых сямейнікаў у авалоданні эстонскай мовай?*

**П.П.** — Поспехі цудоўныя. Вольга здала іспыт па мове, які патрэбны, каб атрымаць сталы від на жыхарства, Антон ужо вольна размаўляе па-эстонску, хаця пачаў вывучаць мову з нуля чатыры гады таму.

**Э.А.** — *А як вашы родныя ставяцца да вашага захаплення Беларушчынай? Ці выявілі яны жаданне наведаць Беларусь?*

**П.П.** — Родныя ставяцца з разуменнем. Яны бачаць, што для мяне гэта не прыхамаць, а духоўная патрэба, таму падтрымліваюць мяне ў маіх намаганнях. Дарэчы, яны былі ў Беларусі і неаднаразова. Сёлета мы павінны былі з Вольгай зладзіць вялікую вандроўку па Беларусі, але сур'ёзна захварэў мой бацька і давялося змяніць планы — адкласці вандроўку на іншы час...

**Э.А.** — *Мой сябра, паэт Леанід Дранько-Майсюк, аднойчы прызнаўся, што больш усіх ягонага вяртання з творчых вандровак чакае хатні выхаванец — французскі бульдог Хомка... Можаце гэтак жа сказаць у дачыненні да сваёй чатырохногай сямейнай любіміцы — Стэфкі?*

**П.П.** — А Бог ведае, што насамрэч на розуме ў гэтае хітрае істоты. Бо джэкрасэл-тэр'ер, а Стэфанія Б'янка належыць менавіта да гэтае пароды, — вельмі разумны і хітры сабака, сапраўдны маніпулятар. Не, канешне, яна вельмі радуецца, калі я вяртаюся дадому, але часам здаецца, што я патрэбны ёй,

каб выгульваць і кідаць мячык. Жартую, канешне, яна вельмі мяне любіць, паважае, і я люблю яе таксама.

**Э.А.** — *Наколькі мне вядома, вы — апантаныны бібліяфіл... Назавіце, калі ласка, сваіх любімых аўтараў. Якую апошнюю кнігу вы прачыталі? Якімі рарытэтнымі выданнямі на паліцах сваёй хатняй бібліятэкі можаце пахваліцца?*



*Стэфані Б'янка, першая выстава. 2013 г.*

**П.П.** — О, гэта амаль немагчыма! Я не трымаю кнігі аўтараў, якіх не люблю. Адпаведна, люблю ўсіх, каго трымаю. Калі кніга мне не падабаецца, я ніколі не буду яе «дамучваць», вазьму пачытаць іншую, бо біблятэка ў мяне сапраўды вялікая, дай Бог, паспець усё прачытаць. Магу толькі сказаць, што я вельмі шкадую пра смерць Умберта Эка, бо ягоныя новыя кнігі я дакладна хацеў бы яшчэ пачытаць. Зараз з расійскай мастацкай літаратуры чытаю Васіля Аксёнава «Таинственная страсть», і гэта вельмі блізкі мне аўтар і твор сугучны, а з беларускай літаратуры пачаў чытаць двухтомнік твораў Ларысы Геніюш, які трапіў да мяне нядаўна. Апроч таго, чытаю і гартаю шмат спецыяльнай літаратуры — гістарычнай і звязанай з бізнэсам. Канешне, часу не хапае. Каб было другое жыццё — дык я патраціў бы яго толькі на чытанне кніг. Але застаецца толькі шкадаваць, што гэта немагчыма.

Я люблю кнігі, але не імкнуся збіраць менавіта рарытэты, таму ў мяне не вельмі шмат нейкіх рэдкіх выданняў. Хіба што зараз, пад збор шляхецкай бібліятэкі як часткі экспазіцыі, набываем нейкія цікавыя выданні. Але хачу адзначыць толькі набытую месяц назад «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлава Ластоўскага, ды шэраг уніяцкіх выданняў, якія зараз досыць рэдкія, бо вынішчаліся праваслаўнай царквой больш за стагоддзе. А, прыгадаў яшчэ адно цікавае выданне! У мяне ёсць выдадзены ў Ватыкане з пячаткай папскай канцылярыі поўны збор матэрыялаў справы тампліераў — допыты, абвінавачанні, прысуд на пергаменце. Два тамы па-лацінску і па-ангельску ў тоўстай цялячай скуры на завязках! Вельмі шыкоўнае выданне, якое было надрукавана да 700-годдзя пачатку справы тампліераў абмежаваным накладам.

Калі запрацуе музей у Падароску, значную частку бібліятэкі, прынамсі, усё, што тычыцца Беларусі, я прывязу ў маёнтак. Ёсць яшчэ адна цікавая ідэя, звязаная з фондамі будучай бібліятэкі, але пакуль пра яе нешта казаць зарана...

**Э.А.** — *Ці спрабавалі вы перадаць цікавасць да беларускай кнігі, і наогул да Беларушчыны, свайму сыну Антосю? Каб не перарвалася гістарычная повязь, каб жыла Беларусь!*

**П.П.** — Я не прымушаю яго зараз чытаць ці гаварыць па-беларуску, бо не лічу прымус дзейсным сродкам. І стварыць для яго цалкам беларускае асяроддзе немагчыма. Мне дастаткова пакуль, што ён ведае, чым я займаюся, часам пытае, калі яму гэта цікава. Зараз ён актыўна вывучае кампутарныя праграмы, звязаныя з вытворчасцю відэапрадукцыі — вось і буду прыцягваць яго да справы прасоўвання маёнтка. Думаю, што некалі ён сам зацікавіцца сваімі каранямі і захоча даведацца больш пра Беларусь. Ну і, спадзяюся, музей-сядзіба таксама будзе прыцягваць ягоную ўвагу. Прынамсі, часу для гэтага наперадзе ў яго яшчэ вельмі шмат.

**Э.А.** — *Дзякуй, спадар Павел, за такую шчырую і змястоўную гутарку! У адным са сваіх інтэрв'ю вы прызналіся, што «Беларусь для вас — сапраўдная Бацькаўшчына, родная па духу краіна...» Шчыра жадаю вам, каб аднойчы Беларусь прызнала вас як аднаго з самых верных і адданых сыноў... Бо сапраўдная Роднасць вызначаецца не толькі па крыві, але і па нашых учынках...*

*Сын Антось. 2015 г.*





# «Тутэйшыя»

гурт утварыўся ў 2014 годзе. Канчаткова склаўся летам 2017 года. Калектыў выконвае толькі сваю музыку на беларускай мове ў стылі інды-поп-рок. Рэліз першага самотніка «Навучы мяне жыць» выйшаў у верасні 2017 года. Гурт удзельнічаў у шматлікіх песенных фестывалях, у тым ліку: «Бардаўская восень — 2014», «Заспявай 3.0 і 4 х 4», «Дзень вулічнай музыкі ў Вільні», «У госці да Лепельскага цмока» і інш.

# «Тутэйшыя» не баяцца нічога...

**Што мы ведаем аб Тутэйшых? Так называлі сябе калісьці насельнікі Паўночна-Заходняга краю. Так Янка Купала назваў сваю славутую тэатральную п'есу. А з нядаўняга часу «Тутэйшыя» — гэта яшчэ й адзін з папулярных моладзевых музычных гуртоў... Аб тым, як узнік гурт, чаму займеў такую адметную назву, якую музыку выконвае і на якой мове спявае — наша гутарка з кіраўніком і салісткай гурта Таццянай Казановіч.**

**Эдуард Акулін:** — *Калі і як узнікла ідэя заснавання гурта? Які склад ягоных удзельнікаў? Хто з'яўляецца кіраўніком калектыву?*

**Таццяна Казановіч:** — У нашым выпадку, мяркую, што першапачатковай ідэі стварэння гурта ў мяне не было. Справа ў тым, што спачатку я выступала сольна як Таццяна Тутэйшая, а з цягам часу, да мяне далучаліся і адлучаліся музыкі. Гэта быў такі перманентны працэс пошуку, так бы мовіць, «сваіх людзей». У нейкі момант гурт узнік сам сабой і вельмі натуральна. Пачатак стварэння гурта — гэта восень 2014 года. Менавіта тады мая аднагрупніца Ксенія Юрэня, цяпер ужо Харашкевіч, далучылася да праекта, у якім са мной ігралі два хлопцы — і мы ўзялі назву «Тутэйшыя». Цяперашні склад гурта істотна адрозніваецца ад першаснага. Засталіся толькі я і Ксенія, астатнія «новыя» музыкі далучаліся цягам апошніх гадоў, ажно да лета 2017 года. Але, тым не менш, зараз я маю даволі гарманічны і трывалы калектыў. Нас пяць чалавек: гітарыст — Андрэй Папкоў, бас-гітарыст — Сяргей Харашкевіч, бэк-вакал — Ксенія Харашкевіч, ударныя — Зміцер Аніськоў і я, Таццяна Казановіч: вакал, флейта і акустычная гітара. Я таксама з'яўляюся і кіраўніком нашага гурта.

**Э.А.** — *Каму належыць ідэя назвы гурта? Чаму менавіта «Тутэйшыя»?*

**Т. К.** — Назва «Тутэйшыя» ўтварылася ад назвы сольнага праекта «Таццяна Тутэйшая», гэта звязана са стварэннем калектыву, а таксама са зменай спецыфікі выканання песень, далучэннем яшчэ аднаго голаса. Таму лепш ставіць пытанне чаму — «Таццяна Тутэйшая»? Ды таму, што я хацела выказаць думку, што спяванне па-беларуску — гэта не музычная анамалія, а самая натуральная з'ява. Беларускамоўная, але такая ж, як і ўсе, — тутэйшая.

Тым не менш, за апошні год мы змянілі гучанне калектыву, адышлі ад акустычнага выканання, загучалі па-новаму. У музыцы з'явіліся каардынальныя змены, менавіта таму, мы не запісалі альбом летась, а перарабліваем яго дасюль, на новы лад. Я вяду да таго, што не выключана, што з часам назва гурта можа змяніцца. Але пакуль што мы знаходзімся ў пошуках...

**Э.А.** — *У якім музычным стылі працуе гурт? Ці змянілася творчая арыентацыя гурта цягам апошніх двух гадоў? Калі так, то ў які бок — кантры, фолк, рок?*



**Т. К.** — Мы не прытрымліваемся строга аднаго стылю. Магу сказаць толькі, што наша творчасць больш набліжана да поп-рока, але гэта не выключае і прысутнасці іншых фарбаў: фанка, кантры і блюза. За апошні год наша музыка істотна змянілася, канешне, гэта звязана са зменай гука. Музыка стала цяжэйшай, але і больш аб'ёмнай, больш разнастайнай.

**Э.А.** — *Хто з'яўляецца аўтарам «тутэйшых» тэкстаў? Напісанне песень для гурта — аўтарская ці калектыўная творчасць?*

**Т. К.** — Аўтарам тэкстаў з'яўляюся я, так у нас павялося. Ды ніхто і не прэтэндуе на гэтую ролю...

**Э.А.** — *Спяванне па-беларуску для вас — гэта даніна модзе ці прынцыповая пазіцыя?*

**Т. К.** — Хутчэй прынцыповая пазіцыя. Я люблю беларускую мову, размаўляю на ёй, не ўяўляю, каб раптам мне захацелася спяваць па-руску.

**Э.А.** — *Ведаю, што прэрагатывай для ўдзельнікаў гурта з'яўляецца выкананне ўласных песень? А ці былі выключэнні з гэтага правіла?*

**Т. К.** — Так, былі выключэнні. Яшчэ падчас навучання ў Акадэміі мастацтваў я зрабіла пераклад песні «Blowing in the wind» Боба Дзілана на беларускую мову. Мы і дасюль часам выконваем яе на канцэртах.Таксама трэба адзначыць, будучы фіналістамі фестывалю «Засьпявай 3.0» у намінацыі «Беларускі кавер», у нас атрымаўся неблагі кавер на песню гурта «Без билета» — «Чырвоны дыск Сонца». Песню на канцэртах вельмі палюбіла наша публіка.

**Э.А.** — *Апошнім часам «Тутэйшыя» — частыя госці на шматлікіх песенных фестывалях... Назавіце, калі ласка, фэст, які, так бы мовіць, стаў знакавым у вашым творчым лёсе?*

**Т. К.** — Вельмі складанае пытанне. Кожны фэст і канцэрт — гэта досвед, яшчэ адна прыступка ў развіцці. Але адзначу напэўна ўдзел у апошнім конкур-

се «Заспявай 4х4», дзякуючы яму, мы запісалі свой першы самотнік, песню «Навучы мяне жыць».

**Э.А. —** *Вы неаднойчы прымалі ўдзел у рознага кшталту вулічных імпрэзах, у тым ліку, фестывалі «Вулічнай ежы»... Ці не сведчыць гэта аб вашай творчай «усеяднасці»? Выступленне на якіх канцэртных пляцоўках вам запомнілася больш за ўсё?*

**Т. К. —** Выступаць на фестывалях — прыемней, чым на конкурсах. Няма гэтага адчування спаборніцтва. Мы стараемся па магчымасці выступаць часцей, бо хочам, каб нас пачула як мага большая колькасць слухачоў.

Запомніўся выступ на фестывалі «У госці да Лепельскага Цмока», у якім мы ўдзельнічалі летась. Фестываль «Тутэйшыя» ў Барысаве. Выступ у Вільні на Дні вулічнай музыкі. Можна яшчэ пералічваць і пералічваць. Але заўсёды прыемна, калі шмат слухачоў на імпрэзах.

**Э.А. —** *Распавядзіце, калі ласка, аб досведзе супрацы з Сяргеем Доўгушам, які цягам лета 2017 года быў вашым творчым ментарам? Што дало гурту такое музычнае сумоўе?*

**Т. К. —** Сапраўды, калі мы ўдзельнічалі ў конкурсе «Заспявай 4х4», нашым ментарам быў Сяржук Доўгушаў. Ен займаўся з намі вакалам, працаваў над падачай тэксту песні «Навучы мяне жыць». За гэта яму — вялікі дзякуй. Таксама мы крыху змянілі саму структуру песні, і яна стала цікавей. Трэба адзначыць, што ў запісу песні прыняла ўдзел Анастасія Папова, скрыпачка гурта «Vuraj», што дадало новую фарбу ў гучанне кавера.

**Э.А. —** *Чым абумоўлены ваш удзел у працы моўных курсаў «Мова нанова»? У якіх гарадах у межах курсаў вам выпала прэзентаваць сваю творчасць?*

*Ксенія Харашкевіч і Таццяна Казановіч*



**Т. К. —** Усё проста. Мы імкнемся падтрымліваць «беларускасць» у Беларусі, а таксама, распасюдзіць сваю творчасць па-за межамі Мінска. Часам выступаем поўным складам гурта, а бывае, што і сольна. Калі згадаць усе выступы на занятках «Мова нанова», то памятаецца — гэта гарады: Маладзечна, Бабруйск, Баранавічы, Астравец, Мінск.

**Э.А. —** *Дзе, акрамя кацэртаў, можна пачуць песні гурта? Ці зацікавіліся вамі айчынныя радыёстанцыі і тэлебачанне?..*

**Т. К. —** У нас ёсць суполкі ў сацыяльных сетках: https://vk.com/tutband і https://www.facebook.com/tutejshyja/. Старонка: https://www.instagram.com/tutejsyja/. Таксама нас можна знайсці на канале ў «youtube.com» і «soundcloud.com».

Песня «Навучы мяне жыць» гучыць на некаторых радыёстанцыях. Даволі хутка ў нас адбудзецца запіс і інтэрв'ю на радыё «Сталіца». На тэлебачанне мы пакуль не спяшаемся, але спадзяемся — усё наперадзе.

**Э.А. —** *Гурт «Тутэйшыя» існуе амаль чатыры гады... А «Адкрыццём года «музычныя крытыкі назвалі вас толькі ў 2017 годзе? Ці згодныя вы з гэтай думкай?*

**Т. К. —** Тое што мы «Адкрыццё года» — гэта меркаванне асобнага крытыка. А ён выказаўся, калі пазнаёміўся з нашай творчасцю. Магчыма, гэта звязана з тым, што мы сталі актыўна пашыраць слухацкую аўдыторыю толькі апошнім часам.



**Э.А. —** *Які перыяд можна лічыць самым плённым у гісторыі калектыву? Якія кампазіцыі гурта вы лічыце сваёй творчай удачай?*

**Т. К. —** Нельга сказаць, што ў нас быў нейкі адзін плённы перыяд. У нашай творчасці заўсёды чаргуюцца зацішша і бура. Але апошнім часам мы сталі развівацца вельмі хуткімі тэмпамі.

**Э.А.:** — *Чаму толькі ў 2017 годзе быў выпушчаны ваш першы якасны песенны сінгл? Што перашкаджала ажыццявіць гэта раней?*

**Т. К.** — З 2014 года ўдзельнікі часта змяняліся. Мы знаходзіліся хутчэй у творчым пошуку сябе і свайго стылю...Наогул, я лічу, што запісваць песню трэба тады, калі яна будзе сапраўды гатовая, каб не ўзнікла жадання потым, у будучыні, яе перазапісаць.




**Э.А.** — *Вашы тэксты заўважна выйграюць на фоне даволі распаўсюджанага ў рок-мастацтве паэтычнага прымітывізму і стылёвай неахайнасці... Што або хто гэтаму спрыяе? Каго вы лічыце сваімі літаратурнымі і музычнымі настаўнікамі?*

**Т. К.** — На працягу свайго жыцця я праслухала шмат рознай музыкі. Густы змяняюцца, ледзь паспяваю абнаўляць плэй-ліст. У падлеткавым узросце і, нават у дзяцінстве, я слухала пераважна рускі рок: Кино, Земфира, Сплин, ДДТ і г.д.. Сапраўды, добрыя гурты маюць не толькі якасную музыку, а і якасныя паэтычныя тэксты. Зараз я выбіраю выканаўцаў з якаснымі тэкстамі, але для мяне яшчэ важны і спосаб падачы гэтых тэкстаў. Люблю слухаць: U 2, Muse, RHCP, Adele, Би-2 і інш..

**Э.А.** — *Па сваім рокерскім досведзе ведаю, як цяжка знайсці месца для рэпетыцый, не кажучы ўжо пра магчымасць іграць на якаснай музычнай апаратуры... Як вам удаецца вырашыць пытанне з творчай прапіскай гурта?*

**Т. К.** — Калі ў нас быў акустычны склад, то мы рэпетавалі на кватэры. Цяпер жа — гэта звычайныя рэп-кропкі ў горадзе, якіх у нас вельмі багата. Пры-

ходзіцца грошы плаціць, канешне, але тое, што мы граем у электрычным гуку — найвялікшая асалода і для нас саміх.

**Э.А.** — *Як ідзе праца над запісам першага альбома? Што перашкаджае творчаму працэсу? Калі плануцца доўгачаканы выхад першай кружэлкі?*

**Т. К.** — Альбом амаль гатовы, а запіс ужо пачаўся. Што перашкаджае? Магчыма недахоп часу. Усе ўдзедьнікі працуюць, зарабляюць грошы. Трэба ж аплочваць рэпетыцыі! Таму пакуль наша творчасць нічога нам не прыносіць, то і праца над альбомам рухаецца няспешна. Думаю, што ў канцы гэтага года альбом будзе гатовы. Але гэта не значыць, што мы не будзем выпускаць самотнікі.

**Э.А.** — *У адрозненне ад папулярнага выразу: «Не вучыце мяне жыць — лепш дапамажыце матэрыяльна...» адна з вашых песень называецца «Навучы мяне жыць»... Ці азначае гэта, што маральны бок творчасці для вас пераважае над матэрыяльным? Ці можна ў Беларусі пражыць толькі «спяваючы»?*

**Т. К.** — Усё, што мы робім, мы робім ад душы. Хочацца, каб нас заўважылі і ацанілі? Так. Хочацца атрымліваць за гэта грошы? Само сабой. Але, спяшаюся адказаць на другое пытанне, у Беларусі з гэтым вельмі складана. І гэта тычыцца не толькі музыкі, а культуры ў цэлым.

**Э.А.** — *Дыпломнай працай салісткі гурта Таццяны Казановіч стаў сольны канцэрт «Тутэйшых» пад назовам «Подых часу»... А які ён, на вашу думку, подых часу ў сённяшнім айчынным мастацтве?*

**Т. К.** — Скажу, што подых нашага беларускага часу — падцэнзурны... Усе ўсё разумеюць, але амаль ніхто не выказваецца.

**Э.А.** — *Напачатку года вы выступілі на акадэмічнай сцэне тэатра імя М. Горкага... Якой вы бачыце для сябе будучыню гурта? Ці хацелі б стаць філарманічным калектывам, накшталт «Песняроў» або «Сяброў» з дзяржаў-*





*На фестывалі «У госці да Лепельскага цмока»*

*ным фінансаваннем, працаўладакаваннем, гастрольным графікам і г.д.? Ці ўсё ж такі вам бліжэй купалаўскае творчае крэда: «Гуслям, княжа, не пішуць законаў!...»*

**Т. К. —** Выпусцім альбом, а там ужо будзе бачна. Шмат чаго можа змяніцца за гэты час, але, папраўдзе, я ўсё ж бачу гурт «вольнай птушкай» з купалаўскім вызначэннем творчага крэда...

**Э.А. —** *Адзін з вашых песенных хітоў назаваецца «Не бойся»... А чаго баіцца гурт «Тутэйшыя»? Ці ёсць нешта такое, што дазваляе вам верыць у тое, што мы дачакаемся «залацістага, яснага дня»?*

**Т. К. —** «Тутэйшыя» не баяцца нічога. Бо мы верым, што ўсё ў нас атрымаецца. Мы каманда, калектыў, які паляпшае з кожным годам сваё гучанне. Відавочна, што, калі не зараз, то заўтра наш зорны час абавязкова надыдзе...

**Э.А. —** *Дзякуй вялікі, за цікавую гутарку! Будзем спадзявацца, што ніхто і ніколі не забароніць «Тутэйшым» жыць і спяваць па-беларуску...*



# Алег Трусаў

гісторык, археолаг, палітык, в.а. абавязкі рэктара Нацыянальнага ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча. Кандыдат гістарычных навук. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў ТБМ імя Францішка Скарыны. Аўтар больш як 150 навуковых публікацый, сярод якіх некалькі манаграфій. Як археолаг і гісторык архітэктуры займаецца вывучэннем манументальнага дойлідства XI—XVIII стст. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў Мсціславе на Магілёўшчыне. Жыве ў Мінску.

# «Працуй пільна — і будзе, як у Вільні»...

***Пра ўдзел у прыняцці ў якасці дзяржаўных сімвалаў Беларусі — бел-чырвона-белага сцяга і герба Пагоня, пра заснаванне Гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, пра кіраўніцтва ТБМ імя Францішка Скарыны, а таксама стварэнне першага Нацыянальнага ўніверсітэта і яшчэ пра шмат чаго іншага — наша гутарка з вядомым гісторыкам, археолагам, палітыкам і грамадскім дзеячам Алегам Трусавым.***

**Эдуард Акулін:** — *Спадар Алег, зважаючы на тое, што сёлетні год абвешчаны «Годам малой радзімы», распавядзіце, калі ласка, з якіх мясцін вы родам? Хто вашыя бацькі па адукацыі? Колькі вас было ў сям'і?*

**Алег Трусаў:** — Я нарадзіўся ў старажытным беларускім горадзе Мсціславе 7 жніўня 1954 года. На жаль, з 4,5 гадоў жыў без бацькоў, бо яны разышліся і раз'ехаліся ў розныя бакі. Мяне пакінулі ў бабулі, якая яшчэ працавала, таму мяне выхоўвала прабабуля (яна, дарэчы, пражыла 100 гадоў).

Мае бацькі — дзеці апошняй вайны. Бацька з вёскі Пігілінка Хараўскага раёна Валагодскай вобласці здолеў скончыць 10 класаў, бо вайна да яго вёскі не дайшла. Маці трапіла ў эвакуацыю, некалькі ваенных гадоў не вучылася і таму скончыла толькі 7 класаў, а потым працавала ўсё жыццё ў дзіцячым садку на розных пасадах. У сям'і я адзін, а ў бацькі была другая даволі вялікая сям'я, але кантактаў з бацькам у мяне ніколі не было і я нават яго не памятаю. Бабуля скончыла Белпедтэхнікум і была спачатку настаўніцай, потым выхавацелькай у доме глуханямых дзяцей, а напрыканцы — бібліятэкаркай у раённай Мсціслаўскай бібліятэцы.

**Э.А.** — *У якой школе вы вучыліся? Ваш любімы прадмет... Хто з настаўнікаў найбольш паўплываў на фарміраванне вашага светапогляду?*

**А.Т.** — Вучыўся я ў розных школах. Маёй першай настаўніцай была маці Міхася Ткачова — Дамініка Сямёнаўна Казлоўская. Я любіў вучыцца і скончыў школу з залатым медалём. З любімых прадметаў магу назваць хімію, фізіку, матэматыку і біялогію. Вялікую ролю ў маім жыцці адыгралі: настаўніца беларускай мовы і літаратуры Саўчанка Клаўдзія Цярэнцьеўна, настаўніца фізікі спн. Курчэўская і настаўнік гісторыі, мой класны кіраўнік, франтавік Нікіцін Юры Захаравіч.

**Э.А.** — *На якой мове размаўлялі вашы сямейнікі? У якім узросце вы ўсвядомілі сябе беларусам?*

**А.Т.** — Мае сямейнікі размаўлялі мовай слоўніка Івана Насовіча, на мсціслаўскай гаворцы беларускай мовы, асабліва прабабуля, што ведала сотні прымавак і штодня імі карысталася. Бабуля старалася размаўляць па-руску,

але гэта была збольшага трасянка. Я не чуў ад яе, напрыклад, такіх слоў як «свекла» ці той жа «лук». Гэта былі буракі і цыбуля. Маці, якую я бачыў раз на год, калі яна прыязджала ў Мсціслаў на пару тыдняў падчас адпачынку, гаварыла на Кобрынскай трасянцы, бо жыла і працавала ў Кобрыне і часам ужывала польскія словы, бо ўсім казала, што яна полька. Праўда, бацькі ў яе беларусы, а нарадзілася яна ў Чалябінску і ў метрыках яе запісалі рускай. Полькай жа яна лічыла сябе, бо паходзіла з беларускай мсціслаўскай шляхты, і дзявочае яе прозвішча было Мяжэвіч (дарэчы, пасля таго, як яны з бацькам разышліся, яна вярнула сабе гэтае прозвішча). А я ж застаўся Трусавым, як бацька.

Калі ў 16 год я атрымаў пашпарт, то ганарыўся тым, што ў ім мяне запісалі рускім, бо рускіх у маім класе было толькі некалькі чалавек, большасць — беларусы і адзін мой добры сябра — яўрэй.

Беларуская свядомасць пачала прыходзіць да мяне ў студэнцкія гады, калі я вучыўся на гістфаку і сябраваў з хлопцамі, якія не хавалі сваёй беларускасці. Напрыклад, Алесь Міткавец ці Уладзя Арлоў.

Значна дапамог мне зразумець, хто я ёсць, і мой выкладчык гісторыі Беларусі ва ўніверсітэце Лаўрэн Абэцэдарскі, які аднойчы назваў мяне «недасекам» (недасекі — гэта жыхары Мсціслава, якія выжылі ўлетку 1654 г. падчас

*З Ігарам Чарняўскім*



штурму горада маскоўскімі войскамі). Канчаткова я стаў беларусам ужо на працы ў беларускай рэстаўрацыі, дзе было шмат беларускіх патрыётаў, напрыклад, мой начальнік Сяргей Друшчыц, сваяк Васіля Друшчыца, вядомага гісторыка, рэпрэсаванага ў 30-я гады XX ст.

**Э.А.** — *Вы прадстаўнік пасляваеннага пакалення... Чым запомніліся першыя гады дзяцінства?*

**А.Т.** — Першыя гады дзяцінства былі няпростыя, бо жылі мы з бабуляй бедна, на яе пенсію. Аліменты бацька гадамі не плаціў, а калі яны і былі, то гэта было некалькі рублёў, бо бацька працаваў у калгасе. З боку маці дапамогі таксама практычна не было. Нас ратаваў вялікі сад і агарод. Мы трымалі курэй, трусоў, парсючка і нават казу. Былі часы, калі мусілі стаяць у доўгіх чэргах па хлеб, які давалі адзін бохан у адны рукі.

**Э.А.** — *У свой час вы закончылі гістфак БДУ. Хто або што вызначыла выбар будучай прафесіі? З кім вы разам вучыліся і сябравалі ў студэнцкія гады?*

**А.Т.** — На выбар маёй прафесіі «археолаг» паўплывала экскурсія на раскопкі ў другім ці трэцім класе. Тыя раскопкі на Мсціслаўскім замчышчы праводзіў маскоўскі археолаг Леанід Аляксееў, з якім я потым пазнаёміўся і быў у вельмі добрых, прыязных стасунках доўгія гады.

Сяброў у БДУ у мяне было шмат, тым больш, што я быў старастам групы. Дарэчы, з майго курса выйшла шмат навукоўцаў, дактароў і кандыдатаў гістарычных навук. У мяне былі вельмі добрыя выкладчыкі, напрыклад: Эдуард Загарульскі, Міхаіл Піліпенка, Валянцін Рабцэвіч, Анатоль Міхайлаў і інш.

**Э.А.** — *Калі вы сустрэліся са сваёй будучай жонкай? Гэта было каханне з першага погляду? Ці раздзяляе вашая абранніца вашыя жыццёвыя погляды?*

**А.Т.** — З маёй будучай жонкай, журналісткай па адукацыі, мы жылі ў адным інтэрнаце на вуліцы Свярдлова, каля вакзала. Пазнаёміліся на Навагодняй ялінцы, калі сустракалі новы 1973 год. Спачатку сябравалі, потым прыйшло каханне, і ў лютым 1975 года ў палескай вёсцы Жытновічы пад Пінскам справілі сапраўднае вяселле, якое доўжылася некалькі дзён. Мая Алена мае погляды на жыццё падзяляе і заўжды мяне падтрымлівае, нават у самых няпростых паваротах лёсу. Яна нават была дэлегатам на першым з’ездзе БНФ у Вільні.

**Э.А.** — *Колькі ў вас дзяцей? Ці размаўляюць яны па-беларуску дома і на працы? Ці звязаны іх жыццёвы лёс з беларускай культурай?*

**А.Т.** — У мяне адна дачушка Надзея і адна ўнучка Алёнка. Вядома, што беларускую мову яны добра ведаюць і размаўляюць са мною толькі па-беларуску, дачка таксама працуе ў беларускамоўнай культурнай сферы. Дарэчы, дачка скончыла Коласаўскі беларускамоўны ліцэй, а ўнучка 8 класаў беларускамоўнай гімназіі. Дачка мае дзве вышэйшыя адукацыі «культуролаг» і «бібліятэкар». Доўгі час працавала ў музеі, а зараз у дзіцячай бібліятэцы. Унучка паступіла ў ліцэй у Серабранцы на філалагічнае аддзяленне. Яна добра ведае англійскую мову і гісторыю.

**Э.А.** — *Месца вашай першай працы.Чаму заміж кабінетнай руціны вы аддавалі перавагу археалагічным экспедыцыям, палявой рамантыцы?*

**А.Т.** — За сваё жыццё я змяніў толькі тры месцы працы. У 1976 годзе па размеркаванні стаў археолагам у спецыяльных навуковых вытворчых рэстаўрацыйных майстэрнях Міністэрства культуры БССР, дзе стварыў аддзел археалогіі.

Потым працаваў намеснікам старшыні камісіі ВС Беларусі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны (1992-1995 гг.) і з 1995 — дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.



*На археалагічных раскопках*

**Э.А.** — *Многія з вашых сяброў-пакаленнікаў паспелі «ўступіць» у шэрагі КПСС, атрымаць камсамольскія прэміі... Праўда, зараз аб гэтых фактах сваіх біяграфій яны не надта любяць згадваць... Якімі былі вашыя стасункі з тагачаснымі палітычнымі арганізацыямі?*

**А.Т.** — Будучы студэнтам я не імкнуўся да палітыкі, мяне цікавіла толькі археалогія. Але як толькі прыйшоў на працу і стаў на камсамольскі ўлік, нечакана быў абраны сакратаром камсамольскай арганізацыі. Тады ў Савецкім раёне Мінска праз камсамол далучыўся да цікавых моладзевых ініцыятыў. Напрыклад, браў удзел у стварэнні знакамітай кавярні «Сузор’е», дзе ў музычных паўзах паказваў слайды знакамітых помнікаў беларускай архітэктуры.

Наша арганізацыя стала адной з лепшых у раёне, і мы пачалі рабіць выязныя акцыі па захаванні помнікаў архітэктуры ў розных мясцінах Беларусі. Напрыклад, мы змаглі выратаваць ад знішчэння славуты касцёл Св. Андрэя ў Слоніме. Таму ў 1978 г. мне прапанавалі ўступіць у шэрагі КПСС. Я параіўся з Зянонам Пазняком, і ён сказаў, што трэба браць прыклад з камуністаў Польшчы і асабліва Літвы, якія не разбураюць, а аднаўляюць сваю гістарычную спадчыну. Я пагадзіўся і неўзабаве стаў сакратаром партыйнай арганізацыі беларускіх рэстаўратараў, дзе было ад 40 да 50 чалавек.

На гэтай пасадзе, дарэчы, грамадскай, я быў каля 9 гадоў. Мы здолелі шмат зрабіць, і я не шкадую, што меў партыйны білет.

Дарэчы, я быў адзіным сакратаром партарганізацыі КПБ, які 19 кастрычніка 1988 года быў абраны ў аргкамітэт па стварэнні БНФ. А з 35 асобаў сяброў аргкамітэта камуністамі было больш за палову.

Пакінуў я шэрагі КПСС летам 1990 года, калі стала зразумела, што гэта партыя рэфармавацца не можа і яе гістарычны час скончыўся. Дарэчы, гэта да канца 1990 года зрабіла і большасць чальцоў маёй партарганізацыі. У тым жа 1990 годзе я ўвайшоў у аргкамітэт па стварэнні Грамады (БСДП), а 3 сакавіка 1991 года наша партыя ўжо была зарэгістравана. Сяброўства ў гэтай партыі я маю і зараз.

**Э.А.** — *Вы аўтар больш 150 публікацый, некалькіх кніг па гісторыі Беларусі. Што змусіла вас заняцца грамадска-палітычнай дзейнасцю?*

**А.Т.** — Мая грамадска-палітычная дзейнасць у сённяшнім разуменні гэтага слова пачалася 19 кастрычніка 1988 года — 30 год назад — і доўжыцца па сённяшні дзень. Далучыў мяне да яе мой зямляк і старэйшы сябра Міхась Ткачоў.

**Э.А.** — *Хацелася б вярнуцца ў гады вашай дэпутацкай працы ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь у 1990-1996 гадах... Якая падзея гэтых часоў стала самай яркай у вашым жыцці?*

**А.Т.** — Самая яркая старонка ў маёй дэпутацкай дзейнасці — гэта прыняцце ў якасці дзяржаўных сімвалаў бел-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня». Мне давялося кіраваць гэтым працэсам.

**Э.А.** — *А якая — самай змрочнай?*

**А.Т.** — Самая змрочная старонка — гэта збіццё бандытамі ў чорных масках мяне і маіх сяброў у будынку парламента падчас галадоўкі ўвесну 1995 года і той страх у вачах большасці дэпутатаў, які я бачыў пасля гэтай ганебнай падзеі.

*Галадоўка пратэсту ў Вярхоўным савеце БССР*



**Э.А.** — *Вы з'яўляліся намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета па адукацыі і культуры... Што ўдалося вам зрабіць для беларускай культуры, займаючы гэтую высокую пасаду?*

**А.Т.** — На пасадзе намесніка старшыні камісіі ВС я здолеў шмат зрабіць і ў першую чаргу — гэта шэрэг новых законаў, прычым першым з іх быў закон «Аб культуры», дарэчы, першы такі закон на тэрыторыі СССР, бо быў прыняты ў 1991 годзе.

**Э.А.** — *Ці выступалі вы ў той час з ініцыятывай стварэння першага Нацыянальнага ўніверсітэта? Што перашкодзіла ажыццяўленню гэтага праекта тады?*

**А.Т.** — У тыя часы мы выконвалі закон аб мовах у Беларусі, у адпаведнасці з якім за 10 год усе нашыя ўніверсітэты былі павінны перайсці на беларускую мову. Вядома, у першую чаргу, гэта павінен быў быць БДУ. Што гэтаму перашкодзіла? Сумна вядомы рэферэндум 1995 года.

**Э.А.** — *Амаль 20 гадоў вы ачольвалі ТБМ імя Францішка Скарыны... Якое з дасягненняў арганізацыі за час свайго кіраўніцтва лічыце найбольш значным?*

**А.Т.** — Галоўнае дасягненне на пасадзе Старшыні ТБМ у тым, што мы здолелі не толькі захаваць гэтую арганізацыю з офісам у цэнтры Мінска, але і зрабіць яе ўплывовай структурай у краіне. Пра гэта сведчыць абранне Алены Анісім у шэрагі дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў.

**Э.А.** — *У адным са сваіх інтэрв'ю вы заявілі, што з'яўляецеся прыхільнікам дзвюх формаў існавання беларускай мовы: тарашкевіцы і наркамаўкі... Аднак найбольшыя папрокі ў ваш бок чуюцца з-за вашага заклiку да беларусаў у выпадку чаго «лупіць на трасянцы»... Вы не памянялі сваю пазіцыю на гэты конт?*

*З Вінцуком Вячоркам у Курапатах*





*З Сяргеем Гілевічам і Уладзімірам Арловым*
*падчас адкрыцця падрыхтоўчых курсаў Нацыянальнага ўніверсітэта*

**А.Т.** — Дарэчы, выраз «Лупіце на трасянцы!» прыдумаў не я, а спадар Панкавец, калі друкаваў маё інтэрв'ю. Але мне ён падабаецца, бо трасянка сведчыць пра тое, што беларуская мова, хоць і кволая, але жывая і можа аднавіцца пры спрыяльных абставінах.

**Э.А.** — *Чаму толькі на 27 годзе пасля абвяшчэння Незалежнасці вы вярнуліся да ідэі аб стварэнні нацыянальнага ўніверсітэта?*

**А.Т.** — Ідэя стварэння Нацыянальнага беларускамоўнага ўніверсітэта была выказана 20 год назад прафесарам Хадыкам. За гэтую ідэю сябры ТБМ сабралі 55 тысяч подпісаў грамадзян Беларусі. Але ўлады нічога не зрабілі, і мы былі вымушаны стварыць прыватны ўніверсітэт.

**Э.А.** — *Я лічу вельмі сімвалічным, што нацыянальны ўніверсітэт носіць імя Ніла Гілевіча. Ці былі нейкія іншыя варыянты назвы навучальнай установы? Як паставіліся дзяржаўныя клеркі да намеру надаць універсітэту імя Народнага паэта Беларусі?*

**А.Т.** — Улады адкінулі шмат прапанаваных назваў. Сярод іх была і спроба надаць нашаму ўніверсітэту імя Францішка Багушэвіча. Чыноўнікі запатрабавалі пісьмовы дазвол нашчадкаў Багушэвіча, завераны натарыусам. І тут Алена Анісім звяртаецца да адзінага сына Ніла Гілевіча і праз дзень прыносіць яго згоду, афармленую юрыдычна. Так і адбылася рэгістрацыя ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча.

**Э.А.** — *Якія самыя цяжкія праблемы ўзніклі на першым этапе працы па заснаванні ўніверсітэта?*

**А.Т.** — Самыя цяжкія праблемы на першым этапе: гэта адсутнасць фінансавых сродкаў і апатыя грамадства, бо на словах усе «за», а на справе — «хто ў лес, а хто па дровы».

**Э.А.** — *Што вы чакалі і чаго не чакалі з боку грамадскасці ў стаўленні да ідэі стварэння нацыянальнага ўніверсітэта?*

**А.Т.** — З боку грамадскасці мы чакалі больш канкрэтнага ўдзелу ў нашай справе, а не чакалі «аглабельнай» крытыкі з боку некаторых выпускнікоў ЕГУ.

**Э.А.** — *Ці не апасаецеся вы, што выпускнікі будучага ўнівесітэта папоўняць шэрагі палітэмігрантаў, як гэта нярэдка было з навучэнцамі Ліцэя імя Якуба Коласа і студэнтамі ЕГУ? Што, на вашу думку, можа перашкодзіць працэсу «інтэлектуальнай уцечкі» з культурнага і навуковага поля Беларусі?*

**А.Т.** — Палітэмігранты былі і будуць, і гэта не залежыць ад нашага ўніверсітэта, пакуль не зменіцца палітычная сітуацыя ў краіне. Іншая справа, калі нашыя студэнты будуць патрыётамі, то яны будуць працаваць для Беларусі ў любой кропцы свету. Перашкодзіць працэсу «інтэлектуальнай уцечкі мазгоў» можа толькі самасвядомасць нашых студэнтаў. Калі мазгі думаюць па-беларуску, месца іх знаходжання не мае вялікай розніцы. Наадварот, прыцягненне вялікіх інвестыцый у Беларусь могуць арганізаваць толькі беларускамоўныя і гістарычна свядомыя дыяспары.

**Э.А.** — *Справа, за якую вы ўзяліся, патрабуе каласальных духоўных і арганізацыйных высілкаў. Каго, акрамя сябе, вы можаце назваць з каманды стваралальнікаў нацыянальнага ўніверсітэта?*

**А.Т.** — Каманда стваральнікаў універсітэта налічвае зараз некалькі дзясяткаў чалавек. Сярод іх можна назваць Алену Анісім, Уладзіміра Коласа, Паўла Церашковіча, Яўгена і Эліну Кажарскіх, Юлію Бажок, Лявона Баршчэўскага...

*З амбасадарам Швецыі Стэфанам Эрыксанам*





*З Аленай Анісім на юбілейнай вечарыне Эдуарда Акуліна, 2013 г.*

**Э.А.** — *З вераня гэтага года пачалі працу падрыхтоўчыя курсы будучай навучальнай установы. Ці шмат жадаючых запісалася ў спіс вашых слухачоў? Куды звяртацца тым, хто яшчэ не чуў пра новую ВНУ?*

**А.Т.** — Першыя заняткі на падрыхтоўчых курсах пачаліся з майстар-класа Уладзіміра Арлова 24 верасня. Зараз на курсы запісалася больш за 50 чалавек. Ужо працуюць групы па вывучэнні беларускай і польскай моваў, фізікі і матэматыкі. Ідзе фармаванне груп па вывучэнні англійскай і нямецкай моваў і гісторыі Беларусі.

Тыя, хто хочуць запісацца на курсы, могуць атрымаць неабходную інфармацыю на сайце ўніверсітэта http://nhu.by і ТБМ https://tbm-mova.by ці напісаць на пошту ўніверсітэта nhuniversitet@gmail.com, а таксама ў загадчыцы курсаў сп. Эліны Кажарскай па тэлефоне +37533-90-23-708.

**Э.А.** — *Спадар Алег, хто вы па сваёй натуры — аптыміст ці песіміст? Што надае вам веры ў тое, што мы аднойчы дачакаемся «залацістага, яснага дня» для роднай Беларусі? Што для гэта неабходна зрабіць?*

**А.Т.** — Па натуры я асцярожны аптыміст. Сілы мне надае вера ў Бога і гістарычны лёс Беларусі. Што для гэтага зрабіць? Дзейнічаць штодня ў адпаведнасці з нашай прымаўкай «Працуй пільна — і будзе, як у Вільні».

**Э.А.** — *Дзякуй вялікі, спадар Алег, за гутарку! І дай вам Бог ажыццявіць усё, што задумана...*



# Юры Несцярэнка

празаік, публіцыст, перакладчык, рок-музыка. Аўтар кнігі прозы «Звычайны шоу-бізнес» (2015 г.) і зборніка краязнаўчых нарысаў «Маё мястэчка ў часе і прасторы» (2015 г.). Нарадзіўся ў 1965 годзе на Быхаўшчыне. Жыве ў Магілёве.

# «Усё значнае здараецца выпадкова...»

***Пра гісторыю ўласнага радаводу і гісторыю Бялынічскага краю, пра першае каханне і першую ў жыцці гітару, пра першыя крокі на шляху да рок-алімпу і пра нараджэнне «агароднага року», пра пошукі сябе ў жыцці і ў літаратуры, а таксама пра шмат што іншае — наша гутарка з вядомым беларускім музыкам, празаікам і перакладчыкам Юрыем Несцярэнкам.***

**Эдуард Акулін:** — *Юры, я ведаю толькі, што ты родам з Быхаўшчыны і на гэтым — усё... Калі ласка, распавядзі крыху пра сябе, сваіх бацькоў, малую радзіму...*

**Юры Несцярэнка:** — Так, я нарадзіўся на Быхаўшчыне, у невялікай вёсачцы пад назвай Прыбар. Спрадвеку яна стаяла на беразе Дняпра, а зараз нават не ведаю, ці жыве там хто-небудзь — гадоў дзесяць таму заставалася літаральна некалькі хат. Напачатку 1960-х бацька быў накіраваны па размеркаванні ў Прыбарскае лясніцтва пасля заканчэння лесатэхнічнага факультэта Беларускага тэхналагічнага інстытута. Сам ён родам з таго ж Быхаўскага раёна — станцыя Тошчыца, так называецца яго малая радзіма. Зусім нядаўна я быў у Тошчыцы. Там калісьці жылі мае дзед і бабуля. Дзед Несцярэнка Дзмітрый Мікалаевіч, 1895 года нараджэння — удзельнік двух войнаў, большую частку жыцця працаваў ляснічым Тошчыцкага лясніцтва. З бабуляй Еўдакіяй Сафронаўнай (1902 г. н.) у іх было чацвёра дзяцей. Старэйшы, Анатоль, быў прызваны на фронт у 1944 і загінуў. Малодшы, Уладзімір, памёр у 1947 годзе пасля хваробы, звязанай з пераахалоджаннем. Гэты былі бацькавы родныя браты.

Па размеркаванні ў Тошчыцу ў першай палове 1960-х прыехала мая маці, Галіна Мікалаеўна. Там мае бацькі пазнаёміліся і ў снежні 1964 года распісаліся ў сельсавеце вёскі Палыкавічы Магілёўскага раёна (аддтуль родам мама). Яе дзявочае прозвішча Ірванцова. Знакаміты ўкраінскі пісьменнік Аляксандр Ірванец пры размове пра паходжанне прозвішча, сцвярджаў, што гэта русіфікаваная версія такога ж прозвішча, як і ў яго. Агульную этымалогію ён прывязвае да Чарнігаўшчыны. Там працякае дастаткова вялікая рака Ірванец, якая адносіцца да Дняпроўскага басейна. Што самае цікавае, гісторыя міграцый продкаў па лініі Несцярэнкаў таксама вядзе на ўкраінскае Падняпроўе. Засталася сямейная легенда, што бацька Мікалая Несцярэнкі (прыкладна сярэдзіна XIX ст.) служыў рэкрутам і пасля вяртання з доўгатэрміновай службы не меў магчымасці застацца ў родным мястэчку — браты падзялілі бацькоўскую гаспадарку, ператаніліся. Былы вайсковец не стаў уцягвацца ў сямейныя разбор-


*Вёска Прыбар, вясна 1966 г.*

кі. Ён пакінуў усё як ёсць і выправіўся менавіта па Дняпры, уверх па плыні, апынуўшыся ў Буда-Кашалёве. Адкуль дакладна ён рушыў невядома, але ў Харкаўскай вобласці ёсць дзве вёскі пад назвай Несцярэнкі — адна ў Харкаўскім раёне, а другая ў Валкоўскім, дзе вельмі распаўсюджана і прозвішча Несцярэнка. Пазней у Буда-Кашалёве нарадзіліся Дзмітрый Несцярэнка і будучая яго жонка Еўдакія Кухарэнка — тата і мама майго бацькі.

Даследчыкі беларускай культуры сцвярджаюць, што прозвішчы з канчаткам -енка (-энка) не варта падзяляць на «ўкраінскія» і «беларускія». Гэта асаблівасць уласцівая вялікаму рэгіёну Падняпроўя, незалежна ад цяперашніх межаў (дарэчы, такога меркавання прытрымліваецца знакаміты наш выканаўца і даследчык фальклору Алег Хаменка).Таму я жартам, у якіх-небудзь размовах «за жыццё», заўсёды кажу, што лічу сябе сапраўдным сынам Падняпроўя.

У хуткім часе пасля майго нараджэння бацьку перавялі ў Быхаў (на Дняпры). Напрыканцы 1969 года, калі мне было чатыры гады, сям'я пераехала ў Бялынічы (на Друці, правым прытоку Дняпра). Бацьку вылучылі на пасаду дырэктара лясгаса, і ён працаваў на гэтай пасадзе дваццаць сем гадоў. Потым у тым жа лясгасе працаваў яшчэ шмат часу. Увогуле бацькаў агульны працоўны стаж у ляснoй гаспадарцы — крыху болей за палову стагоддзя.

Думаю, што добрым прыкладам для яго быў мой дзед Дзмітрый. Яшчэ да рэвалюцыіі ён скончыў адзін курс Буда-Кашалёўскай ляснoй школы (па некаторых звестках у тыя часы яна называлася школа лясных кандуктараў). Быў прызваны ў царскую армію, удзельнічаў у Першай сусветнай вайне. Потым у грамадзянскую быў намеснікам камандзіра кавалерыйскага атрада. У 1919 годзе напісаў заяву, каб атрымаць дазвол працягваць навучанне. У той час быў дэфіцыт спецыялістаў, таму такія прапановы падтрымліваліся — з раёнаў баявых дзеянняў байца накіравалі заканчваць вучобу на Радзіме. Прыкладна

ў той час Дзмітрый Несцярэнка ажаніўся з дзевятнаццацігадовай буда-кашалёўскай дзяўчынай Еўдакіяй. У 1922 годзе ў іх нарадзіўся сын Анатоль. Калі пасляваеннае жыццё пачало наладжвацца, дзед стаў працаваць на Палессі (Гомельская вобласць) таксатарам. У 1931 годзе дзед Дзмітрый скончыў Вышэйшыя лясныя курсы ў Ленінградзе. Там нарадзілася дачка Зоя. Дзед атрымаў кватэру. Але сам у Ленінградзе не застаўся, прапісаў малодшага брата Апанаса і з'ехаў зноў на Беларусь. Уладкаваўся ляснічым у Тошчыцкім лясніцтве. У Тошчыцы нарадзіліся сыны — у 1934 — Яўген, у 1937 — Уладзімір. У першыя дні вайны дзед быў прызваны ў войска. І пачалася яго асабістая дарога да перамогі. Спачатку пешшу ў Быхаўскі раённы ваенкамат, потым пешшу ў Магілёўскі абласны ваенкамат. Аддтуль калонамі — да Смаленска — усю дарогу пад налётамі нямецкай авіяцыі. Там, больш-менш сфарміраваныя ў вайсковыя часці, прынялі першыя баі. Потым акружэнне ў падмаскоўі. Выхад з акружэння, разборкі з НКВД — усе ж падазраваліся ў шпіянажы. Потым — камандзір узвода і раненне. Са шпіталя «купцы» забралі яго як спецыяліста па тапаграфіі (прыдаліся навыкі ляснога працы). Вайну скончыў у званні капітана, намесніка кіраўніка тапаграфічнага цягніка II Украінскага фронта. Да 1946 года знаходзіўся ў Львове, быў дэмабілізаваны і адтуль вярнуўся ў Тошчыцу.

Другі дзед, па лініі маці — Мікалай Ірванцоў, — таксама ўдзельнік той страшнай вайны. Напрыканцы чэрвеня 1944-га, у дзевятнаццаць гадоў быў прызваны ў войска, 10 ліпеня прыняў прысягу ў складзе 364 стралковага палка 139 дывізіі, што падпарадкоўвалася кіраўніцтву II Беларускага фронта, а 13 верасня 1944 года быў моцна паранены. Асколак у лобную частку галавы — гэта самае цяжкое раненне. Далонь прабіта навылёт. Ногі пасечаны. Але выжыў, вярнуўся ў вёску Палыкавічы і 17 лістапада 1945 ажаніўся з Анастасіяй Цярэнцеўнай Камісаравай, маёй бабуляй (у іх нарадзілася трое дзяцей, першая — мая маці ў жніўні 1946-га). А вось у бабулі, у сям'і Камісаравых, сітуацыя напрыканцы вайны аказалася трагічнай — яе бацька і чатыры ягоныя браты з вайны не вярнуліся...

**Э.А.** — *Які ты малайчына, Юры! Не кожны сёння можа пахваліцца такім падрабязным веданнем уласнага радаводу... А ў якім узросце да цябе прыйшло захапленне музыкай? Што ці хто гэтаму паспрыяў?*

**Ю.Н.** — Як і ў любым працэсе, у маім музычным станаўленні былі свае полюсы — «плюсы» і «мінусы». Без гэтага немагчымы быў бы «зарад» музычнай энергіяй. Я зараз да гэтага стаўлюся іранічна, але з аднаго боку, у дзяцінстве былі спробы прымусова навязаць авалоданне «музычным мастацтвам» (маецца на ўвазе музычная школа, адкуль быў адлічаны ў васьмігадовым узросце, не скончыўшы першы клас). А з іншага боку — амаль у той жа час (можа на год пазней) — захапленне рок-музыкай. «Крыдэнс», «Ролінг Стоўнз», «Бітлз», «Дып Пёрпл», «Блад, Світ энд Ціарз», «Світ», «Слэйд» — усё гэта, як ні дзіўна, выходзіла на савецкіх вінілавых «міньёнах». Часам без назваў калектываў, без аўтараў, са скажонамі перакладамі назваў песень — але га-

лоўнае было пачуць! А потым, бывала вельмі падоўгу, даводзілася шукаць першакрыніцы — альбомы, дакладныя назвы, імёны выканаўцаў. А гадоў пасля адзінаццаці — дванаццаці ўжо спакойна ўспрымаліся і «Пінк Флойд», і «Куін», і «Юрай Хіп», і «Лэд Зэппелін». Пэўны першапачатковы штуршок у гэтым кірунку даў мне мой стрыечны брат, які жыў у Віцебску. Ён на дзесяць год за мяне старэйшы, у яго была выдатная калекцыя вінілаў і магнітафонных стужак з найноўшымі на той момант запісамі.

Усе вакацыі я праводзіў у вёсцы Палыкавічы. Ніколі не забудуся, як дзядзька (малодшы брат маці) пайшоў у войска ў сярэдзіне 1970-х. Мая бабуля Анастасія Цярэнцеўна, ездзіла ў Магілёў па сваіх справах і час ад часу заходзіла ў музычную секцыю ГУМа, каб спытацца пра вінілавыя пласцінкі для сына. Маўляў, прыйдзе з войска — будзе слухаць. Бабуля валодала асаблівым дарам, асаблівай прывабнасцю — вакол яе заўсёды знаходзіліся добрыя і цікавыя людзі. Вось, напэўна, і нейкая прадавачка з добрым густам пакідала для бабулі такія кружэлкі, што я па сённяшні дзень удзячны і бабулі, і той невядомай прадавачцы за выдатную калекцыю музыкі, якая на мяне выпадкова зваліліся, пакуль дзядзька служыў у войску.

**Э.А.** — *Кажуць, што для гітарыста — першая гітара — усё адно, як першае каханне... Ці памятаеш ты сваю першую гітару?*

**Ю.Н.** — Гэта складанае пытанне — тут патрэбна было б цэлае даследванне. Бацькі, пасля майго сумнага досведу з музычнай школай, былі не вельмі зацікаўленыя ў развіцці маёй далейшай музычнай адукацыі, таму ўласную гітару мне купляць не збіраліся. Тым больш, што на той момант гітар у хаце было — «як сабак». Я не ведаю, якая сітуацыя была ў іншых падлеткаў у другой палове 1970-х, але ў мяне гадоў у 12 — 13 гітары нейкім чынам не пераводзіліся. Так што дакладную дату «першага кахання» яшчэ трэба пільна вылічаць... Дарэчы, набыць звычайную акустычную гітару на той час мог сабе дазволіць амаль кожны. Каштавалі яны па 7—10 рублёў, якая-небудзь «ленінградка» каштавала прыкладна 20 рублёў (значна пазней я даведаўся, што класічная «Крэмона» (Чэхаславакія) каштавала 35 рублёў, а класічная «Музіма» (ГДРаўскай вытворчасці) — 55 рублёў, але з рук імпартныя інструменты перапрадавалі амаль у два разы даражэй — тады ж быў росквіт «эпохі дэфіцыту», усе заходнія рэчы «даставалі» праз патрэбных людзей... Але самыя танныя саўковыя гітары, якія рабіліся на фабрыках разам з мэбляй, і на якіх амаль немагчыма было іграць, але можна было вучыцца ігры, былі агульнадаступныя. Усе тады  вучыліся іграць адзін у аднаго і гітары перадавалі адзін аднаму. Бывала хтосьці паехаў на вучобу ў іншы горад, ці сышоў у войска, а гітара працягвала вандраваць па сябрах...

Такая ж сітуацыя была з электрагітарамі. Старыя інструменты і падрапаныя ўзмацняльнікі з'яўляліся ніадкуль — магчыма «спісаныя» з балансу арганізацый, альбо яшчэ лічыліся дзе-небудзь, а кіраўніка не было. Карацей, прынцып «всё вокруг колхозное — всё вокруг моё» пры Савецкім Саюзе быў самы актуальны.

У 15-17-гадовым узросце перайграў ва ўсіх існуючых ансамблях мястэчка: самым аўтарытэтным на той момант быў ВІА «Беланіца» пры раённым ДК, іграў таксама з некалькімі складамі музыкантаў у ансамблі СПТУ-40, яшчэ — у ансамблі Сельгастэхнікі, і нарэшце пэўны этап самадзейнасці скончыўся стварэннем гурта «Апошні шанец». Гісторыя яго была нядоўгай, але галоўнае, што менавіта тады з'явіліся першыя аўтарскія кампазіцыі...

**Э.А.** — *А першае каханне?*

**Ю.Н.** — Тут яшчэ больш складана адказваць, чым на пытанне пра першую гітару! Таму што можна ўспомніць першыя пачуцці ў дзіцячым садку, альбо ўжо нешта іншае ў малодшых класах. Дарэчы, у другім класе была дзяўчынка, у якую, напэўна, была закаханая ўся мужчынская палова класа. Яна была дачкой вядомага паэта, які сябраваў з усімі класікамі, і нават ладзіў сустрэчы па лініі таварыства «Веды» — да нас прыязджалі і Быкаў, і Барадулін, і Гілевіч ды яшчэ шмат хто. Дык вось, памятаю, як мы з лепшым сябрам аднойчы напачатку вясны праводзілі яе да дому — беглі па глыбокай рытвіне ўзбочыны ўздоўж высокага насыпу дарогі амаль па калена ў талай вадзе, залягалі ў брудны і мокры снег, хаваліся за нейкімі пагоркамі. Гэта мы такім чынам высочвалі, дзе наша каханая жыве. Карацей, пасля такіх «праводзін» нашу вопратку, абутак і нас заадно можна было выкручваць — настолькі мы былі мокрыя. Такое было каханне. Праз колькі гадоў тая дзяўчынка з'ехала вучыцца на мастака, і нават быў нейкі працяг у адносінах. Але гэта ўжо іншая гісторыя...

**Э.А.** — *Я ведаю, што ты закончыў сталічны ўніверсітэт культуры. На якім аддзяленні ты вучыўся? Чым захапляўся падчас вучобы?*

**Ю.Н.** — Тады ён называўся Мінскі інстытут культуры. Часам я жартам распавядаю сваім сябрам і знаёмым, што вучыўся ва ўстанове ў тры розныя эпохі. Паступіў пры «развітым сацыялізме» (1984 год, пасля Брэжнева змяняюцца кіраўнікі адзін за адным — Андропаў, Чарненка). Адразу ж, на першым курсе, патрапіў пад так званы «андропаўскі прызыў» — у войска заграбалі ўсіх — псіхічна хворых, гарбатых, сляпых, кульгавых, крымінальнікаў, якія пры Саюзе ў войску ніколі не служылі б; адмянілі ўсе ваенныя кафедры, адтэрміноўкі, броні, забароны, забралі ўсіх студэнтаў — не зважаючы — жанаты ці не жанаты, дарослых старшакурснікаў, у якіх было па двое дзяцей, і гэтак далей. Ці то рыхтаваліся тады да чаго, ці так перастрахоўваліся — невядома. Але два гады жыцця на аэрадроме верталётнай эскадрылы давялося аддаць Радзіме. Эскадрылья, дарэчы, прымала непасрэдны ўдзел у тушэнні Чарнобыльскага рэактара ў красавіку — траўні 1986-га.

Другі этап вучобы — пасля войска. Бацька падказаў, каб напісаў камандзіру часці заяву на максімальна ранейшую дэмабілізацыю ў сувязі з неабходнасцю працяга вучобы (маўляў, так калісьці зрабіў дзед). Як ні дзіўна, заява эфектыўна спрацавала, і я звольніўся адным з першых. Да цывільнага жыцця вярнуўся нібыта ў іншую галактыку — у войска пайшоў з адной краіны, а прыйшоў у зусім іншую. «Перабудова. Галоснасць. Паскарэнне». Гарбачоўская эпоха,

пачатак рэгулярных прыездаў першых рок-зорак — ад Скорпіонз, Інгві Мальмстына, Юрай Хіп да канцэртаў Пінк Флойд у «Алімпійскім» і рок-марафона ў Лужніках — Мотлі Кру, Сіндэрэла, Скід Роў, Озі Озбарн, Бон Джові, Парк Горкага, а далей — Тушына: Металіка, AC/DC, Пантэра, Блэк Краўз і г. д. Такое і ўявіць было немагчыма за пару гадоў да таго! Дах зрывала ад усяго, што адбывалася.

У інстытуце такая «дзвіжуха»! Кафедры падзяляюцца, новыя аддзяленні ствараюцца, з'яўляюцца прафілізацыі, маладыя выкладчыкі, выпускнікі маскоўскіх і піцерскіх ВНУ, прапануюць новыя методыкі. І разам з тым катастрафічная архаіка ў праграмах: у білетах — «Сталін — натхняльнік перамогі», а ва ўсіх цэнтральных газетах — споведзі рэпрасаваных, спісы незаконна і несправядліва расстраляных — ахвяраў сталінскага тэрору.

Дарэчы, столькі кніг тады пачало з'яўляцца — я спакойна набываў Ванегута, Оруэла, Кена Кізі, Булгакава, Набокава. Памятаю, што наша куратар Марына Вітальеўна падказала, дзе набыць па прыймальным для студэнта кошце Габрыэля Гарсіа Маркеса — адны з найлепшых яго твораў «Палкоўніку ніхто не піша» і «Сто гадоў адзіноты». Да перабудовы большасць выданняў былі страшэнным дэфіцытам. Не так даўно з вялікім задавальненнем перачытаў тыя творы Маркеса — ужо зусім па-іншаму іх успрымаючы і адкрываючы незаўважаныя раней нюансы. Кнігі і да сённяшняга дня ўпрыгожваюць сваёй прысутнасцю маю хатнюю бібліятэку.Тады ж нарадзілася мая дачушка. Заканчваў інстытут на завочным аддзяленні. А дыплом ужо атрымліваў на беларускай мове — гэта быў першы выпуск у суверэннай дзяржаве Беларусь. Такая вось трэцяя эпоха.

Спецыяльнасць мая называлася «Арганізацыя і методыка культурна-асветніцкай работы». Яшчэ я займаўся на так званым факультэце грамадскай прафесіі і атрымаў пасведчанне з правам выкладаць гітару ў навучальных установах. Таксама ў нас былі прафілізацыі — мая называлася «творчай» — напісанне сцэнараў для масавых святаў, для тэле- і радыёперадач, распрацоўка культурна-асветніцкіх праграм і г. д. Усе мае курсавыя і дыпломная праца былі на тэмы рок-музыкі. Хлопцы, якія жылі са мной у пакоі, удзельнічалі ва ўсіх нацыянальна арыентаваных мерапрыемствах — гэта і «Чарнобыльскі шлях», і стварэнне «Мартыралога Беларусі», і сустрэчы з Быкавым ды іншымі знакамітымі пісьменнікамі. Але я настолькі быў заняты сваёй музыкай, што, на вялікі жаль, увогуле не звяртаў увагі на гістарычныя падзеі, якія адбываліся літаральна пад носам, і ў якіх былі занятыя мае сябры...

**Э.А.** — *Музычныя крытыкі часта называюць цябе беларускім блюзмэнам... Чаму ты захапіўся менавіта гэтым музычным жанрам?*

**Ю.Н.** — Я ўвесь час нагадваю журналістам, радыёвядоўцам, музычным крытыкам — я толькі нейкія блюзавыя элементы выкарыстоўваю, нараўне з элементамі іншых стыляў — фанк, рэгі, джаз, а пры гэтым аснова застаецца больш рокавай. Яшчэ з нацяжкай можна было б назваць мой стыль блюз-ро-

кам. У нас у краіне ёсць сапрадныя музыканты, якія зрабілі блюз ладам жыцця — Аляксандр Цыганок, Дзяніс Балахонаў, гурт Крос Бі Бэнд, Юрась Ускоў, Сяргей Курэк. А я не іграю блюз у чыстым выглядзе. Усе з павагай ставяцца да маіх словаў, пагаджаюцца, ківаюць галавой. Але як толькі выходзіць наступнае інтэрв'ю ці рэпартаж — там абавязкова на першым месцы будуць словы «Вядомы беларускі блюзмэн...»

Свежы прыклад: у мінулым годзе я прапанаваў вядомаму і аўтарытэтнаму музычнаму журналісту зрабіць цыкл перадач пра беларускі блюз, маўляў, я дапамагу рэдкімі і эксклюзіўнымі архіўнымі матэрыяламі. Ён неяк не адгукаўся пэўны час і раптам месяц таму выходзіць перадача, у анонсе якой фігуруе словаспалучэнне «беларускі блюз». Я толькі спіс прачытаў і жахнуўся: са спіса ў паўтара дзясятка імёнаў і назваў — ніводнай блюзавай каманды ці выканаўца. Зразумела, у тым спісе я таксама прысутнічаю — ад кармы нікуды не падзецца. Але з праграмай (увага!) літаратурнай. Гэта вершы Вікі Трэнас, якія чытае аўтарка на фоне маіх кампазіцый (у музыцы ёсць усё — ад рэгі, фанкі, джазрока да фьюжн, класікі, авангарда, але БЛЮЗА няма). Перадача тая таксама транслявалася і на замежжа. Я звязаўся з журналістам і спытаўся — вы да сваіх слухачоў-землякоў стаўцеся як хочаце, лічыце іх кім заўгодна, але перад замежнымі аматарамі блюза не сорамна? Перадача нібыта пра блюз (прычым некалькі частак), а няма ніводнай згадкі пра яе галоўную тэму — беларускі блюз. Замежныя слухачы па гэтай перадачы могуць скласці сваё меркаванне! На што аўтарытэтны журналіст адказаў, што праз прызму постмадэрнізма сёння такое асвятленне дапушчальнае...

Вяртаючыся да ўплываў, хачу дадаць, што рок-музыка 1960-х і 1970-х па большасці ўся пабудавана на блюзавых традыцыях (ці ў рэдкіх выключэннях прынцыпова на іх не пабудавана). Таму можна сказаць, што блюз незаўважна з'явіўся на падсвядомым узроўні ва ўласным музычным светаўспрыманні. Дарэчы, было вельмі цікава назіраць, як з блюзам працавалі польскія, венгерскія, югаслаўскія, чэшскія ды іншыя ўсходнееўрапейскія музыканты з так званага сацыялістычнага лагера. Але вывучаць гісторыю блюза, складаць нейкую перыядызацыю — у мяне дакладна не было ні жадання, ні цярпення. У юнацтве ўсё было прасцей, на ўзроўні «падабаецца — не падабаецца», «закранае — не закранае»...

**Э.А.** — *Ты з'яўляешся стваральнікам гуртоў «White Night Blues» і «Nestary Band». Распавядзі, калі ласка, калі ўзнікла ідэя аб заснаванні гэтых музычных калектываў? Якую музыку вы ігралі? Які быў іх творчы лёс?*

**Ю.Н.** — У кантэксце папярэдняга пытання лагічна будзе працягнуць пра «White Night Blues». У сярэдзіне 1990-х гадоў у Мінску вельмі актыўна пачаў працаваць блюз-рокавы клуб «Star-Club». Гэта як раз быў час аднаго з маіх чарговых «вяртанняў» у Мінск. Нават не памятаю, як пазнаёміўся з Генадзем Старыкавым, кіраўніком клуба, але пачалася нейкая супраца — і па арганізацыі канцэртаў, і па напісанні артыкулаў пра дзейнасць клуба і таксама першыя

выступы ў клубе. У дадатак я ў той час шмат ездзіў у Польшчу, былі таксама дзве вялікія вандроўкі па Германіі. За мяжой дастаткова нагледзеўся на разнастайны музычны рух і блюзавы, і джазавы, і рокавы. У Менску таксама ўвесь час не спынялася музычнае жыццё. На мерапрыемствы «Стар-клуба» прыязджалі сапраўдныя замежныя блюзавыя зоркі, у тым ліку і з ЗША. Вынікам назіранняў апынулася стварэнне ўласнага гурта па вяртанні на малую радзіму.

Здарылася гэта, як і ўсё значнае, амаль выпадкова. Мае сябры Клайд і Змей, арганізатары альтэрнатыўных канцэртаў у Магілёве, у якіх я час ад часу браў удзел як аўтар і выканаўца, аднойчы сказалі: «Хопіць іграць самому, давай паказвай гурт!» Напрыканцы 1999 года яны ладзілі фестываль «Апошні эшалон», міжнародны ў пэўным сэнсе — удзельнічалі гурты з Украіны і з Расіі. Гэта была неверагодная мяшанка з панка, хард-кора, фолк-рока, псіхадэлік-рока. Аднак мы ўпісаліся вельмі добра — ігралі «завадную» праграму, публіка нас успрымала «на ўра». Такі быў дэбют. Але тут я павінен растлумачыць (можа быць «Верасень» першае выданне, дзе атрымаецца неяк больш-менш грунтоўна гэта зрабіць): і назва, і гурт ствараліся як вясёлае «забаўлялава» з магчымасцю пайграць нейкія прышпільныя, вясёлыя, сатырычныя ці іранічныя кампазіцыі ў розных стылях, якія хоць як спалучаліся б з блюзам — фанк, рэгі, соул, рок-н-рол. Ні больш, ні менш. Песні былі на рускай і ангельскай мове. На рускай аўтарскія, на ангельскай каверы. І назва ўяўлялася цалкам іранічнай: ну які можа быць блюз у Белых начах?

Але нечакана для мяне самога, мы патрапілі ў вір мас-медыя рэлізаў, ратацый, рэцэнзій; сталічных канцэртаў, міжнародных фестываляў, уважлівага і крытычнага разбору нашай творчасці музычнымі крытыкамі. І так сталася,

*Самы першы склад “White Night Blues” узору 1999 года.*



што не адпавядаем мы ні назве, ні ўзроўню, на якім апынуліся. Песні у нас «несур'ёзныя», іграем мы зусім не блюз пры такой сур'ёзнай назве. А гэта ж галоўнае: «Як карабль назавеш, так ён і паплыве!» Вось і паплыў наш карабель — давялося і блюзавую праграму зрабіць, каб адпавядаць назве, і песні сур'ёзныя напісаць, каб адпавядаць узроўню. Зараз пра тыя падзеі я ўспамінаю з усмешкай, а тады неяк быў крыху разгублены ад усяго — і ад увагі прэсы, і ад заўваг «спяцоў», і ад пажаданняў публікі.

У выніку, каб ніхто не крыўдзіўся — ні артадоксы блюза, ні сур'ёзныя музычныя крытыкі, ні проста аматары добрай музыкі, — вырашана было пад назвай «White Night Blues» іграць выключна стылістычна вытрыманы рэпертуар. А для выканання ўсяго астатняга стварыць «Nestary Band»...

**Э.А.** — *На колькі я ведаю да беларускай мовы і песень на ёй ты прыйшоў не адразу... Хто паўплываў на радыкальны паварот у тваёй нацыянальнай самасвядомасці?*

**Ю.Н.** — Паварот зусім не быў радыкальны. Гэта хутчэй быў вельмі запаволены «разварот». На падсвядомым узроўні, недзе глыбока ўнутры, ува мне «спала» мая беларускасць. Тут шмат уплываў можна пералічваць — своеасаблівых складнікаў, якія стваралі пэўную агульную карціну: і цікавасць да беларускай культуры з боку маіх інстытуцкіх сяброў, і першыя рок-фестывалі, дзе выступалі беларускамоўныя гурты («На Доўгім Бродзе», «Тры колеры», фэсты ў Наваполацку, якія сталі пазней «Рок-Колам»), канцэрты і запісы выдатных гуртоў «Бонда», «Мясцовы час», «Уліс», а пазней трыумфальныя выступы беларускамоўнай «Крамы» на расейскіх тэлеканалах (у прыватнасці ў легендарнай «Праграме А» Сяргея Анціпава). Гэта ўсё напрыканцы 1980-х — пачатку 1990-х.

У сярэдзіне 1990-х адкрыццё многіх украінскіх каманд: «Скрябін», «Табула Раса», «Океан Эльзы» — альбомы гэтых музыкантаў прывёз лідар беларускага гурта «Буржуазія» Рома Мікоцін, які сам родам з Заходняй Украіны. Потым уласны ўдзел ва ўкраінскім рок-фестывалі ў горадзе Роўна, дзе выступалі выдатныя каманды (напрыклад, мясцовыя «От вінта», «King Size» з Луцка ды іншыя). Потым, зноў жа праз музыку — знаёмства са шматлікімі літаратурнымі эксперыментамі: джазавы раман Зміцера Падбярэзскага (пісьменніка і музычнага крытыка, які яшчэ напачатку 1980-х «закладаў падмуркі» цікавасці да беларускага року ў тэлеперадачы «Сустрэнемся пасля адзінаццаці» ); сумесныя выступленні пісьменніка Уладзімера Арлова і барда Зміцера Бартосіка; паэтычна-тэатральная творчасць Віктара Шалкевіча; «Песняры» з іхнімі музычна-літаратурнымі пошукамі і шмат-шмат чаго іншага...

**Э.А.** — *У якім годзе была напісана першая песня на беларускай мове? Як яна называлася?*

**Ю.Н.** — Здаецца, гэта быў «Блюз Белай ночы» ў 2003 годзе. Хаця прыкладна тады ж пісаўся і ўвесь матэрыял, які пазней увайшоў у альбом «Свята вялікіх дажджоў».



*Будуем сцэну, чакаем шаноўных гасцей-музыкантаў.*
*Уласны падворак, верасень 2001 г.*

**Э.А.** — *Ты доўгі час жыў і працаваў у Бялынічах. Гэта невялікае правінцыйнае мястэчка... Ці адчуваў ты сябе на задворках айчыннай музычнай культуры?*

**Ю.Н.** — Калі я выязджаў на чарговы фестываль, канцэрт, здымкі тэлеперадач ці запісу на радыё, то адчуваў сябе ні больш, ні меньш — паўнавартасным удзельнікам вялікага працэсу, звязанага з айчыннай і сусветнай рок-, блюз- ці аўтарскай музыкай. А калі вяртаўся, то насалоджваўся магчымасцю адпачыць пад ценем дрэваў, у цішы ўласнага дома, магчымасцю напісаць новыя песні пад уражаннем перажытага, убачанага ці прачытанага. Кажу шчыра — толькі так, і ніяк інакш, адчуваю сваё існаванне ў нейкай «сваёй прасторы». Дрэнна гэта ці добра, але, многія землякі не раз заўважалі: «Не жывеш ты нашым жыццём, часта зусім не ў курсе, што тут у нас адбываецца...» А я і рад быў бы пажыць нейкім «іхнім жыццём», ды жыву так, як разумею і як адчуваю. Напэўна, можна было б сказаць значна карацей: на задворках айчыннай музыкі ці літаратуры ніколі сябе не адчуваў, таму што заўсёды быў уцягнуты ў пэўныя культурныя працэсы — і айчынныя, і міжнародныя.

**Э.А.** — *Неаднойчы ты запрашаў да сябе ў Бялынічы вядомых беларускіх музыкаў і арганізоўваў на ўласным падворку сапраўдныя рок-канцэрты. Каго ты можаш згадаць са сваіх шматлікіх творчых пабрацімаў, хто выступаў на тваім гасцінным двары?*

**Ю.Н.** — У асноўным, гэта перыяд з 2000-га па 2005 год (у 1999-м я вярнуўся ў Бялынічы, а ў 2006 зноў з'ехаў). У той час прыязджалі «Крама», «Палац», «Мадэра Хард Блюз», Пётр Ялфімаў (тады ў складзе гурта «Эгаіст», там жа іграў таленавіты гітарыст Саша Камлюк — яны абодва завітвалі пазней ужо і

ў складзе «Песняроў»); таксама прыязджаў Яўген Салдаценка з гурта «Лекарство от меланхолии», калісьці пасля канцэрта спыняўся ў мяне дома вядомы магілёвец Саша Баль, ды шмат іншых землякоў — Саша Сташкевіч і ягоныя гурты «Маленькие трагедии» і «Барон Мюнхгаузен», GurReactive, Цімафей Яравікоў. Бывалі і вельмі незвычайныя візіты — напрыклад, неаднойчы прыязджаў Лёня Цярэшчанка (сённяшні лідар мегапапулярнага гурта «Айова») па маім запрашэнні ў мясцовую музычную школу ў якасці выканаўца на класічнай гітары; ці напрыклад, знакаміты гомельскі гурт «Раста» запісваў у маёй хаце свой дэбютны альбом...

Я думаю, што назваў яшчэ далёка не ўсіх — цікавы аўтар і выканаўца Donatello, ён жа вакаліст гурта «Водар-Сусьвет», гурты «Рудатэль», «Балцкі субстрат», «Jurasic Park», выдатная спявачка з Салігорска Люда Дудзенус, сапраўдны рок-н-рольшчык з Клічава Андрэй Гаварушка, цікавы гурт з Менску «Zeitnot»... Аўтары і выканаўцы Вольга Акуліч, Зміцер Бартосік у творчым дуэце з Уладзімерам Арловым; як, дарэчы, і Эдуард Акулін — у выдатнай кампаніі з Нілам Сымонавічам Гілевічам і Леанідам Дранько-Майсюком — таксама пабывалі на маім падворку. А калі ўжо праз прызму музыкі рабіць праекцыю на літаратуру, то можна ўзгадаць і калекцыянера вінілаў, выдаўца і перакладчыка Зміцера Коласа, і выдатнага спевака Лявона Баршчэўскага (таго самага, які перакладчык і паэт), і мастацтвазнаўцу Аляксея Хадыку, і мастака, аматара добрай музыкі Уладзіміра Сіўчыкава ды шмат каго яшчэ. Я зараз пералічваю і не веру сваім вачам — няўжо было столькі гасцей? Але ўсё захавалася на аўдыязапісах, на фота- і відэаздымках, у рэпартажах ды інтэрв'ю. І галоўнае — у памяці людзей.

**Э.А.** — *Адкуль з'явілася патрэба выдаваць часопіс? І што гэта было за выданне?*

**Ю.Н.** — Часопіс называўся «Грыфаман». Была першапачатковая дамова з Юрыем Уладзіміравічам Рашэтнікавым (арганізатарам шматгадовага гітарнага фестывалю «Грыфаманія»), што часопіс умоўна будзе прывязаны да дзейнасці яго фестывалю. Мэта выдання — асвятляць любыя падзеі ў краіне, звязаныя з гітарнай музыкай (не істотна ў якіх музычных праявах — гітара акустычная, электрычная, класіка, рок, блюз, фламенка, джаз, авангард ці штосьці яшчэ), падаваць матэрыялы ярка, чытэбельна, даваць шмат цікавых ілюстрацый, прывабліваць увагу чытача самымі разнастайнымі рубрыкамі, нотнымі дадаткамі, мультымедыя матэрыяламі і гэтак далей. Патрэба ўзнікла з цікавасці (на той момант гэта было прафесійнае), цікавасць — з неабходнасці (мець айчынны часопіс такога плана). Карацей, неяк так. Але гэта было вельмі даўно — аж не верыцца — каля дваццаці гадоў таму!

**Э.А.** — *Твой альбом «Аэрапланы ў вырай» музычныя аналітыкі схільныя называць «найлепшай працай» у тваёй дыскаграфіі і ставяць у адзін шэраг з апошнімі альбомамі зуброў беларускага року— гуртом «Крама». Ці згодны ты з такой ацэнкай?*

**Ю.Н.** — У мяне такое адчуванне, што музычны матэрыял гэтага альбома я шмат гадоў складаў «па кубіках» ці як нейкія вельмі дробныя пазлы — каб выйшла адна карціна. Пачыналася ад накідаў на гітары, потым прыходзілі ідэі наконт аранжыровак. Матэрыял пісаўся на студыях пасля выхаду альбома «Свята вялікіх дажджоў» цягам 2007-2008 гадоў. Альбом планаваўся ў іншым выглядзе, часткова з іншымі песнямі, выйсці прыкладна да 2009 года. Але ў 2009 годзе ў мяне нарадзілася дачушка Ганначка, а ў 2012 — дачушка Саша. Было не да выпуску альбомаў, калі на руках двое маленькіх, а іхняя мама ўпарта працягвае змаганне за дыплом ВНУ.

Тым не менш, у 2012 годзе рыхтавалі юбілей (30-годдзе) першага гурта «Апошні шанец». Рабілі і выступы, і дыск юбілейны выдавалі. Таксама пачалі запісваць «Школьны альбом». Потым 2013 год быў цалкам яму і прысвечаны — дапісалі, без перабольшванняў, з музыкамі з усёй Беларусі (і нават з беларускага замежжа), а потым па ўсёй жа Беларусі (і за межамі) рабілі прэзентацыі выдадзенага рэліза. Шмат дзетак удзельнічала ў прэзентацыях па школах, музеях, дзіцячых лагерах — спяваліся нашы школьныя песні, ладзіліся харэаграфічныя кампазіцыі — і з вучнямі, і з настаўнікамі.

Такім чынам «Аэрапланы ў вырай» ніяк не мог з'явіцца раней за 2014 год. Гэта я апісваю сваю сітуацыю, бачанне, так бы мовіць, «знутры». Што атрымалася ў выніку — я і сам дрэнна ўсведамляю. Часам мне падаецца, што альбом атрымаўся прыстойны. Потым накручваю сам сябе, што амаль усё трэба было рабіць не так, у дадатак — не губляць час, не адхіляцца. Потым праслухваю і думаю — як зрабілася, так і зрабілася. Усім не дагодзіш, а каму падабаецца — то гэта заўсёды шчыра. Пацверджаннем таму — ратацыі песен з альбома да сённяшняга дня на многіх айчынных радыёстанцыях, як таксама трансляцыі на польскіх, латвійскіх і нават расейскіх радыёстанцыях. Што тычыцца параўнанняў з іншымі гуртамі — тут я буду абсалютна неаб'ектыўным. «Краму» вельмі паважаю і люблю слухаць шмат якія іхнія альбомы. Але параўноўваць са сваімі песнямі — Божа збаў! Занадта розныя мы выкарыстоўваем мастацкія сродкі.

**Э.А.** — *Асобнай гутаркі заслугоўваюць твае творчыя дуэты з Пятром Ялфімавым, Вольгай Акуліч, Ілонай Карпюк, Ірынай Снапковай... Каму належыць ідэя такога незвычайнага музычнага сумоўя? Што асабіста табе дала праца з гэтымі выканаўцамі? Ці ёсць задумы на працяг і пашырэнне гэтых творчых праектаў?*

**Ю.Н.** — Альбом «Свята на дваіх» — гэта складанка да пяцідзесяцігадовага юбілею. Альбом дуэтаў — не проста з выканаўцамі, а з калегамі, з якімі пражывалі і музычнае, і асабістае жыццё, дзялілі і радасці, і беды. Ідэю альбома як раз жыццё і падказала — так атрымалася, што да юбілейнай даты назбіралася патрэбная колькасць супрац. Усё проста. А ці будзе працяг? Пакуль што можна сказаць, што працягваецца творчасць, працягваюцца адносіны з музыкамі. Таму ў пэўным сэнсе можна пацвердзіць, што другая частка альбома дуэтаў ужо пішацца.

**Э.А.** — *Самым заўважным для айчынных медыйных парталаў стала твая супраца з легендай рускага року Андрэем Макарэвічам, вынікам якой быў запіс песеннага сінгла «Снег» у тваім бліскучым перакладзе на беларускую мову. Як табе працавалася з рок-мэтрам?*

**Ю.Н.** — Безумоўна, гэта быў цікавы досвед. Але што расказваць? Праца ёсць праца — у студыі Андрэй Вадзімавіч быў настроены на вынік. Увесь час яму карцела праспяваць то з украінскім, то з польскім акцэнтам, але вельмі хутка падхопліваў патрэбныя інтанацыі, нюансы вымаўлення. Таму шмат хто з філолагаў, лінгвістаў адзначае, што песня выканана на бездакорнай беларускай мове. Што яшчэ? Гітара мая яму спадабалася — на ёй лідар «Машыны часу» сыграў цэлы канцэрт для сяброў. Таксама спадабалася гарэлка «Дзікая качка» — за тонкі прысмак лімона, ледзь заўважны і ледзь адчувальны. Як сказаў Андрэй Вадзімавіч (ён жа аўтар «Займальнай наркалогіі») — «вельмі правільна ўсё зроблена, такі баланс вытрымаць мала каму ўдаецца». Так што — было і за баланс!..

Лічу, што песня «Снег» невыпадкова патрапіла на хвалю ўзаемаразумення, і Андрэй Макарэвіч выбраў гэты пераклад у першую чаргу. Магчыма на падсвядомым узроўні яго шмат што звязвала з Беларуссю заўсёды. І гэта нейкім загадкавым чынам праяўлялася. Напрыклад, першы ў сваёй гісторыі прафесійны відэазапіс паўнавартаснага студыйнага канцэрта «Машына часу» зрабіла менавіта ў мінскай тэлестудыі. Падчас яго трансляцыі (магчыма гэта мела дачыненне да перадачы «Сустрэнемся пасля адзінаццаці») амаль сорак гадоў таму, я таксама, як і мноства падлеткаў, не адрываючыся ад экрана слухаў песню «Снег».

*З Пятром Елфімавым летам 2015 г.*



**Э.А.** — *Сам Андрэй Макарэвіч назваў запіс гэтай песні «паклонам сваім беларускім продкам» і выказаў жаданне разам і надалей адраджаць беларускую мову... У гэтым безумоўна твая заслуга як музыкі і перакладчыка... Дарэчы, а ці быў працяг працы ў гэтым накірунку? Ці з'явіліся новыя пераклады твораў нашага славутага земляка па-беларуску?*

**Ю.Н.** — Была і перадгісторыя, быў і працяг. Справа ў тым, што напачатку перакладаўся не толькі «Снег», а шмат іншых вершаў. У свой час яны былі надрукаваныя ў межах «Анталогіі перакладаў расейскай рок-музыкі», што выйшла ў 69 нумары часопіса «Дзеяслоў». Гэты нумар і патрапіў да Андрэя Вадзімавіча. Дарэчы, як і некалькі запісаў песень Макарэвіча ў маім выкананні — такім чынам я паказаў, як песні гучаць на беларускай мове. Так з'явілася цікавасць да маёй працы ды наладзіліся кантакты. Потым, пасля запісу песні «Снег», быў пачатак працы яшчэ над адным з трэкаў. Але, на жаль, магчымасці нашых айчынных прадусараў вельмі абмежаваныя. А перакладаў назбіралася на цэлы альбом. Толькі няма каму выдаваць гэтыя альбомы. На жаль.

**Э.А.** — *Юры, відавочна, што ты не толькі выдатны музыка, а яшчэ і выдатны літаратар, аб чым сведчаць выдадзеная табой у 2015 годзе кніга прозы «Звычайны шоу-бізнес». Адкуль з'явілася жаданне мастацкага самавыяўлення ў слове?*

**Ю.Н.** — Ну, адкуль яно можа ўсё брацца? З паветра. З неба. З космасу. А калі апусціцца на зямлю, то аднойчы прыходзіць разуменне існавання ў культурнай прасторы пэўнага рэгіёна. Не ў геаграфічным, не ў адміністрацыйным плане — у плане духоўным, у плане яднання з аднадумцамі на акрэсленай тэрыторыіі — прычым, акрэсленай ні кімсьці і ні чымсьці — акрэсленай звыш. Іншымі словамі — ты чытаеш, начытваешся, наталяеш свой мастацкі голад і нічога не застаецца, як у пэўны момант паспрабаваць нешта зрабіць самастойна. Штосьці атрымліваецца, крок за крокам дасягненні падганяюць наперад і надыходзіць час, калі ты ўжо разумееш, што не можаш спыніцца.

**Э.А.** — *Лічыцца, што кожны паважаючы сябе пісьменнік павінны напісаць гісторыю сваёй малой радзімы, каб «сваё не згубіць у чужым»... Распавядзі крыху аб гісторыі стварэння зборніка краязнаўчых нарысаў «Маё мястэчка ў часе і прасторы».*

**Ю.Н.** — За гэтую кнігу я ўзяўся, не ведаючы пра вышэй узгаданую сентэнцыю. Але недзе ў глыбіні ўласных пачуццяў, відаць, нешта падобнае адбывалася. Не хацелася рабіць у прамым сэнсе краязнаўчыя нататкі: там знойдзена гэта, там адшукана іншае і г.д. Я хацеў, каб гэта была больш пісьменніцкая праца. Была думка прыгожа, ужываючы мастацкія вобразы, нагадаць пра некаторыя мясціны, прыцягнуць увагу да пэўных краязнаўчых цікавостак, узгадаць легенды, захаваць іх таямніцу і прывабнасць. Трэба было ўсё гэта зрабіць і незвычайна, і з густам.

Прыкладам для мяне стаў Мікола Целеш — забыты зараз пісьменнік-эмігрант, родам з вёскі Заазер'е Бялыніцкага раёна, які нарадзіўся ў 1900-м годзе.



*З Андрэем Макарэвічам падчас запісу песні «Снег».*

Вось гэта быў у самым добрым сэнсе сапраўдны міфастваральнік! Які вельмі любіў свой край і хацеў зрабіць яго больш пазнавальным, больш загадкавым і больш вядомым.

Дык вось для сваёй кнігі я таксама браў цікавыя факты пра нашыя мясціны і, валодаючы інфармацыйнымі магчымасцямі сённяшняга часу, у нейкім сэнсе працягваў справу Міколы Целеша. Падаваў матэрыялы так, каб кожны аб'ект, пра які я пісаў, набываў сваю цікавую гісторыю, сваю легенду. Магчыма без занадтай бескампраміснасці і безапеляцыйнасці, што была ўласцівая Целешу, але таксама ставіў існаванне аб'ектаў нашага рэгіёна ў кантэкст сусветнай гісторыі. Такая была галоўная ідэя маёй кнігі — распавесці пра звычайнае праз незвычайнае.

**Э.А.** — *У 19-м нумары «Верасня» друкавалася твая новая аповесць «Супадзенні»... Ці лічыш ты, што лёс творцы, лёс дзяржавы, лёс народа можа быць ланцугом пэўных жыццёвых і гістарычных супадзенняў?*

**Ю.Н.** — Пра тое як раз і аповесць. Нават, дадаць няма чаго! Толькі чытаць і... знаходзіць супадзенні.

**Э.А.** — *Дзякуй, Юры, за цікавую гутарку! Хай супадзенні, якія здарацца ў тваім далейшым творчым лёсе, заўжды будуць толькі шчаслівымі!*



# Алесь Квяткоўскі

мастак, выкладчык. Дацэнт архітэктурнага факультэта Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта. Сябра Беларускага саюза мастакоў. Аўтар шэрагу мастацкіх выстаў, у тым ліку : «Дарога да храма», «Песні дрыгвы», «Мядовы спас», «Адлюстраванне часу», «Ён вярнуўся»... Карціны захоўваюцца ў музеях Беларусі, а таксама ў прыватных калекцыях Францыі, Германіі, Ірландыі і ЗША. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў Валожыне. Жыве ў Мінску.

# «Ён вярнуўся!..»

***Напярэдадні 60-гадовага Юбілею геніяльнага беларускага паэта Анатоля Сыса я сустрэўся з ягоным сябрам вядомым мастаком Алесем Квяткоўскім, які акурат да гэтай падзеі падрыхтаваў тэматычную мастацкую выставу з інтрыгуючай назвай «Ён вярнуўся!..» Пра тое, што натхніла мастака на стварэнне ўнікальнага цыклу з 30 карцін, якія стасункі звязвалі яго з Анатолем Сысом, і што яго хвалюе ў сучасным выяўленчым мастацтве — нашая з ім гутарка.***

**Эдуард Акулін:** — Спадар Алесь, Вінцэнт Ван Гог пачаў займацца жывапісам толькі ў 27 гадоў, і гэта не перашкодзіла яму стаць сусветна вядомым мастаком... У якім узросце вы пачалі маляваць? Хто ці што прымусіла вас узяцца за фарбы і паперу?

**Алесь Квяткоўскі:** — Здаецца ў 1995 годзе я напісаў белы верш, які пачынаўся так: «Калі б не было Маці — / Не было б мяне. / Калі б не было Настаўніка — / Не было б мяне... /

Маміна ўпартасць і жаданне дапамагчы мне працягаваць маляваць (а я маляваў бясконца — усё нейкія войны) вымусіла яе вазіць мяне здалёк (тады камвольны камбінат, лічы, быў за рысай горада) у Рэспубліканскі Палац піянераў і школьнікаў, у студыю выяўленчага мастацтва да выдатнага мастака, заслужанага настаўніка БССР Сяргея Пятровіча Каткова... І амаль два дзесяцігоддзі працягавалася нашае чалавечае і творчае сяброўства. Сяргей Пятровіч быў адным з галоўных арганізатараў Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчаму мастацтву (зараз каледж мастацтваў імя Ахрэмчыка), у якую я паступіў і скончыў у 1970 годзе.

**Э.А.** — *Кажуць, што навучыцца пісаць вершы (у сапраўдным разуменні гэтага слова) немагчыма... А навучыцца маляваць можна? Дзе вы вучыліся майстэрству жывапісу? Ці былі ў вас настаўнікі? Каго са сваіх настаўнікаў-майстроў вы згадваеце з асаблівай удзячнасцю?*

**А. К.** — Пасля школы-інтэрната я адразу паступіў у Тэатральна-мастацкі інстытут на аддзяленне манументальна-дэкаратыўнага роспісу... Педагогі — выбітныя мастакі — Анатоль Васільевіч Бараноўскі, Іван Нікіфаравіч Стасевіч, Гаўрыла Харытонавіч Вашчанка, Уладзімір Іванавіч Стэльмашонак. Дарэчы, Стэльмашонак быў кіраўніком маёй дыпломнай працы «Прысвячэнне беларускім паэтам, загінуўшым у гады Вялікай Айчыннай вайны...» Ён нам казаў: «Любога чалавека можна навучыць маляваць. Аднаго за тры дні, другога за тры месяцы, кагосьці — за тры гады. У кожным чалавеку прысутнічае нябачны элемент, які папросту называюць «ухват». Уменне таленавітага настаўніка зайсці ў душу, у сэрца дзіцяці, любога зацікаўленага мастацтвам чалавека — гэты «ўхват», абудзіць яго, дапамагчы раскрыцца. Справа пошуку тэхнікі,



падыход да яе таксама індывідуальны. Можна ісці метадычным шляхам, а можна «правакацыйным» — шукаць сябе праз смелы падыход да мастацкіх матэрыялаў...»

**Э.А. —** *Магчыма з-за гэтага, акрамя мастацкай, вы ўсё жыццё займаецеся і педагагічнай дзейнасцю? Распавядзіце крыху пра сваю працу з творчай моладдзю. Што, на вашу думку, найбольш важна выпрацаваць маладому творцу: прафесійную тэхніку жывапісу ці жыццёвы светапогляд?*

**А.К. —** Я ў эстэтычным выхаванні дзяцей і моладзі служу больш за сорак гадоў. Мне прапанавалі весці гурток пры новым Мінскім Палацы чыгуначнікаў.

Праз пяць гадоў гурток стаў Народнай студыяй выяўленчага мастацтва... Далей было змаганне за стварэнне Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання. Па прыкладзе Ерэванскага...

Калі казаць пра сённяшні стан эстэтычнага выхавання ў нашай краіне — ён катастрафічны. Выхавацелі, якіх не можна падпускаць да вучняў, недавучаныя метадысты і інспектары, якія вынішчаюць ці тармозяць усё светлае і прыгожае...

Ну, глядзіце. Быў калісьці ў Міністэрстве культуры адзін спецыяліст, які адказваў за выяўленчае мастацтва. А зараз — начальнік галоўнага ўпраўлення дзяржаўных спецыяльных культурных мерапрыемстваў і персанальнага мастацтва. Падлічыце — колькі тых «спецыялістаў» вучаць нас мастацтву... Вучням я кажу, каб яны, самае галоўнае, былі прафесіяналамі — у малюнку, жывапісе, праекце, сваёй справе. Каб былі тактоўнымі, але не прагіналіся. Каб ведалі замежныя мовы. Каб знаходзіліся ў нармальным фізічным стане...

Лічу, што мая аўтарская школа дапамагла некалькім сотням маладых людзей знайсці сябе ў незвычайным свеце мастацтва.

**Э.А.** — *А ўвогуле, што такое ў вашым разуменні мастацтва? Каму яно павінна належыць? Якое месца мастацтва ў сучасным грамадстве? Ці згодны вы, што па словах Міхаіла Савіцкага, «вялікае мастацтва» засталося ў мінулым? Што патрэбна, каб вярнуць «вялікае мастацтва» ў сучаснае жыццё?*

**А.К.** — Тое, што казаў Міхаіл Андрэевіч, ужо не вернеш... Але адвечны закон існуе: падрыхтаваная душа патрабуе сапраўднага мастацтва, непадрыхтаваная — проста файнага. Пра гэта мы ўзгадвалі вышэй...

Зараз існуе агульны кірмаш дылетантскага мастацтва (кіч ды папса), прыхаванага за ўражлівым фасадам гуллівай рыторыкі, эстэтызаванай захопленасці і падманлівага пафасу. Стан мастацтва сёння такі, што ім могуць займацца і пачаткоўцы, і аматары, якія нідзе не вучыліся і аніяк не падрыхтаваныя. А так

*З Вітаўтам Чаропкам, Марыяй Запартыка і Уладзімірам Сіўчыкавым.*



званыя крытыкі прапагандуюць спрошчаную філасофію мастацтва і эстэтыкі. І што рабіць, калі ў краіне ў кожнага свая эстэтыка! Нейкія значныя праекты ствараюцца. Але разам з бізнэсам і пад яго дыктоўку. Дык каму ў такім выпадку належыць мастацтва сёння?

Эліты няма. Магнатаў няма... Мо самому творцу? Для якога ягоная праца, праца сапраўднага (!) мастака сама па сабе ёсць эстэтычнай асалодай. Можна падкрэсліць — сапраўднае мастацтва належыць — калі творца сапраўдны — толькі яму!

Сапраўднае мастацтва ніколі не памрэ. Памятаеце верш Уладзіміра Караткевіча «Калі паміраюць...»? Каханне ніколі не памрэ... І жывапіс...



*А. Кваткоўскі. Пчалінае ўзнясенне.*



*З Рыгорам Сітніцам.*

Што толькі не рабілі з традыцыйнай тэхнікай «палатно-алей». Ламалі, цёрлі, спрабавалі на «злом». Спрабавалі ганьбіць «жывапіс» знутры... І што? Крытыкі жывапісу сваімі эксперыментамі прадоўжылі яго — жывапісу — век, і, магчыма, надоўга...

**Э.А.** — *Максім Багдановіч бачыў адну з крыніц свайго натхнення ў народнай творчасці. Менавіта фальклорныя матывы леглі ў аснову ягонага паэтычнага цыкла «У зачараваным царстве...» Што натхняе на творчасць вас? Як узніклі такія вядомыя вашыя праекты, як «Песні дрыгвы» і «Мядовы Спас»?*

**А.К.** — Праекты — гэта гучна сказана. Карціна нараджаецца спантанна. Нібыта нейкая сіла знаходзіцца ў табе і не адпускае. Яна вяртаецца да цябе, дзе б ты не быў... Калі вырашэнне ідэі не здзяйсняецца адразу — карціна на нейкі час адыходзіць убок, але цярпліва чакае патрэбнага штуршка ад мастака.

«Мядовы Спас» перайшоў у праект «Пчалінае ўзнясенне»... Пачалося з верша Анатоля Сыса «Начаваў я ў вуллі»... Я прыдумаў фармат карціны, нібыта рамку сотаў. Мой герой сядзіць унізе вулля, пчолы казычуць яму пяткі і г.д. Галоўнае для сябе — я прыдумаў просты тэхнічны прыём — праз тынкавачную сетку стварыў імітацыю пчаліных сотаў.

А потым — выбух карцін: «Соты», «Вулей», «Падманка», «Борці», «Найсалодшая», і яшчэ пару дзясяткаў карцін, якія стварылі экспазіцыю «Пчалінае ўзнясенне», адкрыццё якой адбылося 21 кастрычніка 2017 года ў Белай зале Чырвонага касцёла.



Ад «Песен дрыгвы» трэба ўсміхацца. У 2012 годзе я рабіў аздабленне фае музея Аляксандра Мядзведзя ў інтэр'еры былога кінатэатра «Вільнюс». Для малявання алімпійскіх вянкоў патрэбна была фарба пад золата. Тая, 10 літраў, якую я з памочнікамі набылі — не падышла. Узялі іншую — балончыкі пад бронзу. Аказалася, тое, што трэба...

А што рабіць з той балотнай фарбай? Я ўзяў і падрыхтаваў больш за дзясятак палотнаў, прагрунтаваў «балотнай фарбай» і... пайшлі стварацца лёгка і з уздымам мастацкія творы: «Багна», «Твань», «Балотнае танга», «Балотны водар», «Балотныя вожыкі», «Цароўна-Жаба» і г.д. Працяг доўжыцца...

Любая карціна — гэта досвед і інтэлект мастака. Калі пачынаеш твор — перад вачыма ў цябе пракручваюцца сотні вобразаў, якія сфармуюць ці змятуць тваю задуму, а можа падкажуць яе працяг...

**Э.А.** — *Многія сучасныя мастакі, асабліва маладыя, абмяжоўваюць сваю творчую прастору «Віртуальным вернісажам, размяшчаюць свае творы ў інтэрнэце... Вы часта вандруеце па Беларусі, ладзіце свае выставы, праводзіце мастацкія пленэры... Што гэта — працяг традыцый Язэпа Драздовіча ці імкненне быць у гушчы народа? А магчыма, гэта частка вашай творчай філасофіі?*

**А.К.** —Што і казаць — усё «віртуальнае» — гэта па-сучаснаму. І рэклама, раскрутка, кантакты, купля-продаж твораў мастака робіцца праз інтэрнэт. Бянтэжыць іншае: усё больш мастакоў карыстаюцца новымі тэхналогіямі. Неабавязкова рабіць падрыхтоўчыя накіды ці эцюды да карцін. Камп'ютар усё зробіць сам, нават перанясе сюжэт карціны на палатно, яшчэ і ў колеры. Творцу (толькі ці творца ён?) толькі застаецца пакласці пастозныя мазкі і пакрыць карціну лакам.

Паглядзіце ўважліва на якой-небудзь выставе на сучаснае «пісьмо» і пераканаецеся ў гэтым... Скажуць, што час дыктуе ўмовы... Але аб гэтым падманлівым кірмашы мастацтваў я ўжо распавядаў.

Што да вандровак? Яны не з выпадковымі мэтамі. Аб гэтым крыху ніжэй...

Я прывяду цытату з артыкула гісторыка Алега Дзярновіча. («Новы час», №30, 2019) — «...своеасаблівая далікатнасць беларускіх гісторыкаў адносна спадчыны ВКЛ прывялі да таго, што мы не толькі згубілі падмурак для выхавання беларусацэнтрычнага пакалення, але і страцілі ініцыятыву і пазіцыі на міжнародным узроўні. Менавіта на гэтым узроўні не існуе моцнай і міралюбівай еўрапейскай дзяржавы. Якая шмат стагоддзяў мела дзяржаўнай мовай беларускую, была рэальным культурніцкім і палітычным цэнтрам Еўропы. Можа таму мы ўсё яшчэ ці Паўночна-Заходні край, ці то Усходнія Крэсы. А нашых герояў дзеляць паміж сабой Літва і Польшча...»

Нават 8 верасня 1514 года маскоўскае войска пад Воршай разбіла «аб'яднаная ўкраіна-польска-літоўская армія пад кіраўніцтвам князя Астрожскага... (спікер Вярхоўнай Рады Украіны Парубій).

Дажыліся. Кастусь Тарасаў у труне перавярнуўся... Таму для мяне і студэнтаў-архітэктараў БНТУ — ёсць моманты дакранання да нашай гісторыі... Няхай нас адзінкі. Але не сёння-заўтра нашыя ваяжы адгукнуцца ў іхняй творчасці. Прыклады ёсць: былы мой студэнт Раман Забэла, зараз магістрант, які год ладзіць летнікі ў Лынтупах. Патроху пачынаюць адраджацца Шчорсы. А Белая Царква? А Любча? І гэтак далей... Мы ёсць!

Трэба ўдакладніць, што нашыя вандроўкі мэтанакіраваныя... Транспарт, выставачную плошчу і абсталяванне дае нам Чырвоны Касцёл. Лідарам чарговага праекта «Па мясцінах звязаных з асобай Эдварда Вайніловіча» з'яўляецца ксёндз-пробашч касцёла, кандыдат гістарычных навук Уладзіслаў Завальнюк. Так што чакайце кнігу-альбом нашых замалёвак!

**Э.А.** — *Я ведаю, што вы родам з Валожына... Што для вас значыць малая Радзіма? Аб чым вы марыце, праводзячы на Валожыншчыне мастацкія пленэры з удзелам сваіх вучняў?*

**А.К.** — Валожын — гэта месца майго нараджэння. Бацька — афіцэр, вайсковец; мама — супрацоўніца райкама партыі. Людзі прыезжыя... Да 2010 года да Валожына я ставіўся абыякава. Але ж, ураджэнец Валожыншчыны, мой сябар паэт Віктар Шніп запрасіў нас з маёй жонкай Вікторыяй на сваё 50-годдзе, якое спраўлялася ў Валожынскім РДК. Потым былі запрашэнні кіраваць (некалькі гадоў) журы на пленэрах, прысвечаных Фердынанду Рушчыцу ў Багданаве. Далей — пяцідзённы пленэр у Вішневе — падрыхтоўка да выставы, прысвечанай 90-годдзю Шымона Перэса...

Знаёмства і ўражанні ад магілак Першай сусветнай вайны ў Дзясятніках...

Але сваёй малой Радзімай я лічу Капыльшчыну. Гадоў да дванаццаці (заўважце, з задавальненнем!) мае бацькі пакідалі мяне маёй бабулі Гэлі і дзядзьку Аркадзю на «дзядзькаванне». У вёсцы Дусаеўшчына ці Рымя, што ў шасці кіламетрах ад Капыля...

Карціну пад назвай «Дусаеўшчына. Мая малая Радзіма» я падарыў Капыльскаму краязнаўчаму музею. А карціну «Я нарадзіўся TUT.by» падрыхтаваў для Валожынскага краязнаўчага музея.

**Э.А.** — *Яшчэ адзін з вашых творчых праектаў называецца «Намаляванае слова»... Як гэта магчыма? Бо насамрэч «маляванне словамі — гэта нішто іншае, як паэзія... Ці згодны вы, што сапраўдны паэт — гэта мастак і наадварот?*

**А.К.** — «Намаляванае слова» — назва крыху выпадковая. У лютым 2010 года я прывёз сваю выставу «Мядовы Спас» у Гродна, у галерэю «Крыга». І калі гаспадыня галерэі Марыя Мацко звярнула ўвагу на маю абстрактную карціну без назвы, яна зацікавілася: «Адкуль такі жывапіс?» Я распавёў простую гісторыю.

У мяне было гатовае чыстае палатно, на палітры засталося шмат нерэалізаванай фарбы зялёнага і вохрыстага колераў. Масціхін...

Заходзіць Анатоль Сыс, пачынае гаворку... Я яму: «Памаўчы, пакуль не напішу карціну!» «Да якога часу?»— «Можа з гадзіну!» Я пісаў. Анатоль паліў і нешта бубнеў. Так нарадзілася карціна, якую потым Марыя Мацко назвала «Намаляванае слова».

У 2017 годзе для часопіса «Роднае слова» (№1) я зрабіў артыкул «Візуальная паэзія ці паэтычны жывапіс». У гэтым нарысе я распавядаў аб менавіта сваім, суб'ектыўным разуменні паэзіі Віктара Шніпа праз сродкі выяўленчага мастацтва. І наадварот — паэт прачытаў мае акварэлі праз свае вершы... Дарэчы, па выніках гэтага, быццам эксперыменту, з'явіўся невялічкі, памерам на 80 старонак альбом «Гульні з вадзянымі фарбамі» з маімі акварэлямі і вершамі Віктара Шніпа.

*З жонкай Вікторыяй Ільлінскай і паэтам Віктарам Шніпам.*



**Э.А.** — *Мяркую, таму вы ў свой час звярнуліся да творчасці Кастуся Тарасава, па выніках чаго ўзнік мастацкі цыкл «Пагоня на Грунвальд». Але як мне здаецца, найвялікшае творчае і духоўнае сумоўе ў вас склалася з паэтам Анатолем Сысам... Сёння, праз 15 гадоў пасля заўчаснай смерці Анатоля Сыса, яго прызнаюць геніем нацыянальнай паэзіі... Ён быў вашым сябрам... Распавядзіце, калі ласка, як вы пазнаёміліся?*



*Анатоль Сыс у майстэрні Алеся Квяткоўскага.*
**Фота. Ул. Сапагова.**

**А.К.** — Кастусь Тарасаў прапанаваў мне паехаць на Грунвальд яшчэ ў 1970 годзе. Я не літаратуразнаўца, не крытык, проста малодшы сябра, і, магчыма, вучань Кастуся Іванавіча... І я ведаў, калі пісаў постаць Кастуся Тарасава, які едзе на Грунвальд, пра парушэнне ў адлюстраванні гістарычнага вайсковага адзення. Ад грунвальдскіх ваяроў да гусараў з крыламі было яшчэ трыццаць гадоў... Але ж менавіта такі кампазіцыйны ход лёг на палатно. Чаму я ўбачыў асобу Кастуся Тарасава праз прызму «Пагоні на Грунвальд»? Гэта мяжа, гэта Рубікон у нашай гісторыі, у нашым характары, гэта — знак нашай існасці...

...А пра Анатоля Сыса я даведаўся з прэсы. У «ЛіМе» прачытаў «Пан Лес». Верш адразу мяне «зачапіў». Трэба адзначыць, што ва ўсе юнацкія гады я захапляўся паэзіяй — еўрапейскай, беларускай, рускай савецкай — мяне цяжка было здзівіць. А тут!

А само знаёмства — вельмі банальнае. 1998 год. Адкрыццё выставы «Пагоня» ў Палацы мастацтваў. Падыходжу да Анатоля: «Я бацька Севярына Квяткоўскага — Алесь!» І пайшлі знаёміцца далей у маю майстэрню, якая была каля філармоніі.

**Э.А.**— *Многія запомнілі Анатоля Сыса як паэта-скандаліста, беларускага Ясеніна, здольнага на хуліганскія выхадкі і неардынарныя ўчынкі... А якім вам перад усім запомніўся Анатоль Сыс?*

**А.К.** — Пра скандаліста мне нецікава ўзгадваць... Было ўсё... Лепш прыгадаю характэрны выпадак з жыцця. Дома з Вікторыяй мы збіраліся на сустрэчу

Новага года да нашых сяброў у Астрашыцкі гарадок. Апошні аўтобус адыходзіў у 21.40 са знакамітага Маскоўскага аўтавакзала. Тэлефануе Анатоль: «Я адзін! Не ведаю, як сустрэць Новы год...» У голасе адчай. Як гэта — столькі сяброў — а тут — я адзін. Зразумела, мы паехалі разам, і да другога студзеня файна, з песнямі, начнымі шпацырамі па Астрашыцкаму возеру сустрэлі Новы год. Нават гаспадароў сабачка Тобік надоўга запомніў гэтую падзею. Анатоль гэтыя дні карміў яго костачкамі са словамі «Тобіку ад Толіка!» З гадамі мне найбольш узгадваецца прыемнае, вясёлае, чым негатыўнае...

**Э.А.** — *Як часта бываў Анатоль Сыс у вашай майстэрні? Як ён ставіўся да вашага жадання напісаць ягоны партрэт? Створаны ваш мастацкі вобраз Анатоля атрымаўся амаль біблейскім, міфалагічна-трагічным. Гэткім ён для вас быў у рэальны*м жыцці ці такім вы ўспрымалі Анатоля праз прызму ягонай паэзіі?

**А.К.** — За гады нашага знаёмства і сяброўства (тэрмін, калі мая майстэрня, нагадаю, знаходзілася побач з філармоніяй), я аніяк не мог зрабіць нармальны накід, не кажучы пра партрэт.

...Анатоля не стала. Да дня ягонай смерці мы не бачыліся амаль чатыры месяцы. Ягоны жахлівы выгляд, нежаданне жыць (асабліва пасля смерці маці: пра тое ягоны верш «Начаваў я ў вуллі...»), плёткі, абразы, брыдота вакол ягонай асобы для мяне засталіся ўбаку. Першымі я зрабіў некалькі твораў вадзянымі фарбамі: акварэль, акварэльныя алоўкі, акрыл — як працяг нізкі твораў, натхнёных вершам Анатоля «Пан Лес». Гэта і партрэт Сыса (2006 г.) і трыпціх «Толікава канюшня»: «Час», «Вершы», «Памяць». «Ля роднага дома» — падказаны вершам «Мая хата без сяброў не хата». Разам з імі з'явіўся і жывапісны «Пан Лес». Я рабіў папярэднія эскізы, нават кардон да карціны. У мяне Анатоль у вобразе язычніцкага Пана павінен быць падобным на класічны, амаль кананічны вобраз такой выявы.

Толькі за год пасля смерці паэта мора бруду вылілася на яго імя. Бог ім усім суддзя — «дабразычліўцам» ды зайздроснікам. У мяне з ім таксама былі не вельмі карэктныя спрэчкі, не вельмі далікатныя словы гучалі паміж намі... Але гэта факт, што ён мяне цікавіў як Асоба, як Творца, як чалавек, які гаварыў праўду. Для большасці вельмі непрыемную.

...Анатоль шмат чаго мне даў. «Ведаеш, Квят! Табе не хапае эпатажу... Каб я ўмеў маляваць — я б у золаце хадзіў!»

Сыс парушыў маю эфектную ў матэрыяльным плане «Гульню з вадзянымі фарбамі»! У мяне з'явіўся новы падыход не толькі да мастацкага матэрыялу, але і да мастацкай эстэтыкі. Напрыклад, як у карціне «Пчалінае ўзнясенне»...

**Э.А.** — *Вас не шакавала тое, што Анатоль называў сябе «братам Максіма Багдановіча і сынам Янкі Купалы»? Як вы лічыце, што давала на гэта права Анатолю Сысу?*

**А.К.** — Што давала? Ды ён сам. Сваім талентам, сваёй харызмай... Некалькі разоў я чуў з ягоных вуснаў гэтыя параўнанні і ставіўся да іх з разуменнем.

Іншая рэакцыя была ў амаль усіх тых людзей, якія знаходзіліся побач... А як жа яшчэ гэтая так званая большасць, якая прылічыла сябе да эліты, павінна рэагаваць на вольныя словы вольнага Паэта.

Магчыма, усе гэтыя меркаванні і падштурхнулі мяне напісаць шматфігурную карціну пад назвай «Футбольная каманда мары Анатоля Сыса». З ягоных слоў, з ягоных успамінаў, з ягоных адносінаў да тых ці іншых літаратараў я і зрабіў гэтую карціну. Дзе акрамя Багдановіча і Купалы можна пабачыць Коласа і Танка, Караткевіча і Быкава, Барадуліна і Асташонка, а таксама сучасных празаікаў і паэтаў. З гэтай карціны мне зрабілі банер — пяць метраў на два метры, які я ахвярую ў родную вёску, родны дом Анатоля: Гарошкаў, дзе на тле гэтага банера ў час правядзення традыцыйных святаў паэзіі будуць цудоўна глядзецца выступоўцы.

**Э.А.** — *Гэты год — юбілейны для Анатоля Сыса. 26 кастрычніка яму споўнілася б 60 гадоў. Ведаю, што да гэтай падзеі вы падрыхтавалі цэлую выставу. Як яна называецца? І што легла ў аснову творчай канцэпцыі выставы? Якая колькасць карцін яе складзе?*

**А.К.** — Творчая канцэпцыя? Сыс... Ягоны паэтычны сусвет. За дваццаць год ідэя, якая пачыналася з верша «Пан Лес», амаль штомесяц прырастала новымі карцінамі, нечаканымі па першай задуме. У агульную канву леглі і напісаны твор па вершы Сыса «Дзікі мёд» і бульбяныя «Вочкі», і вельмі дарагая мне «Планета Паэтаў...» І той пачатак, які ішоў ад «Начаваў я ў вуллі» і да апошняй, напісанай у гэтым годзе карціны «Ён вярнуўся!», і маё прачытанне верша Уладзіміра Някляева «Пакацігарошак»... Творы былі напісаны ў розныя гады, але яны не згубілі, а, наадварот, сцэментавалі агульную ідэю... А далей? У душы мастака ўвесь час нараджаюцца нечаканыя сюжэты.

Экспазіцыя налічвае пад трыццаць твораў. Большая частка — жывапіс акрыламі і алейнымі фарбамі на палатне. У змешанай тэхніцы — акварэль, акрыл і пад шклом — сем ці восем. Цяжка пакуль прыдумаць — які з гэтых сюжэтаў узяць на плакат, які можа называцца «Ён вярнуўся!»

**Э.А.** — *Якія тры з прадстаўленых у выставе карцін вы лічыце найбольш знакавымі і канцэптуальнымі? Чаму?*

**А.К.** — Кожная карціна — гэта асобны аповед і кавалак жыцця. Але, першая — зразумела, «Пан Лес». Для мяне яна — як стрэл у будучыню... Другая — «Планета Паэтаў». Яна неаднаразова друкавалася... Трэцяя — мабыць, «Пчалінае ўзнясенне». Хоць няма ўжо той ліпы каля дома Анатоля, з якой наш Герой кідае нам на хлеб медныя пятакі...

**Э.А.** — *Як мне здаецца, факт з'яўлення такога роду выставы ў гісторыі айчыннага мастацтва — абсалютна ўнікальны. Такога папросту яшчэ не было... Ці я ў гэтым памыляюся?*

**А.К.** — Мне прыемна, як мастаку і як чалавеку, чуць ад вас такія словы. У кожнай сур'ёзнай экспазіцыі свой лёс. Я ніколі не выступаў у ролі мастацтвазнаўцы, але, здаецца, вы маеце рацыю...

Галоўнае, што экспазіцыя засталася на Радзіме. Былі неблагія прапановы аб набыцці гэтых карцін, але кошты, якія я прапанаваў прыватным асобам, іх не задаволілі — яны былі агульнаеўрапейскага кшталту. Прапанова выставы «Мядовы Спас» Нацыянальнаму мастацкаму музею не спадабалася генеральнаму дырэктару музея. У Нацыянальным музеі гісторыі беларускай літаратуры — цішыня. Кажуць, Міністэрства культуры не дае згоды на набыццё карцінаў пра Сыса... І не толькі пра яго... Няма ў нашых музеях месца і Вітаўту Чаропку, і Кастусю Тарасаву, і Святлане Алексіевіч, і Ларысе Сімаковіч і г.д. Нават Шымона Перэса не знайшлі магчымасці набыць.

Таму ў мяне і з'явілася гэтая незвычайная і цэльная калекцыя мастацкіх твораў, зробленых, нагадаю, за амаль два дзесяцігоддзі. Можна лічыць, што гэта своесаблівая размова з Паэтам у часе...

**Э.А.** — *Як вядома, адна з самых сакральных тэм у паэзіі Анатоля Сыса — гэта тэма кахання. Магчыма, ён да яе амаль не дакрануўся. Затое тэма Радзімы і тэма маці — стала для Анатоля лёсавызначальнай. Якое месца тэма кахання, і наогул, тэма жаночага хараства займае ў вашай творчасці?*

**А.К.** — Лічу, што трэба звярнуцца да праекта «Песні дрыгвы»... Яшчэ адзін штуршок: памятаеце, у Караткевіча ў вершы «Калі паміраюць дрэвы» — «Але каханне ніколі не памірае!..»

У маёй творчасці ніколі не было гламурных ці «папсовых» тэм. Магчыма, ад выхавання праўдай, ад адчування хрупкасці свету. Першая жывапісная работа, з якой я ўпершыню выставіўся на рэспубліканскай выставе называлася «Вясна загінуўшых паэтаў». Потым былі «Станцыя «Беларусь», «Партызанскі праспект» і г.д. Патэтыка ці «гімн сцягоў».

Цудоўнае «прасвятленне» прыйшло, калі я шмат папрацаваў акварэлямі ці празрыстымі вадкімі вадзянымі фарбамі (ECOLINE). Ці гэта быў выбух абнаўлення? Больш за дзве сотні твораў у такой тэхніцы апынуліся за мяжой: Францыя, Германія, Ірландыя, Штаты... Асабліва паспяховай была нізка «Купалле», дзе я маляваў тры аголеныя жаночыя постаці ў розных ракурсах, якія знаходзіліся ў вадзе, а крыніца асвятлення: абстрактны ліхтар, змяняў сваё месцазнаходжанне ў залежнасці ад кампазіцыі з трох грацый...

А гадоў сем-восем таму мяне нешта ўскалыхнула на стварэнне серыі жывапісных твораў «Песні дрыгвы», пра якія я напісаў артыкул «Жаночае хараство балота» («Культура», 15.05.2017).

Я ўбачыў балота як нейкую містычна-міфалагічна-паэтычную субстанцыю. Віктар Шніп трапна заўважыў, што ў маім выкананні «балота атрымалася жывым і прывабнгым, як жанчына — яно спакушае пайсці ў багну творчасці і ніколі адтуль не вяртацца»...

**Э.А.** — *Ваша жонка Вікторыя Ільлінская (Квяткоўская) — таксама творчы чалавек. Яна піша песні на вершы беларускіх паэтаў.. .А на вершы Анатоля Сыса ёю нешта напісана ?*

**А.К.** — На вершы Анатоля Вікторыя напісала і выконвае пад свой гітарны акампанемент тры песні : «Паэт», «Без мяне», «Берасцянымі трубамі».

**Э.А.** — *Як вы лічыце, ці лёгка быць адначасова жонкай і музай мастака? Ці жонка і муза для вас паняцці несумяшчальныя?*

**А.К.** — Для мяне слова «муза»— нешта штучнае, зацёртае да банальнасці. Ці гэта прыгожыя, замерлыя скульптуры-прывіды, якія прысніў мастак. Для шэраговага спажыўца мастацтва тэрмін «муза», як яму здаецца, набліжае яго да вялікага.

На самой справе муза — гэта цяжкая праца. Штодзённая... Вікторыя і сама ў 54 гады пачала маляваць, жывапісаць. Акварэлем, акрылам, алеем, алейнымі крэйдамі. Перад яе вачыма ўвесь час прыклад мужа. Яго клопаты і турботы. Яго творчае жыццё як мастака, як педагога. Выхаванага багемай. Але Багемай з вялікай літары. Разам наведванне выставак, майстэрань, тэатраў, канцэртаў. Разам падзенні... Разам дасягненні... Разам цяжкасці.

Мне, як мастаку і настаўніку, бачацца цікавымі мастацкія творы Вікторыі. Я ганаруся імі, ведаючы, якая папса, другаснасць, нават на прафесійным узроўні, запаланіла жывапісны сегмент.

Акрамя некалькіх персанальных выставак Вікторыя час ад часу ўдзельнічае і ў маіх праектах, у якіх яна яшчэ і спявае...

**Э.А.** — *Не адстае ад бацькоў і ваш сын — Севярын Квяткоўскі.*

*Ён вядомы журналіст, блогер, аўтар трох празаічных кніг... Не шкадуеце, што ён не пайшоў па вашых «жывапісных» слядах?.. Што б вы пажадалі яму, як беларускаму творцу, абапіраючыся на свой жыццёвы і мастакоўскі досвед?*

**А.К.** — Севярын, асабліва ў падлеткавым узросце, цікава думаў выяўленчымі сродкамі. Захаваліся ніштаватыя замалёўкі тых гадоў... Але ён абраў беларускамоўную гісторыю ў БДУ. Гісторыя і падказала яму шлях у журналістыку, радыёжурналістыку.

Не, я не шкадую. Жыццё паказвае, што большасць дзяцей мастакоў застаюцца ў цені іх бацькоў... Прыкладаў цэлы стос. Для іх шлях у мастацтва ўжо наезджаны. Матэрыялы, асяроддзе, знаёмствы... У Севярына тры празаічныя кнігі. Я і сам увесь час нешта ў нататніку занатоўваю. У нас і ў Севярына неблагія бібліятэкі — знакавыя. Таму, калі ў час працы ў радыёжурналістыцы ён выдаў «Фрашкі», мне стала зразумела, што далей будзе працяг яго прозы. Дарэчы, у 46 гадоў чалавек ужо мае багаты жыццёвы і творчы досвед. Тое, што ў яго атрымалася зрабіць у журналістыцы і літаратуры штосьці прыкметнае, сведчыць аб тым, што ён пайшоў у правільным кірунку, што пайшоў не па чужых слядах, а сваім шляхам... Я шчыра зычу яму здароўя і здзяйснення ўсіх творчых задум.



# Кастусь Герашчанка

бард. Кіраўнік Народнага гурта «Пліса». Скончыў Мінскі радыётэхнічны тэхнікум. Аўтар кампакт-дыска «Час выбіраць» і суаўтар і выдавец кружэлкі гурта «Пліса» — «Я застаюся тут...». Падрыхтаваў і запісаў разам з удзельнікамі гурта больш за 100 аўтарскіх і народных песень. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы Буглаві на Краснапольшчыне. Жыве ў Плісе.

# Песня трапляе ў сэрцы людзей...

***Што значыць музыка ў ягоным жыцці? Як нараджаюцца песні? Як здабываецца званне «Народнага гурта»? Адкуль бяруцца таленты-самародкі? Якія творчыя дарогі пройдзены? Чаго не стае беларускаму музычнаму эфіру? Перад кім лепш выступаць? Што чакае наперадзе? Адказы на ўсе гэтыя, і не толькі, пытанні ў нашай гутарцы з вядомым беларускім бардам, кіраўніком Народнага гурта «Пліса» — Кастусём Герашчанкам.***

**Эдуард Акулін:** — *Перад пачаткам нашай з табой гутаркі, я запытаўся ў Гугла, што ён ведае пра Народны гурт «Пліса»... І вельмі здзівіўся, што усёведны Гугл сціпла прамаўчаў... Таму, калі ласка, Кастусь, распавядзі крыху пра гісторыю стварэння свайго калектыву...*

**Кастусь Герашчанка:** — Што тычыцца Гугла, то, калі запытацца пра Народны гурт « Пліса», нешта ўсё — такі вылезе, але гэта ў асноўным, нейкія канцэртныя відэасюжэты, ды й то — аматарскія, з тэлефонаў. Былі калісьці інтэрв'ю і выступы на радыё, але ўсё гэта яшчэ да шырокага інтэрнэта. ВІА з'явіўся ў нашым ДК амаль адразу пасля адкрыцця. Як аказалася, і ў Плісе, і ў наваколлі знайшліся добрыя галасы і класныя інструменталісты.

І «Раніца» (так называўся ВІА) гучала вельмі прафесійна і на шматлікіх конкурсах займала заўсёды высокія прызавыя месцы. І вось у канцы мінулага веку сабраў я ўсіх тых, хто калісьці граў ці спяваў у ансамблі, пачаў рабіць аранжыроўкі беларускіх народных песень. Свае таксама паціху з'яўляліся, і ўжо праз тры гады існавання, у 2000 годзе, здаецца, мы атрымалі ганаровае званне «Народны», і з тае пары з'яўляемся лепшым вакальным калектывам раёна, а цяпер ужо нягоршыя і ў вобласці, а магчыма, і ў Краіне.

**Э.А.** — *Мы з табой знаёмыя амаль трыццаць гадоў... Нас пазнаёміла беларуская бардаўская песня... Калі ты пачаў спяваць па-беларуску? Хто ці што падштурхнула цябе да гэтага?*

**К.Г.** — Мусіць усё пачалося, калі на Беларусь прыйшло Адраджэнне. Гэта было, як вясновая паводка, якая змывае зімовы бруд. Аказалася, што беларуская гісторыя налічвае многія стагоддзі. І гэта магутная, слаўная гісторыя ў адрозненне ад нашых усходніх суседзяў — ілжывыя, псеўдагістарычныя байкі, якія нам піхалі ў галовы на ўроках «гісторыі». Мы нарэшце ўдыхнулі чыстае паветра, паветра праўды. За гэта мы заўсёды будзем удзячныя Міколу Ярмаловічу, Міхасю Ткачову, Уладзіміру Караткевічу, Леаніду Дайнеку, Зянону Пазняку. Дарэчы, першы раз я выйшаў з гітарай на мітынгу ў Барысаве, дзе на стадыёне выступаў З. Пазняк.

**Э.А.** — *Пераважная большасць беларускіх бардаў, у тым ліку і я, не маюць музычнай адукацыі... А як у цябе складіся адносіны з музыкай?*



*Алег Сёмін, саліст гурта*

**К.Г.** — У музычную школу хадзіць мне не давялося, бо там, дзе я вучыўся, першыя сем школьных гадоў, музычнай школы проста не існавала, але нотную грамату ведаю, вучыўся самастойна па розных самавучыцелях, Матэо Каркассі — мой першы настаўнік. Хто грае гітарную класіку — добра яго ведаюць.

**Э.А.** — *У якім узросце ты ўзяў у рукі гітару? Ці памятаеш, як яна да цябе трапіла?*

**К.Г.** — Я ўжо быў на апошнім курсе Мінскага радыётэхнікума, калі ў мяне з'явілася першая гітара, рублёў, хіба, за 8-10. І з тае пары ўсё астатняе адышло далёка на задні план: вучыў ноты, песні, акорды — аж да крыві на пальцах. Ну і вось... Як аказалася — не дарэмна.

**Э.А.** — *У бурныя на палітычныя падзеі 90-я гады цябе можна было часта сустрэць на вулічных акцыях... І калі нехта падчас такіх «мерапрыемстваў» браў у рукі камень, ты выходзіў да мікрафона з гітарай і спяваў... Ты сапраўды лічыш, што беларуская песня ў пэўныя часы нашай гісторыі можа аб'ядналь і ўмацаваць Дух і Веру народа?*

**К.Г.** — Вось глядзі! Калі ты ўзяў у рукі камень, то можаш пабіць нейкае шкло, набіць гуз камусьці, але толькі аднаму. А песня трапляе адразу ў сэрцы вялікай колькасці людзей. Дарэчы, у тыя часы, я маю на ўвазе 90-я гады, песні амаль заўсёды гучалі на мітынгах, песням надавалася значна больш важкае значэнне, чым зараз. Мы ж ведаем, якое значэнне надавалі песням бальшавікі. І якія музычныя «мастадонты» пісалі іх. Вось толькі, на жаль, ілжывыя яны амаль усе.

«Широка страна моя родная», «Хотят ли русские войны» і т.п. Можна прамаўляць доўга і нудна, але нікога ні ў чым не пераканаць, а добрая песня робіць гэта з лёгкасцю...

**Э.А.** — *Распавядзі крыху пра свой радавод... Хто твае бацькі? Якую адукацыю ты атрымаў? Дзе зараз працуеш?*

**К.Г.** — Родам я з вёскі Буглаі, што на Краснапольшчыне. Гэта ўскраіна нашай Беларусі. Калі я за тры км хадзіў да дзеда ў неіснуючую зараз вёску Шамаўшчына, то грыбы збіраў ужо ў расейскім лесе. Адтуль і бацькі мае. Маці ў свой час была класнай закройшчыцай, магла пашыць усё: і кашулю, і паліто. Маці, дасць Бог, летам ужо 90 год споўніцца. Ну, а бацькі няма ўжо даўно. Уся мая музычная адукацыя — гэта Мінскі радыётэхнікум. А працую апошнім часам кіраўніком Народнага гурта «Пліса» Акцябрскага (даруйце) ДК, Смалявіцкага раёна.

*Казакі…*



**Э.А. —** *Я ведаю, што разам з гуртом «Пліса» ты шмат выступаеш як на Беларусі, так і за яе межамі... Распавядзі, калі ласка, дзе вам пашчасціла выступіць? Якія краіны і кантынэнты вы здалелі скарыць сваімі спевамі?*

**К.Г. —** Выступаць можна было б і больш, бо ўзровень калектыву даволі высокі. Магу сказаць, што не было яшчэ ніводнага нашага сольнага канцэрта без авацый і ўставання ўсёй глядзельнай залы напрыканцы. Пабывалі мы ўжо ў Славакіі, Польшчы, Францыі, Латвіі, Эстоніі, Украіне, Кітаі і Расіі. У снежні гэтага года амаль цэлы месяц будзем, калі дасць Бог, спяваць у Дубаі.

**Э.А. —** *Ваш гурт носіць званне «Народнага»... Як яно прысвойваецца? Што неабходна рабіць, каб гэтае званне захаваць?*

**К.Г. —** Званне «Народны» атрымліваецца проста. Трэба стварыць калектыў. Зрабіць цікавы рэпертуар. І праз тры гады актыўнай творчасці гурт праслухоўвае камісія і дае (ці не дае) гэтае званне. Дарэчы, падаваліся мы пад назвай «Раніца», але нам паведалі, што гэтых «Раніцаў» на Беларусі хоць гаць

*Ірына Велянцейчык, салістка гурта*






гацi... І мы з патрыятычных пабуджэнняў, (бо тут у нас і вёска Пліса, і рэчка Пліса) сталі «Плісой». А зараз раён прапануе нам стаць «Смалярамі» — гэта скарочана ад Смалявіцкія песняры. Званне «Народны» патрабуе пацвярджэння кожныя тры гады, але, шчыра кажучы, нам яго, улічваючы наш узровень, пацвярджаюць аўтаматычна.

**Э.А.** — *Дзе ты знаходзіш удзельнікаў гурта? І, дарэчы, назаві сваіх музыкаў, як кажуць, пайменна...*

**К.Г.** — Шукаць удзельнікаў далёка не трэба было, усе яны тутэйшыя. Вельмі багатая аказалася на добрых вакалістаў Пліса і ваколіцы. Алег Сёмін, Ірына Велянцейчык, Ілля Канапелька, Тацяна Дымшава — усе яны нарадзіліся тут. Са Смалявіч — баяніст і клавішнік Іван Алешка, філосаф, дарэчы, па адукацыі. А я сюды пераехаў у 1968 годзе.

**Э.А.** — *Гэта праўда, што салiста гурта «Пліса» Алега Сёміна ў свой час запрашаў у склад «Песняроў» сам Уладзімір Мулявін*?



*З спеваком В. Скаражонкам і паэтам К. Цыбульскім*

**К.Г. —** Алег і сапраўды з'ездзіў на праслухоўванне ў «Песняры», і Мулявін тады сказаў, што Алегу праз некалькі дзён трэба прыязджаць на афармленне. Але, на вялікі жаль, адбылася трагічная аварыя, якая забрала вялікага Песняра...

**Э.А. —** *Што ты любіш рабіць больш: ствараць і запісваць песні, ці гастраляваць з канцэртамі?*

**К.Г. —** Яно ўсё цікава, усё патрэбна. Калі не будзеш працаваць над рэпертуарам, то не будзе з чым і гастраляваць, цікава і калі атрымліваецца нейкая новая песня, якую трэба яшчэ і аранжыраваць і зрабіць якасную фанаграму, і, зразумела, не менш цікава выносіць свае песні на суд слухачоў. І вельмі прыемна, калі мы бачым, што тое, што мы робім, знаходзіць водгук у сэрцах тых людзей, што прыйшлі паслухаць нашыя спевы. Гэта моцна падштурхоўвае і натхняе на далейшую творчасць.

**Э.А. —** *Я ведаю, што сам ты не пішаш тэкстаў да сваіх песень. З кім з беларускіх паэтаў ты творча супрацоўнічаеш? На чые словы напісаная найбольшай колькасць твораў?*

**К.Г. —** Ёсць у мяне колькі песень і на свае словы, але ў асноўным, гэта песні на вершы нашых беларускіх майстроў вершаванага слова: У. Някляева, У. Супруна, В. Шніпа, К. Цыбульскага, Эдуарда Акуліна і іншых. Я б так сказаў, што з нотамі ў мяне атрымліваецца значна лепш, чым з літарамі...

**Э.А. —** *Зараз сярод музыкаў стала модна запісваць каверы вядомых песень. Каго з беларускіх выканцаў вы найчасцей перапяваеце? Вашы каверы пішуцца пад капірку з арыгінала, ці дабаўляеце ў папулярны хіт нешта сваё?*

**К.Г. —** Мы былі і застаемся непахіснымі прыхільнікамі Мулявінскіх першых «Песняроў». Падабаюцца таксама і «Беларускія песняры». Вось мы і зрабілі

колькі песень з іх рэпертуару, але ў кожную аранжыроўку дадаем нешта сваё. Нават бессмяротная «Канюшына», якую любіў касіць Ясь, і тая гучыць трохі іначай, па-плісаўску.

**Э.А. —** *Я з вялікім задавальненнем слухаю запісы «Плісы», едучы ў аўто... Яны зроблены на высокім прафесійным узроўні, уражваюць багатай галасавой палітрай і, галоўнае, яны не надакучаюць... Іх можна слухаць і слухаць бясконца... На жаль, толькі ў салоне свайго аўто... Чаму «Плісы» не чуваць на беларускім радыё і FM-станцыях? Няўжо, прычына адмовы самая банальная — нефармат...*

**К.Г.** — Пра FM-станцыі лепей не ўспамінаць. Тое, што там гучыць, гэта ў асноўным, нейкае калямузычнае лайно. Тут табе і мярзотны расейскі шансон, і не менш паскудная і брыдотная расейская папса. Ну, яшчэ і розныя «тыц-тыц» ад усялякіх DJ-яў. Калі параўнаць, напрыклад, з літаратурнай творчасцю, то калі садзіліся за пісьмовы стол Купала, ці Колас, то ў іх з-пад пяра выходзілі — у каго — « Тутэйшыя», у каго — «Новая зямля». А ў DJ-яў з іх музычных скрынак, у якія загадзя закладзены, як у буквары, розныя музычныя склады, выходзіць нешта накшталт:

«Ма-ма мы-ла,тыц-тыц,мы-ла-ра-му,тыц-тыц» і г.д.... Ну, а на дзяржаўным радыё нашыя песні, калі-некалі, ды і гучаць...

*На музычным фестывалі ў Славакіі*





*На гастролях у КНР*

**Э.А. —** *Я ведаю, як няпроста сёння музыкам знайсці магчымасць запісаць свае песні, выдаць кампакт-дыск... Дзе вы робіце свае цудоўныя запісы? Ці звяртаецеся, так бы мовіць, да прафесіяналаў?*

**К.Г. —** Сёння якраз і запісаць, і выпусціць запісанае на СД вельмі проста. Гэта можна зрабіць нават у хатняй студыі. Таму зараз і свішча з усіх дзюрак і шчылін усялякая дрэнь. На жаль, у нас няма прафесійнага студыйнага абсталявання, і, мусіць, нашыя запісы высокаякаснымі назваць нельга. Але, як ты кажаш, слухаць можна.

**Э.А. —** *Чуў, што ў мінулым годзе «Пліса» разам з калектывам Валянціна Елізар'ева з вялікім поспехам гастралявала ў Кітаі. Як кітайскія слухачы ўспрымалі беларускі балет і беларускую песню? Ці не ўзнікалі нейкія моўныя бар'еры для поўнага ўзаемапаразумення?*

**К.Г. —** І, сапраўды, нам пашчасціла пабываць у Паднябёснай яшчэ да гэтай заразы, якая абрынулася зараз на планету. У складзе беларускай дэлегацыі мы пабывалі ў горадзе Чуньцыне. Які, як аказалася, памерамі большы за Аўстрыю, і ў якім насельніцтва больш, чым у Гішпаніі. Святочныя мерапрыемствы, у якіх мы прымалі ўдзел, ладзіліся з нагоды 75-годзя КНР. Прымалі нас вельмі гасцінна і цёпла, моўных перашкод не было ніякіх, бо з намі заўсёды былі перакладчыкі. А песні нашыя кітайскім слухачам прыйшліся да душы, бо на апладысменты яны не скупіліся...

**Э.А. —** *Многія музыкі, асабліва з перыферыі, скардзяцца на недахоп якасных інструментаў і музычнай апаратуры. Як у вас з гэтым? Ці задаволены ты «плісавым» музкамплектам?*

**К.Г. —** Што тычыцца інструментаў, то калі мы спяваем не пад «мінусоўку», то абыходзімся баянам і гітарай (плюс бубен і жалейка). Спачатку прыдбалі

нам новы баян, а цяпер і якасная элетраакустычная гітара з'явілася. Але мы больш націскаем на шматгалосы вакал, і ў нас даволі многа акапэльных песень.

**Э.А. —** *Калі б была магчымасць выбіраць, куды паехаць наступны раз на гастролі? Якую краіну ты б выбраў?*

**К.Г. —** Асабіста мне вельмі падабаецца бываць у Польшчы. У нас там ёсць ужо і сябры, ды і мову польскую я ведаю вельмі добра. З задавальненнем наведаў бы і Нямеччыну, дзе я раней бываў у якасці вулічнага музыкі, ды і з нямецкай мовай у мяне праблемаў няма. А наш баяніст Іван Алешка яшчэ і свабодна валодае ангельскай мовай.

**Э.А. —** *Аб чым ты, як музычны кіраўнік гурта «Пліса», сёння марыш?*

**К.Г. —** Хацелася б калісьці заспяваць і ў нашай беларускай філармоніі, бо ў Тальяці ў філармоніі мы спявалі і ў нацыянальнай Адыгейскай, у горадзе Майкопе, выступалі аж тры разы. Хацелася б, каб на беларускім радыё з'явіўся нейкі рэтра-канал, накшталт існуючых расейскіх, на якім можна было б паслухаць не толькі «Песняроў», але і іншых беларускіх музыкаў, у тым ліку і нашу «Плісу»...

*На дажынках у польскай Вжэшні*





# Алесь Бяляцкі

літаратуразнаўца, празаік, крытык, эсэіст.
Аўтар кніг: «Літаратура і нацыя» (1991 г.), «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера» (2006 г.), «Асвечаныя Беларушчынай» (2013 г.), «Іртутнае срэбра жыцця» (2014 г.), «Халоднае крыло Радзімы» (2014 г.), «Бой з сабой» (2016 г.) і інш. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў мястэчку Вяртсіля Сартавальскага раёна ў Карэліі. Жыве ў Мінску.

# Шчасце для кожнага сваё...

***Што такое чалавечае шчасце? Ці можна быць шчаслівым у няволі? Чым лепш займацца — палітыкай ці літаратурай? Якая роля кахання ў жыцці чалавека? З кім варта сябраваць? Як можна адпачываць? Дзе лепей жыць? На гэтыя і іншыя пытанні — адказы ў гутарцы з вядомым пісьменнікам і грамадскім дзеячам, пяціразовым намінантам на Нобельскую прэмію міра — Алесем Бяляцкім...***

**Эдуард Акулін:** — *Алесь, мы знаёмыя з табой з 1979 года, калі паступілі на падрыхтоўчыя курсы Гомельскага дзяржаўнага «ўнівермага», як любіў называць нашу alma mater Анатоль Сыс. Якое месца для цябе ў жыцці займае вучоба ў ГДУ? Што яна табе дала? Якія прыярытэты ты для сябе там вызначыў?*

**Алесь Бяляцкі:** — Мы паступілі ва ўніверсітэт сямнаццацігадовымі. І, ні ты, ні я, здаецца, не памыліліся з выбарам прафесіі. Памятаеш, у тыя часы было прэстыжна паступіць у вайсковую вучэльню, ці ва ўніверсітэты Масквы, Ленінграда. Мы ж абралі, ужо ў тым узросце, Гомель, беларускую філалогію, (рускую нам навязалі ў давесак), каб вучыць беларускую мову, спазнаваць нашую родную літаратуру. Гэта быў свядомы выбар, які вызначыў наш лёс, які прынёс нам багата радасцяў, яркіх хвалюючых хвілінаў, і шмат перажыванняў і драматычных нотаў у нашым далейшым жыцці.

Мы ступілі на выклятую сцягу тых студэнтаў, каго ў 30-я гады толькі за любоў да роднай мовы кідалі ў турмы, адвозілі пад Навабеліцу, на 9-ы кіламетр, на расстрэл. Каго пасля вайны грэбліва называлі «нацдэмамі», з каго ў 70-я—80-я гады вочы не зводзіла КДБ. Хіба ж мы ведалі пра гэта ў свае сямнаццаць?

Тым не менш, універсітэт даў нам так багата добрага, што я і зараз згадваю гады вучобы ў Гомелі, як ці не найсвятлейшы, бесклапотны час свайго юнацкага жыцця. Там мы атрымалі сістэмныя філалагічныя веды, там я вывучыў беларускую мову, там мы адточвалі свой літаратурны густ. Там мы, гуртуючыся паміжсобку і супрацьстаючы дзяржаўнай палітыцы знішчэння ўсяго беларускага, навучыліся пранізліва любіць Беларусь. Там я займеў сяброў, якія застаюцца такімі ўжо сорак гадоў і дасюль.

**Э.А.** — *Якую падзею са студэнцкага жыцця ты лічаш для сябе знакавай, лёсавызначальнай?*

**А. Б.** — Знаёмства ўлетку 1981 года з «Майстроўцамі» ў Менску, з Вінцуком і Ірынай Вячоркамі, Алесем Сушам, Сяржуком Сокалам-Воюшам. Гэта была чатырохгадзінная сустрэча, пасля якой я зразумеў, што не адзін, сам- насам, з гэтым вечна ныючым болем, з верадам Беларушыны. Што ёсць такія ж як я, маладыя хлопцы і дзяўчаты, якія не толькі плачуць і скардзяцца на цяжкі беларускі лёс, не затаіліся па ўласных норах, як тхары, а ведаюць, што трэба рабіць. Гэтае знаёмства вызначыла ўсё маё наступнае жыццё.


*Рок-гурт «Баскі» (А.Бяляцкі, Э.Акулін, С.Скачынскі, А.Кавалёў)*

**Э.А.** — *Хто з сённяшніх вядомых беларускіх літаратараў вучыўся разам з табой?*

**А. Б.** — Анатоль Сыс, ты, Сяржук Сыс. Большае кола знаёмых спрабавала сябе знайсці ў літаратуры, але з розных прычынаў не ўсім гэта ўдалося.

**Э.А. — *Каго з выкладчыкаў ГДУ ты мог бы назваць у ліку сваіх настаўнікаў?***

**А. Б.** — У нас выкладалі даволі няблагія выкладчыкі. Мовазнаўцы Уладзімір Анічэнка, Павел Сцяцко, Аляксей Парукаў, літаратуразнаўцы Мікола Грынчык, Віктар Ярац, Іван Штэйнер. Людзі розных пакаленняў, рознага жыццёвага вопыту, кожны з іх па-свойму ўплываў на нас. Уладзімір Анічэнка тым, што даў веды пра гістарычную вартаснасць беларускай мовы. Віктар Ярац — найперш, як сапраўдны прафесійны паэт, які адчуваў у нас творчы патэнцыял. Аляксандра Станкевіч тым, што прынцыпова выкладала лаціну па-беларуску. Іван Штэйнер тым, што бачыў у нас малодшых сяброў і даў мне накіраванне ў аспірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі навук. Вольга Шынкарэнка тым, што адпускала мяне з лекцыяў, бо лічыла, што і так ведаю дастаткова. Выкладчыкі старажытнай філасофіі, балгарскай мовы, замежнай літаратуры (грэцкай, лацінскай, сярэдневяковай і пазнейшай) — усё было надзвычай цікава і карысна.

Урэшце, самае галоўнае, што даў універсітэт — гэта час займацца самаадукацыяй.

**Э.А.** — *Падчас вучобы ва ўніверсітэце ты пачаў займацца літаратурай... З'явіліся першыя празаічныя накіды... Памятаю твае апавяданні, якія друкаваліся ў «ЛіМе». Чаму ты не стаў беларускім празаікам? Што пайшло не так?*

**А.Б.** — Мабыць, я мог бы пісаць фабулярную, мастацкую прозу, калі б меў болей уседлівасці і цікаўнасці да гэтага. Маю надрукаваных з паўтузіна апавяданняў і аповесць, але далей справа не пайшла. Бо ў маладосці меў скрайне мала вольнага часу і заўсёды думаў — потым, пазней, а калі прыйшло гэтае — потым, зразумеў, што мне болей цікава пісаць у жанры нон-фікшэн — эсэ, успаміны, тое, што насамрэч звязана з рэальнымі людзьмі і падзеямі. Што ж тычыць тэкстаў пра беларускую літаратуру — я ніколі іх не пераставаў

пісаць больш-менш актыўна. У аспірантуры я вучыўся і вывучыўся на літаратуразнаўцу і лічыў гэтам сваім пакліканнем. Але лёс склаўся крыху па-іншаму. Прыйшлося займацца і адным, і другім, і трэцім.

**Э.А —** *У свой час ты актыўна займаўся палітыкай... А потым раптоўна сышоў з палітычнай сцэны Беларусі... Надышло расчараванне? Ці, як напісаў у адным са сваіх вершаў Дзмітро Паўлычка:*

*Калі пагаслі светачы надзеі,*
*Аслеплі душы, страціўшы святло;*
*Храм Веры звяявалі ліхадзеі,*
*Але Хрыста ў бажніцы не было...*

**А.Б. —** Я ўспрымаў палітычную дзейнасць як частку больш шырокай грамадскай дзейнасці. І калі была магчымасць дзеяць эфектыўна, працаваць на карысць незалежнай, дэмакратычнай Беларусі ў палітыцы, дык я гэта і рабіў — у шэрагах Беларускага народнага фронту, будучы дэпутатам Менскага гарадскога савета. Але пасля 1994 года магчымасці для палітычнай дзейнасці штогод імкліва звужаліся, пакуль не змалелі да мінімуму. З 1996 года болей часу пачала забіраць праваабарона, бо ў нас з'явіліся сотні людзей, якія былі рэпрэсаваныя і патрабавалі дапамогі. Хутка стала зразумела, што намаганні ў праваабароне даюць больш плён для грамадства, таму з пачатку 2000-х я фактычна цалкам сышоў у грамадскі сектар, у абарону правоў чалавека.



З Эдуардам Акуліным на тле карціны А. Квяткоўскага «Пан Лес», 2019 г.

Урэшце, нічога новага для мяне ў гэтым не было. Такой самай шырокай грамадскай дзейнасцю на карысць незалежнай, дэмакратычнай Беларусі мы займаліся яшчэ з пачатку 80-х гадоў. Час для палітыкі ў нас прыпыніўся, але не скончыўся час для грамадскіх ініцыятыў.

**Э.А. —** *Па беларускім заканадаўстве ты не маеш права выбірацца на пасаду Прэзідэнта краіны... З якой прычыны? Улічваючы твой досвед працы*

*дэпутатам Менскага гарсавета і спробу балатавацца на выбарах у Вярхоўны Савет Беларусі, ці не шкадуеш аб гэтым?*

**А.Б.** — Па Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь я не маю права ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах, бо нарадзіўся па-за межамі краіны. Першыя тры гады свайго жыцця (1962-65 гг.) я пражыў з сям'ёй у Карэліі, на акупаваных СССР у 1940-м годзе фінскіх землях. Затым мы вярнуліся ў Беларусь. Зараз я жартую ў размовах з сябрамі, што, можа, мне варта папрасіць фінскае грамадзянства і паспрабаваць там пабалатавацца куды-небудзь...

Калі ж сур'ёзна — нават калі б была магчымасць удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі, і нават калі б выбары не фальсіфікаваліся, так як гэта адбываецца ў нас апошнія 25 гадоў, ні ў якім выпадку — не. Каб прафесійна ўдзельнічаць у палітыцы, трэба быць, вобразна кажучы, палітычнай жывёлай і мець скуру таўшчынёй, як у слана, каб магчы перажыць усе тыя інтрыгі, хітрыкі, кампрамісы і мэтазгоднасці, на якія вымушаныя ісці палітыкі. Трэба заўсёды выбіраць паміж кепскім і яшчэ горшым. Камусьці гэта падабаецца, хтосьці бачыць за пастаяннымі палітычнымі інтрыгамі вышэйшыя мэты, іншыя — уласную карысць. Навошта мне гэта ўсё? Я значна лепей і ўпэўненей сябе адчуваю, калі маю магчымасць не крывадушнічаць, казаць і пісаць тое, пра што думаю.

**Э.А.** — *Што прымусіла цябе заняцца праваабарончай дзейнасцю?*

**А.Б.** — Нежаданне мірыцца з несправядлівасцю. У 1988 годзе я ўвайшоў у аргкамітэт першай беларускай праваабарончай арганізацыі «Мартыралог Беларусі». Мы тады займаліся дапамогай ахвярам сталінскіх рэпрэсіяў 1930-50-х гадоў, абнародваннем праўды пра тыя жахлівыя часы камуністычнага тэрору, зборам інфармацыі і мемарыялізацыяй месцаў масавых расстрэлаў. Затым, напачатку 90-х, я ўваходзіў у камісію пры Менскім гарадскім Савеце па рэабілітацыі ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў. Таму дзейнасць па абароне правоў чалавека для мяне ніколі не была чымсьці новым. За чвэрць стагоддзя мы з маімі калегамі, бо адзін тут багата не зробіш, дапамаглі тысячам людзей. І гэтая праца працягваецца.

**Э.А.** — *Амаль дзесяць гадоў жыцця ты прысвяціў служэнню Максіму Багдановічу... Як атрымалася, што ты, актыўны ў дэмакратычных колах дзеяч, заняў пасаду дырэктара Дзяржаўнага Літаратурнага музея Максіма Багдановіча? З якім пачуццём ты згадваеш гады працы ў музеі?*

**А.Б.** — У 1989 годзе была кампанія ва ўсім СССР па выбарах дырэктароў рознага ўзроўню. Дайшла яна і да музеяў. Мяне, малодшага навуковага супрацоўніка Музея гісторыі беларускай літаратуры, з чатырох кандыдатур, якія падаліся, адзінагалосна абраў працоўны калектыў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. За мной ужо цягнуўся шлейф недабранадзейнасці — удзел у «Тутэйшых», арганізацыя Дзядоў у 87-м і 88-м гадах, таму Міністэрства культуры месяц думала, перш чым зацвердзіць гэтае абранне. Урэшце міністр Яўген Вайтовіч не пабаяўся ўзяць адказнасць на сябе. Так я ў 27 гадоў стаў дырэктарам музея рэспубліканскага падпарадкавання.



Гады працы ў музеі прыпалі на вельмі цікавы перыяд. Яшчэ не было экспазіцыі ў цэнтральным будынку музея ў Траецкім прадмесці, пустой стаяла « Беларуская хатка» на Рабкораўскім завулку, нічога не было на сядзібе ў Ракуцёўшчыне. У час страшэннага дэфіцыту, інфляцыі, вялізных мітынгаў і дэманстрацый, урэшце развалу СССР і нараджэння незалежнай Беларусі, паўставаў, як той фенікс з попелу, і наш музей.

Маладыя, таленавітыя супрацоўнікі музея, якія гарэлі на працы, адкрыццё некалькіх экспазіцый, паездкі ў экспедыцыі ў Ніжні Ноўгарад і Яраслаўль, дзе жылі Багдановічы, даследчыцкая праца па вывучэнні спадчыны Максіма Багдановіча і ягонага асяроддзя, батлеечны тэатр, кіпучае культурнае і грамадскае жыццё на музейных пляцоўках, прытулак для рэдакцыі газетаў «Свабода» і «Наша Ніва», якія толькі пачалі выходзіць — чаго толькі не было ў сценах музея ў тыя гады. Мы ліхаманкава, кожны дзень, як апошні, працавалі дзеля беларускай культуры, дзеля Беларушчыны. Музей для нас быў не толькі сховішчам пыльных рэчаў і кніг, але жывой інтэрактыўнай пляцоўкай, якая давала ўсім моцны адраджэнскі пасыл, натхняла іншых людзей да працы на карысць беларускай культуры. Светапогляд Максіма Багдановіча, ягонае ба-

чанне будучыні Беларусі, грамадская пазіцыя, эстэтычныя густы, былі і з'яўляюцца надзвычай актуальнымі для сённяшняга часу.

Вось ужо мінула столькі гадоў, і я думаю — ці была карыснай нашая праца, ці дала яна які плён? Бо ў музеі працуюць іншыя людзі, ужо няма тых экспазіцый, якія мы рабілі, яны перароблены на іншыя. Тэксты і кніжкі, якія мы выдавалі — засталіся дзесьці ў далёкай гісторыі. Не ведаю, ці паказваюць зараз у Хатцы батлейку... Хочацца верыць, што — так. Мы былі жывой часткай тагачаснага грамадскага, культурнага і літаратурнага працэсу. Колькі літаратурных вечарынаў прайшло ў сценах музея! Якія людзі прыходзілі да нас! Але час мінае. І што застаецца? Памяць. Вельмі хачу, каб мы напісалі свае ўспаміны пра музей — і ты, і я, і Паліна Сцепаненка, і Алесь Астраўцоў, і Алена Лапцёнак. Адчуваю, што ў гэтым—нашая нясплачаная пазыка.

**Э.А.** — *Яшчэ не суціхлі жарсці па гісторыі стварэння самага вядомага таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя»... Ведаю, што ты стаяў ля ягоных вытокаў... Каму канкрэтна належыць ідэя стварэння «Тутэйшых»? Якую галоўную мэту аб'яднання ты, як старшыня, для сябе бачыў?*

**А. Б.**— Задумка стварыць незалежнае аб'яднанне маладых творцаў узнікла ў канцы 1996 года ў паэта Анатоля Сыса і ў мяне. 20 снежня мы сабраліся на першае паседжанне на вуліцы Авангарднай, у пакоі інтэрната ў Анатоля. У нас атрымаўся ўдалы тандэм. Анатоль прыцягваў творчую моладзь харызмай, размахам таленту, незалежнай пазіцыяй, я забяспечваў ідэалогію, накірунак развіцця і сувязі з іншымі моладзевымі беларускімі суполкамі. Даволі хутка ў «Тутэйшыя» ўвайшлі іншыя моцныя асобы і творцы, Сяргей Дубавец, Сяргей Кавалёў, Адам Глобус, якія прынеслі ў таварыства свае ідэі. 1987-88 гады былі гадамі кшталтавання новага літаратурнага пакалення, якое глядзела на свет іншымі вачыма ад сваіх папярэднікаў.

**Э.А.** — *Хто з удзельнікаў аб'яднання пакінуў найбольш яркі след у беларускай літаратуры?*

**А. Б.** — Усе тыя, хто складае сёння касцяк беларускай сучаснай літаратуры. Апроч названых мной вышэй — Алег Мінкін, Эдуард Акулін, Міхась Скобла, Андрэй Федарэнка, Ігар Бабкоў, Паліна Сцепаненка, Барыс Пятровіч, Славамір Адамовіч, Людка Сільнова, Анатоль Дэбіш, Уладзімір Сіўчыкаў, Павел Змітрук, Максім Клімковіч ды іншыя. Няма ўжо з намі, але яны засталіся ў літаратуры і ў нашай памяці, Таццяна Сапач, Пятро Васючэнка.

**Э.А.** — *У адным сваім інтэрв'ю ты заявіў, што «Мы знаходзімся ў сітуацыі, калі рот заклеены скотчам...» Патлумач, калі ласка, чаму ты так лічыш? Здаецца сёння пісьменнік можа пісаць пра што хоча і як хоча... Яму ніхто не забараняе выказвацца на любую тэму... Можа, сучасныя літаратары баяцца гаварыць праўду? Стараюцца захаваць лаяльнасць у адносінах да існуючай улады? Асабліва гэта заўважна па дзейнасці маладых творцаў...*

**А. Б.** — Казаў я гэта адносна свабоды слова і распаўсюду інфармацыі ў краіне. Але, безумоўна, тое ж датычыць і беларускіх творцаў. Вядома, зараз не часы СССР, калі за асабістыя запісы ў дзённіку маглі запіхнуць у псіхушку,

як літаратуразнаўцу Анатоля Сідарэвіча. І гэта трэба цаніць. Але калядзяржаўны ліратаратурны працэс: выданні кніжак у дзяржаўных выдавецтвах, літаратурныя рэдакцыі часопісаў, «ЛіМа», выступы перад людзьмі, на тэлевізіі ці радыё, вечарыны, літаратурныя выставы, кірмашы — гэта ўсё манапалізавана графаманамі, калялітаратурнымі кар'ерыстамі ці проста слабымі людзьмі, якім, па вялікім рахунку, начхаць на беларускую літаратуру. Значная частка з іх піша па-руску, успрымаюць сябе як акраец «рускага свету» і не з'яўляюцца фактарам нашай літаратуры.

Але, дзякуй Богу, ёсць некалькі незалежных літаратурных часопісаў і альманахаў, усе самыя цікавыя літаратурныя навінкі сёння выдаюцца незалежнымі пісьменнікамі. Творцы, якія не захацелі пайсці на ўслужэнне ўладзе, якая не бачыць у беларускай культуры, і літаратуры ў тым ліку, вартай каштоўнасці, на сёння задаюць у беларускай літаратуры тон. Гэтае супрацьстаянне доўжыцца ўжо чвэрць стагоддзя. Улады адабралі ў пісьменнікаў Дом літаратара, спынілі ўсялякую фінансавую падтрымку, паспрыялі расколу Саюза пісьменнікаў. Некаторыя творцы за актыўнае выказванне грамадскай пазіцыі прайшлі праз суды і турму. Гэта і Уладзімір Някляеў, і Уладзімір Арлоў, і Лявон Баршчэўскі ды іншыя. Але да гонару беларускіх пісьменнікаў, ніякія абмежаванні і рэпрэсіі не паставілі іх на калені.

Незалежная жыццёвая пазіцыя дае магчымасць быць незалежным і ў творчасці. У душы раба не можа нарадзіцца штосьці вартае. Закон панавання вольнага творчага духу — універсальны. Ён датычыцца і маладых пісьменнікаў.

**Э.А.** — *Чым для цябе стала вязніца ў сэнсе жыццёвага досведу? Ці паўплывала яна на твой светапогляд, светаадчуванне, духоўныя памкненні?*

**А. Б.** — Тры гады турмы былі асобным этапам жыцця, не падобным на іншыя. Не я першы з беларускіх літаратараў, хто праходзіў гэты шлях, але ў кожнага ён свой. Я апынуўся зусім у іншым асяродку, чым той, у якім жыў у Менску. Простыя хлопцы, людзі часта са сваімі хібамі і вадамі. У маім атрадзе ў Бабруйскай калоніі са ста чалавек было каля сарака забойцаў. Яны, тым не менш, былі вельмі цікавымі для мяне. Найперш, я бачыў у іх людзей. І да мяне яны ставіліся з павагай і разуменнем, апроч тых «актывістаў», хто верна служыў адміністрацыі. Вось ад іх можна было чакаць усяго чаго заўгодна.



*У бабруйскай калоніі*

Турма падобная на больш рэльефны і кантрастны злепак усёй краіны. Я ведаю Беларусь, таму ў маральным плане мне было не цяжка сядзець. Тым больш, што я адчуваў магутную хвалю салідарнасці з волі, у тым ліку і ад беларускіх творцаў. Свае кнігі з радкамі падтрымкі мне дасылалі Уладзімір Някляеў, Эдуард Акулін, Паліна Сцепаненка, Адам Глобус, Сяржук Сыс, Аляксандр Фядута, Віктар Сазонаў, Сяргей Чыгрын ды іншыя. Атрымліваў я лісты і тэлеграмы ад Барыса Пятровіча, Лявона Баршчэўскага, Уладзіміра Арлова, Уладзіміра Сіўчыкава, ад украінскага пісьменніка Аляксандра Ірванца і ад канадскага паэта Нормана дэ Бэльфёя. Турэмнае жыццё паднявольнае, брыдкае і аскетычнае. Самае каштоўнае, што ты там маеш — гэта тваё я. Скрозь — абмежаванні, правакацыі, несправядлівасць, але дух мой, дзякуючы маім сябрам, упэўненасці ва ўласнай праваце, лунаў высока над Бабруйскам і Беразінай...

**Э.А.** — *Парадаксальна, але за час знаходжання ў Бабруйскай калоніі ты напісаў больш кніг, чым за ўсё жыццё, пражытае на волі... Турма дысцыплінуе, маральна прыгнятае ці, наадварот, духоўна загартоўвае чалавека? У прыватнасці, што асабіста табе дало зняволенне?*

**А.Б.** — Я пачаў пісаць дзесьці праз тыдзень, як апынуўся на Валадарцы. Напачатку трэба было закончыць недапісанае. Мы ж з табой у той час рыхтавалі невядомы зборнік юнацкіх вершаў Анатоля Сыса «Берагі майго юнацтва». Я выбраў некалькі ягоных твораў для «Дзеяслова», але прадмову да вершаў напісаць не паспеў, таму пісаў яе ў камеры. А потым пайшлі іншыя тэксты.

Для мяне пісанне ў калоніі мела некалькі сэнсаў. Такім чынам я пасылаў пастаянны сігнал на волю, што не зламаны, што працягваю штосьці рабіць. Затым, гэта быў занятак, які прымушаў трымаць сябе ў творчай форме, не апускацца да аднаго прымітыўнага выжывання. І, урэшце, мне сапраўды — пісалася! Не маючы паўсядзённых клопатаў, калі ўвесь час вырашаеш праблемы іншых людзей, пазбаўлены шматлікіх кантактаў, я, урэшце рэшт, атрымаў час на сябе самога, час на пісанне. Хаця, парадаксальна, вольнага часу, асабліва ў калоніі, дзе мяне прымушалі працаваць фізічна, амаль не было.

Але фізічная праца — гэта штосьці іншае, тое, што не тлуміць табе галаву. І, працуючы шэсць дзён на тыдзень упакоўшчыкам у швейным цаху, разразаючы, выварочваючы, звязваючы рукавіцы, пагоны, бялізну, іншыя транты, якія шылі зэкі, я думаў пра сваё. І калі мы вярталіся з працы ў казарму, меў гадзіну-паўтары ў дзень, каб запісаць прадуманае. Атрымлівалася, прыкладна, старонка тэксту ў дзень. Вось так за тры гады і набраўся немалы аб'ём.

Пра што пісаць — такога пытання не было. Я пісаў эсэ, у асноўным успаміны, датычныя грамадскай дзейнасці ў 80-я, 90-я. Напісаў эсэ, прысвечанае праваабарончай дзейнасці напярэдадні арышту ў 2010-11 гадах, якое выйшла асобнай кніжкай «Іртутнае срэбра жыцьця». Сусветнай кампаніі салідарнасці, якая бесперапынна праходзіла ўсе гэтыя тры гады, прысвечаная кніга «Лісты салідарнасці». За час адсідкі мне прыйшло болей за 30 000 лістоў, паштовак, тэлеграмаў.




Другі корпус тэкстаў, напісаны ў турме — прысвечаны, у асноўным, беларускай літаратуры. У Жодзінскім СІЗА я напісаў эсэ пра малавядомага беларускага пісьменніка 20-30-х гадоў Хведара Шынклера. У Бабруйскай калоніі напісаў два тэксты, прысвечаныя тваёй паэзіі. Яны склалі аснову кнігі «Бой з сабой». Таксама пісаў пра творчасць Уладзіміра Някляева, Паліны Сцепаненкі, Сяржука Сыса, Адама Глобуса, Сяргея Балахонава. Напісаў эсэ пра беларускія матывы ў аповесці «Важкі пясок» рускага пісьменніка Анатоля Рыбакова. Пачаў пісаць эсэ пра беларускага празаіка Барыса Мікуліча, бабруйца, рэпрэсаванага ў 30-я-50-я гады. Не дапісаў, бо выпусцілі... Не ведаю, ці дапішу яго калі-небудзь...

Пісаў, у асноўным, на зэкаўскай тумбачцы, якая стаіць пры нарах. Тэксты на волю перасылаў звычайнымі лістамі. У неабходнай інфармацыі для эсэ мне моцна дапамагалі Алена Лапцёнак і Паліна Сцепаненка, дасылалі ксеракопіі артыкулаў і нават кніжак. Мае лісты правярала турэмная цэнзура. Гэта накладала пэўныя абмежаванні. Нельга было пісаць пра калонію і пра прэзідэнта. Усё астатняе — можна.

**Э.А.** — *Твая праваабарончая і літаратурная дзейнасць неаднойчы была ацэнена высокімі айчыннымі і міжнароднымі ўзнагародамі... Якая з іх і з якой прычыны найбольш важная для цябе?*

**А. Б.** — Большасць гэтых прэмій ды іншых узнагарод была дадзеная, калі я знаходзіўся ў турме, і з'яўляюцца сімвалічным жэстам салідарнасці з палітычным вязнем, своеасаблівым пратэстам супраць несправядлівасці, якую ўчынілі беларускія ўлады. А таксама ясным сігналам, што беларуская дэмакратычная грамадскасць, міжнародная супольнасць пільна назірае за тым, што адбываецца ў нашай краіне з правамі чалавека, і ніколі не пагодзіцца з іх грубымі парушэннямі. Таму тут не мая заслуга, а хутчэй, збег абставінаў.



*З Вацлавам Гавэлам*

Я вельмі цаню літаратурную прэмію імя Алеся Адамовіча, якую надаў мне Беларускі ПЭН-цэнтр у 2014 годзе за кнігу «Асьвечаныя Беларушчынай», бо з вялікай павагай стаўлюся да Алеся Адамовіча. Важнай для мяне з'яўляецца прэмія імя Вацлава Гавэла за правы чалавека Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы, першым лаўрэатам якой я стаў у 2013 годзе. Я асабіста быў знаёмы з Вацлавам Гаўлам.

Таксама важнае для мяне — ганаровае грамадзянства Парыжа, якое мне далі ў 2012 годзе. Наконт апошняга, у мяне часам пытаюцца — а якія ільготы я з гэтага маю? Я жартам адказваю, што мне ў давесак далі бясплатную кватэру ў Парыжы і бясплатны праезд у метро. І людзі вераць! Даводзіцца іх расчароўваць. У матэрыяльным плане — гэта нічога не дае і з'яўляецца сімвалічным, але такім дарагім для мяне знакам салідарнасці з беларускім праваабаронцам.

Урэшце, усе гэтыя прэміі і адзнакі — спакуса для себялюбцаў і лепей трымацца ад іх падалей.

**Э.А.** — *Якое месца ў тваім жыцці займае Каханне? Ці памятаеш, калі ты закахаўся першы раз?*

**А. Б.** — Істотнае месца, як у жыцці амаль кожнага чалавека. Каханне напаўняе чалавека сэнсам існавання. Без яго нашае жыццё было б прэсным і нецікавым.

Памятаю сваё першае захапленне. У другім класе, мне было восем гадоў, перада мной на парце сядзела дзяўчынка Іра, ціхмяная такая, высакаватая, русявая, з доўгай шыяй. І вось я сяджу, гляджу на светлы завіток, пасмачку на яе патыліцы, на сінюю жылку, якая торгаецца пад яе празрыстай скурай на шыі, і раптам адчуваю да яе нейкае незразумелае пачуццё, якое агарнула мяне. Такое было ўпершыню.

А так, яшчэ ў дзіцячым садочку я дагнаў дзяўчынку, якая ўцякала ад мяне, і пацалаваў яе, але гэта ўсё было знарок, малпаванне дарослых.

**Э.А. —** *Ваш шлюб з жонкай Наталляй прайшоў нялёгкае жыццёвае выпрабаванне на трываласць... Чыя большая заслуга ў тым, што і праз 33 гады сумеснага жыцця вы ўсё яшчэ разам?*

**А. Б. —** У кожнага з нас у жыцці свае выпрабаванні. Не думаю, што нашыя былі большыя ці складанейшыя, чым у іншых людзей. Сямейны гвалт, непавага адзін да аднаго, астылыя пачуцці, эгаізм, легкадумнасць і здрада, нежаданне чуць адзін аднаго, саступаць адзін аднаму — ці ж гэта не выпрабаванні? Мне падаецца, што ў наш час людзі становяцца ўсё больш эгацэнтрычнымі і самадастатковымі. Ім добра жыць адным. Яны не хочуць абцяжарваць сябе дадатковымі абавязкамі яшчэ перад кімсьці. Расплатай за гэта — духоўная адзінота.

**Э.А. —** *Па сваёй грамадскай дзейнасці ты шмат вандруеш па свеце... Знаёмства з якой краінай уразіла цябе найбольш? Калі б была магчымасць выбіраць месца для жыхарства, ты выбраў бы...*

**А. Б. —** Прыгадай, за якой жалезнай сцяной мы жылі ў СССР! Каб выехаць за мяжу, нават у краіны «сацыялістычнага лагеру», трэба было мець бездакорную біяграфію ў вачах парткамаў ды КДБ. Першы раз у жыцці я выехаў у Беласток, калі мне было ўжо 30 гадоў.

*Беларускі Мюнхгаўзен….*



З таго часу я пабываў багата ў якіх краінах. Падчас гэтых паездак амаль уся ўвага і ўсе сілы аддаюцца працы. Часта проста не зважаеш на прыгажосць і адметнасць іншых гарадоў, краявідаў, людзей. Таму заўсёды радуешся, калі ёсць дзень, каб проста пахадзіць па горадзе, ці наведаць музей.

Запомніліся назаўжды музеі Парыжа, Вены, Бруселя, Капенгагена, Стакгольма, жырафы і сланы ў Паўднёва-афрыканскай рэспубліцы, фьёрды і горы Нарвегіі, старыя кварталы гарадоў у Лісабоне і Празе, у Правэне, у Генце і Бруге, неверагодна цёплы акіян на Кубе, лядовыя таросы на возеры Мічыган у Чыкага, альпійскія лугі ў Гармішы, а цяньшаньскія каля Бішкеку, велічныя касцёлы ў Страсбургу і ў Кёльне, старажытныя калізеі ў Рыме і ў Тарагоне, антычныя храмы ў Сіракузах. Урэшце, свет зараз адчынены для ўсіх, толькі былі б жаданне і магчымасці.

Але нідзе я не адчуваю сябе цалкам камфортна. Ужо праз некалькі дзён пачынаю сумаваць па Беларусі. Яшчэ ў Вільні, у Беластоку — так-сяк, а далей ужо — не. Самы цяжкі час для мяне маральна быў, гэта служба ў войску на Урале, калі паўтары гады я мусіў жыць на чужыне. Усё ж, я вельмі дамаседлівы, беларускі чалавек. А жыць я хацеў бы ў Гомелі. Не гледзячы на ягоную бясконцую правінцыйнасць, гэта — мой горад, па клімаце, па людзях, па рытме жыцця. Але гэта, мабыць, ужо ў другім жыцці.


*Гарбузовае шчасце…*

**Э.А .**— *Ведаю, што ты апантаны дачнік... А тваё хобі — кветкаводства... Адкуль у цябе, гарадскога хлопца, такая незвычайная цяга да зямлі?*

**А.Б.** — Праваабаронцы, як і многія грамадскія актывісты, ужо чвэрць стагоддзя жывуць у стрэсавай сітуацыі. Увесь час штосьці адбываецца: кагосьці арыштоўваюць, судзяць, іншыя пастаянныя праблемы з правамі чалавека ў нашай краіне. Мы часта апынаемся на вастрыі падзей, падпадаем пад удар. Таму зямля для мяне — гэта мой псіхолаг і псіхатэрапеўт. Папораўшыся на выход-

ных, калі атрымліваецца, у градах, вяртаешся ў Менск як новенькі. Зямля выцягвае ўсе трывогі і клопат, надае спакой і раўнавагу.

Апроч усяго, ад садаводства я атрымліваю і эстэтычнае задавальненне. Мы не працуем на зямлі ад таго, што нам не хапае ежы. Зараз гэта — для душы. Мяне ўражвае, што я магу ўдзельнічаць у стварэнні цуду, калі з маленькага зярнятка вырастае пяшчотная кветка ці вялізны, ледзь падняць, гарбуз. Ты назіраеш, як штогод аднаўляецца, узнікае, квітнее і марнее жыццё, бясконцы кругаварот, у які ўцягнуты і ўсе мы. Ты заўважаеш, якія птушкі лётаюць у цябе над галавой, якія хмары плывуць, якія вожыкі ўлетку ці зайцы ўзімку прыбягаюць да цябе на агарод. Чалавек — дробненькая часцінка прыроды, і зямля дае магчымасць адчуваць гэта напоўніцу.


*Ракаўскі патрыцый*

**Э. А.** — *Алесь, ты лічыш сябе шчаслівым чалавекам? Калі так, то што, па-твойму, такое чалавечае Шчасце?*

**А.Б.** — Шчасце — гэта зменная, а не канстанта. Для кожнага яно ў нечым сваё. У любы момант яно можа разляцецца на дробныя аскепкі ці развеяцца, як дым, таму лепей не казаць гоп, пакуль не пераскочыў. Калі ж не паспееш, дык іншыя скажуць гэта за цябе.

**Э.А.** — *Якая твая запаветная мара?*

**А. Б.** — Убачыць Беларусь сапраўды еўрапейскай, дэмакратычнай краінай, дзе б шанавалася беларуская мова, культура, дзе б правы чалавека ляжалі ў падмурку дзейнасці ўладаў, дзе б людзі былі свабоднымі, жылі ў дастатку і нікому не хацелася адсюль з'язджаць.



# Эдвард Галустаў

мастак, музыка. Скончыў Мастацка-графічны факультэт Віцебскага ўніверсітэта (1987 г.) Сябра Асацыяцыі польскіх мастакоў Варшаўскай акругі. Удзельнік шматлікіх міжнародных мастацкіх сімпозіумаў, конкурсаў, біенале і трыенале ў Польшчы, Італіі, Венгрыі, Грузіі і Беларусі. Сябра Мастацкага таварыства еўрапейскай інтэграцыі SAIE ў Шчэціне. Карціны экспанаваліся ў Венгрыі, Германіі, Італіі, Галандыі, Славакіі, Аўстрыі, а таксама ў Расеі, Украіне, Грузіі, Польшчы і Беларусі. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Кіравакане (Арменія). Жыве і працуе ў Віцебску і Варшаве.

# «Няўжо гэта я намаляваў?!.»

***Пра Віцебск — як творчую Мекку... Пра мастацкі і жыццёвы радавод... Пра вандроўны дух Драздовіча і дзівосны свет Міколы Селешчука... Пра неба Шагала... Пра ўлюбёныя колеры і ўлюбёныя гарады... Пра вечнае і чалавечнае... Пра мастацтва любіць — наша гутарка з выбітным віцебскім мастаком Эдвардам Галуставым...***

**Эдуард Акулін:** — *Спадар Эдвард, вы для многіх прыхільнікаў беларускага выяўленчага мастацтва, у тым ліку і для мяне, з'яўляецеся, кажучы метафарычна, — tabula rasa... I я патлумачу чаму... Па запыце ў Гугле «Эдвард Галустаў» выскоквае спасылка на варонежскага бізнесоўца, які гандлюе сельскагаспадарчай тэхнікай... Вы — не гандляр... Вы — мастак. У самым што ні на ёсць сапраўдным сэнсе гэтага слова. Але, як гэта часта здараецца, — вы добра вядомы ў мастацкім свеце за межамі Беларусі, а на Радзіме пра вас амаль ніхто не ведае... Ці згодны вы з старажытным выслоўем — «Няма прарока ў сваёй Айчыне»?..*

**Эдвард Галустаў:** — Так, уласна... Я паспрабаваў таксама ўпісаць сваё імя і прозвішча па-расейску ў Google — выскачыла шмат інфармацыіі, але не пра мяне... Чаму так? Бо ўжо шмат гадоў я дзейнічаю як мастак па-за Беларуссю ў Польшчы. Наконт «Прарока ў сваёй Айчыне...» — гэта хіба што моцна сказана... Проста ў Беларусі даўно не выстаўляўся. А яшчэ дастаткова ўпісаць маё імя і прозвішча лацінскімі літарамі — будзе значна больш інфармацыі пра мяне.

**Э.А.** — *Распавядзіце крыху аб сабе... Адкуль вы родам? Хто вашыя бацькі? Дзе вучыліся? Дзе працавалі?*

**Э.Г.** — Нарадзіўся я ў горадзе Кіравакане (зараз Ванадзор) у Арменіі. Калі мне было 6 гадоў, мы з сям'ёй пераехалі ў Баку. Потым ужо ў сярэдзіне 70-х гг. пераехалі на гістарычную Радзіму маёй матулі ў Пінск. Тата мой быў вайсковым інжынерам-будаўнікам, што праўда ў Беларусі ён працаваў будаўніком (не вайсковым). Мама працавала амаль усё жыццё на пошце, на тэлеграфе. Вучыўся я ў Віцебску на Мастацка-графічным факультэце. Скончыў у 1987 годзе. Працаваў 20 гадоў у школе, як настаўнік выяўленчага мастацтва, чарчэння і апошнія гады, як выкладчык Сусветнай мастацкай культуры. У 90-я гг. вучыўся ў Кракаўскай Педагагічнай Акадэміі і яшчэ ў Сілезскім Універсітэце.

**Э.А.** — *Вам падабалася працаваць у школе? Як вы лічыце, на колькі сёння аўтарытэтнай з'яўляецца праца настаўніка ў Беларусі?*

**Э.Г.** — Складанае пытанне... Першыя гады вельмі было няпроста. З аднаго боку мне падабалася працаваць з дзецьмі і моладдзю, але кожны верасень я шукаў сабе іншую (непедагагічную працу). Добра, што ў тыя часы можна было працаваць дадаткова (напр. у камбінаце «Мастацтва»). Чым ганаруся, што меў вельмі добры кантакт з моладдзю. Асабліва падабалася працаваць у гады «беларусізацыі», калі мае прадметы выкладаліся па-беларуску. Склада-



лася ўражанне, што робіш нешта незвычайнае, гістарычнае... На жаль, праца ў школе а ні ў тыя часы, а ні, тым больш, зараз, не з'яўляецца а ні прэстыжовай, а ні аўтарытэтнай. Уласна, у Польшчы інакш... Калі я скончыў інстытут, то лічылася, што той, хто пайшоў працаваць у школу — чалавек, у якога нешта не атрымалася, а ў Польшчы людзі пасля Акадэміі Мастацтваў ахвотна ідуць працаваць у школу і вельмі гэтым ганарацца.

**Э.А.** — *Каго вы лічыце сваім творчым настаўнікам?*

**Э.Г.** — Таксама складанае пытанне... Назваць некага канкрэтна цяжка, бо ясна, што ўплыў мастакоў на маю творчасць, безумоўна, быў, але няма такой адзінай асобы. Вельмі люблю творчасць Andrew Wyeth, Edward Hopper, мастацтва Паўночнага Рэнесансу. А настаўнікі з інстытута... Хіба што ад кожнага нешта добрае ўзяў.

**Э.А.** — *Ёсць меркаванне, што Віцебск — гэта сталіца беларускага мастацтва... Нешта ў гэтым горадзе ёсць такое, што стымулюе творчую натуру да працы... Пэн, Малевіч, Шагал, Азгур, Бембель, Багатыроў, Быкаў — вось толькі самыя зорныя імёны, якія зазззялі на небасхіле айчыннай культуры, дзякуючы свайму непасрэднаму дачыненню да гэтага старажытнага горада... Вы падзяляеце гэтую думку? Чым асабіста для вас стаў Віцебск?*

**Э.Г.** — Для мяне Віцебск — гэта горад майго студэнцтва, сапраўды, мастацкі горад з творчай атмасферай, хаця я доўга не мог да яго прызвычаіцца,

настолькі гэты горад непадобны да Пінска, у якім прайшлі гады майго перадінстытуцкага юнацтва. Горад са сваёй школай мастацтва, і, нават, я б сказаў, школамі, бо выпускнікі МГФ абсалютна інакш працавалі, чым выпускнікі мастацкіх факультэтаў тэхналагічнага інстытута... Але ў 80-я гг. Віцебск выглядаў, мякка кажучы, не вельмі прывабна... Толькі на пачатку 90-х гг. горад пачаў прыгажэць, адбудаваныя старажытныя святыні. І нядаўна я зразумеў, што нарэшце ў Віцебску ёсць, што паказаць турыстам.



*Легенды Калхіды, акрыл, палатно, 2015 г*

**Э.А.** — *Я з'яўляюся шчырым прыхільнікам вашай творчасці... І даўно сачу за вамі як творцам у сацыяльным сеціве... Калі б з'явілася магчымасць, то з вялікім задавальненнем схадзіў бы на вашу творчую выставу... А ці выстаўляліся вашы працы ў Беларусі? Калі так, то дзе? І ці можна чакаць у бліжэйшы час вашага мастацкага вернісажа?*

**Э.Г.** — Выстаўляўся, але вельмі даўно. Час ад часу ўдзельнічаю ў калектыўных выставах (апошні раз мая выкладчыца, вядомая беларуская мастачка сп. Вялянціна Антонаўна Ляховіч, запрасіла ўдзельнічаць у выставе «Ляховічы», дзе выстаўлялася яна і яе былыя студэнты). А персанальная выстава была хіба што ў 2003 г. у Браслаўскім музеі. Хацеў бы зрабіць выставу ў Беларусі, але неяк не атрымліваецца пакуль. Спадзяюся, што калісьці зраблю.

**Э.А.** — *А за межамі Беларусі? Як успрымаецца ваша творчасць замежнымі аматарамі выяўленчага мастацтва? Ці пазіцыяніруеце вы сябе як беларускага мастака?*

**Э.Г.** — За межамі Беларусі я маю штогод некалькі выставаў. Але гэта ў асноўным у Польшчы. Напрыклад, хіба што ў 2016 г. меў ажно 7 індывідуальных выставаў у розных манерах і тэхніках. Шмат людзей любіць маю творчасць, хаця некаторым падабаюцца мае «казачныя» абразы, некаторыя любяць мае так званыя «дэкаратыўныя» абстракцыі, шмат людзей любіць мае пейзажы, а некаторым падабаюцца мае графічныя творы... Ці пазіцыяніраю сябе як беларускага мастака? Хутчэй не. Бо належу да Польскага Саюза Мастакоў Варшаўскага аддзялення, выстаўляюся больш у Польшчы. Ды і хіба тое, што раблю, лепей прымаецца ў Польшчы, а не ў Беларусі. Але для польскага



*Пачатак падарожжа, акрыл, палатно, 2020 г.*

гледача я ўсё роўна беларускі мастак, бо і школа іншая, і тэматыка. Крыху смешна, калі знаходзяць падабенства з Шагалам, і злуюся, калі ў маіх працах знаходзяць уплыў расейскай казкі, тады адпавядаю даволі востра. Акрамя гэтага, ужо ў некалькіх альбомах пра польскае мастацтва (апошнія: «100 lat Niepodleglosci Polski», «Malarstwo Polskie 2019») ёсць рэпрадукцыі маіх абра-



зоў як польскага мастака. Маю ўзнагароду — срэбрны медаль «Labor omnia Vincit» за ўзмацненне культурных сувязяў паміж Польшчай і Беларуссю.

**Э.А.** — *Вашы творы, асабліва апошняга часу, нагадваюць мне творчую манеру заўчасна сышоўшага беларускага мастака Міколы Селешчука... Яны гэткія ж маляўнічыя, насычаныя яркімі колерамі, і што вельмі істотна , яны прымушаюць думаць... Ці былі вы асабіста знаёмыя з Міколам Селешчуком? Ці, магчыма, я памыляюся? І выток вашага творчага натхнення палягае ў іншых геаграфічных месцах і іншых часавых вымярэннях?*

**Э.Г.** — З Міколам Селешчуком, на жаль, не быў знаёмы, але ягоная творчасць мела на мяне вялікі ўплыў. У ягоных працах упершыню ўбачыў арнамент, як вельмі важны элемент кампазіцыі. Акрамя таго, у сваіх працах, так званых «казачных», я натхняюся пазнейшым сярэднявеччам і Паўночным Рэнесансам. Гэты перыяд у гісторыі мастацтва найбольш мне блізкі, тым больш, што дзясятак гадоў я спяваў у Віцебску ў Ансамблі старажытнай музыкі. Мы спявалі найбольш песень часоў Рэнесансу, між іншым, некалькі твораў з «Полацкага сшытку» і псалмаў Саламонавых у перакладзе Яна Кахановскага і Сімяона Полацкага...

**Э.А.** — *Да якой мастацкай школы вы сябе адносіце? Ваша ўлюбёная тэхніка... Не ў сельскагаспадарчым, а ў мастацкім сэнсе? З чым вам найбольш падабаецца працаваць? З алоўкам, тушшу, алеем, нейкімі іншымі выяўленчымі сродкамі?*

**Э.Г.** — Цяжка сказаць да якой школы... Што датычыцца накірунку маёй творчасці, то я гэта акрэсліў бы як «метамарфозы арнаменту» (ад арнаменту, як упрыгожвання архітэктуры, вопраткі, прадметаў побыту, да арнаменту ў чыстай абстракцыйнай форме). Тэхніка — акрылавая фарба, палатно. Але таксама працую каляровай тушшу на паперы.

**Э.А.** — *Што прымусіла вас пакінуць Радзіму? Дзе вы цяпер жывяце? Чым займаецеся, так бы мовіць, каб зарабляць на хлеб штодзённы?*

**Э.Г.** — Ды нічога не прымусіла, не пакідаў, проста часта запрашаюць на розныя пленэры ў Польшчы. Дарэчы, у Польшчы вялікая колькасць самых розных пленэраў і арганізаваных рознымі інстытуцыямі, і прыватных. А яшчэ ў Польшчы кожны мастак можа знайсці сваю нішу ў мастацтве, вельмі шмат магчымасцяў для выставаў. Езджу па ўсёй Польшчы (і не толькі) па пленэрах, сімпозіумах, яшчэ час ад часу канцэртую з песнямі польскімі, беларускімі, украінскімі. Так званы «folk modern».

**Э.А.** — *Ці маеце вы творчых пераемнікаў? Магчыма, нехта з вашых віцебскіх вучняў пайшоў па вашых слядах?*





*Шукальнікі скарбаў, акрыл, палатно, 2020 г.*

**Э.Г.** — Так, маю даволі шмат, нават цяжка пералічыць. Але найбольш ганаруся сваёй былой вучаніцай, акторкай і рэжысёрам Аленай Ганум, якая пайшла па гэтай сцежцы дзякуючы таму, што ўдзельнічала ў школьным фальклорным гуртку, у якім я загадваў музычнай часткай. Зараз яна знаны рэжысёр у Тэатры Янкі Купалы ў Менску.

**Э.А.** — *Ці ёсць у вас дзеці? Чым, калі не сакрэт, яны займаюцца па жыцці? У некага з іх ёсць цікавасць да мастацтва?*

**Э.Г.** — Так, я маю дачку Марысю, вельмі здольную творча. Яна выкладае, валодае некалькімі еўрапейскімі мовамі, і што датычыць творчасці, яна пайшла па мамінай сцежцы. Мая жонка Аліцыя — таксама выпускніца МГФ, але яна працавала і працуе ў дэкаратыўна-ўжытковым мастацтве (ткацтва, гафт і г.д.). Дарэчы, яны мае галоўныя growing дарадцы і крытыкі.

**Э.А.** — *Для мяне ўзорам сапраўднага беларускага мастака, у існым сэнсе гэтага слова, з'яўляецца Язэп Драздовіч... Мастак — пілігрым, мастак-ра-*



*Гісторыя адной сям'і, акрыл, палатно, 2019 г*

*мантык, мастак-фантаст... Адным словам, — творца не ад гэтага свету... Як вы ставіцеся да творчасці Язэпа Драздовіча? Ці любіце, як калісьці Драздовіч, вандраваць па Беларусі ў пошуках мастацкіх вобразаў? Ці геаграфія вашых падарожжаў значна шырэйшая за драздоўскую і не абмяжоўваецца толькі Беларуссю?*

**Э.Г.** — Вельмі люблю і шаную Язэпа Драздовіча і ягоную творчасць. Пашчасціла ўдзельнічаць у пленэры імя Я. Драздовіча ў вёсцы Германавічы. У пленэры ўдзельнічалі вядомыя беларускія мастакі: Алесь Марачкін, Чэслаў Шамшур, Яўген Шатохін, Георгій Скрыпнічэнка і г. д. Дарэчы, пра гэты пленэр і яго арганізатарку Аду Райчонак быў зняты фільм «Галерэя Ады» (рэжысёр Уладзімір Колас). Геаграфія маіх падарожжаў хіба што шырэйшая. На жаль, менш ведаю Беларусь, больш аб'ездзіў Польшчу. Акрамя гэтага —Нямеччына, Францыя, Чэхія, Славаччына, Венгрыя, Грузія, Грэцыя, Партугалія, Украіна. Усё гэта дзякуючы мастацкім пленэрам.

**Э.А.** — *Дзе вам лепш працуецца дома ці за межамі Беларусі?*

**Э.Г**. — Цяжка сказаць. Я б сказаў не лепш, а інакш. Інакш у Беларусі, інакш у Польшчы. Як ужо і казаў раней, мая творчасць лепей прымаецца ў Польшчы, а не ў Беларусі.

**Э.А.** — *А жывецца?*

**Э.Г.** — Жывецца інакш усюды. Але не наракаю. Нармалёва жывецца.

**Э.А.** — *Што асабіста для вас азначае паняцце «творчае шчасце»? Чаго вам не стае ў жыцці для поўнага шчасця?*

**Э.Г.** — Творчае шчасце? Скажу так. Вельмі люблю сваю працу. Калі малюю — усё для мяне становіцца на сваё месца, падчас працы я вельмі шчаслівы. А якое гэта шчасце, калі доўга не бачыш сваю працу ў арыгінале, а потым на яе глядзіш і думаеш: «Няўжо гэта я намаляваў?!». Гэта неверагоднае пачуццё, для гэтага варта жыць і маляваць. Хацелася, каб Пан Бог дазволіў яшчэ папрацаваць і стварыць шмат абразоў на радасць сабе і людзям!



*Гульня з залатымі шарыкамі, акрыл, палатно,2018 г.*



# Эдуард Акулін

**паэт, перакладчык, бард. Аўтар кніг паэзіі: «Лес дзённага асвятлення», «Пяшчота ліўня», «Крыло анёла», «Радно», «Непрычалены човен», «Вітражы», «Малітва воч», «Святая ноч», драматычнай містэрыі «На Каляды» і інш. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Вялікія Нямкі на Веткаўшчыне. Жыве ў Мінску.**

# Каб выжыць, трэба весці бой з сабой...

***У аўторак, 3 мая 2016 года, ў Доме літаратара адбудзецца творчая вечарына вядомага беларускага паэта і барда Эдуарда Акуліна. Сярод выступоўцаў — толькі зорныя імёны: акадэмік Рыгор Гарэцкі, праваабаронца Алесь Бяляцкі, паэт і грамадскі дзеяч Уладзімір Някляеў і іншыя.Напярэдадні вечарыны Эдуард Акулін распавёў «Народнай Волі» нямала цікавых кулуарных фактаў, звязаных не толькі з прэзентацыяй свайго творчага партрэта ў выкананні Алеся Бяляцкага...***

## І ў пісьменнікаў ёсць свае кланы...

**Марына Коктыш:** — *Спадар эдуард, упершыню за многія гады творчая вечарына сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў пройдзе ў Доме літаратара. Калі не сакрэт, цяжка было дамовіцца наконт арэнды?*

**Эдуард Акулін:** — Наадварот, вельмі лёгка. Абмеркавалі з дырэктарам Дома літаратара дату і час імпрэзы, і на гэтым усё! Я нават сам здзівіўся... Бо літаральна тры гады таму такога дазволу на правядзенне юбілейнай вечарыны ў Доме літаратара я дамагчыся так і не змог...

**М.К.** — *Ведаю, што не абышлося без скандалу. Бо далёка не ўсе пісьменнікі пагадзіліся прыйсці ў Дом літаратара. Некаторыя катэгарычна адмаўляліся: маўляў, мы добра памятаем, як нас адтуль выштурхнулі, і цяпер нагі нашай там не будзе! Як вы да гэтага паставіліся?*

**Э.А.** — З разуменнем. Бо лічу, што кожны мае права на сваё меркаванне. Асабіста я лічу, што Дом літаратара — гэта наш творчы Храм. У гісторыі Беларусі неаднойчы былі выпадкі, калі вернікаў выганялі з храмаў, ператвараючы іх у клубы, зернясховішчы і нават стайні. Але часы змяніліся, і храмы зноў адчынілі свае брамы для вернікаў. І дзіўна было б, калі б вернікі адмовіліся маліцца ў «апаганеных» боскіх Гасподах. Так і з Домам літаратара. Ягоныя сцены намолены паэзіяй Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Аркадзя Куляшова, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна. Там зараз вісяць іхнія партрэты. Дык навошта адмаўляцца ад таго, што па праве належыць нам?!

**М.К.** — *Распавядзіце, калі ласка, якія сёння настроі ў пісьменніцкіх колах? Мяркуючы па сітуацыі з Домам літаратара, еднасці ў поглядах няма...*

**Э.А.** — Настроі розныя... І сапраўды, творчай еднасці і ўзаемападтрымкі ў пісьменніцкім асяродку, на вялікі жаль, няма. Усё падзелена паміж літаратурнымі кланамі, якія гуртуюцца то вакол «Нашай Нівы», то вакол ПЭН-цэнтра, то вакол Саюза беларускіх пісьменнікаў... І паўсюль свае законы, свае статуты і свая «паства». Чужых у святая святых клана не пушчаюць...



*З бацькамі,1967 г.*



Вось чаму, калі праводзіцца чарговы паэтычны фестываль імя Міхася Стральцова, там адны і тыя ж твары — сябры ды прыяцелі арганізатараў фэсту... А пісьменнікам з правінцыі застаецца толькі марыць, што і пра іх некалі згадаюць. Згадаюць, калі запросяць на чарговы з'езд, каб працягнуць свае паўнамоцтвы...

**М.К.** — *У свой час «Народная Воля» крыху пісала пра вашы разыходжанні ў поглядах з некаторымі асобамі, якія цяпер кіруюць Саюзам пісьменнікаў. Іх вы запросіце на сваю вечарыну?*

**Э.А.** — На аўтарскія вечарыны запрашаюць шчырых і сапраўдных сяброў... Сярод сённяшняга кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў у мяне такіх няма.

**М.К.** — *У вашым «Фэйсбуку» ёсць фотаздымак, дзе вы стаіце з шыльдай Саюза пісьменнікаў Беларусі. Адкуль вы яе знялі?*

*З жонкай Наталляй і сынамі Янкам і Верасам*



**Э.А.** — Гэта шыльда з будынка Дома літаратара. Яна доўгі час была ў мяне на захаванні. Спадзяюся, што аднойчы яна зноў вернецца на сваё першапачатковае месца, а Дом літаратара займее сваіх сапраўдных гаспадароў.

**М.К.** — *Цікава, а вы падтрымліваеце сяброўскія адносіны з кімсьці з тых, хто з'яўляецца чальцом чаргінцоўскага саюза пісьменнікаў?*

**Э.А.** — Не падтрымліваю. Бо жыву па прынцыпе: скажы, хто твой сябра, і я скажу, хто ты.



## Колькі зарабляюць паэты?

**М.К.** — *Вы і Леанід-Дранько Майсюк — адны з нямногіх беларускіх пісьменнікаў, якія без стомы ездзяць з выступленнямі па ўсёй Беларусі. Вы чытаеце вершы толькі перад дзецьмі ці такія сустрэчы запатрабаваны рознай ўзроставай аўдыторыяй? І яшчэ цікава — вы нешта зарабляеце падчас гэтых паездак?*

**Э.А.** — Наша «мэтавая» група — ад піянераў да пенсіянераў. Мы выступалі ў самых розных мясцінах, перад самымі рознымі па ўзросце і сацыяльнай прыналежнасці людзьмі. Найчасцей, канешне, у школьных і студэнцкіх аўдыторыях. Але не аднойчы ладзілі сустрэчы ў вайсковых часцях, памежных заставах, на харчовых базах, сыракамбінатах, у Нацыянальным банку, санаторыях і дамах для састарэлых... Падчас гэтых паездак мы зарабляем любоў і прызнанне нашых слухачоў. За апошнія 14 гадоў мы правялі больш за 2000 такіх сустрэч, а гэта значыць, мы самыя багатыя паэты Беларусі. Праўда, не на грошы, а на чытацкую любоў...

**М.К.** — *Ці лёгка атрымаць дазвол на такія сустрэчы?*

**Э.А.** — Гледзячы дзе і калі. Быў час, калі сябрам нашага Саюза забаранялася выступаць у дзяржаўных установах, многія былі афіцыйна адлучаны ад удзелу ў культурным жыцці краіны. Асабіста нас з Леанідам гэты скрушны час амаль не закрануў. Заўсёды знаходзіліся смелыя людзі сярод настаўнікаў, бібліятэкараў, рэктараў ВНУ, якія на гэтыя забароны глядзелі скрозь пальцы і працягвалі з намі сяброўскія зносіны і творчае супрацоўніцтва...






*З Нілам Гілевічам*

**М.К.** — *Сёння выдаць кніжку — нятаннае задавальненне. А як звычайна зарабляюць пісьменнікі? Тых, хто піша бестселеры, якія пастаянна перавыдаюцца, можна пералічыць па пальцах. А як зводзяць канцы з канцамі астатнія?*

**Э.А.** — Для мяне як для творцы самае галоўнае — духоўнае багацце... Бо, як сказаў Піфагор: «Нічога ў цябе, чалавек, няма, акром душы...»Неаднойчы са скрухай заўважаў: калі матэрыяльнае ў жыцці пачынала пераваж-ваць духоўнае, то адразу заціхаў унутраны Голас. Быццам Бог пераставаў са мной размаўляць...

**М.К.** — *Для вас самога тэма штодзённага выжывання, камунальных плацяжоў, коштаў, якія падвышаюцца ледзь не кожны дзень, — актуальная ці не? Я чула, быццам бы вы разам з сынам валодаеце адным з начных клубаў Мінска...*

**Э.А.** — Ага, а яшчэ выспай на Галапагосах! (Смяецца.) Калі вы знойдзеце такі клуб у Мінску, я буду вам шчы-ра ўдзячны. Асабіста я ніколі ў жыцці не быў наведвальнікам ніводнага клуба, акрамя сельскага на радзіме ў Вялікіх Нямках...

**М.К.** — *Тады распавядзіце, якія бонусы сёння дае сяброўства ў Саюзе пісьменнікаў?*

**Э.А.** — Для шараговых пісьменнікаў — амаль ніякіх. Для кіраўніцтва — магчымасць атрымоўваць пад арганізацыю велізарныя гранты, выдавацца за



З Паўлам Падкарытавым

мяжой, удзельнічаць у міжнародных фестывалях і семінарах, атрымліваць узнагароды суседніх дзяржаў, вырашаць, каго выдаваць у Бібліятэчцы СБП, пасылаць на адпачынак у Швецыю і г.д.

**М.К.** — *Свой том выбранай паэзіі «Святая ноч» з прадмовай лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Анатоля Вярцінскага вы прадавалі за 200.000 беларускіх рублёў. Як людзі рэагуюць на такія кошты?*

**Э.А.** — Насамрэч гэта не кошт, а сабекошт кнігі... І людзі рэагуюць з разуменнем. Бо гэта кніга ў цвёрдым пераплёце, з каляровым друкам, аб'ёмам у



*З К. Герашчанкам, А. Бяляцкім і С. Сысом*

548 старонак. І самае галоўнае — там ёсць, што пачытаць. У тым ліку, вершы са знішчанага ў 2000 годзе паводле палітычных матываў зборніка «Радно»... Дарэчы, гэта мая адзіная кніга выдадзеная ў цвёрдай вокладцы... Яна выйшла, дзякуючы майму сябру, заснавальніку і кіраўніку культурніцкага фонда «Вяртанне» Паўлу Падкарытаву... За што я яму бязмежна ўдзячны, бо гэта самы каштоўны падарунак да майго залатога Юбілею...

*З Элкай Няголавай*

*З Уладзімірам Някляевым*

пахавалі на Маскоўскіх могілках ды яшчэ і з аркестрам, і ганаровай вартай. Добра яму!..» Добра там, дзе нас няма. Я ж ганаруся тым, што ў мяне ёсць такі сябра, як Алесь Бяляцкі. Бо напісаць кнігу за турэмным мурам не пра сябе, а пра сябра — на гэта здольны далёка не кожны...

*Падчас юбілейнай вечарыны ў Палацы Мастацтва, 2013 г*


На фестывалі “Славянскі вянок” у Бярозе, 2017 г

**М.К.** — *А ён будзе на прэзентацыі кнігі? Пытаюся, бо нешта не заўважыла ягонага імя на афішы...*

**Э.А.** — Відаць, няўважліва глядзелі. Абавязкова будзе! Як жа без аўтара?Дарэчы, ласкава запрашаю ўсіх прыхільнікаў беларускай паэзіі і песні на аднайменную вечарыну «Бой з сабой», якая адбудзецца 3 мая ў сталічным Доме літаратара. Пачатак — а 19-й гадзіне, уваход — вольны. А пе-шых пяць гасцей вечарыны чакае яшчэ і нечспадзяванка — кніга ў падарунак з аўтографамі аўтара і героя выдання...

*З Леанідам Дранько-Майсюком*



**М.К.** — *Кніга, якую вы з Бяляцкім прэзентуеце праз пару дзён, называецца «Бой з сабой», як і адзін з вашых вершаў. Хачу спытаць: не надакучыла вам яшчэ гэтая штодзённая бітва?*

**Э.А.** — 25 красавіка, даруючы гэтую кнігу Аляксандру Мілінкевічу, я напісаў такія радкі: «Усяму жыццё віной...Вось чаму, каб выжыць, трэба весці бой з сабой ад радзін да крыжа...Тога, што Гаспод дае,каб не ў мелкай глебе мы знайшлі «віры свае» ,а ў глыбокім небе...» Як бачыце, пакуль не надакучыла...

*«Народная воля»,*
*29 красавіка 2016 г.*




*У Дукорскім маёнтку, 2019 г.*

# Змест

Літаратурна-мастацкае выданне

**Акулін** Эдуард Аляксандравіч

# Падзяліцца поўняй

Гутаркі

Рэдактар *Алесь Бяляцкі*
Карэктар *Наталля Карнеенка*
Вёрстка *Марына Пятровіч*

Падпісана да друку 2020.
Фармат 70х100 1/16
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ул-выд. арк. 15.
Наклад 200 ас. Замова

Індывідуальны прадпрымальнік Сіўчыкаў Уладзімір Мікалаевіч.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў ад 24.04.2014 за №1/325.
Праспект Незалежнасці,72—12, 220012, г. Мінск.
siuchykau@gmail.com

Надрукавана ў друкарні ТАА «Палікрафт».
Вул. Кнорына,50, г. Мінск.
Ліц. № 02330/466 ад 21.04.2014 г.